

Грамадскае канструктарскае бюро — вось яна, характэрная рыса будучыні, якая нараджаецца ўжо сёння. На Мінскім трактарным заводзе такія бюро існуюць у кожным цэху. Работніца рамна-прэсавага цэха камсамолка Надзя Пілецкая пасля работы ідзе ў ГКБ, каб ствараць там чарцяжы новых дэталей і прыстасаванняў. На здымку: грамадскія канструктары Надзя Пілецкая (злева) і тэхнік Паліна Сямёнік раяцца, як лепш увасобіць на паперы народжаную ў час працы смелую ідэю.

Фота А. Дзітлава.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

# МАЛАДОСЦЬ

У НУМАРЫ



Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі і Саюза пісьменнікаў БССР

3 (97)

Сакавік.

1961.

Год выдання IX.

Газетна-часопіснае выдавецтва
Галоўвыдата Міністэрства
культуры БССР.
Мінск.

На вокладцы малюнак І. Немагая **«Прадвесне»**.

Мастацкі рэдактар І. Рамаiоўскі. Тэхрэдактар І. Краўчанка. Карэктар Л. Таўлай.

**«Молодость»**
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал Центрального Комитета ЛКСМ Белоруссии и Союза писателей БССР.

Рукапісы не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вул. Карла Маркса, д. 40. Тэлефон 93-8-54.

Фармат паперы 70×108¹/₁₆. Фізіч. друк. арк. 10. Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5. Тыраж 8875. Цана 40 кап.

АТ 08993. Здадзена ў набор 1.II.61 г. Падпісана да друку 27.II.61 г. Зак. 94.

Газетна-часопіснае выдавецтва, г. Мінск, праспект імя Сталіна, 79.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 79.



Іза Азерская нарадзілася ў г. Дзяржынску на Міншчыне. Маленства яе прайшло ў Смалявічах. Тут яна скончыла сярэднюю школу.

Пасля вайны Іза Азерская вучылася спачатку ў Маскоўскім хіміка-тэхналагічным інстытуце, а потым у Мінскім педінстытуце імя А. М. Горкага. Цяпер працуе выкладчыцай матэматыкі ў 2-й Смалявіцкай сярэдняй школе.

У «Маладосці» вершы Іза Азерская публікуе ўпершыню.

Іза **АЗЕРСКАЯ**

# СВІТАННЕ



Мне не спіцца
        ад думак, ад мар, ад турбот,
Што жыццё запаўняюць да самых краёў.
Я не стану чакаць,
        я пайду да варот,
Каб сустрэць залатое світанне сваё.
Я пакратаю іней калючы рукой,
Ледзякі серабрыстыя з даху саб'ю...
За вароты пайду, і адвечны спакой
З наваколля ў душу сабяру я сваю.
Вецер цёмную ноч прада мной захінуў
Легкаватай заслонай пунсовай зары,
Зоркі ў небе задзьмуў,
Пагасіў ліхтары,
Каб не шкодзіць світальнаму
        вашаму сну.
А зара зіхаціць, як гарачая сталь,
А магутныя ветры гудуць ў правадах,
А у небе па казачна новых шляхах
Пралятае ракета ў касмічную даль.

Хутка дзень працавіты падыдзе к станку,
Зазвініць каля школ, загукае ў бары.
Я на дружбу яму працягнула руку
Пад сцягамі чырвонымі нашай зары.

## ВЯСНА



шчэ адна вясна прыйшла,
Яшчэ адно разводдзе...
І кожны год мне любы шлях,
Якім яна прыходзіць.
Люблю я, як ручай журчыць,
Як бусел ў небе кружыць,
Люблю, трашчаць як уначы
Пад лёгкім крокам лужы...
І у мяне такі настрой
Ад весніх беспарадкаў,
Што не лічу сябе старой
Я ні ў якім выпадку,
Што праца пад рукой гарыць,
А вусны шэпчуць песні...
Здаецца, толькі б не згубіць
Ў жыцці настрой свой весні.

## СІГУЛДА



не Латвія шчодра сябе адкрывала,
Вяла па ўзбярэжжы да рыжскіх кварталаў.
Тут кожны куточак і ўсе краявіды
Прыгожа аздобілі годы і гіды.
У рай сігулдзінскі, што па-над ракою,
Я ў думцы ішла не з сябрамі — з табою.
Унізе рака, як вужака, вілася
Па беламу мелкапяшчанаму пляжу,
Хавалася ў густазялёную засень
Узорная вежа ружовым міражам.
Я твар абмывала ў халоднай пячоры
Вадой, што цякла ад народных паданняў,
Каб мне не уведаць нявернасці чорнай,
Каб сэрца сваё ты навекі аддаў мне.
Я клятву ля ясеня Ружы Турайскай
Давала табе аб каханні да скону.
А ты прада мною у свеце тым райскім
Стаяў і маўчаў, назаўсёды ўлюбёны



Не ў рай і ў даўніну, а толькі ў зямное,
Ў зямную красу, па зямному закону.
Я ўсё замяню:
Рай — сваёй Беларуссю,
Працаю — клятвы,
Сучасным — даўніну.
І толькі у тым я вавек не змянюся,
Што ў сэрцы цябе назаўсёды пакіну...

**Мірдза КЕМПЕ**

# БЕЛАРУСКІ ХЛЕБ ЛАТЫШСКІМ ПІСЬМЕННІКАМ


леб і сонейка
Перад Полацкам,
Цёплы бохан падносяць
Брэсцкае неба
І на зямлі — ваша сэрца.

Хлеб і месячык
Перад Віцебскам —
Два залатых боханы
Коцяцца насустрач,
Ззяюць здалёку людзям.

Золатам зіхціць
Хлеб на ручніку.
Абдымаеце, браты,
Нас пад сонейкам
І цалуеце пад месяцам.

З кожным боханам,
З кожным пацалункам,
У душу, як у дзяжу,
Кідаеце дрожджы
Словам, што стануць
хлебам.

# НАПАЛЕОН У ВІЦЕБСКУ


таіць ён у мундзіры белым на балконе,
Заняты войскам Віцебск перад ім відзён.
Як крылы у арла, сцяг шалясціць ягоны,
Тут пераможаных прыймаць жадае ён.

Ґлядзіць ён на людзей пагардліва, нямілэ.
Натоўп ідзе. Славяне схіляць галаву
Так, як і іншыя, яго прызнаюць сілу,
Не забароняць увайсці яму ў Маскву.

Хто беларусы гэтыя? Стаў лес ім хатай,
У логавах марнеюць пасярод балот...
Ідуць да ног тваіх упасці, імператар,
І ўсмешка ганарлівая скрывіла рот.

Чакае ён. Натоўп спыніўся пад балконам.
Гваздзікі алыя мільгнулі угары.
Усмешкай асвяціўся твар Напалеона:
Хай пераможаныя раздаюць дары.

А кветкі падаюць на плечы і на грудзі
І чырванеюць скрозь на вопратцы крывёй.
Даволі, хопіць, ну дакуль іх кідаць будуць,
Адмахваецца ён суроваю рукой.

Але гваздзікі алыя ўгару ўзлятаюць,
З плячэй сарваць ён хоча кветкі пры людзях,
Ды кветкі да адзення моцна прыліпаюць
І пакрываюць зорку на яго грудзях.

І шэпчуць маршалы яму: «Не ў знак пакоры
Гваздзікі гэтыя вам дорыць Віцебск, сір...
Зірніце — хітра вымазаў іх клеем вораг,
Гваздзікі абляпілі вам увесь мундзір».

У мундзіры белым, што гваздзікамі пакрыты,
Ён, як крывавы прывід, наганяе жах...
Бляднее лоб яго, журботнасцю спавіты,
Напышлівая ўсмешка гасне на губах.

А ўнізе не сціхае смех, бо людзі рады.
Натоўп адхлынуў. Тут зямля пачне палаць.
Стаіць збянтэжаны, паніклы імператар,
Здаецца, што хістаецца пад ім палац.

Да маршалаў яму няма ніякай справы.
Апанаваў яго ад прадчування жах:
Няўжо тут пацямнее Аустэрліца слава
І на Маскву адсюль загубным будзе шлях?

Пераклаў з латышскай мовы
**М. АЎРАМЧЫК.**



Алесь АСІПЕНКА

# СЫНУ МАЙГО СЫНА

Аповесць

Мал. В. Рамейкі

## Раздзел першы

### *Дзень першы*

Непадалёк ад горада да стромкага берага Выпі, маленькай, але імклівай рачулкі, прыляпіўся стары, пахілы млын. Драўляная старая плаціна перагарадзіла рэчку. Зялёная вада падае на рыпучае кола, і яно круціцца без аддухі, разбіваючы ваду ў пыркі. Пад колам яна чорная, з шапкай ружовай пены.

Я сяджу на плаціне і, не адрываючы вачэй, гляджу на кола. Ля ног плешчацца вада. З млына далятае грукат жорнаў. Там, за дзвярыма струхлелай будыніны, ходзіць мельнік, шыракаплечы, барадаты Нічыпар. Я добра ўяўляю яго панурую постаць, зацярушаную мукой. Хутка ён кончыць малоць, спыніць жорны, і тады адразу над ракою ўсталюецца цішыня. Толькі пад колам будзе шумець вада, аднастайна і глуха. Нічыпар вылезе з млына, абаб'е пыл, закурыць люльку і потым ужо запытае,

ці многа я налавіў рыбы. Пра гэта яму варта было б пацікавіцца адразу. Але Нічыпар чалавек сталы, а не які-небудзь блазнюк. Ён робіць усё спакваля. Дык не будзе ж ён вось так з налёту выдаваць сваю зацікаўленасць. А шкада!..

У мяне няма ніякай ахвоты закідаць вуды. Як застылыя, ляжаць на вадзе паплаўкі. Рыба не клюе. Сёння мы застанемся без юшкі. Трэба было б перамяніць месца, адысціся крокаў на дзесяць пад вярбу. Там заўсёды добра ловіцца. Але мне не да таго. У галаве круцяцца думкі, неспакойныя, змрочныя.

Раніцай я атрымаў пісьмо, шэры стандартны канверт з грыфам той установы, у якую з месяц назад пісаў просьбу. Такіх пісем назбіралася шмат. Яны ляжаць у шуфлядцы, перавязаныя суровай ніткай. Калі-небудзь я аддам іх табе, сын майго сына. Не дзеля таго, каб ты адчуў маё турботы. Я хачу, каб ты зразумеў, што за кожным з іх хаваюцца ў нетрах ведамасных архіваў мае заўчасна пахаваныя надзеі. І ўсё ж я веру, што ты жывы і здаровы і мы абавязкова з табой сустрэнемся.

Кожны раз, атрымліваючы новы ліст, я чакаю цуду. Чакаю яго вось ужо больш дзесяці год. Не было таго дня, каб я не думаў пра цябе, не было таго месяца, каб я не пасылаў пісьмы ў розныя канцы краіны. Дзе б ты ні быў, я веру, што ты вырас добрым чалавекам. Ты не можаш, не маеш права зганьбіць наша прозвішча, нашу справу, за якую змагаліся і я, і твой бацька. Мабыць таму я заўсёды бачу цябе на самых цяжкіх участках будаўніцтва. Памятаю, калі пачыналі аднаўляць Сталінград, я падумаў, што ты абавязкова знаходзішся там. З год я вёў перапіску з будаўнічымі трэстамі Сталінграда, упарта шукаў цябе сярод будаўнікоў. Мне пісалі, што Андрэя Агнёва няма. Але я не верыў. Аднаго разу я ўзяў адпачынак, каб самому пераканацца, што мне пісалі праўду. Горад яшчэ ляжаў у руінах. Людзі жылі ў бараках і зямлянках. Не лёгка было абысці ўсе будоўлі, але я не ведаў спачынку. Цябе я і сапраўды нідзе не знайшоў. Тады я падумаў, што ты мог паехаць аднаўляць Данбас ці Днепрагэс.

Чаму абавязкова Сталінград? Хіба ты адмовіўся б паехаць на Крайнюю Поўнач ці на Сахалін? Смешна ганяцца за табой па будоўлях краіны. Ты мог быць усюды. І вось тады я пачаў бамбардыраваць аддзелы кадраў лістамі. Здаралася так, што вось-вось я натраплю на твой след. Тады я радаваўся і хваляваўся, чакаючы новага паведамлення. Але радасць не была доўгай. Аказвалася, што Андрэй Агнёў нехта іншы, а не сын майго сына.

Больш дзесяці год начальнікі аддзелаў кадраў і іх намеснікі стараюцца пераканаць мяне, што цябе нідзе няма. Яны хочуць пахаваць маю апошнюю надзею на спатканне. Здаецца, толькі для гэтага і было напісана яшчэ адно пісьмо, якое я атрымаў сёння.

Як і заўсёды, у мяне дрыжалі рукі, калі я ўскрываў пісьмо. А можа ў ім тоіцца той цуд, які я даўно чакаю? Складзеная ў чатыры столкі папера не хацела разліпацца. Нарэшце я разгарнуў яе. Знаёмая форма, знаёмы адказ:

«Персанальнаму пенсіянеру Агнёву Р. Я.

На Ваша запытанне № 387 паведамляем, што Агнёў Андрэй Андрэевіч у спісах падведамасных нам арганізацый не лічыцца.

Начальнік аддзела кадраў».

Размашысты подпіс гаварыў пра тое, што чалавек з упэўненасцю сведчыў складзеную для яго па ўсёй форме паперу. Пакручасты кароткі хвост, прыроблены да апошняй літары, і распырсканае ў канцы яго чарніла, сказалі мне, што начальнік спяшаўся. Падпісаў адказ і пабег на нараду. Ці можа ўзяў тэлефонную трубку, каб аддаць распараджэнне. Я не крыўдую на яго. За доўгае жыццё і ў мяне не заўсёды хапала часу на тое, каб высветліць усё, што датычыць «дзелавога» пісьма. Але як хацелася б, каб гэты начальнік зразумеў, што я пісаў не дзеля пустой цікаўнасці.

Мне не так ужо многа засталося жыць на свеце. Ты — адзіны, хто прадоўжыць наш род Агнёвых. І я павінен расказаць табе ўсё пра сябе, пра тваю радню, пра тыя справы, за якія змагаліся мы. Але як гэта зрабіць?

Я сядзеў і думаў. Вярцелася рыпучае кола, шумела вада, гулі жорны. Набягалі думкі, захоплівалі ў палон, а потым знікалі. Адмысловае не з'яўлялася. Адзін за другім з закуткаў памяці вынікалі малюнкі даўніх дзён. Яны былі такія яркія, што часам здавалася, быццам усё гэта адбываецца цяпер. Тады я праціраў вочы. Прывід знікаў, а потым зноў вяртаўся да мяне. Шчыра кажучы, у той дзень я ўпершыню падумаў: «А што, каб усё гэта запісаць на паперу». Думка мільганула, як плотка, што зрываецца з кручка. А тут яшчэ сціх грукат жорнаў. Я нават не пачуў, калі настала цішыня. З задумення вывеў мяне Нічыпар. Ён бег па плаціне і крычаў:

— Трымай, трымай яго... Ах ты, рыбак, грэц табе ў душу...

Нейкім дзесятым рыбацкім пачуццём, не пазіраючы нават на вудзільны, я ўхапіўся за доўгі арэхавы дубец і адразу пачуў, як ён напяўся. Вудзільна выгіналася, быццам усё падводнае царства хацела вырваць яго з маіх рук. Я пачаў асцярожна падцягваць здабычу. Адпускаў вуду, потым зноў цягнуў да сябе. Нічыпар стаяў з сачком напагатове. Ён перагнуўся цераз балясіну, з усяе сілы стараўся падсунуць сачок пад рыбіну. Нарэшце гэта яму ўдалося. Вялізны сазан, паблісккваючы серабрыстай луской, пляснуўся ў кош.

Потым мы сядзелі на беразе пад вярбой і маўчалі. У чыгунку клекатала юшка. Тонкія струменьчыкі пары казыталі ў носе. Нічыпар зачэрпнуў юшкі, доўга дзьмуў на лыжку, аж варушыліся яго доўгія рыжаватыя вусы, потым устаў і знік у млыне. Адтуль ён прынёс чорную з прыгожай наклейкай пляшку.

— Рыбка любіць мокрае, — падміргнуў ён. — Возьмем па кропельцы?

— Не, пі сам. Сэрца нешта...

— Сэрца, сэрца, — перапыніў мяне Нічыпар, — а ты плюнь. Я табе не якой-небудзь дрэні даю. То найвялікшай сілы пітво. На дзевяці травах настоенае. Не абы-што — бальзам!

Нічыпар паставіў пляшку ля дрэва, зняў чыгунок з агню, дастаў з-за халявы бота лыжку. Я развязаў торбачку, выцягнуў хлеб, кавалак сала, цыбулю. Нічыпар выплеснуў з конаўкі ваду і зноў узяўся за пляшку.

— Дык не будзеш? — запытаўся ён.

Мне не хацелася яго крыўдзіць.

— Налі крыху, — адказаў я.

— Толькі для апетыту, каб смачней страва была, — узрадавана ўсміхнуўся Нічыпар.

Нейкі час мы завіхаліся ля чыгунка. Маўчалі. Сонца паволі хавалася за гарой. Цераз раку перакінуўся доўгі, крывы цень вярбы. У вогнішчы патрэсквалі галавешкі. Тонкі дымок крута ўзнімаўся ў чыстае неба. Павявала халадком. Назойлівыя думкі зноў апанавалі мяне.

— Чаго ты спахмурнеў? — запытаўся Нічыпар, закурваючы люльку. — Думкі, як тыя хмары, наплываюць, захутаюць неба. Шэра, змрочна,

ажно жыць не хочацца. А наляціць вецер, разгоніць хмары — адразу на душы палагоднее. Вось так і ў жыцці.

Нічыпар пасля выпітай чаркі, загаварыў на філасофскі лад. Я не люблю гэтай яго філасофіі. Таму маўчаў. Можа яму надакучыць гаварыць. І тады мы спакойна паляжым ля вогнішча. Але ён, відаць, усхадзіўся надоўга і ўсур'ёз.

— Я, брат, так табе скажу: чалавеку весялей жыць трэба. Навешае ён на сябе клопатаў, як той жабрак торбаў, ідзе сагнуўшыся ў тры пагібелі, і свету не бачыць. А для яго і адной хапіла б. Дык не, шкада яму з імі расставацца. Далі б яму яшчэ пяць, і іх начапіў бы. А навошта?.. Быў я, напрыклад, просты мельнік. Ніякіх табе клопатаў. А вось уздумала начальства паставіць мяне загадчыкам. Далі мне двух хлапчукоў: аднаго — вагаўшчыкам, другога — падручным. Набраўся я з імі гора па самую завязку. Адзін — гуляка: пачуе дзявочы голас, на край свету гатовы пайсці. Другі — паспаць любіў. Соўгаецца па млыне, як сонны. Пагараваў я крыху, ды і пайшоў да начальства. Так і так, — кажу, — але забярыце вы ад мяне гэтых хлопцаў. Лішні яны мне клопат. Я і адзін спраўлюся. І што ты думаеш — згадзіліся. Нават пахвалілі. Нам, кажуць, трэба людзей скарачаць, а дзе — не ведаем... Вось цяпер адзін шурую. Ні за каго не адказваю. Любата...

— Зноў пісьмо атрымаў, вось і замаркоціўся...

Нічыпар падкінуў у вогнішча сухое палена, падгроб сукам вуголле.

— Агнёва Андрэя Андрэевіча ў спісах не лічыцца, — нарэшце парушыў ён маўчанне і дадаў: — Ды ты скажы мне, скрозь зямлю ён праваліўся, ці што?

— Можа прозвішча памяняў, — няўпэўнена адказаў я.

— А калі яго даўно жывога няма. Гэткая калацеча па свеце прайшла. Хоць чалавек — не іголка, без следу прапасці не можа. Партызанаў пашукаў бы. Яны маглі ведаць пра твайго ўнука.

Што я магу адказаць Нічыпару. Хіба я не гаварыў з партызанскімі камандзірамі? Ніхто не памятае, каб ты быў у партызанскім атрадзе. Пасля таго, як фашысты напалі на хутар і спалілі яго, а людзей расстралялі на ўскрайку бору, твой след прапаў. Адно вядома, што цябе не было сярод жыхароў хутара Рассекі, калі каты вялі іх на расстрэл. Куды ты знік і што было потым?... Як дорага я заплаціў бы за тое, каб дазнацца, што здарылася з табою...

— Пакручасты твой лёс, Рыгор, — кажа Нічыпар.— Давялося паспытаць жыцця.

Мельнік задумліва глядзіць на касцёр, ківае кудлатай галавой. Водбліскі агню асвятляюць яго твар, густа парослы барадою. З-пад калматых броваў задумліва пазіраюць чорныя пры агні і шэрыя ўдзень вочы.

— Ты вось пачакай. Ёсць у мяне адзін знаёмы рэдактар. Газеты піша. Ён усё ведае. Пабачу яго, абавязкова раскажу пра тваё гора. Можа мне ўдасца ўгаварыць яго напісаць у газеце пра твайго ўнука. Прачытаюць людзі і адгукнуцца. Так мы і нападзём на яго след.

Я ўсміхнуўся. Хіба я не даваў аб'явы па радыё? Ды і хутчэй за ўсё няма ў Нічыпара знаёмага рэдактара. Проста ён хоча суцешыць мяне.

Касцёр дагараў. Волкі туман падымаўся ад ракі. На захадзе запалілася першая зорка. Было ціха і неяк урачыста. Мне зноў захацелася расказаць пра сваё жыццё. Пісака я не надта добры. Лепш бы сесці побач і дзень за днём апавядаць пра даўняе і такое незабыўнае. Толькі я не маю права і не магу больш цярпець. Ты павінен ведаць усё. І вось я пішу ўспаміны.

Цяпер ужо вельмі позна. На ўсходзе разгараецца світанне. Мне добра відаць з акна малочна-ружовы небасхіл. Хутка ўзыдзе сонца. Колькі



начэй пройдзе, пакуль я раскажу табе гісторыю роду Агнёвых. Толькі б хапіла сіл! Сёння іх ужо не стае. А былое абступіла і трымае моцнамоцна...

## *Дзень другі*

Гадоў дваццаць назад я, напэўна, распачаў бы сваё апавяданне з часоў падполля, з таго дня, як Арсен Патапавіч Рыбакоў, першы марксіст у нашым горадзе, даў мне першае заданне. З цяжкіх будняў падпольнай работы я выбраў бы дзесяткі два эпізодаў, якія, на маю думку, нейкім чынам раскрывалі б мой удзел у барацьбе супраць царызму. Але я, як і тысячы іншых рэвалюцыянераў, быў радавы партыі, і таму мае ўчынкі, справы — толькі нейкая мільённая часцінка агульных спраў партыі, і выстаўляць сябе на пярэдні план мне здаецца цяпер забаўным блазенствам. Зрэшты, пра гады рэвалюцыйнага падполля напісана многа, і — больш дастойнымі людзьмі, чым я. Яўкі, паролі, сустрэчы, пракламацыі, забастоўкі, ссылкі, уцёкі з іх — вось этапы падпольнай дзейнасці. Іх вынік — рэвалюцыя. Вядома, у кожнага быў свой шлях, свае непаўторныя выпадкі ў жыцці, але сэнс, агульная плынь заўсёды заставалася нязменнай.

Не буду ўтойваць ад цябе і той акалічнасці, якая найбольш відавочна выявілася перада мной цяпер. У гарачых бітвах і смяртэльных схватках з ворагамі чалавек свята выконвае абавязак, не вельмі задумваючыся над сваім месцам у баі. Нават камандзір, з таго часу, як выцягнуў на-гала́ шаблю і рынуўся ў атаку, радавы баец, які нічога не зрабіў бы без сваіх сяброў. Толькі пасля бою ён пачынае адчуваць сябе камандзірам.

У падполлі мы выконвалі сотні малых і вялікіх даручэнняў, часта нязначных, будзённых і нават аднастайных. У нас былі няўдачы, расчараванні. Мы хваляваліся, спрачаліся, выяўлялі свае памылкі, радаваліся ўдачам. Хапала ўсяго. Рэвалюцыя падвяла вынік нашай барацьбе. І чым далей яна адыходзіла ад нас у гісторыю, чым больш умацоўвалася дзецішча рэвалюцыі — савецкая дзяржава, тым ярчэй здаваліся нам асабістыя заслугі, тым менш выразна прыгадваліся трывогі і няўдачы. Мы любілі ўспамінаць былыя гады. Нам было што ўспомніць. Гэтыя ўспаміны неяк самі па сабе акружылі нас арэолам славы. Прынамсі, такое пачуццё было ў мяне. Здавалася, быццам без твайго ўдзелу рэвалюцыя магла прыйсці на дзесяць год пазней. Рамантычны арэол ярка асвятляў старонкі таго, як мы змагаліся, і пакідаў у ценю галоўнае: чаму і за што мы змагаліся?

Неяк мой добры сябар Віктар Гараеў, камсорг цэха, папрасіў мяне выступіць перад рабочымі. Я пачаў з таго, як пасля другога з'езда партыі быў накіраваны ў Пецярбург для наладжвання сувязей з фракцыяй бальшавікоў, як мы перад гэтым распаўсюджвалі «Іскру» і выпускалі лістоўкі ў сутарэнні губернатарскага дома. Такіх эпізодаў я магу ўспомніць нямала. Мяне слухалі ўважліва. А калі я закончыў, віхрасты, кірпаты хлапчук прабіўся да мяне ў прэзідыум і з зайздрасцю сказаў:

— Вы вось шчаслівыя. А нам што застаецца рабіць?!. Гібей на гэтым заводзе. Аж моташна.

Я паспрабаваў давесці яму, што мы і змагаліся таму, каб ён мог працаваць на сябе.

Хлапчук згаджаўся, ківаў галавой. Я добра разумеў, што расказаныя мной эпізоды хвалююць яго. Але ён вельмі цьмяна ўяўляе, чаму мы па-

чалі барацьбу і чаму так рэзка выступаем цяпер супраць усіх праяў старога свету.

Вось чаму я задумаўся, калі ўзяўся за пяро. Ці не лепей расказаць табе пра тое, што ўяўляецца моладзі паданнем мінуўшчыны. Для нас жа гэтае паданне было няўмольным жыццём, яно скіроўвала нас на шлях барацьбы.

І яшчэ я ўспамінаю суседскага хлопца Вадзіма, што носіць востранькія вусы і бакі «пад Пячорына». Ён чытае толькі тыя кніжкі, дзе прыгожа расказваецца пра свецкія балі, і глядзіць тыя фільмы, дзе раскоша дэкарацый і шыкоўных плаццяў слепіць вочы.

— Вось як трэба жыць!.. — захліпваецца Вадзім. — Не тое, што ў нас цяпер. Планы, сходы, працэнты.

Я тады з жахам падумаў, а што, калі і ў цябе, Андрэй Агнёў, сын майго сына, хоць калі-небудзь узнікала такая думка? Страшней за яе можа быць толькі здрада. Не, я не хачу верыць, што ты нават мог бы так падумаць. І ўсё ж я вырашыў пісаць пра далёкую мінуўшчыну. Тым ярчэй і прыгажэй узнікне перад табой сённяшні дзень.

Прывід далёкага мінулага стаіць перада мной, і ад яго немагчыма пазбавіцца. Ты павінен ведаць усё. І я нічога не ўтаю ад цябе. Слухай мяне, Андрэй Агнёў.

...Твая прабабка нават у трыццаць гадоў выглядала нямоглай дзяўчынкай. Нізенькая, з маленькім, прадаўгаватым, як качынае яйка, тварам, на якім быў прылеплены невялікі, бы дзюба, нос, худзенькая, на тонкіх крывых ножках, — яна заўсёды выклікала ў мяне пякучы боль. Можа таму я так любіў яе, хоць ніколі адкрыта не выказваў сваёй дзіцячай прыхільнасці. Часам яна здавалася мне нават прыгожай, і калі вясковыя хлапчукі дражнілі мяне Кавылаччыным сынам, я смела кідаўся на іх з кулакамі.

Яна мела ясныя вочы і доўгую белую касу. Але хто тады звяртаў увагу на вочы і дзявочую касу?.. Каса яшчэ магла спатрэбіцца, каб мужу лягчэй было біць жонку. Але вочы... На вёсцы тады цаніліся багацце, мажнасць і добры род, а потым ужо прыгажосць.

Суседзі звалі яе Кавылачкай. Баюся, што многія так і не ведалі яе сапраўднае імя — Макрэна. Ды яна і не крыўдзілася на гэта, толькі ўсміхалася палахлівай усмешкай.

Твая прабабка, а мая маці, працавала за парабчанку ў бяздзетнага мужыка Тараса Тарасавіча, якога за вочы дражнілі Братком. Як яна да яго трапіла, не бяруся казаць. Яшчэ ў дзяцінстве я чуў, што неяк пад вечар у нашу вёску завітала жабрачка з маленькай дзяўчынкай. Назаўтра жабрачку знайшлі пад плотам. Яна была мёртвая. Дзяўчынку забраў Браток.

Як даўняе рэха дзяцінства, прыпамінаецца мне і другое паданне. Тая жабрачка была далёкай раднёй Тараса Тарасавіча. Нямала паблудзіўшы па свеце, яна назбірала крыху грошай і паявілася ў Загаранах, каб прыдбаць з валоку зямлі. Браток абяцаў памагчы сваёй далёкай сваячцы, а як сцямнела, заманіў на выган і прыдушыў яе. Мабыць, нешта такое было.

У Тараса Тарасавіча маці пражыла да дваццаці трох год. А далей здарылася вось што.

Неяк да Братка завітаў малодшы сын Залуцкага з хэўрай паноў і падпанкаў. Яму вельмі пашэнціла ў той дзень. Вясковы пастух Ігнат Бубулька быў сведкай таго незвычайнага паляўнічага шчасця паніча.



Ён ледзьве дацягнуў да хаты забітых качак і гусей, і яго пакінулі на трызне.

Прыслужвала за сталом твая прабабка. Кавыляла ад печы да покута, насіла смажаныя качкі, падавала ручнікі. Усё рабіла, апусціўшы вочы. Паніч пасмейваўся з дзяўчыны, называў яе заморкам, а потым даў сярэбраны рубель. Яна кінулася цалаваць панічу руку і ўпершыню за ўвесь вечар асмелілася зірнуць на гасцей.

— Ды вы гляньце, паны, якія ў яе ясныя і блакітныя вочы, —выгукнуў паніч і ўзяў дзяўчыну за руку.

Яна не пасмела вырваць пальцы з яго ўчэпістых рук. Стаяла, схіліўшы галаву, і пунцовая чырвань залівала яе твар. Дагодлівыя госці пахвалілі пана за «разуменне прыгажосці».

— А каса, божа мой, што за каса, — паніч пагладзіў дзяўчыну па галаве. — Не, панове, што ні кажыце, а калі вось такую дзяўчыну апрануць у аксаміт ды прывесці на баль, яна будзе самай прывабнай паненкай на ўсю аколіцу.

Нарэшце ён адпусціў яе руку, і дзяўчына шмыгнула ў закутак за печчу. А паны яшчэ доўга спрачаліся аб вартасцях какетлівых паненак і сарамяжлівай прыгажосці вясковай дзяўчыны.

Ноччу паніч знайшоў яе. Пасля ўсяго, што здарылася, яна кінулася ў сажалку. Ігнат Бубулька выратаваў яе, а скандал на першым часе быў уладжаны, як звычайна ўладжваліся такія справы. Паніч даў дзяўчыне дваццаць пяць рублёў, якія адразу ж забраў Браток. Як бачыш, батрачы гонар тады каштаваў не шмат. Напэўна, выпадак той забыўся б на ўсё жыццё. Але здарылася тое, чаго ніхто не чакаў: Кавылачка, гэты заморак, зацяжарала. Гэта ўжо каштавала пану не дваццаць пяць рублёў. Спачатку Браток хацеў прагнаць яе з дому, але, падумаўшы, рашыў, што гэта яму нявыгадна. Так ён паявіўся ў маёнтку пана Залуцкага. Сына ўжо не было. Прыняў Братка стары пан.

На ўсё жыццё мне запомніліся жоўтыя ад люлькі вусы старога пана, праніклівы, як у каршуна, позірк шэрых вачэй і вялікі гарбаты нос. Нават на старасці год уся дворня баялася пана. Як толькі чуўся басавіты старэчы кашаль, слугі кідаліся хто куды. Адзін толькі камердзінер, гэткі ж вусаты і непрыступны, як і сам пан, важна следаваў за старым Залуцкім па алеях закінутага парку.

Як адважыўся сунуцца да яго Браток, застанецца назаўсёды загадкай. Але ён не толькі пайшоў, а дамогся ў Залуцкага двух з паловай дзесяцін зямлі і перадойку з панскае фермы для «беднай сіраціны».

Для мужыцкага шчасця гэтага было даволі. На вёсцы перасталі заўважаць птушыны носік дзяўчыны, яе прыродную нямогласць і нават сапсаваную талію. Знайшоўся і жаніх Яўхім Пазнячонак, такі ж, як і маці, бядак. За той сярэбраны, падараваны панічом рубель, поп абвянчаў маладых, і Макрэна перабралася да мужа. А неўзабаве паявіўся на свет і я.

Ва ўсякім разе я лічыў Яўхіма сваім бацькам. Мне і неўздагад было, чаму вясковыя хлапчукі шкілююць з мяне, называючы панскім покладам.

— Няхай іх, цярпі, сынок,—павучала маці.

Бацька, калі я скардзіўся на хлапчукоў, моцна сціскаў зубы, і тады пад яго густой рыжай барадой уздуваліся тугія жаўлакі.

— Марш на печку, паршывец, — сыкаў ён, адшпільваючы сырамятную папругу.

Я не раз каштаваў гэтую зброю. Паўтараць мне не трэба было. Забіваўся ў куток на печы і думаў над сваім няўдалым лёсам. Бацьку я не любіў, і не толькі за тое, што ён часта біў мяне. Маці таксама хва-

ста́ла чым папала. Але секла яна з асцярогай, а потым, памякчэўшы, прыціскала да сябе і цяжка ўздыхала. Бацька біў рэдка, але ўсякі раз я адчуваў, што б'е ён бязлітасна, выплёскваючы з сябе нейкую горыч. Ні разу ён не прытуліў мяне, як гэта рабіў з маёй сястрой. І я губляўся ў здагадках. Чаму мяне не любяць у роднай хаце? Хіба я такі ўжо дрэнны? Ці можа гэта таму, што нарадзіўся хлапчуком?

Мяне ахапілвалі нязбытныя мары.

Вырасце Ганначка, выйдзе замуж і не захоча карміць бацьку. Тады ў нашай старэнькай хаце паяўлюся я і забяру да сябе бацьку і маці. У мяне ім будзе добра. Я ніколі не папікну іх за мінулае. Няхай жывуць. Мне хацелася за здзекі адплаціць бацьку дабром, каб яму было сорамна за былое.

Душа імкнулася да нечага ўзнёслага і прыгожага. А жыццё вяло сваёй сцежкай.

Перад самым жнівом бацькі пакінулі мяне вартаваць квактуху з куранятамі. Шэры, непрыветлівы дзень наганяў маркоту. Па небе паўзлі бурыя хмары. Было халаднавата і сыра пасля ўчарашняга дажджу. Я сядзеў на прызбе, хутаўся ў бацькаў кажух і кляваў носам. Мне здалося, быццам я толькі што заплюшчыў вочы. Калі ж я адкрыў іх, дык здзівіўся, што надвор'е так хутка змянілася. Неба расчысцілася, і сонца прыпякала ніштавата. Было неяк пуста і ціха. Раптам сярод гэтай цішы пачулася перапалоханае ціўканне куранят.

Я ўскочыў, як падсмалены. Дзікі страх перад бацькам прымусіў мяне абабегчы ўвесь гарод, заглянуць у хляўчук, зазірнуць пад ганак. Квактухі нідзе не было. Зашыўшыся пад плот, ціўкалі кураняты. Я сабраў іх у падол, занёс у хату, потым зноў выбег на двор. Спыніўся пад паветкай і, як тое загнанае ваўчаня, баязліва азірнуўся. Нейкі час я чакаў, што квактуха выбежыць з патаемнага схованшча, і тады я выратуюся. Стаяла жахлівая цішыня. Толькі моцна калацілася ў грудзях сэрца. Наперад я ведаў, чым гэта скончыцца. Мне здавалася, што бацька ўжо адшпільвае сваю сырамятную папругу. Унурыўшы галаву ў плечы, заплюшчыўшы вочы, я чакаў першага посвісту папругі. Але прывычны боль не апёк маіх плеч. Тады я расплюшчыў вочы — нідзе нікога не было. Страх загнаў мяне ў рассохлую, смярдзючую бочку. Я сядзеў у ёй і маліўся богу, каб ён ўратаваў мяне ад бацькі. «Божачка, — шаптаў я, — злітуйся нада мной, адвядзі бацькавы вочы ад квактухі. Можа ён назаўтра памякчэе. А я, калі вырасту, пастаўлю перад абразом самую вялікую свечку».

Пад страхой буркавалі галубы. Назойліва крычалі вераб'і: жыў-жыўжыў!.. Звінела муха, трапіўшы ў павуцінне. Муха была маленькая. Яна жаласна пішчала. Я вытыркнуў галаву з бочкі, працягнуў руку, каб выратаваць муху. Вялізны чорны павук, з жоўтым крыжам праз ўсю спіну вынырнуў з цёмнага кутка, ухапіў муху і знік гэтак жа нечакана, як і паявіўся.

— Гэй, павыміралі вы, ці што?..

Я зноў схаваўся ў бочку. Нехта хадзіў па двары, бурчэў. Голас не бацькаў. Я асмялеў і зноў высунуў галаву з бочкі.

Ля плоту стаяў чалавек з шырокай чорнай барадой, высокі і мажны. На ім была рудая, выцвілая шапка і белая за калені кашуля, падперазаная вяроўчынай. У руках торба і вялізны кій. Я спалохаўся. Маці не раз страшыла дзедавай торбай. Прызнацца, я не верыў, што нейкаму дзеду вельмі патрэбны непаслухмяныя дзеці. Але цяпер спалохаўся. Дзед стаяў ля варот і хмурыў густыя чорныя бровы. Тоўстыя вусны яго краталіся, быццам ён смактаў штосьці.



Ад страху мае зубы дробна ляскалі, цела калацілася. Няхай бы ўжо лепей паявіўся бацька. Да смерці ён мяне не засячэ, а дзед не іначай высмакча кроў. Мне трэба было сігануць ў бочку, але я стаяў, як на прывязі. Дзед нарэшце ўгледзеў мяне.

— Дзе маці? — запытаўся ён і, растапырыўшы рукі, ступіў некалькі крокаў.

Уцякаць не было куды. Я толькі адступіў у глыб паветкі.

— У цябе хіба языка няма?

Мае зубы заляскалі так моцна, што дзед пачуў гэта. Ён ўсміхнуўся, ашчэрыўшы рот.

— Я ніколі не засну больш, — крыху няўпэўнена пачаў я, а потым асмялеў: усё роўна прападаць! — Вось крыж святы, не засну, толькі не бяры мяне з сабой.

Дзед слухаў уважліва. Я раптам адчуў, што магу ўлагодзіць гэтага валацугу-дзеда.

— Дзівак-чалавек, чаго ты напалохаўся? Мне бацькі твае патрэбны, а калі ўжо згаворымся — тады і ты спатрэбішся.

— Бацькі на поле пайшлі і Ганулю ўзялі, — адказаў я.

— Шкада. Хацеў з тваёй маці пагутарыць. Можа змовіла б цябе за пастуха. Усё роўна ты — лішні рот у хаце. Маці зноў тоўстая ходзіць.

— Малыя ў нас не гадуюцца, — адказаў я, добра разумеючы, пра што ідзе гаворка.

Дзед строга сыкнуў:

— Кыш ты... Многа ведаеш... На ўсё воля божая. Дык як, хочаш пайсці да мяне за пастуха?

Што я мог адказаць. Прыгадаў квактуху, бацькаву папружку і нішчымную бульбу, адказаў разважліва, як сталы:

— Чаму... Калі плата будзе і харч ладны — можна пайсці.

— Ды ты зусім дарослы. Разумны, не тое, што бацька... То сядай побач, пагутарым. А тым часам бацькі прыйдуць...

Мы селі на асінавую калоду. Дзед капаў кіем зямлю. Размова не ладзілася.

— Б'е бацька?

— Бывае.

— Бывае... Угу...

— А ты не будзеш?

— Дубец — лепшы лекар.

На тым і кончылася наша гутарка.

Тут з-за хаты выйшлі маці і бацька. Я закалаціўся, як асінавы ліст, зашаптаў перасмяглымі вуснамі: «Пранясі, божа, пакуль дзед не забярэ мяне...»

Бацька зняў шапку, павітаўся з дзедам за руку. Маці паправіла андарак на вялікім жываце, нізка пакланілася дзеду.

— Заходзь, Тарас Тарасавіч, у хату, — запрасіла яна старога.

Я здагадаўся, што гэта і ёсць той самы Браток, якога не раз памінаў нядобрым словам мой бацька.

— Заседжвацца часу няма. Прыйшоў да вас з паклонам: можа адпусціце Рыгорку да мяне?

Мне здалося, што бацька ўзрадаваўся. Ледзь улоўная ўсмешка паявілася на яго твары, заблыталася ў чорнай барадзе. «Хутчэй бы ён адпусціў мяне», — падумаў я. Але бацька нечакана сказаў:

— Ён і нам патрэбны. Падмога наша, — і абняў мяне за плечы.

Дзед крактануў, пераступіў з нагі на нагу.

— Ну, то бывайце здаровы. Загляну да Максіма.

Але ён не спяшаўся. Стаяў, цярэбячы канец вяроўкі. Маці тужліва пазірала на бацьку. Няёмкае маўчанне было невыносным.

— Можа, Яўхімка, абыдземся як-небудзь. Нам толькі прыпар перабыць.

Бацька нядобра скасавурыў жоўтыя вочы.

— Яно, канешне, лішні пуд хлеба не перашкодзіць,— расцягваючы словы, пачаў ён.— Толькі я баюся, што табе будзе цяжкавата.

— Не турбуйся, я — жылістая. Выцягну. А хлапчуку рана ці позна ў людзі ісці давядзецца.

Калі такое казаў бацька — усё было б зразумела. Але маці... Чаму яна хоча пазбавіцца ад мяне? Усё перакруцілася, пераблыталася ў галаве. Цяпер я ўжо не ведаў, хто мне зычыць дабра, а хто зло.

Бацька павесіў касу, паставіў граблі, запрасіў дзеда ў хату. Ганначка асцярожна шмарганула мяне за падол кашулі.

— Баюся дзеда,— зашаптала яна.— Чаму ён хоча забраць цябе?

— Пачакай, вось зараблю грошай, дык накуплю табе пернікаў, — паабяцаў я. А ў самога трывожна ёкнула сэрца.

Па хаце з піскам бегалі кураняты. Маці войкнула, замершы на парозе.

— А дзе ж квактуха? — прашаптала яна і раптам, заламіўшы рукі, з усяе моцы залемантавала.

— А калі ж гэтае насланнё кончыцца...

Бацька паволі адшпіляў папругу. Я кінуўся да маці. Яна адштурхнула мяне, потым схапіла за вуха. Я прысеў на кукішкі. Нешта гарачае і вострае апякло плечы, зашморгнулася тугой пятлёй на шыі. Як уджалены, я падскочыў угору, крутнуўся на месцы і нейкім цудам трапіў у рукі дзеду.

— Пабойся бога, Яўхім, — пачуў я спакойны дзедаў голас.

Бацьку, відаць, у той час было не да бога. Сырамятная папруга знайшла мяне і ў руках дзеда. Тады я кінуўся пад лаўку, адтуль папоўз пад стол. У нейкім здрантвенні ляжаў на падлозе і ціха падвываў. Цела гарэла, быццам абваранае.

Калі крыху агойтаўся, дык убачыў, што мужчыны сядзяць на лаўках і маўчаць. А маці, прытрымліваючы жывот, гнецца да зямлі. Твар у яе зялёны, перакошаны.

— Яўхімка, заві хутчэй Зубіху,— неяк глуха і сіпла выдыхнула яна і паволі села на падлогу. Размахвала рукамі, а чорныя парэпаныя ногі то згіналіся ў каленях, то зноў выпростваліся.

Бацька не варушыўся. Сядзеў абшчапіўшы рукамі галаву. Дзед хрысціўся, размашыста і часта, быццам адмахваўся ад мух. Ганулька выцірала падалом твар.

— Забірай, каб вочы мае яго не бачылі, паршыўца,— бацька мацней абшчапіў галаву рукамі.

Дзед узяў мяне за плячо, прыўзняў з падлогі, паставіў на ногі. Цяпер мне ўжо не хацелася пакідаць родную хату. Было боязна за маці. Я ўпёрся нагамі ў падлогу. Дзед падхапіў мяне і вынес на двор.

— Чаго ты, дурны? Маці радзіць сабралася... От жа люты чалавек... Вядома, не сваё дзіця — чужое.

Пасля такой калацечы я не звярнуў увагі на дзедавы словы.



— Пайшлі. Дай божа, пуць добры,— дзед падштурхнуў мяне.

Заплятаючы нага за нагу, я выйшаў з двара. Азірнуўся на вокны роднае хаты і заплакаў, ціха, але буйнымі, гарачымі слязьмі.

### *Дзень трэці*

Два дні не браўся за пяро. Зноў балела сэрца. Цяжкія ўспаміны развярэдзілі душу. Але думкі не пакідаюць мяне. Можа і не варта каламуціць тую палыновую горыч далёкай мінуўшчыны. Каму цікава ведаць пра дзіцячыя слёзы, што сплылі з вадой па ціхай балоцістай Сільніцы ў Дзвіну? Сплылі даўно, у бурныя гады рэвалюцый. Можа толькі аднаму мне і трывожаць сэрца гэтыя ўспаміны. Якая справа да іх вунь той бялявай дзяўчынцы, што гуляе на двары з лялькай. Я гляджу на яе праз расчыненае акно і думаю, як шмат змянілася ў жыцці на маёй памяці. І радуюся: дзяўчынцы не давядзецца зведаць пакуты, што выпалі на долю майго пакалення. Можа калі-небудзь прачытае яна гэтыя радкі, напісаныя слабой старэчай рукой, надзьме губкі і скажа: «Навыдумляў дзед нямаведама чаго. Такое і ў сне не прысніцца». Дарагая дзяўчынка, сын майго сына — Андрэй, як хацелася б, каб мае ўспаміны былі толькі страшным сном. На жаль, то быў не сон.

Наш сённяшні дзень быў народжаны ў пакутах. І таму ён такі дарагі для мяне, як дарага бывае для маці дзіця. І ты, мой унук, і бялявая дзяўчынка, што бесклапотна гуляе з лялькай, і сын майго суседа, і чубаты хлопец, які часам пагардліва крывіць вусны, слухаючы мае павучанні,— усе вы, хто і не сасніць тых даўніх дзён жабрачага жыцця, павінны шанаваць сённяшні дзень. Вам я пішу гэтыя радкі. Параўнайце сённяшняе жыццё з маім, і тады вы адчуеце сябе самымі шчаслівымі ў свеце.

Я ведаю, што маладосць не любіць наказаў. Ёй здаецца, што ўсё ўжо зведана. Такі грэх лічыўся некалі і за мной. Добразычлівыя парады старэйшых нагадвалі мне звычайную буркліваасць дзядоў. Больш вы не пачуеце павучанняў. Прызнаюся шчыра, што гэта не вельмі проста, калі ўлічыць мой узрост і вопыт.

У мінулы раз я спыніўся на тым, як дзед вывеў мяне з роднай хаты. Не буду апісваць наша падарожжа і першыя ўражанні. Яны неяк выветрыліся з памяці. Мабыць не было ў іх нічога адмысловага.

Я стаў пастушком, якому даверылі тузін злых збродлівых гусей і чатыры рабыя свінні. Той першы год пастухоўства пакінуў аб сабе толькі два ўспаміны. Аднаго разу на мяне напаў вялізны белы гусак і ледзьве не выдзеўб вочы. З перапуду я доўга хварэў. Лячыла мяне ад хваробы суседская бабуля. Абмывала вадой з трох крыніц. Падкурвала зёлкамі і поўсцю самага злога сабакі. Паіла настоем сямі свянцоных купальскіх траў. Хвароба прайшла. Толькі засталося торганне левага павека.

Другі ўспамін звязан з сажалкай, у якой некалі хацела ўтапіцца мая матуля. Я таксама тапіўся ў той сажалцы, але не з гора, а па дурасці.

Над сажалкай расла старая гарбатая вярба. Хлапчукі, узабраўшыся на яе, давалі нырца ў ваду. Мне даўно карцела залезці на вярбу. І вось я сяджу на яе гладкім, адпаліраваным суку над самай вадой. Мне страшна і весела. У вадзе відаць мой адбітак. Я нахіляюся, каб лепей разгледзець сябе. І раптам лячу ўніз. Рукі паспешліва хапаюцца за голле. Я вішу над вадой. Свайго голасу я не чую. Халодная вада апякае ногі. Я хацеў падкурчыць іх — сук зламаўся, і я паляцеў у сажалку...

Усё астатняе забылася. Так праляцелі два гады. Я падрос, выцягнуўся, як тая сасёнка ў бары, пашырэў у плячах. Цяпер на іх было ўзвалена больш работы. Тарасіха нешта часта хварэла, гаспадар рэдка калі сядзеў дома. Гаспадарку глядзеў Лявон — дзябёлы мужчына, да чырвонага мурла якога ніколі не датыкалася брытва. Твар у яго быў голы, як гусінае яйка. Па старой завядзёнцы мацнейшы спіхваў працу на слабейшага. Мне ўжо не было на каго перакладаць яе. Увесь дзень я тоўкся між дваром і пуняй: насіў ваду, рэзаў сечку, калоў дровы, карміў жывёлу, а ўвечары абіраў бульбу, праў кудзелю.

Аднаго вечара, калі за акном трашчалі піліпаўскія маразы, на двары забрахалі сабакі. Тарас Тарасавіч накінуў кажух, выйшаў у сенцы. Неўзабаве ён вярнуўся з маім бацькам. Той быў увесь белы: барада, вусы, вейкі, бровы — усё заінела. Не бацька, а жывая смерць з загаранскіх могілак. Я стуліўся, чакаючы нечага жудаснага. Бацька хрысціўся на абразы — тыцкаў адубелымі пальцамі ў бараду і шыю.

— Збірайся дамоў,— загадаў мне гаспадар, вешаючы кажух на калок.— Маці хоча цябе перад смерцю пабачыць. Толькі доўга не затрымлівайся. Заўтра малаціць пачынаем.

Маці. Я ніколі не бачыў, каб яна адпачывала. Тупала па хаце, мыла, прала чужую кудзелю. Як можна ўявіць яе мёртвай на покуце са складзенымі на грудзях рукамі. Ногі здрантвелі, прыліплі да падлогі, рукі абмяклі, а галава зрабілася пустой і звонкай. Далёка-далёка гулі званы...

Тарасіха падала мне кажушок, шапку. Затрымала сваю руку ля маёй шчакі. Можа незнарок, але большай ласкі мне і не трэба было.

І вось я трухаю за бацькам. Дыхаць ад марозу няма як. Грудзі апякае калючы вецер. Ён б'е проста ў твар. Ад яго халоднага подыху набягаюць слёзы, застываюць на шчоках. Я закрываю твар рукамі. Тады пачынаюць дубець пальцы. Няма ніякага ратунку.

Пад нагамі рыпіць снег. На небе мігцяць зоркі, быццам на іх дзьме халодны вецер. Побач з намі ў бялесай смузе плыве месяц, не адстае ні на крок. Мабыць і яму холадна. Ён зябка хутаецца ў ірванае, рэдкае воблачка, вытыркае з яго вострыя ножкі. Хутка і я буду вось такі адзінокі, як і гэты месяц, што вылез на неба ў такую сцюжу...

Бацька маўчыць, спорна мераючы крокі. Час ад часу ён натужна кашляе. Мне відаць, як ён спачатку ўцягвае галаву ў плечы, потым з усяго размаху адкідвае яе назад — звонкі кашаль раздзірае грудзі. Навокал бялюткая роўнядзь. Сярод яе мы ўдвух. Спяшаемся, каб апярэдзіць смерць.

Удалечыні чарнее вёска. Снежныя сумёты ўздымаюцца вышэй стрэх. Мы ўзбіраемся на іх, потым апускаемся на выслізганую вуліцу. У зацішку па-хатняму ўтульна і цёпла. А за вуглом зноў лютуе вецер. Нашай хаты зусім не відаць. Замяло снегам пад канёк. Адно цьмяна паблісквае маленькае акенца. Гэта месяц спрабуе пранікнуць у хату.

У хаце цёмна. Пахне поўсцю і гноем. Я спыняюся на парозе, баючыся зрабіць крок. Нешта цёплае і мяккае тыцкае мне ў руку. Мабыць, цялё. Бацька раздзімае на прыпечку агонь. Сухая лучына дыміць, патрэсквае, нарэшце ўспыхвае чырванаватым агеньчыкам. Ад яго ўтульнай віднаты цемра шарахаецца па закутках. Карабацістыя цені, няўклюдныя, як пачвары, блукаюць па сценах. На покуце сапе карова, коўтаючы жвачку, і здзіўлена пазірае на мяне вялізнымі чорнымі вачыма. Рыжае падгалістае цяля тыцкае мордачкай у мой кажух і весела круціць хвастом. Усё роднае, знаёмае. Толькі з печы далятае чужы, задыханы голас:

— Рыгорка, сынок, ці ты гэта?



Няўжо маці? Я хачу праглынуць асінавую гаркату, але яна моцна прыліпла да нёба. Сухі язык балюча драпае аб зламаны зуб.

Я лезу на палок, адтуль на печку. Станаўлюся на калені. У цьмяным водсвеце лучыны невыразна шарэе матчын твар.

— Яўхімка,— просіць маці,— падай сюды лучыну. Хоць напаследак нагляджуся на яго.

Матчына рука намацвае мяне, цягнецца да маёй галавы. Я схіляюся ніжэй, адчуваю, як халодныя кашчавыя пальцы дакранаюцца да ілба.

Бацька падымае лучыну разам з каганцом, ставіць на прымурак. Нехта чужы і страшны ляжыць на печы, захутаны ў рызманы. Белыя валасы, нібы зляжалая кудзеля, збіліся касмылямі, з чорных ямін паблісквагоць сухія, гарачыя вочы, жоўтая, пасечаная ручаінамі дробных зморшчын скура абцягвае востры нос і шчокі. Правая рука ўпілася ў грудзі, левая ледзьве варушыцца перад маімі вачыма. Часам яна засланяе святло лучыны, і тады мне здаецца, што пальцы прасвечваюць наскрозь.

— Вырас ты як, дзіцятухна маё. Ці добра хоць табе? — голас таксама не матчын. Сіпаваты, незнаёмы.

— Добра,— адказваю я.

— Спасі цябе бог, сынок Відаць, такая ўжо наша доля, што век векаваць давядзецца ў парабках.

Яна закашлялася. Здавалася, натужнае хрыпенне ўжо не спыніцца. Лучына дагарала. Успыхнула яшчэ раз. Чырвоны вугольчык надламаўся, паволі ўпаў у ваду. Нас абступіла цемра. Ледзьве шарэла ўнізе акно.

— Так я і не нагледзелася на цябе, сыночак. Можа яшчэ лучыну засвеціш? — нясмела запыталася яна ў бацькі.

— А заўтра што запаліш?..

— Ну і ладна,— згадзілася маці,— мы і ў поцемках пагаворым.

— Раніцай нагледзішся,—буркнуў бацька.— Няхай з табой на печы спіць. А я на лаўцы лягу.

— Лажыся, сынок,— маці зноў намацала маю галаву, пагладзіла валасы.

Я прылёг, не распранаючыся. Ад печы ішло цяпло. Матчына рука пагладжвала па шчоках, шыі. Мне захацелася сказаць нешта добрае, шчырае, такое, што ўзрадавала б маці. Перабіраючы падзеі апошніх дзён, я не мог успомніць нічога ўсцешнага. Шэрае, невыразнае жыццё.

— А ў гаспадара карова ацялілася двума цялятамі,— нарэшце ўспомніў я навіну, якая з тыдзень назад узрушыла маіх гаспадароў.

Маці зноў пачала кашляць. Я адчуваў, як напружваецца яе цела, сціскаецца ў халодны камячок. У коміне падвываў вецер, нібы той галодны піліпаўскі воўк. А можа і воўк вые, ашчэрыўшы пашчу, на месяц. Хутчэй бы мінуў кашаль!

— Дзе ж Ганначка? — пытаюся я, калі маці крыху палегчала.

— У Макарыхі заначавала. А Зміцерка ў калысцы спіць.

Зміцерка — мой брат, але не той, што нарадзіўся ў той год, як прапала квактуха. Той памёр. Зміцерку няма яшчэ і года. Ён паявіўся ў нас у канцы вясны. Яго я ніколі яшчэ не бачыў. Таму я думаю пра яго без усялякай цікавасці. Іншая справа Ганначка. Якая яна? Мабыць, вырасла ўжо.

— Ці многа працаваць даводзіцца? — пытае маці.

Як вымераць маю працу? Што значыць працаваць мала ці многа? Праз увесь дзень нешта робіш. Здаецца, шмат. Але гаспадар кажа, што мы абабілі бакі ад лежні. Адказваю па сталаму:

— Гаспадарка ў нас немалая.

— Слухайся гаспадара, сынок. Працавітых усе любяць. Што ж ты зробіш, калі жыць неяк трэба. Можа калі і выб'ешся ў людзі. Беражы грошы — спатрэбяцца. Зямелькі купіш, гаспадаром зробішся. А на бацькаву не квапся. Няхай яна Зміцерку і Ганначцы застанецца. Ты ў мяне на сваім хлебе.

Чаму малы Зміцерка мае права на зямлю, а я асуджаны на парабкоўства? Толькі ці выжыве ён, калі памрэ маці? Тады я застануся за гаспадара. Выдам Ганначку замуж. Пасаг ёй зраблю. Ганначку нельга крыўдзіць. Яна добрая. Без зямлі ў людзі не выб'ешся. Калі яшчэ назбіраеш тых грошай... За два гады я прыдбаў усяго дзесяць грошаў. Пяць капеек. Колькі ж трэба жыць, каб назбіраць сто рублёў. Больш лічыць я не ўмею. Сто рублёў здаюцца мне недасягальнай раскошай. Мусіць, адзін пан Залуцкі мае такую казну.

Вось толькі Зміцерка. Вырасце і забярэ наш надзел. Навошта ён быў патрэбны маці?.. Аднаго выпраўляюць у свет, а другога заводзяць, каб аддаць яму зямлю. Не любяць мяне ў гэтай хаце. Прыкідваюцца толькі. Не, маці любіць... І ўсё ж няхай бы зямля дасталася мне. Увесь надзел. Зямля ляжыць перада мной, набрынялая сокамі, чорная, тлустая зямля. Я стаю на быльняговай мяжы і гляджу, як дыхае поле парай. Мне цёпла і хораша. Босыя ногі тонуць у пульхнай зямлі. Я ледзьве выцягваю іх. Трэба сеяць. Шырокая саўня вісіць у мяне на шыі. Я дастаю з яе жменю жыта і з усяго размаху кідаю на зямлю. З бору ляцяць вароны. Выцягнуўшы шыі, дыбаюць па раллі, падбіраюць зерне. Хутчэй трэба заскародзіць поле. Гэтыя ненажэры могуць выбраць усё зерне. Але ж у мяне няма каня. Што рабіць? Дзе мой конь? Па другім полі на парцы коней едзе Зміцерка. У яго рыжая барада і здзеклівы позірк жоўтых выцвілых вачэй. «Дай мне каня! — крычу я,— бачыш, варанне налятела». «Не дам», — кажа Зміцерка і хрыпла смяецца. «Дай...» — плачу я, пазіраючы, як вароны выбіраюць зерне. Зміцерка, не азірнуўшыся нават, едзе па полі. З лесу выходзіць бацька. На ім доўгая белая кашуля і новыя ліпавыя лапці. Валасы расчэсаны на прамы прабор. Ён падкручвае вусы, глядзіць на мяне і пытае: «Ну што? Наеўся зямлі? Адолела яна цябе? Ага, спахапіўся, гаспадар. Коней трэба. Вось я ў маці спытаю, даць іх табе ці не?» Ён, прыжмурыўшы вочы, доўга глядзіць на мяне, потым крычыць на ўсю моц: «Макрэна! Макрэна! Аглухла ты, ці што?»

Бацькаў голас вяртае мяне да явы. Я прачынаюся і адразу прыпамінаю ўсё. Паспешліва працягваю руку і тут жа адводжу яе. Маці халодная і цвёрдая. Маўчу, зацяўшы дыханне. Бацька корпаецца ў бакоўцы, дзе згорнута вуголле. Чую, як ён пачынае дзьмуць на вугалёк, і вось ужо цемрач ночы разрэджвае кволы агеньчык. Касматая галава паяўляецца над прыпечкам. Бацька кладзецца грудзямі на край печы, працягвае наперад руку з дымнай лучынай. Я гляджу на яго, вырачыўшы вочы, і чакаю, што будзе далей. Бацька бярэ лучыну ў левую руку, а правую падносіць да ілба, потым паволі апускае яе на грудзі, прыгаворваючы:

— Упакой госпадзі душу ўсопшай рабы Макрэны,— і паспешліва злазіць з печы. Следам кулем скочваюся і я.

— Адпакутавала, бедная,— разважліва кажа бацька.— Пасядзі тут, а я да Макарыхі схаджу.

Ён выходзіць, моцна грукнуўшы дзвярыма. Я стаю пасярод хаты. Дыміць на прыпечку лучына. Цяжка ўздыхае карова, пазіраючы на мяне. Здаецца, яна ўсё разумее. І я іду да яе. Карова працягвае пысу, ліжа руку шурпатым цёплым языком. І ціха мычыць. Слёзы засцілаюць мае вочы. Горка і цяжка.



Нехта пачынае крычаць. Я ўздрыгваю, спалохана азіраюся: мне здаецца, што гэта плача маці. Такі ж сіпаваты, хворы голас. Можа нам толькі здалося, што маці памерла. Абгарэлы канец лучыны падае ў ваду, злавесна шыпіць, як перапалоханы кот.

Пакрысе ачомваюся. Плач даносіцца не з печы, а з цёмнага закутка. Там ляжыць Зміцерка. Як я забыўся на яго? Тая ж калыска, у якой некалі гушкалі мяне, Ганначку, усіх тых, хто, не вылезшы з яе, адправіліся на загаранскія могілкі. Цяпер у ёй гадуецца Зміцерка. Больш у ёй ніхто ўжо не будзе ляжаць...

Іду ў закутак. Бяруся за край выслізганай матчынымі рукамі калыскі, паволі пачынаю разгушкваць яе. Зміцерка крычыць яшчэ горш. У слабым водсвеце лучыны бачу яго пачарнелы ад плачу тварык, шырока раскрыты рот і заплюшчаныя вочкі. Чаго ён крычыць? Я спрабую закрыць яго рот далонню. Зміцерка змаўкае, дрыготкімі вуснамі ловіць мой палец. Яму хочацца есці, здагадваюся я.

На палічцы ляжыць распачаты бохан хлеба. Я адломваю кавалак мякіша, пачынаю жаваць, каб зрабіць суслу. Хлеб пахучы і такі смачны. Зусім няможна пераадолець спакусу. Тады я хапаю бохан, адкусваю вялікі кавалак і прагна ем. Хлеб перастравае ў горле, я даўлюся ім, але не маю сіл перамагчы голад.

Зміцерка ўжо не крычыць, ён толькі ўсхліпвае. Мне сорамна. Паспешліва выкалупваю мякіш, мачаю яго ў квас, мну ў пальцах, потым кладу на анучку і хутчэй бягу да калыскі.

У сенцах чуваць галасы. Уваходзіць бацька і цётка Макарыха. Яна хрысціцца на кут, дзе вісіць чорны, заседжаны мухамі абразок, і кажа бацьку:

— Зараз вады нагрэю, а ты да Навічонка збегай, хай труну робіць. А Навічыха паможа мне нябожчыцу абмыць.

Бацька стаіць, папраўляе аблавушку. Ісці не спяшаецца.

— З чаго ж рабіць труну? — пытаецца ён ў сябе.— Давядзецца падлогу ўздзерці.

Ён выходзіць, згорблены, прыдушаны горам. Я ўпершыню думаю, што бацька не такі ўжо благі чалавек. Цётка Макарыха выцірае ражком хусткі сухія вочы, ціхенька галосіць:

— Мой жа ты сакалочак, сірацінка няшчасная. На каго яна цябе па-а-акі-і-і-нула...

Выходзіць гэта ў яе вельмі жаласна, і я зноў пачынаю плакаць наўзрыд.

Назаўтра хавалі маці. Яна ляжала ў труне, маленькая, высахлая.

нейкая ўрачыстая. У яе руках ціха гарэла свечка, растоплены воск ціха капаў на сашчэпленыя рукі, застываў. Прыцішана размаўлялі жанчыны:

— Як жывая ўсё роўна.

— Чым такое жыццё, лепей ужо смерць.

— Дзяцей толькі вось гаротнікаў пакінула. А сваё адпакутавала. Нас шкадавалі ўсе. Не крычалі, не лаяліся, не абзывалі крыўднымі мянушкамі. Гладзілі па галовах, часта ўспаміналі саколікаў і бедных сірацінак у тужлівых літаннях. Столькі ласкі і чалавечай любві мы не ведалі праз усё жыццё.

У той жа дзень я вярнуўся да Тараса Тарасавіча.

— Пахавалі маці? — запыталася ў мяне гаспадыня.

Я маўкліва схіліў галаву.

— Царства ёй нябеснае. А цяпер за работу бярыся. Адзін ты у нас застаўся. Лявон у прымы збег. У нядзелю вяселле робіць. На салдатку, дурань, паквапіўся. Трэба ён ёй, як саве сонца. Баба грэх свой прыкрыць хоча...

Лявонава прымацтва не здзівіла, а ўзрадавала мяне. Агоркла хадзіць пад трайным наглядам. Нават не палохала работа.

## Раздзел другі

У гэтую пару года на млыне не завозна. Даведзены кіраўніцтвам прамкамбіната план трашчыць, як цацачны караблік у паводку. Нічыпар ходзіць пахмуры і злосны. Але не толькі таму, што яго непакоіць план. Няхай у гэтым месяцы не будзе прэміяльных. Крыху, вядома, палаяць. Але ж начальства і само ведае: перад прыпарам мала хто заглядае на млын. Непакоіць, злуе іншае: даводзіцца сядзець без работы, тыцкацца з кута ў кут, назіраць, як павукі снуюць кросны. Гэткія агідныя стварэнні! Учора раніцай Нічыпар спыніў млын, а сёння вялізны махавік ужо аплецены павуцінай.

Нічыпар бярэ мятлу, з усяго маху б'е па карункавых узорах павучынага рукадзелля. Хоць бы паявіўся гэты Рыгор Агнёў. Усё было б лягчэй. З ім, канешне, не адвядзеш душу размовамі. Натапыраны, маўклівы стары. Ён, Нічыпар, чалавек кампанейскі, любіць пагаварыць, паслухаць, выпіць чарку-другую... А гэты Агнёў нейкі нелюдзім. Сядзіць увесь дзень на плаціне і маўчыць, як вады ў рот набраўшы. Нават чарка не змякчае яго. Чаму ён вось ужо з тыдзень не паяўляецца ля млына? Можа захварэў? Здароўе ў яго слабае. Гады, ды і пабачыў чалавек на сваім вяку шмат — на семярых хапіла б.

Стары мельнік каторы раз пачынае падмятаць падлогу. Па шчырасці, утульная чысціня млына яму не падабаецца. Няхай бы лепш ля сцен валяліся мяхі, а ў паветры плавалі клубы мучнога пылу. Затое не было б гэтай мёртвай, надакучлівай цішыні. Яна прыгнятае. Стаіш пасярэдзіне, як пудзіла на агародзе. Ні табе ніхто не скажа слова, ні ты каму. Махай вось мятлой і напаўголаса размаўляй з сабою. Але Нічыпар мяце падлогу старанна, як самая руплівая гаспадыня. Што зробіш, калі рукі свярбяць па рабоце, ды і думак ніяк не адагнаць...

За млынам, на беразе рэчкі, у Нічыпара ёсць невялікі гародзік: пяць кароценькіх шырокіх градак. Яны густа зараслі травой. Трэба было б прапалоць. Няхай бы вальней адчувалі сябе памідоры, гуркі і цыбуля. Не раз ужо Нічыпар прыходзіў на свой гарод, але спрадвечны гонар



рабочага чалавека спыняў яго перад рашучым крокам. Каб ён, патомственны мельнік, чалавек з залатымі рукамі браўся за гэтую бабскую справу! Ён нават прысягаў у такія хвіліны не рабіць больш град. Але вясной, калі набрынялая зямля пачынала дыхаць парай, ён браў рыдлёўку, старанна пераціраў кожны камячок чарназёму. Зрабіўшы грады, прасіў якую-небудзь жанчыну, што прывозіла малоць зерне, пасадзіць расаду. Тыдні два Нічыпар цешыўся, аж пакуль пустазелле не пакрывала грады. Здаралася, што тая ж жанчына, пакуль Нічыпар малоў, бралася за праполку.

— Во, яшчэ надумала,— бурчэў мельнік.— Ты б, во, лепей лезла на вышкі ды паглядала, як ідзе засыпка.

Але яму было прыемна. «Руплівая баба і гаспадыня, відаць, не кепская. Эх-ха-ха! Шанцуе людзям».

Нічыпару не шанцавала. Успамінаць пра былое ён не любіў. І ўсё ж яго мінулае жыццё кожны дзень напамінала аб сабе. Як ты не адмахвайся, а яно было. Пазіраў на яго Нічыпар кпліва, з затоенай усмешкай у пышных вусах. Старонняму чалавеку можа і не ўздагад, як часам балюча было глядзець чалавеку на чужое шчасце. Сваё даўным-даўно сплыло па рэчцы разам з зеленаватай вадой. Хто вінаваты ў тым, што яно не затрымалася? Пра гэта Нічыпар не любіў думаць. «Весялей трэба жыць, — пераконваў ён сябе. — Было, ды сплыло...» Але думкі, відаць, затрымліваліся, каб надакучаць вось у такія хвіліны вымушанага гультайства. Можа таму і не любіў Нічыпар сядзець без работы.

З малых гадоў пачаў ён працаваць у пана Залуцкага за парабка на млыне. Спачатку быў пры бацьку за падручнага. Пасля, калі бацька памёр, Нічыпар заняў яго месца.

Дасталіся яму ў спадчыну бацькоўская пакрыўленая хаціна на ўскраіне горада і бесклапотная весялосць. На пачатку большага ён і не хацеў.

Заробкі на млыне былі не дрэнныя. Гаспадар, які не пазбавіўся яшчэ панскіх прывычак, не вельмі надакучаў сваім паяўленнем. За тыдзень Нічыпар прапускаў мужыкоў пяць без чаргі, а выручку клаў сабе ў кішэню. Хапала і на бутэльку гарэлкі, і на хромавыя боты з доўгімі халявамі, і нават на шырокую кумачовую кашулю.

У нядзелю Нічыпар выбіраўся ў горад. Ішоў, пастукваючы лакіраванай палкай з залатым набалдашнікам, ды страляў вачыма па гарэзных служанках. Дзяўчаты ліпнулі да яго, як мухі да той салодкай клейкай паперы, што вешаюць гаспадыні на кухні. І хоць было Нічыпару ўсяго нейкіх семнаццаць год, ён добра ўжо зведаў сілу свайго бравага выгляду. Так і жыў без вялікіх клопатаў. Жыццё здавалася яму простым і ясным, без ям і ўхабаў.

Бяда падкралася непрыкметна. І каб нават Нічыпар чакаў яе, дык усё роўна не з гэтага боку. Нечакана, як гром з яснага неба, выбухнула вайна. Што не падзяліў цар з кайзерам, гэта вельмі мала абыходзіла Нічыпара. Спалохаўся быў, што возьмуць на вайну, а там, вядома, заб'юць. Але гаспадар цераз свайго малодшага брата, што працаваў нейкім важным ваенным чынам, дабіўся для Нічыпара белага білета. Тады Нічыпар гатоў быў вылузнуцца са скуры, каб дагадзіць гаспадару. Думаў, што ўсё абышлося, як найлепш. Аж не кажы гоп, пакуль не пераскочыш. Праўда, сваю памылку Нічыпар зразумеў толькі цяпер. Нават не зразумеў: проста яму здаецца, што ён вельмі танна прадаў сябе панам Залуцкім. І зноў не тое... Не трэба было дагаджаць. Вось і ўсё. А можа і не. Чорт яго разбярэ, што трэба было рабіць, а што не трэба. Ад такіх думак можа галава распухнуць.

Малюнкі ўзнікаюць адзін за адным. Няяркія, расплывістыя, але

яны вярэдзяць душу. Агідна. Раптам вынікае аднекуль твар гаспадаровай дачкі Адзелаіды — проста Адэлькі. Праз гады ён відаць невыразна: худое, скуластае абліччa, маленькія чорныя вочы. Затое голас Адэлькі, яе прыдушаны нервовы смех ясна гучыць у Нічыпаравых вушах. Здаецца, Адэлька стаіць побач.

Тады таксама ярка свяціла сонца і нікога не было ў млыне. Чаго яна прыходзіла? Нічыпар так ніколі і не запытаў у яе пра гэта. Смешна, што праз трыццаць гадоў прыходзяць у галаву такія думкі. Ці мала засталося нявысветленых пытанняў? Але гэтае паўтараецца, прымушае ламаць галаву.

Нічыпар успамінае, як адразу пасля рэвалюцыі мільганула была думка, што нарэшце-такі кончылася яго служба на гаспадара. Што там казаць: хацелася самастойнасці. Як ні кажы, а сам сабе гаспадар. Але хутка ад такой думкі давялося адмовіцца. Купіць сабе млын не было за што. А тут зноў пачалася вайна. Ісці на яе было боязна. Яшчэ ці завоюеш што, а галаву скруціш. І ён застаўся на млыне. Адпусціў бараду і адразу пастарэў год на дваццаць. З млына цяпер не вылазіў. Жыў у прыбудоўцы. Баяўся, каб не мабілізавалі. Цяпер і гаспадар часцей аціраўся на млыне. Два яго дамы на Ветранай вуліцы «таварышы» рэквізавалі ў першы год рэвалюцыі. Млына, аднак, не зачапілі. Малоць хлеб трэба было і ім.

Раскашаваць не даводзілася. Не пойдзеш жа ў горад з папоўскай барадой і ў кажуху. Добра яшчэ, што паявілася шмат салдатак, гатовых падарыць каханне за мякка змолатае зерне.

Гаспадар спахмурнеў. Па людзях хадзілі чуткі, што неўзабаве ў яго рэквізуюць і млын. Але Нічыпара яны мала турбавалі. Каму б ні належаў млын, а мельнік заўсёды спатрэбіцца. Лепшага, як Нічыпар, у акрузе няма. Нездарма і гаспадар трымаўся за яго.

За сцяной глуха шуміць вада, спявае адвечную песню. Скрозь маленькае запыленае акенца прабіваецца сонца. Нічыпар ставіць мятлу ў кут, дастае з-за скрыні пляшку, адкаркоўвае, падносіць да рота. Але не п'е. Тады, здаецца, таксама быў панядзелак. Пасля нядзелі балела галава. Ледзь не да раніцы сядзеў у шынку. Толькі хіба ён хадзіў у шынок па нядзелях? У тыя гады ўжо не страшна было вылазіць з млына буднімі днямі. Вайна скончылася. Настала мірнае жыццё.

І ўсё ж гэта было ў панядзелак. Вось тут у кутку ляжалі мяшкі з аўсом аптавіка Неерзона. Нічыпар падымаў іх наверх блокам. Звязваў па пяць штук, падцягваў на вышкі, потым узбіраўся па крутых вузкіх сходках, складаў на пляцоўцы ля вялізнага каша. За пятым разам, здаецца, калі ён спускаўся ўніз, у дзвярах паявілася Адзелаіда.

На ёй было белае плацце, туга перацягнутае ў таліі шырокім поясам. На поясе — вялізная чырвоная ружа. У руках — квяцісты парасон. На шыі — залаты ланцужок. На ім маленькі гадзіннік. Чорныя падстрыжаныя валасы кольцамі выбіваліся з-пад маленькага капялюшыка.

— О, пан Нічыпар спускаецца з неба, як святы анёл. Толькі чаму ён пахмуры?

Нічыпар ад неспадзяванасці спыніўся. Ці не хоча гаспадарова дачка пранюхаць, як ён працуе. За гадзіну да таго Нічыпар прадаў мех неерзонаўскага аўса ламавому рамізніку Ляцкаму. Няўжо гаспадары носам чуюць прапажу?.. Адзелаіда стаяла на парозе. Гэта і хвалявала Нічыпара. Нарэшце ён агойтаўся.

— Праходзьце, Адзелаіда Сяргееўна. Асцярожна толькі, там масніцына прагніла.



Адзелаіда ўзяла падол плацця ў два пальчыкі, ступіла некалькі крокаў.

— Чаму ж вы не працуеце? — запыталася яна, усміхаючыся неяк загадкава і млява.

Нічыпар замітусіўся. Паспешліва збег уніз, пачаў укладаць мяшкі на перавясла, прывязанае вяроўкай да блока.

— А што гэта вы робіце? — не сунімалася гаспадарова дачка.

— Трэба ўсцягнуць мяхоў сорак на вышкі, тады ўжо можна будзе малоць.

— Вельмі цікава. Я ніколі не бачыла, як гэта робіцца.

Яна стаяла ў яго за спіной. Ён чуў, як яна стукае парасонам аб падлогу ў такт сваім словам ды адчуваў яе праніклівы позірк. Думаў: «Мабыць, стары прыслаў пашпіёніць за мной. А што значыць яе абдурыць! Калі не далічыць мяхоў, скажу, што высыпаў у кош».

Пяць мяшкоў паволі паўзлі ўверх. Нічыпар прывязаў вяроўку да слупа. Хацеў было пайсці на вышкі.

— Пачакайце, я таксама хачу туды злазіць. Гэта не страшна? Я вельмі баюся вышыні.

Нічыпар неахвотна прапусціў яе наперад. Усё яшчэ трымаючы ў пальцах падол, яна пачала ўзбірацца па стромкай лесвіцы. Ён падымаўся следам.

У Адзелаіды былі на дзіва тонкія ногі, абцягнутыя чорнымі шаўковымі панчохамі. Яны ўвесь час мільгалі перад яго вачыма. Ды яшчэ падол плацця, з-пад якога выбіваліся карункі. Надакучлівая панурая думка, што Адзелаіда паявілася паназіраць за ім, хоць на нейкі час пакінула Нічыпара.

— І гэта ўся ваша работа? — здзівілася яна, калі Нічыпар растлумачыў ёй, як трэба засыпаць зерне ў кош.— Чаму ж бацька вам плоціць такія вялікія грошы?

Ён сумеўся, але адказаў са злосцю:

— Бацька зусім не працуе, а прыбыткі яго ў сто разоў большыя за мае.

— Тата — гаспадар.

Нічыпар першы збег уніз. Пусціў кола. Млын здрыгануўся, потым загуў, зашумеў, чыхнуў пылам. Нічыпар адчыніў засаўку. Жорны глынулі порцыю аўса, і адразу агіднае скрыгатанне спынілася. З рукава пасыпалася мука. Нічыпар ухапіў жменю мукі, пакаштаваў на язык, ледзь-ледзь асадзіў жорны. Усё рабілася адным прызвычаеным рухам, прыгожым і дасканалым.

— Фу, як пыльна,— пачуў ён побач з сабой голас Адзелаіды і азірнуўся.

Яна стаяла воддаль, махаючы перад носам хустачкай. З акна, праз белы мучны пыл, на яе падаў ружаваты прамень сонца. Блішчэў залаты ланцужок, а валасы ўжо інелі ад пылу. Вялікаваты тонкі нос моршчыўся, і ад таго выразней выступалі баразёнкі зморшчын ля вачэй. Тонкія вусны крывіліся, і таму шырокі рот выдаваў большым. «Нездарма яе абыходзілі жаніхі, ні складу, ні ладу, проста святыя мошчы,— падумаў Нічыпар. Следам мільганула шалёная думка.— Вось бы, мусіць, драпалася, каб жартам абняў яе».

Зрабілася надзвычай весела. Нічыпар і гаспадарова дачка. А што, яна нават і нічога сабе, шчыгульненькая такая. Смеласці ўсё ж не хапала. Сорамна будзе паглядзець гаспадару ў вочы. Некалі ж выратаваў ад вайны!...

Нічыпар зноў пачаў увіхацца ля мяхоў. Адзелаіда хадзіла, зазірала ва ўсе куткі.

— Я думала, на млыне заўсёды людна. А тут пуста, як і ў нас дома. Бацька некуды з'ехаў. Іграць надакучыла. Думала, хоць на людзей пагляджу.

— Цяпер мужыкі заняты: прыпар,— адказаў Нічыпар.

— Давайце я памагу вам,— прапанавала раптам Адзелаіда.

— Дзе ўжо вам,— усміхнуўся Нічыпар.

— Я — дужая. Не верыце? Глядзіце.

Яна ўхапілася за вяроўку, і пяць мяшкоў паволі папаўзлі ўверх. Нічыпар паспяшаўся памагчы. Іх рукі пераплята́ліся, калі даводзілася перахопліваць вяроўку. «Чорт, яна зусім не падобна на паненку»,— падумаў Нічыпар і адчуў, што смеласць вяртаецца да яго. Пакуль ён прывязваў вяроўку да слупа, Адзелаіда паспела ўзбегчы на вышкі, падцягнула мяхі да памоста. Нічыпар ухапіў мех, трымаючы яго ў руках, высыпаў у кош.

— Ой, які вы дужы! Пакажыце руку. Не, вось так, сагніце ў локці.

Яна абмацвала яго руку і неяк дзіўна задыхана смяялася. Нічыпар незанятай левай рукой абхапіў яе за талію, і Адзелаіда надламалася, выгнулася, як лазіна. Маленькія чорныя вочы пазіралі дагодліва і млява, а вусны раскрыліся, ды ў горле трапятаў задзірлівы смех.

Нічыпар падняў яе. Яна абхапіла яго за шыю і, прадаўжаючы прыдушана смяяцца, роспачліва крыкнула:

— Ашалеў, плацце парвеш. Пачакай, я — сама.

Назаўтра Нічыпар з боязззю паглядаў на гаспадара. Ці ведае ён пра ўчарашняе? Гаспадар хадзіў па млыне, важна кашляючы ў насавую хустку.

Не, відаць, не ведае! Нічыпара распірала ад гордасці. Хацелася стаць перад старым панам і смалянуць яму ў вочы: «Не такія ўжо вы недаступныя, як прыкідваецеся. Учора мы з тваёй дачкой забаўляліся».

Пан, напэўна, страціў бы прытомнасць. Лепш няхай ён нічога не ведае. І Нічыпар знарок моцна грукаў ботамі, хоць ведаў, што гаспадар гэтага не церпіць.

— Зойдзеш, Нічыпар, да мяне,— сказаў гаспадар пасля работы.

У яго ёкнула ў грудзях. Але, разважыўшы, ён супакоіўся: не магла ж дачка накляпаць на сябе. Ды і ён яшчэ не паспеў нікому пахваліцца.

Пан Залуцкі пасадзіў Нічыпара на жорсткае крэсла, сам сеў у мяккае. Закурыў люльку, пыхнуў разы са два, пільна пазіраючы на Нічыпара.

— Дачка мне ўсё расказала,— спакойна, як пра нешта звычайнае, паведаміў ён.— Не хвалю. Я цябе, як сына роднага, гадаваў, а ты вось як адплаціў мне... Што ж ты рабіць думаеш?..

Нічыпар ёрзаў на крэсле. Што яму трэба рабіць — не ведаў. Лыпаў вачыма, збіраўся з думкамі.

— Не ведаю, Сяргей Сяргеевіч.

— Не ведаеш? — ён памаўчаў.— Адзелаіда, хадзі сюды.

З-за дзвярэй выпырхнула дачка. Спынілася, рукі складзены на жываце, галава схілена на грудзі — зусім, як тая багародзіца з царскіх варот у задунаўскай царкве.

— Пойдзеш за Нічыпара замуж?

— На ўсё ваша воля, татусь...

— Мая, мая... Учора вы маёй волі не пыталіся...

— А як Нікіфар?..— Адзелаіда ўзняла вочы, з дрэнна прыхаванай усмешкай паглядзела на мельніка.

— Ён таксама не ведае. Шкодзіць усе ўмеюць... У нядзелю вяселле. Адпішу вам млын — жывіце. А я адпачну. Хопіць, напрацаваўся.



Яшчэ і цяпер Нічыпару здаецца, што ўсё тое было нейкім неверагодным, блытаным сном. Вяселле, вянчанне ў царкве, даравальны запіс і год недарэчнага, бесталковага жыцця. Ужо на сёмым месяцы нарадзілася дачка — неданосак, як сказала акушэрка. Кожны дзень у хаце да поўначы балявалі госці. Спачатку віншавалі са шлюбам, пасля з цяжарнасцю, потым спраўлялі радзіны, хрысціны і яшчэ чортведама што. Адэлька, якую раней абыходзілі мужчыны, раптам набыла тузін прыхільнікаў і сяброў. Хадзіла па гасцях, запрашала да сябе. А Нічыпар па-ранейшаму завіхаўся ў млыне. Цяпер грошай у кішэню прыплывала больш. Але яшчэ больш выцякала адтуль. Адэля на ўсё лета ехала на поўдзень. Чапляла на свае худыя рукі і шыю залатыя бранзалеты, нанізвала на пальцы пярсцёнкі і знікала да восені. «Асірацелыя» Адэльчыны сябры пашкельвалі:

— Што, Нічыпар, цяжкавата спраўляцца з млынам і жонкай адначасова. Адпачні разам з намі, а жонка не ўцячэ, вернецца.

Нічыпар рагатаў разам з усімі, а сам успамінаў худыя Адэльчыны ногі з вострымі маслакамі каленяў, маленькія, як бураўчыкі, вочы і вялізныя храшчаватыя вушы. Брыда! Хацелася кінуць млын, Адэлю, дачку і гэтага занудлівага пана, які надакучаў павучэннямі.

У жыцці Нічыпара нічога не змянілася. Як і раней, праз увесь дзень тупаў па млыне, піў гарэлку з памольцамі, насіў мяхі, браў плату і нават па прывычцы ўтойваў ад цесця некалькі паўрублёў. Калі на млыне было завозна, Нічыпар не прыходзіў дамоў начаваць. Спаў на мяхах, а мужыкі самі засыпалі зерне ў кош, самі апускалі жорны. Нічыпар толькі пасмейваўся ды, на злосць былому пану, малоў без платы, за чарку гарэлкі.

Неяк перад вялікаднем, калі асабліва многа набралася памольцаў, Нічыпар два тыдні не вылазіў з млына. Дні за тры да свята ў млын заглянуў цесць, забраў выручку і паспешліва падыбаў дамоў. «Цяпер ён ужо не паявіцца, старая назола. Можна і пра сябе падумаць,— узрадаваўся Нічыпар. Выручку наступных трох дзён ён акуратна дзяліў папалам: палову — сабе, палову — у агульную з сям'ёй касу. У суботу перад абедам вымеў млын, замкнуў на вялізны замок і паціху пайшоў дамоў.

Нічыпара здзівіла няўтульная цішыня хаты. Нібы ўсе вымерлі. Пахадзіў па пакоі, заглянуў на кухню: ніякіх слядоў. На стале знайшоў форменны бланк — падаходны падатак за млын. Абыякава зірнуў на лічбу, потым усміхнуўся: пачухаецца цесць. Такога вялікага падатку яшчэ не было. Дастаў з буфета пляшку гарэлкі, выпіў. Закусіць не было чым. Хлеб і той чэрствы. Лёг на ложак, не распранаючыся. Сніў млынавае кола, што хутка вярцелася без вады, мучны пыл і Адэльку. Яна стаяла на тым беразе ракі, крычала яму: блям-бом, блям-бом.

Прачнуўся Нічыпар ад шалёнага перазвону. Шэрае няўтульнае світанне цадзілася ў хату. Невыразна вымалёўваліся абрысы рэчаў. Уставаць не хацелася. Ляжаў, выпрастаўшы ногі. Раптам узнікла на дзіва простая здагадка: дарагі цесць і жонка ўцяклі. Нічыпар нават узрадаваўся свайму вызваленню. А можа і не ўцяклі? Калі збеглі, дык забралі грошы.

Нічыпар запаліў лямпу, не спяшаючыся падышоў да арэхавага бюро з патаемнымі скрынямі. Бюро аказалася незамкнутым. Шуфляды пуставалі. Уцяклі! Нічыпар падскочыў на месцы, ляснуў доўгімі рукамі па каленях, прайшоўся ўпрысядку вакол стала. Потым пабег на кухню, каб перакуліць чарку за доўгачаканую волю. Тут на вочы яму зноў трапіла паведамленне аб падатку. Цяпер яно напалохала Нічыпара. Не

цесцю, а яму ўжо давядзецца плаціць грошы. Так напісана і ў паведамленні: Метлюжку Нічыпару Аўсеевічу. Метлюжку... Упершыню прачытаў Нічыпар сваё прозвішча і нават здзівіўся, што камусьці ў свеце яно вядома. А вось ён зусім забыўся, што ёсць у яго прозвішча. Яго заўсёды звалі Нічыпарам, зрэдку Аўсеевічам. Прозвішча было непатрэбна. І ўсё ж нехта дапяў, нават выпісаў гэтае прозвішча на паперы. Апанаваў страх. Быў Нічыпар вольны казак, а цяпер «млынаўласнік» Метлюжок. Дасюль ведаў толькі адно: лепш і хутчэй змалоць зерне. Цяпер трэба дбаць пра млын, пра падаткі, пра хату. Бывай вясёлае, разгульнае жыццё! Давядзецца прыпрэгчыся да аптавіка Неерзона, вадзіць у шынкі сумных, але патрэбных людзей, весці бухгалтэрыю, улічваць кожную капейку. Без грошай не пражывеш. І на чорта яму гэтыя клопаты? Навошта млын? Патрэбны ён яму, як і жонка, сухарэбрая, баламутная Адзелаіда.

Але без млына Нічыпар не мог пражыць. Пятнаццаць гадоў моцна прывязалі яго да старой, пахілай будыніны. Куды ты цяпер пойдзеш? Што будзеш рабіць? Станеш рамізнікам, як Ляцкі, ці аптавіком, як Неерзон? Будзеш калупаць зямлю, як тысячы мужыкоў, што кожны дзень прыязджаюць на млын і трасуцца за кожную капейку?

Нічыпар не ўмеў доўга раздумваць. Як-небудзь абыдзецца. Ці ж мала было крутых паваротаў, а вось ён уладжваўся і жыў так, як хацелася, можа не надта раскошна, затое бесклапотна.

Падатковае паведамленне знайшло свой прытулак у душніку вялікай печы, а запрацаваныя ў апошнія тры дні грошы — у прыватнай сасісачнай на задунаўскім базары.

Паляцелі дні, поўныя мітусні і вясёлых гулянак. Дамоў Нічыпар прыходзіў рэдка, а неўзабаве і зусім перабраўся ў прыбудоўку пры млыне. На жыццё не крыўдаваў. Нават падабалася, што можна распараджацца сабой так, як яму захочацца. Не трэба слухаць Адэльчыны спевы пад гітару, нуднае бурчэнне цесця, сядзець за сталом з сурвэткай на грудзях, мыць кожны дзень ногі, есці відэльцам і ножыкам, а галоўнае чысціць зубы і мазаць галаву брыльянцінам. Хораша быць проста вясёлым мельнікам Нічыпарам.

Так непрыкметна падкралася восень. А разам з ёй і настырны фінінспектар. Усеўшыся на мяхі і распластаўшы вялізны жоўты партфель на каленях, ён доўга корпаўся ў паперах, пакуль не выцягнуў на божы свет лілаваты аркуш, густа заселены літарамі.

— Вы і ёсць грамадзянін Метлюжок? — запытаўся ён у Нічыпара.
— Кажуць, што Метлюжок...
— Тоісць, я не разумею...
— Нічыпар я, млынар.
— Гэта вы атрымалі ў спадчыну млын ці які другі Метлюжок?
— Пра другога Метлюжка не чуў. Адзін я такі на свеце.
— Ага, вы, тоісць, прызнаяце, што млын ваша ўласнасць?
— Пятнаццаць гадоў мадзею тут. Значыцца, мой.
— Чаму ж падаткі не плоціце?
— Калі вы дасцё грошай — заплачу. А ў мяне няма.
— Але ж вы гаспадар. Плату за памол берацё.
— Бяру, без платы не можна. Плаціну падрамантаваць ці дах — адкуль жа грошы возьмеш.
— Вы мне зубы не замаўляйце. Распішыцеся вось тут, што на працягу трох дзён заплаціце ўвесь падатак, разам з пеняй.
— Няма мне чаго распісвацца. Няхай, во, людзі скажуць, ці ёсць у мяне грошы?



Ля іх ужо стаяў даволі вялікі натоўп. Нехта ленавата сказаў:
— Бярэ па-суседску, чаго там...
— Але ж ён уласнік,— не сунімаўся фінінспектар.
— Уласнік ці не — не ведаем. Але млын на яго запісаны,— абазвалася нейкая кабета.
— Няхай цесць разлічваецца,— ухмыльнуўся Нічыпар, нарэшце знайшоўшы ўдалую адгаворку.— Гаспадаром млына з'яўляецца ён. А што млын на мяне перапісаў, дык зноў жа няхай людзі скажуць, як усё было. Аддаў млын у пасаг разам з дачкой. А яны мне патрэбны былі, як сабаку пятая нага.
— З цесцем вы ўжо самі рахуйцеся.
— Парахуешся, калі ён уцёк.
Мужыкі рагаталі, пабраўшыся за жываты. Ды і сам Нічыпар выскаляў белыя, як часнок, зубы. Фінінспектар ускіпеў:
— Я ў апошні раз пытаюся: падпішаце папярэджанне ці не?
— На якога ліха мне падпісвацца. Млын не мой, а цесцяў, у яго і пытайцеся пра грошы.

У той жа дзень увечары і адбылася ў Нічыпара першая сустрэча з Агнёвым. Таварыш начальнік здаваўся вельмі суровым, бадай такім, як і цяпер. Ён нават крычаў на Нічыпара, а аднаго разу стукнуў па стале кулаком так, што падскочыла чарніліца-невылівайка. Але пасля, калі разабраўся, памякчэў.

— Як жа ты дакаціўся да такога жыцця? Рабочы чалавек, а гонару ў цябе ні на грош. Прамарнатравіў столькі год. Мог бы вунь якім чалавекам стаць. Людзі рэвалюцыю рабілі, а ты ў буржуя на задворках аціраўся. Сорам. Брыдка глядзець на цябе. Ну, нічога, мы цябе вырвем з лап уласніцкіх настрояў. Пераварышся ты ў нашым пралетарскім катле. Добра, што хоць цяпер дапяў, куды цябе пан Залуцкі штурхнуў. Млын мы забяром, заўтра ж. Працуй, ды старайся. Цяпер ты не на пана, а на сусветную рэвалюцыю працаваць будзеш. У рабочы клас уліваешся.

Агнёў, канешне, пра тую сустрэчу не памятае. А Нічыпар адразу пазнаў яго, як толькі ён аб'явіўся ў горадзе. Хацеў быў аднаго разу напомніць старому пра тыя даўнія гады, але парашыў, што не варта. Было, ды з вадою сплыло. Дзякуй, што не пасадзіў тады за сабатаж. Адпякаў бы на Салаўках гадоў пяць, а так жыў прыпяваючы. Не горш, чым тады, як лічыўся гаспадаром. Вальней адчуваў сябе, плацілі прэміяльныя, звышурочныя, святочныя, а вольнага часу хапала з наддаллю.

«Шмат вады сцякло па Віпі ў мора. Рыгор Агнёў больш не начальнік. А я загадчык млына. Разам юшку варым, сварымся, мірымся, ловім рыбу. Можа і паміраць у адзін дзень давядзецца. Не, я пражыву болей. Куды Агнёву да мяне. Растрос сваё здароўе па крутых дарогах. А навошта? Усё роўна ў адным чыгуне рыбу варым. Навошта несці на сваіх плячах непасільны цяжар, калі можна пражыць весялей. Мабыць, ляжыць адзін і думае, думае. Цікава, пра што ён думае? Пра ўнука? Канешне, унук ёсць унук. Толькі, відаць, яму не да дзеда. Хіба загінуў? Шкада старога. Няхай бы знайшоў унука...»

Тут Нічыпар успомніў, што абяцаў пазнаёміць Агнёва з рэдактарам. Можа ён што-кольвечы дапамог бы. Зусім дзіравай зрабілася галава: паабяцаў і забыўся. Нічыпару раптам захацелася хоць чым-небудзь аддзячыць Агнёву за тую даўнюю дапамогу. Тым больш, што ў млыне не было чаго рабіць. Зачыніўшы цяжкія дубовыя дзверы, Нічыпар паплёўся ў горад. Трэба было знайсці рэдактара, але дзе ён жыве ці працуе, Нічыпар не ведаў. Забыўся і яго прозвішча.

Нічыпар зняў шапку, выцягнуў газету, разгарнуў яе. Са старонкі на яго глядзеў сам Нічыпар. Шырокая барада акуратна расчасана, вусы падкручаны, а вочы ўсміхаюцца. Вось які здаравяка мужчына! Гэта, бадай, была адзіная газета, якую прачытаў і захаваў Нічыпар. З год назад на млыне паявіўся рухавы, гаваркі чалавек, вельмі падобны на таго фінінспектара, што некалі прымушаў Нічыпара падпісаць папярэджанне аб выплаце падатку. Здавалася, уваскрэсла з нябыту дзён старая гісторыя. Нічыпар насцярожана пазіраў на незнаёмага. А той бегаў па млыне, размаўляў з калгаснікамі, распытваў у Нічыпара пра жыццё, працу. Потым ён знік гэтак жа нечакана, як і паявіўся, пакінуўшы пасля сябе трывогу ў Нічыпаравым сэрцы. Назаўтра зноў паявіўся ў млыне. Цягаў з калгаснікамі мяхі, гэтак жа, як і Нічыпар, прабаваў муку на язык, а ў абедзенны перапынак, асядлаўшы куль, нешта паспешліва запісваў у блакнот. Нічыпару рупіла запытацца, хто ён і што яму трэба на млыне. Але чамусьці не хапала смеласці.

Калі ён з тыдзень не прыходзіў на млын, Нічыпар адчуў невыразны смутак. Чагосьці не хапала. Незнаёмы, аднак, неўзабаве завітаў да Нічыпара. Выняў з кішэні газету, падаў яму. Мельнік не ведаў, што з ёю рабіць. Разгарнуў старонкі і аслупянеў: уверсе — яго партрэт, а ніжэй, у рамачцы, пісалася пра яго, Нічыпараву працу.

Нічыпар быў задаволены напісаным. Хіба ж не праўда, што ён лепшы мельнік у акрузе. І партызанам ён дапамагаў. Сапраўды быў такі выпадак, калі партызаны забралі з млына дзве машыны мукі. Праўда і тое, што ў прыбудоўцы ў яго жыў той дзіўны чалавек. Нічыпар здагадаўся, што ён мае нейкае дачыненне да лясных людзей, але яму і ў галаву не стукнула, што гэта сакратар падпольнага райкома партыі.

Кароценькая заметка ўзрушыла Нічыпара. Дасюль уласнае жыццё здавалася кругленькім і простым, як вытачанае з кавалка дрэва і размаляванае яйка. А вось знайшоўся чалавек і выбраў з жыцця нешта важнае, адкінуўшы прэч усё астатняе, як непатрэбнае. З месяц хадзіў Нічыпар пад ўражаннем гэтай заметкі. Мроіліся нейкія важныя перамены. Але па-ранейшаму прыязджалі на млын грузавікі і падводы, прывозілі мяхі з зернем і вечна занятыя шафёры патрабавалі хутчэй адпусціць іх. Усё ішло аднойчы заведзеным парадкам.

Праўда, яго прызначылі загадчыкам млына. Гэтае павышэнне Нічыпар звязаў з заметкай у газеце, хоць добра ведаў, што ўсё адбылося трохі інакш...

Пад заметкай вялікімі чорнымі літарамі быў пастаўлены подпіс — Аркадзь Кветны. Дзе яго толькі знайсці, гэтага Аркадзя Кветнага?

Па дарозе Нічыпар заглянуў да Агнёва. Кватэра аказалася замкнутай. Бялявая дзяўчынка, якая гуляла на пляцоўцы з лялькай, сказала, што дзядулю завезлі ў бальніцу. Туды Нічыпар ісці не збіраўся. Невядома ці пусцяць яшчэ, ды і што яму там рабіць? Нічыпар сам ніколі не хварэў і глядзець на хворых не любіў.

Намацаўшы ў кішэнях грошы, ён успомніў, што яшчэ не абедаў.

На месцы колішняга шынка, але ўжо ў новым доме (стары разбамбілі фашысты), размяшчалася сталовая. Нічыпар накіраваўся туды. Узяў дзве бутэлькі піва, таранку, выбіў талоны, зайшоў у залу. Сталы былі заняты. Толькі ў дальнім кутку засталося два месцы. Нічыпар накіраваўся туды.

— Нічыпар Аўсеевіч, добры дзень, — пачуў ён знаёмы голас і страшэнна ўзрадаваўся, пазнаўшы Кветнага.



— А я вас шукаў, — Нічыпар стаяў перад Кветным з бутэлькамі піва і талеркай у руках.

— Сядайце, — пасунуўся Кветны. — Крэсла я зараз прынясу.

Прынёсшы крэсла, ён запытаўся:

— Навошта вы мяне шукалі?

— Справа во якая. Знаёмы мой захварэў. Нават у бальніцу паклалі, а ўсё з-за таго, што не можа знайсці ўнука. Уся сям'я ў яго загінула, адзін унук застаўся, і таго ніяк не можа адшукаць. Дык можа вы праз газету гукнеце яго?

— Збег унук, ці што?

— Не, не тое, што збег. Прапаў у вайну. Шкада чалавека — вельмі пакутуе. Ён бы вам складней расказаў, а я не ўмею так. Чалавек ён заслужаны, можа і ведаеце яго, Агнёў Рыгор Яўхімавіч.

— Агнёў... Агнёў... Ён дзе працуе?

— На пенсіі ён. Некалі вялікім чалавекам быў. З царом ваяваў, рэвалюцыю рабіў.

Кветны кінуў есці. Цяпер ён зноў зрабіўся такі ж рухавы, як і тады, калі прыходзіў на млын.

— У якой ён бальніцы? Не ведаеце? Шкада. Зараз я высветлю. Вера, — паклікаў ён афіцыянтку, — дзе ў вас тэлефон?

Пакінуўшы Нічыпара аднаго, Кветны пабег у дырэктарскі кабінет. Неўзабаве ён паявіўся ля стала.

— Агнёў ляжыць у абласной бальніцы. Яму крыху лепш. Вы таксама пойдзеце са мной? Добра. Неяк няёмка турбаваць незнаёмага чалавека.

Праз гадзіну яны стаялі ў пасторным вестыбюлі бальніцы. Малады, высокі ўрач, паглядзеўшы пасведчанне Кветнага, папрасіў:

— Толькі, таварышы, доўга не затрымлівайцеся. У яго ўжо былі госці, і ён замарыўся. Не больш, як пятнаццаць хвілін. Добра?

Кветны паабяцаў не бавіцца. Ім выдалі чысцюткія белыя халаты. Кветны адразу ператварыўся ў запраўскага доктара — не хапала толькі каўпака на галаве. Нічыпар жа хутчэй падобны быў да кухара з рыжаватай барадой.

Па шырокай лесвіцы яны падняліся на трэці паверх. Доўгі калідор, перагароджаны шклянымі дзвярыма, знікаў удалечыні за двума высокімі пальмамі. Па дывановай дарожцы хадзілі хворыя. Маладзенькая сястра прабегла са шпрыцам у руцэ, абдаўшы Кветнага і Нічыпара масляністым пахам камфары.

Нічыпар грукаў ботамі. Грукат не стасаваўся з сумотнай цішынёй бальніцы, як і наогул паяўленне тут каржакаватага, моцнага, поўнага здароўя Нічыпара. Ён адчуваў сябе няёмка. Хутчэй бы знайсці Рыгора.

Раптам ён убачыў яго ля акна. Агнёў сядзеў у мяккім крэсле, згорблены і засяроджаны. «Гэта ж ён думае пра ўнука. Згорбіўся як...» — падумаў Нічыпар. І як ніколі, адчуў жаласць да гэтага старога адзінокага чалавека і радасць за сваё без клопатаў пражытае жыццё.

— Вунь сядзіць Агнёў, — шапнуў ён Кветнаму.

Агнёў не заўважыў іх нават тады, калі яны спыніліся перад ім. Нічыпар угледзеў на яго каленях сшытак, а ў руках самапіску. Гэта здзівіла яго. Хворы, а яшчэ нешта піша. Мабыць зноў просьбу памагчы адшукаць яго ўнука.

Нарэшце Агнёў убачыў мельніка, але не здзівіўся, як уяўляў Нічыпар. Ён толькі выпрастаў плечы.

— Здароў, прафесар мучной вытворчасці. Ці не юшкай ты задумаў пачаставаць мяне? Тут, браце, такой раскошы не бывае.

Нічыпар пацiснуў руку, але не ведаў, як далей трымаць сябе. Тупаў

на месцы, заклаўшы рукі за спіну. Выручыў Кветны. Ён адчуваў сябе, як дома. Прысеў на крэсла, выцягнуў партсігар, але, мабыць успомніўшы, што тут не рэдакцыя, а бальніца, зноў схаваў яго.

— Мне Нічыпар Аўсеевіч расказваў пра вашы турботы. Можа я памагу вам?

Агнёў нецярпліва павярнуўся да Кветнага.

— Вы што-небудзь ведаеце?

— Не, але газета можа памагчы... Раскажыце пра ўсё падрабязна...

Агнёў памаўчаў, быццам не ведаў, з чаго пачаць.

— Было гэта вось як. Бацькі адправілі яго да бабулі, матчынай маці. І паслалі на самую граніцу, дзіця яны адразу ўзяць не маглі. А тут вайна. Так і застаўся Андрэйка ў вёсцы. Пасля вайны прыехаў я туды, а там ні кала, ні двара. Жыхароў фашысты расстралялі, а вёску спалілі. Андрэйка прапаў. Людзі суседніх вёсак казалі, што ён уцёк. Сэрца чуе — жывы ён, — а знайсці не магу.

— А дзе жыла яго бабулька? — запытаўся Кветны.

Адзін даўні ўспамін устрывожыў Аркадзя Кветнага. У іх атрадзе быў некалі Андрэйка. Здаецца, ён нават казаў, што ўцёк з-пад расстрэлу.

— Была на Віцебшчыне такая вёска Рассекі.

Кветны насцярожыўся. Які з выгляду быў хлапчук? Здаецца, чарнявы. Агнёў пацвердзіў, што сапраўды хлопчык быў чарнявы.

— У якім годзе немцы спалілі вёску? — запытаўся Кветны.

— У сорак першым...

Хлапчук паявіўся ў атрадзе вясной сорак другога года.

Настала тая цяжкая хвіліна, калі страчаны апошнія надзеі і не знаходзіцца слоў, каб прадаўжаць размову. І вось тады Кветны ўспомніў, як аднойчы хлапчук расказваў партызанам: «...А дзед, як шугане ў раку. Пакуль вартавыя ачухаліся, плынь аднесла яго далёка. Стралялі яны, стралялі, ды дзед усё роўна ўцёк...»

— Вы, Рыгор Яўхімавіч, ніколі не ўцякалі з-пад варты? — запытаўся ён у Агнёва.

— Даводзілася...

— Уплаў праз раку?..

— І такое было.

— Тады хлапчук, што быў у нашым атрадзе — ваш унук.

Нічыпар бачыў, як Агнёў наструніўся, падаўся наперад.

— Дзе ж ён цяпер? — стрымліваючы хваляванне, запытаўся Агнёў.

Кветны пачаў здалёк.

— Ваяваў ён у нас не доўга, месяцы два. А пасля прапаў. Бралі мы станцыю Красыні. Андрэйка першы пранік на яе, а мы не змаглі. Ён падпаліў склад, а тут падаспеў бронецягнік на станцыю і мы адступілі. Андрэйка так і не вярнуўся.

Нічыпару здалося, што непасільны цяжар узваліўся на плечы старога.

— Хлопчык мой, — ледзь чутна прашаптаў ён.

— Ды вы не хвалюйцеся, ён жывы, — бадзёра выгукнуў Кветны. — Паслухайце, што было далей. У нашым атрадзе ваяваў француз-перабежчык. Увосень сорак другога года яго адклікалі за лінію фронта. І вось нядаўна я сустрэў яго ў Маскве, калі ездзіў на выстаўку. Магчыма я і не пазнаў бы яго сярод паўсотні іншаземных турыстаў, але ён сам закрануў мяне. Згадзіцеся, у нас было што ўспомніць. Мы так загаварыліся, што не заўважылі, як турыстам падалі аўтобус. І вось тады на развітанне ён сказаў мне: «Памятаеце, месье Кветны, таго хлапчука Андрэйку, што ваяваў у нашым атрадзе. Мы сустракаліся з ім пасля вайны. Ён быў макі — французскі партызан. Гераічны хлопчык, я вам скажу!..» Чуеце, Рыгор Яўхімавіч, — пасля вайны сустракаў. Значыць, ваш унук жывы.

Агнёў маўчаў. Дзіўна, але навіна не ўзрадавала яго. Густыя бровы яшчэ больш натапырыліся, вусны моцна сціснуліся, а вочы патухлі.

— Дзе ж ён тады? — запытаўся Агнёў. Голас яго быў глухі і нейкі бездапаможна кволы.

— Ён мог паехаць у другі горад.

— Не, яго пацягнула б у вёску. Тут нешта другое...

— Хочаце, я напішу таму французу ліст? Ён пакінуў мне свой адрас.

Агнёў моўчкі кіўнуў галавой і цяжка задумаўся.

— А што, калі ён не вытрымаў? — неяк залішне ціха запытаўся ён.

— Можа лепш не пісаць? — заўважыў Кветны.

Агнёў з дакорам паглядзеў на яго.

— Чалавек не страус. Яму няма чаго хаваць галаву пад крыло. Пішыце, абавязкова пішыце. Цяжкія выпрабаванні для моцных плячэй не смяртэльны груз. Не такое людзі на сваіх плячах вынеслі... і выносяць яшчэ, там... — ён махнуў рукой на акно, за якім заходзіла сонца. — Пра іх вось думаў перад тым, як вы прыйшлі.

Кветны зразумеў, што Агнёва трэба пакінуць са сваімі думкамі і пачуццямі. Ён пачаў развітвацца.

— Дык не забывайцеся на старога, — наказваў на развітанне Агнёў.

Ужо ў дзвярах Нічыпар азірнуўся. Агнёў сядзеў прыгнуўшыся. Здавалася, цяжар усяго свету ляжаў на яго плячах. І можа ўпершыню Нічыпар падумаў пра сваю дачку Ларысу. Дзе яна? Зрабілася сорамна і крыўдна.

## Раздзел трэці

### *Дзень чацвёрты*

Для багатага і вялікая радасць — будні дзень, бедняку нават маленькая — свята. Такім святам быў для мяне прыезд Аўгінкі.

Мы вячэралі, калі вярнуўся ад жончынай радні гаспадар. Гаспадыня замітусілася па хаце. Я выбег на двор, каб памагчы Тарасу Тарасавічу распрэгчы каня. Можа я так і не спяшаўся б, але разбірала цікаўнасць пабачыць новую парабчанку.

Тарас Тарасавіч рассупоньваў хамут. Ля саней, захутаная ў вялізную хустку, стаяла дзяўчына.

— Вось і памочніца табе, — сказаў мне гаспадар. — Вядзі яе ў хату. Каня я сам распрагу.

Гэта было беленькае стварэнне з кароценькай тоўстай касой і пульхнымі, чырвонымі ад марозу шчокамі. На дзяўчынцы — сіні ў чырвоныя палосы андарак і шырокая кофта. На нагах ліпавыя лапцікі. Мабыць таму дзяўчынка выдавала старэй за свае гады.

Гаспадыня абняла яе, прытуліла да сябе.

— Як жа маці жыве? А браток, сёстры? Кацярынка, мабыць, ужо вялікая? — пыталася гаспадыня ў дзяўчынкі, цалуючы яе ў шчокі, лоб, у белыя, як кудзеля, валасы.

Я стаяў у парозе і думаў, што палёгкі мне не будзе.

Здагадкі мае не апраўдаліся. Дзяўчынка аказалася працавітай.

На досвітку нас будзіў гаспадар; спачатку мяне, а потым ужо Аўгінку. У хаце панавалі ружовыя прыцемкі ад лампады, што запаліў гаспадар перад абразамі.

Запаленая лампада — двайная выгада: не трэба пераводзіць газу і богу слава. Ад кволага агеньчыка на столі ружовыя кругі. Аброслае інеем акно таксама ружовае. Холадна. Вада ў цэбры пакрылася тоненькім ільдом. Курчачыся ад холаду, мы абуваем лапці, апранаем суконныя світкі, кладзем у кішэні па лусце хлеба, пасыпанага соллю, і выходзім у сенцы. Мароз апякае шчокі, казыча ў носе. Хатняе ўтульнае цяпло хаваецца пад кашулю, ля грудзей. Холад паўзе ад ног, падбіраецца да спіны.

Мы бярэм цэпы, ускідваем іх на плечы. Сон паволі пакідае нас. Ранішні сухі вецер займае дыханне.

Над галавой зорнае неба. Пад нагамі белы рыпучы снег. Недзе на другім баку вёскі крычыць певень. Яму адгукаецца наш, гарласты з адмарожаным грэбенем.

Ток стаіць на водшыбе, непадалёк ад могілак. Мы бяжым трушком: наперадзе я, за мной Аўгінка. Ля дзвярэй спыняемся. У ток заходзіць боязна. У ёўні водзяцца чэрці. Часам яны прыводзяць з могілак грэшныя душы і ездзяць на іх па такоўні, па застаронках. Што, калі чэрці не пачулі пеўняў? Тады мы трапім на іх кірмаш. А гэта дабром не канчаецца. Тарас Тарасавіч на свае вочы бачыў, як малыя чарцяняты аднаго разу каталіся на Давыдку Глячонку. Было іх штук дваццаць, і ўсе з пугамі-дратаванкамі. Яны секлі беднага Давыдку ды яшчэ прыгаворвалі:

— Гэта табе за п'янства і пазыкі, што не аддаў Тарасу Тарасавічу.

Гаспадар тады заказаў абедню папу, каб чарцяняты больш не надакучалі нябожчыку, які пры жыцці так і не здолеў разлічыцца з Тарасам Тарасавічам.

Мы ўслухоўваемся ў начную цішыню. Чакаем, ці не закрычыць яшчэ певень. Вёска спіць — нідзе ні агеньчыка. Ад холаду пакрэктвае старая бяроза, што стаіць побач з токам. Парыпвае снег, калі мы пераменьваемся з нагі на нагу. Нешта падазрона пашаствае за сцяной. Можа мышы, а можа і чэрці. З неба ўпала знічка.

— Нехта памёр, — шэпча Аўгінка. — Анёлы душу панеслі.

Хоць бы закрычаў певень. Ногі мерзнуць. Коле ў шчокі. Нарэшце з вёскі далятае кволы голас пеўня-сёлеткі, хрыпасты і высокі, як у паддубскага псаломшчыка.

— Адчыняй ужо, не бойся, — зноў шэпча Аўгінка, а сама хаваецца за маю спіну.

— Ды я і не баюся. Першыя пеўні ўжо адспявалі.

На ўсялякі выпадак мы хрысцімся, нялоўка прыкладаючы адубелыя пальцы да ілба і грудзей. Асцярожна пераступаем парог. Спыняемся. У таку цёмна, хоць выкалі вока. Пахне саломай і мышамі. Нехта шастае ў застаронку.

— То пацукі, — падсмельвае мяне Аўгінка.

Страх халодзіць сэрца, і яно калоціцца часта і неспакойна. Я стараюся падбадзёрыць сябе. Успамінаю пра парабка Лявона. Ён часцяком заставаўся начаваць у ёўні. Аднае раніцы, вярнуўшыся з начлега, ён яшчэ ад парога крыкнуў гаспадыні:

— Прыймай, цётачка, чарцяня, у гаспадарцы прыгадзіцца. Злавіў сёння ўначы, калі яго браты збіраліся на Давыдку ездзіць.

Лявон прыгнуўся, адпусціў паліну, і на падлогу скаціўся калючы клубок.





— Гэта ж вожык, — засмяяўся я.
— А ты думаў, чарцянё? Ого, каб яно мне трапіла ў рукі. Дык я ўжо знайшоў бы яму работу. Мабыць таму яны і баяцца мяне.
Неяк Лявон паспрачаўся з мужчынамі на чвэрць гарэлкі, што сходзіць на могілкі і прынясе абразок з войтавага крыжа. Мужчыны ссыпалі ў шапку медзякі і аддалі іх мне. Лявон апрануў гаспадароў кажух, блізнуў белымі зубамі:
— Плакалі вашыя грошы, мужчынкі.
У хаце настала жудасная цішыня. Усе да нечага прыслухоўваліся. Толькі шыпеў кнот у лямпе ды пад печчу рохкаў недалуга-парсючок. Лявона доўга не было. Даўжэй, чым разлічвалі мужчыны. Тарасіха раптам загаласіла:
— А навошта ж вы яго па-а-слалі-і-і... Загінуў бедны без па-а-каяння-а-а...
Мужчыны сядзелі панурыя, а я трымаў шапку з медзякамі, і слёзы каціліся па твары. «Не такі ўжо ён быў дрэнны, гэты Лявон», — думаў я. Раптам бразнулі дзверы, і на парозе паказаўся Лявон, увесь у клубах пары.
— Давай сюды шапку, — сказаў ён мне. — Вось ваш абразок. Ледзьве адламаў. Заклёпаны, халера, моцна быў.
Лявон паклаў абразок на стол, пералічыў грошы.
— Хто ў карчму збегае? Гэта ж ужо не на могілкі... Частую ўсіх!
А калі крывы Адаська пабег па гарэлку, Лявон важна сказаў:
— Дурныя вы, могілкі самае бяспечнае месца. Ды і зямля там мёрзлая. З-пад яе ні адзін чорт не вылезе.
Успамін, аднак, не надаваў мне асаблівай бадзёрасці. Затое сорам перад Аўгінкай прымушаў ісці ў ёўню за газнічкай. Аўгінка стаяла ля дзвярэй і, я гэта добра ведаў, чакала, калі ж я, нарэшце, адважуся.
Аўгінка! Дзеля яе я мог зрабіць усё. Варта ёй толькі глянуць на мяне сваімі сінімі вачыма. Якое шчасце, што яна паявілася ў Тараса Тарасавіча. Без яе я, мабыць, даўно збег бы. А вось прыехала яна, і неяк пасвятлела ў хаце.
Я рашуча іду ў ёўню, запальваю газнічку. Чорныя цені, махнуўшы вялізнымі крыламі, знікаюць па застаронках. Жоўты агеньчык палахліва ўздрыгвае, хіліцца, потым выпростваецца; свеціць хоць не ярка, але ад яго робіцца ўтульна і неяк па-хатняму цёпла. І нас толькі двое з Аўгінкай, удваіх на ўсім свеце. Яна стаіць насупраць мяне з цэпам у руках, зграбная і надзвычай прыгожая. На ёй усё той жа сіні ў чырвоныя палосы андарак і шырокая кофта. На галаве хустка. З-пад яе выбіваюцца белыя, як кужаль, валасы.
— Пачнем, Рыгорка, а то нешта холадна.
Замест адказу я падымаю цэп і з усяе сілы апускаю біла на снапы. Бух-бух, бух-бух,— гупаюць цапы. Пырскае зерне, балюча сячэ па твары. Бух-бух, бух-бух,— глуха выгаворваюць цапы. Ах-ах, ах-ах,— адказваем мы, працуючы шчыра, у ахвоту. Нам падабаецца такая праца. Забываешся на свае гады. Здаецца, што ты намнога старэйшы, сам сабе гаспадар, і не кволая дзяўчынка насупраць цябе, а моцная, працавітая гаспадыня.
Весела ухкаюць цапы, шуміць салома, звініць зерне, а пад кашуляй збіраецца цяплынь. Не чуеш нават, як пачынаюць ныць рукі.
Першая капа нарэшце абмалочана. Мы ставім цапы, вытрасаем акалот, скідваем яго ў застаронак. Цяпер можна адпачыць. Не тут на холадзе, а ў ёўні: там цёпла, як у хаце на печы. Можна сесці на снапы, прыхінуцца спіной да цёплай печы. Толькі каб не нарваўся гаспадар.



Але мы ўжо навучыліся хітрыць. Выкідваем на ток паўкапы і ўсаджваемся ля печы. Дзверы ледзь-ледзь прыадчынены. З іх паддзімае холад, а тут ласкавая ўтульнасць. Пахне падпаленым зернем і саломай, бярозавым вуголлем і гарачай печчу.
Гаворым мы пра адно і тое ж. Успамінаем падслуханыя ў старэйшых паданні пра закапаныя скарбы, пра добрых каралевічаў і каралеўнаў, пра сквапных чараўніц, што ператвараюць чарапкі ў грошы, а грошы — у смецце. Грошы і багацце — гэта тое, чаго не стае нам і чаго мы хочам. Пра грошы гавораць усе: Тарас Тарасавіч і яго жонка, сяляне, стары карчмар Нохан, вясковы пастух Бубулька і паддубскі поп — айцец Кірыла. Пра што яшчэ гаварыць нам. У грошах і багацці мы бачым збаўленне ад цяжкай надакучлівай працы.
— Што б ты зрабіў, каб табе далі сто рублёў? — пытаецца Аўгінка, тулячыся да мяне.
Я адказваю, не задумваючыся:
— Купіў бы дзве валокі зямлі, лесу на хату, каня і дзве каровы. З адной каровы малака надта не наясіся.
— А калі б табе далі поўны ток грошай? — зноў пытае Аўгінка.
Мне цяжка ўявіць поўны ток золата. Гэтульі грошай, бадай, не мае і пан Залуцкі. Але я ўпэўнена адказваю:
— Тады я купіў бы аж дзесяць валок зямлі і коней аж дванаццаць. Ну і яшчэ палац бы пабудаваў.
У думках я ўяўляю палац крыху большы за гаспадарову хату. А ў яго пасяляю Аўгінку. Ёй бы я купіў чаравікі, такія, як ў Ноханавай Цылі, і турэцкую хустку.
Больш я нічога не магу прыдумаць. Вядома, каб на застаронку ляжалі не чужыя снапы, а маё золата, дык я даў бы яму рады. Распараджацца ж тым, чаго няма, я не ўмею.
— А я грошы аддала б бедным,— летуценна кажа Аўгінка.— Мне яны не патрэбны. Я ў манастыр пайду, вось толькі падрасту крыху. Там добра. Грамаце вучаць. Дужа хочацца ведаць, што на свеце робіцца. Як ты думаеш, свет вялікі?
Для мяне свет — гэта мая вёска, дзе я нарадзіўся, вёска, дзе жыву цяпер, ды Паддуб'е, куды мяне водзяць да прычасця, і горад за лесам, дзе я ніколі не быў, але пра які чуў. Таму я маўчу.
— Свет, кажуць, вялікі, толькі я не веру людзям,— прадаўжае Аўгінка.— За нашай вёскай ёсць высокая гара. Дык вось, узабраўшыся на яе, можна ўбачыць канец свету. Роўнядзь такая, а на яе неба апускаецца. Вось бы падысці да неба і хоць адным вокам зазірнуць, што там робіцца?.. Мусіць, анёлы лётаюць, песенькі спяваюць. А можа і самога бога ўбачыла б. Падышла б да яго і запыталася: навошта ты, божа, з маёй мамкі здзекуешся. Бацька яе б'е, а ты яшчэ хваробу насылаў.
— Маю маці таксама бацька біў. Толькі яна ўжо адпакутавала.
Мы сядзім, прытуліўшыся адзін да аднаго, і няма для мяне лепшага чалавека, як Аўгінка. Хораша, што ёсць на свеце такія людзі, як яна: шчырая, задуменная, прывабная, ласкавая. У думках я залятаю далёка-далёка. Уяўляю сябе дарослым. Мая жонка — Аўгінка. І мае вусны ціха шэпчуць словы клятвы: «Ніколі я цябе пальцам не крану. Вось пабачыш. Тады няхай лепш у мяне рука адсохне».
А да світання яшчэ далёка. Марудна паварочваецца галава Вялікай Мядзведзіцы, прывязанай за хвост да яркай зоркі, што заўсёды стаіць на адным месцы. І зноў бухаюць цапы, пырскае зерне...
Надакучліва паўзуць кароткія марозныя дні, вобмігам пралятаюць доўгія зімнія ночы. Мы з Аўгінкай — гаспадары. Тарас Тарасавіч ездзіць

па свеце на лёгкіх санках. Тарасіха ўсё часцей хварэе. Мы — гаспадары. А ўсё тое, што робім, хаваецца ў цяжкіх каваных скрынях Тараса Тарасавіча. Чаго толькі там няма ў гэтых скрынях!

## *Дзень пяты*

Часам гаспадыні бывае лепш. Тады яна злазіць з печы, адкрывае каваныя скрыні, выцягвае адтуль свае ўборы, пасцілкі, коўдры, ручнікі, абрусы. Аўгінка ўзбівае пярыны на двух высокіх кляновых ложках. Тарасіха засцілае ложкі прыгожымі пасцілкамі, вешае на абразы вышываныя ручнікі, накрывае стол абрусам з чырвонымі пеўнікамі па краях. Сама надзявае доўгі зялёны андарак і такую ж аксамітную з высокім каўнерыкам жакетку, расшытую на грудзях серабрыстымі блёсткамі. Тарасіха спакваля праходжваецца па хаце, здаецца, плыве чараўніца-лебедзь, пра якую гаворыцца ў казцы.

Галава горда прыўзнята, чорныя валасы расчэсаны на прамы прабор, тоўстая каса звісае да пояса. Толькі твар занадта белы і вочы ліхаманкава паблісківаюць: чорныя, праніклівыя вочы.

Гэта наша свята. Мы бясконца рады яму, прыгожа засланым ложкам, бялюткім ручнікам і адмысловым уборам гаспадыні. Мы не заўважаем нават сваіх жабрачых світак і растаптаных лапцей.

— Цётачка, якая ж ты прыгожая, — Аўгінка прыціскае рукі да грудзей.

— Была некалі прыгожай. Апрача прыгажосці больш нічога і не мела. Тарас Тарасавіч мог бы і багацейшую ўзяць. А вось я яму дасталася,— у яе голасе чуваць ноткі гордасці і невыразнага смутку.

Чаго ёй смуткаваць? Спрадвечная бядначка стала першай на вёсцы багацейкай. У каго яшчэ ёсць столькі вопраткі, грошай, золата? Абыдзі сем вёсак, багацей за Тарасіху не знойдзеш. Гэта здзіўляе мяне. Я думаю, што чалавек, мабыць, заўсёды будзе чымсьці нездаволены. Эх, дасталося б такое багацце мне! Я ўжо не тужыў бы!

Тарасіха надзявае новы андарак: чырвоны з чорнымі разводамі і белую вышываную кофту. Пераплятае чорную касу белымі пацеркамі. На шыю вешае залаты ланцужок з маленькім гадзіннікам. З-пад андарака выглядаюць востранькія насы шаўровых чаравічкаў. І зноў яна праплывае ля нас, як недаступная каралеўна з казкі пра Івана-дурачка. Але самае цікавае наперадзе. Аднекуль з самага нізу Тарасіха выцягвае белае плацце з прыколатымі да яго чырвонымі ружамі. Плацце крыху шыракаватае, відаць, гаспадыня некалі была таўсцейшая. Але яно так стасуе да яе чорных валасоў. На галаву яна надзявае вянок з васковых кветак, да якога прычэплены блакітнаваты вэлюм. Тарасіха стаіць тварам да абразоў, перад якімі гарыць лампада. Я добра бачу яе твар, строгі і задуменны. Пра што яна думае цяпер? Відаць, пра тое, як вянчалася ў царкве. Раптам твар гаспадыні перасмыкаецца, вочы гараць чырванаватымі агеньчыкамі. Перасмяглыя вусны нешта шэпчуць. Тарасіха зрывае з галавы вянок і празрысты вэлюм, кідае іх на лаўку, а сама падае на высока ўзбітую пасцель. Пад белым шаўковым плаццем уздрыгваюць худыя плечы гаспадыні. Здаецца, ляжыць на пасцелі вялікая няўклюдная птушка, падстрэленая паляўнічым, і б'ецца ў перадсмяротных сутаргах. Мы сядзім скамянелыя ад неспадзяванасці і маўчым. Жудасна. І дзіўна. Чаго плача Тарасіха?

Аўгінка на дыбачках ідзе да пасцелі.

— Цётачка,— просіць яна,— чаго ты, цётачка?



Тарасіха паволі прыпадымаецца, яе твар сухі і жорсткі, як высушаны сонцам ліст. Здаецца, на ім прыбавілася маршчын.

Я не разумею, як можна плакаць без слёз. А можа Тарасіха і не плакала? Тады чаму ўздрыгвалі яе плечы? І што, наогул, усё гэта азначае?

— Знімайце ўвесь гэты тлен,— кажа яна. Голас гаспадыні рэзкі, але нейкі расслаблены.

Яна першая зрывае з ложка пасцілку і белую палатняную прасціну, абшытую карункамі.

Мне здаецца, што пасцілку яна таксама шпурляе на лаўку, дзе ляжыць пакамечаны вэлюм. Тарасіха трымае яе ў руцэ, але яна не кідае яе, а пачынае складваць напалам, потым яшчэ і яшчэ раз напалам і акуратна кладзе на пярыну.

Абрусы, ручнікі, пасцілкі, квяцістыя андаракі, кофты, жакеты — усё хаваецца ў чорнай вялізнай скрыні. Хата зноў выдае беднай і няўтульнай. Вялікая хата з лаўкамі ля сцен, вялізным сталом на куце і прысадзістай печчу ля парога. Нудна, моташна....

— Паслухайце, якую мне казку расказвала бабуля,—нечакана гаворыць гаспадыня.

Яна садзіцца на нізенькі ўслончык, а мы на лаўку. Гаспадыня пачынае апавядаць:

«У нейкім царстве, у нейкім гасударстве, не далёка, не блізка, ля маленькай рэчкі стаяла хатка. А жыла ў той хатцы бабуля з унучкай. Бабуля прала кудзелю, а ўнучка ткала палотны. І такая яна была рукадзельніца, што слава пра яе дайшла да цара заморскага, дзе снягі глыбокія, а завеі лютыя. Дайшла да яго слава, дакацілася, у акно палаца пастукалася. Ціха пастукалася, але стала таму цару сумна жыць. Ні палацы крыштальныя, ні азёры сінія, ні слугі верныя, ні золата яснае — нішто не магло ўцешыць цара. Заядае сум, так што месца не знаходзіць цар ні ў палацах крыштальных, ні ў лесе дрымучым, ні на возеры сінім.

Кліча тады цар сваю матухну. А маці ў яго — ведзьма лютая, на ўсё замор'е чараўніца славутая. Загрымелі грымоты грымучыя, бліснулі маланкі сінія — падкаціла карэта залачоная. Бяжыць цар, спатыкаецца, падае на калені перад матухнай. А яна стаіць, на кій абаперлася і ўсміхаецца.

— Нашто клікаў мяне? — пытаецца ў цара.

— Прачуў я, матухна, пра дзявіцу-рукадзельніцу, а ад каго прачуў, не ведаю. Зажурыўся толькі моцна я: ні ўдзень, ні ўночы адхлання няма. Пра яе думаю.

— Чула і я пра яе,— кажа маці цару.— Тчэ яна палотны бялей снегу нашага, а пасцілкі ў яе, як зялёны луг у красачках. Вышывае яна ўзоры дзіўныя: васількі, як жывыя, да сонца цягнуцца, ружы-кветачкі нізам сцелюцца, а над імі званочкі пазваньваюць. Робіць яна карункі тонкія, ды такія замысловатыя, што паглядзіш на іх — свет родны цесны робіцца. Ды і з твару яна не брыдкая. Вочы чорныя, бровы доўгія, вусны пунсовыя, а краса-каса аж да самых пят. Усім узяла дзеўка-рукадзельніца, ды адна бяда: мужыкова дачка. Не выходзіць табе, цару грознаму, браць мужыцкую дачку, на трон садзіць. Я табе знайшла дзеўку добрую, караля агліцкага дачку меншую. І пасаг за ёй паўзямлі дадуць. Каралеўская дачка — не мужыцкая. Возьме гуселькі адмысловыя, і — бывай журба твая царская. Ёсць у яе загана адна, ды не нам, царам, на яе глядзець. Худаватая караля дачка, даўганосая, жаўтавокая, бровы тонкія, а рот да вушэй. З твару брыдкая, але стройная, а галоўнае, што багатая. Сабірай сватоў, апранай хутчэй залаты камзол. Караблі на рацэ зачакаліся. Не адкладвай, пасляшайся хутчэй. Ледзь запознішся —

праваронiш каралеўну агліцкую. З-за далёкiх гор, з-за сямi мораў едзе сватацца басурманскi сын. Не адкладвай, сын, сватоў, не упускай казны, што сама ў рукi просіцца. А не высватаеш яе — праклляну цябе: зраблю курыцай, што грабе пад сябе смецце рознае, а навошта грабе — не ведае.

Задумаўся цар, апусціў галаву. Прыгожая рукадзельніца, а яшчэ лепш казна каралеўская. Стукнуў у далоні цар — збегліся слугi верныя. Прынясліi камзол, шыты золатам, футру новую сабаліную. Хоць цяплынь на дварах — няхай ведаюць: не абы-хто едзе сватацца.

Цi доўга, цi коратка: скора казка кажацца, ды не скора дзела робіцца. Толькi прыехаў цар да агліцкага караля. А там народу назбiралася! Зляцелiся на каралеўскi двор жанiхi, як груганы на пiр. Кожнаму хочацца паўкаралеўства ўзяць за дачкой караля. Сунуўся цар, ды куды яму. Багацей за яго жанiхi прыехалi. Iм i пашана вялiкая. Пахадзiў цар, ды i назад паплыў. Сядзiць на караблi i думае: «Усё роўна праклляне матухна,ператворыць у курыцу, што грабе пад сябе смецце рознае, а навошта грабе — не ведае. Дык лепш ужо ўзяць за жонку рукадзельніцу. Хоць i роду яна не славутага, дык затое паслухмяная. Што скажу — усё зробiць яна. Рада будзе, што пасватаўся».

Павярнуў караблi цар у рэчку меншую, а адтуль у прытоку яе, а пасля ў раку ля якой жыла рукадзельніца. Якар кiнулi, навакол глядзяць: пад бярозай хатка старая пахiлiлася, а на ёй буслы стаяць, шыi выцягнуўшы. Перад хаткай луг. На iм кветкi цвiтуць, пчолы лётаюць. А далей за iм бор стары шумiць. Прыгледзелiся лепш — дзеўку ўбачылi. Па лугу яна iшла, задуменная, прыгiналася да зямлi, кветкi нюхала. Захацела яна выткаць пасцiлку, каб на ёй луг увесь ляжаў, усе кветачкi.

Цар на бераг сышоў, па траве бяжыць, спатыкаецца. Не цярпiцца яму разглядзець рукадзельніцу. Падышоў, паглядзеў i не вытрымаў:

— Ты i ёсць рукадзельніца? Не такая ўжо ты i прыгожая, на служанку маю падобная. А я думаў, ты сама краса, ясна сонейка. Абнялюбеў свет сваёй выдумкай — брэшуць скрозь без сораму. Можа i тое хлусня; што ўмееш ты ткаць? Пакажы мне сваё рукадзелле.

Паглядзеў цар палатно белае, карункi тонкiя, ручнiкi вышываныя: загарэлiся ў яго вочы хцiвыя.

— Прадай мне рукадзелле сваё,— просiць цар рукадзельніцу.— Жменю золата падару табе.

Адказала яму рукадзельніца:

— Рукам маiм — цаны няма. Усё, што iмi зроблена, аднаму застанецца: майму суджанаму.

— Я — твой суджаны,—крыкнуў грозна цар.—Вунь карабель стаiць. Бяры кросенцы свае, самапрадачку i паедзем хутчэй у палацы мае. Будзеш працi i ткаць для палацаў маiх, каб праславiлiся на ўсю зямлю. Даляцiць некалi слава гэтая да агліцкай зямлi, спамяне тады агліцкi кароль мой прыезд да яго i спахопiцца. Спахопiцца i раскаецца, што не даў дачку ў жонкi мне.

— Не,— сказала яму рукадзельніца,— шукай сабе жонку ў другiм краi. Не хачу я нялюбай быць.

Так i паехаў цар, дулi смажанай адведаўшы. А ў вачах рукадзелле стаiць i сама рукадзельніца.

Паклiкаў цар чарадзея прыдворнага. «Так i так, хачу ў жонкi ўзяць рукадзельніцу. Паможаш мне — абсыплю золатам, не паможаш — галава далоў. Выбiрай, што найлепш табе».

— Будзе зроблена,— сказаў той чарадзей.— Гатуй золата, цар, i карабель мне.

Рана ранiцай на росны луг выйшла кветкi рваць рукадзельніца. Бачыць, зноў ля берага карабель стаiць. Падзiвiлася: людзей не вiдаць, а iграе хтось. Падышла блiжэй: бачыць сходачкi. Узышла па iх на палубу. Нiкога няма. Толькi кросны стаяць. Залатыя i сярэбраныя нiцi ў нiты закiданы, у бёрды прапушчаны. Чаўначок ляжыць перламутравы, панажы бярозавыя ў рад выстраiлiся, а якi ўзор атрымаецца, пра тое адразу i не здагадаешся. Не сцярпела дзеўка-рукадзельніца. Прысела на лаўку шырокую, узяла чаўначок перламутравы, наступiла на панажы бярозавыя, стукнула бёрдам лёгенькiм i пачала ткаць палатно прыгажосцi нябачанай. Ды так захапiлася, што i не ўбачыла, як зняўся карабель з якара i павёз дзяўчыну да цара заморскага. Загубiлi дзеўку нiткi залатыя i сярэбраныя, зачынiў яе цар у палацах крыштальных, пасадзiў за кросны дубовыя i прымусiў ткаць палотны адмысловыя. Толькi не магла яна ўжо ткаць тыя ўзоры дзявочыя. Сохла ды марнела, а цар, усё, што яна ткала, заграбаў у сундукi кованыя, ела iх там моль зубатая, секлi мышы рудыя, рабiлi гнёзды для сваiх дзяцей.

I чым больш праседжвала за кроснамi рукадзельніца, тым больш расла ў цара прагнасць. Хацелася яму захапiць увесь свет, схаваць яго ў сундукi кованыя. Не бачыў ён, як сохне яго жонка-рукадзельніца, як па полi родным маркоцiцца...»

Тарасiха змоўкла, паглядзела на нас скрушлiвым доўгiм позiркам.

— А што далей было? — запыталася Аўгiнка.

— Што далей было? Пайшлi шукаць рукадзельніцу тры малайцы. Знайшлi яе, адбiлi ў цара заморскага. Таго, што кахаў яе найбольш за другiх, прысмалiлi валасамi да сасны, ды i самi паспрачалiся. А як настала лета, растала смала на сасне, вызвалiўся каханак яе, прыляцеў дамоў i жанiўся на рукадзельнiцы. Толькi так у казках бывае. А жыццё тузае людзей, як захоча. Пажывяцё на свеце, не тое яшчэ пабачыце.

Мы маўчалi. Я думаў пра рукадзельніцу. А перад вачыма стаяла Тарасiха ў белым плаццi, з вянком васковых кветак на галаве.

## *Дзень шосты*

Настала шостая вясна майго парабкоўства. Родная хата здавалася забытым кутам. Часам цягнула паглядзець на яе, але гаспадар заўсёды бурчэў:

— Што ты там забыў. На тым тыднi сходзiш.

На другiм тыднi паяўлялася нейкая тэрмiновая праца, на трэцiм — Тарас Тарасавiч ехаў у горад, а мне зноў не выпадала адлучыцца дадому. Працы заўсёды хапала, i ў буднi i ў святочны дзень. З кожным годам яе прыбаўлялася ўсё болей i болей. Тарас Тарасавiч быў падобны на таго заморскага цара, што грабе пад сябе ўсё, а навошта — не ведае.

Не раз даводзiлася бачыць мне, як ён чорнымi ад вечнага бруду рукамi перабiраў залатоўкi, складаў iх роўнымi слупкамi, i яны, як тыя салдаты, выстрайвалiся на стале. Потым ён загортваў залатоўкi ў анучкi i недзе хаваў. Частку ж адвозiў у банк, расплачваўся за купленую зямлю.

Пад старасць Тарас Тарасавiч зусiм здурэў ад скупасцi. Знайшоўшы пасля жнiва на полi колас, ён доўга бурчэў. Калi жалi чужыя людзi, стараўся ўтрымаць хоць капейку з iх заробку. Жонцы такi недагляд абыходзiўся танней — адзiн кухталь у каршэнь.

Да ўсяго, ён стаў надта набожны. Пасцiў сам, i нас прымушаў есцi параны з соллю боб i талакно. У сваёй жабрачай сям'i я i не здагадваўся, як многа посных дзён у гаду. Наймалiся да Тараса Тарасавiча не-

ахвотна, таму ён выціскаў з нас усё, што мог. Але і сам працаваў да сёмага поту.

На шостым годзе маёй службы гаспадар без усялякай на тое прычыны пачаў чапляцца да мяне. Асабліва тады, калі заставаў мяне побач з Аўгінкай.

— Разганю я вашу кумпанію, жаніхі смаркатыя.

Мне было сорамна за Аўгінку. Яна чырванела, а калі Тарас Тарасавіч знікаў, плакала. Я суцяшаў яе, як умеў.

— Не хадзі ты за мной, Рыгорка,— прасіла дзяўчынка, але па яе вачах я здагадваўся, што са мной ёй добра.

Часам за нас заступалася гаспадыня:

— Дружыць можна — гэта хараша,— казала яна, абдымаючы Аўгінку.— Без дружбы чалавеку жыць цяжка. А што хлапчукі дражняць вас — не бяда. Толькі вы не лайцеся з імі. Пабрэшуць — і перастануць. Агоркне ім.

Сапраўды, калі аднаго разу мяне апанавалі ўжо дарослыя хлопцы і пачалі кпіць з маіх заляцанняў, я набраўся храбрасці.

— Люблю яе, а далей што?

— А што з дзеўкамі робяць — ведаеш?

Я многае ведаў, пра многае здагадваўся.

— То ўжо не вашая справа,— храбра трымаўся я сваёй лініі.

На маё здзіўленне, хлопцы адчапіліся. Цяпер я ўжо ведаў, як трэба змагацца супраць кпінаў: не адпірацца, а прызнавацца.

Кожны год на вялізнай пустошы ля казённага лесу мужыкі спраўлялі Мікольшчыну. Сталыя мужчыны прыносілі з дому сала, курыныя яйкі і гарэлку, падшывальцы і недаросткі, якіх не бралі старэйшыя ў свой гурт, рабавалі качыныя і гусіныя гнёзды, а калі яек набіралася не шмат, у ход ішлі яйкі дзікіх галубак, галак і нават варон. У той дзень мы прачнуліся з Аўгінкай на досвітку. Тарас Тарасавіч яшчэ спаў. Гаспадыня прыўзняла галаву, запыталася:

— Куды вы так рана?

— Па яйкі пойдзем. Рыгорка на начлег паедзе.

— Узяў бы хай курыных. З паўдзесятка вымеркую, — ціха, каб не пачуў гаспадар, сказала гаспадыня.

— Не, мы ўжо лепей сходзім, — не згадзіўся я.

— Яно можа і цікавей. Каб не хварэла, дык і я з вамі схадзіла б. Бывала, бацьку свайго вось гэтак жа выпраўляла на Мікольшчыну...

Дзень яшчэ не нараджаўся. Шызая перадсвітальная смуга разліта ў паветры. Далёка-далёка чарнее лес. Мы выбіраемся на дарогу. Халодны пясок пячэ падэшвы ног. Над галавой фіялетавае неба, а ў ім рэдкія зоркі. Аўгінка ідзе па адным баку дарогі, я па другім.

— Куды мы пойдзем? — пытаецца яна.

— На канаву, — кажу я, дробна ляскаючы зубамі.

У кустах заліваюцца салаўі. Яны яшчэ не клаліся спаць. Нізка над галовамі пралятае варона, ляніва махае крыламі. Відаць, не задаволена, што давялося так рана ўставаць. Недзе над пустошай крычыць бакас: бэкае, як ягня. Кнігаўкі яшчэ не прачыналіся.

— Давай naперагонкі, — кажа Аўгінка і, бліснуўшы вачыма, зрываецца з месца. Доўгую спадніцу яна трымае за падол. Я бягу следам, ужо нічога не заўважаючы, апрача Аўгінкі. Бачу, як мільгаюць яе белыя ногі, як матляецца па спіне каса.

— Даганю, уцякай, — кажу я ёй.

Але дагнаць Аўгінку не так проста. У маіх руках кошык. Ён замінае, а Аўгінка бяжыць лёгка, не азіраючыся назад. У вушах свісча вецер.





Становіцца горача. Бегчы лёгка і вельмі прыемна. Набліжаецца чорнае балота. Дарога крута віхляе ўбок, а Аўгінка бяжыць прама, па сухой без расы траве. Я заўважаю, што адлегласць між намі скарачаецца і напружваю апошнія сілы. Аўгінка азіраецца, і я лаўлю яе ўсмешку, задзірлівую і светлую. Варта мне працягнуць руку, і я злаўлю Аўгінку. Але ж у руцэ кошык. Я кідаю яго наперад, і ён, смешна куляючыся, першым абганяе Аўгінку. Яна спыняецца, і я налятаю на яе, хапаю за плечы і неяк нечакана прыціскаю да сябе. Палохаюся сваёй смеласці, але з рук не выпускаю. Чаму мне няёмка? Не адзін раз мы сядзелі побач, прытуліўшыся адно да аднаго, не адзін раз грэліся разам на печы. Але ж ніколі не было такога пачуцця няёмкасці.

— Замарылася зусім,— кажа Аўгінка,— чуеш, як тахкае сэрца. Ледзь не выскача!

Яна бярэ маю руку, кладзе на грудзі. Я адчуваю ўтульнае цяпло і пругкую няроўнасць грудзей. Аўгінка рэзка адштурхоўвае маю руку, ірвануўшыся, ідзе да балота. Чаго яна? Можа і ёй гэтак жа нялоўка і чамусьці сорамна, як і мне? А можа яна раззлавалася?

Я падымаю кошык і іду ззаду, думаючы над тым, што здарылася. Няўжо і дарослым бывае няёмка і сорамна? Даганяю яе, іду поплеч. Навошта мне было хапаць яе за плечы? Навошта, наогул, так дзіўна створаны свет?

Пад нагамі хлюпае вада. Мы пераскокваем з купіны на купіну. Нарэшце — канава. Я добра ведаю леташнія гнёзды. Ці ёсць толькі сёлета там яйкі? Гнёзды захаваны далей ад чалавечых вачэй. Даводзіцца залазіць у халодную ваду канавы. Адно гняздо пустое. Я вылажу ўвесь мокры.

— Вазьмі маю світку, — кажа Аўгінка.

Не, яна не злуецца. Адразу робіцца цяплей.

— Пачакай, вось там, ля кустоў пагляджу. Ты тут пастой.

Я падкрадваюся ціха. Стараюся нават не дыхаць. Вочы мае ўтароплены ў кусты, вушы ловяць кожны шорах. І раптам з усяго размаху я падаю ў канаву. Нехта захлопаў ля мяне і знік. Я стаю па шыю ў вадзе, высока задраўшы рукі. Непадалёк плавае картуз.

— Гусь паляцела, — крычыць Аўгінка.

— Цішэй, — шыплю я, выцягваючы шыю, як той гусак.

Пачынаю шукаць гняздо. Іду па вязкаму дну канавы, памалу рассоўваю кусты і высокую асаку з медуніцай. Гнязда нідзе няма. Зноў вяртаюся назад. Вада цяпер не здаецца такая халодная, як спачатку. Але дзе ж гняздо? Няўжо я сагнаў бяздомнага гусака, такога ж бабыля, як і наш вясковы пастух Ігнат Бубулька? У чацвёрты раз аглядаю прыбярэжныя зараснікі. Ага, вось яно, прыкрытае паветачкай з леташняй асакі. Шэсць яшчэ цёплых сініяватых яек ляжаць на мяккай подсцілцы. Я знімаю з галавы мокрую шапку, бяру яе ў зубы за казырок, пачынаю даставаць яйкі. Адно, другое, трэцяе... Забіраць усе, ці адно пакінуць? Спакуса вялікая. Не, усё ж адно пакіну. Гуска яшчэ пакладзе яйкі і выведзе гусянят.

Світае. Ачышчаецца ад начной смугі неба. Цяпер яно сіняе, а на ўсходзе ружаватае, як скарынка свежага пірага. У нашым кошыку ляжаць яйкі з чатырох абрабаваных качыных і гусіных гнёздаў. А мне ўсё мала.

— Хадзем ужо дамоў, — просіць Аўгінка.

— Пачакай, я яшчэ на граду загляну. Там лясныя куры водзяцца.

Курыныя гнёзды адшукваць яшчэ цяжэй, чым качыныя. Курыца ніколі не ўзлятае з гнязда, яна спачатку прабяжыць крокаў дзесяць, а потым палахліва ўзлятае, моцна хлопаючы кароткімі крыламі. Але мне абавязкова хочацца знайсці яе гняздо. У ім яек больш. Бывае, да двух дзесяткаў знаходзяць.

Града — вузкая палоска сушы сярод багны і трысця. Тут растуць альховыя кусты, маленькія елкі, а між імі палянкі з лапаць велічынёй. Мы блукаем па градзе моўчкі. Слухаем, як крычаць бакасы і кнігаўкі, як свішчуць дразды, як несціхана заліваецца сініца.

— Глядзі, хто там пабег, шэры... Вунь-вунь! — Аўгінка тыцкае рукой у напрамку альховых кустоў.

— Давай шукаць, недзе тут гняздо. Адкуль яна бегла? — пытаюся я.

Аўгінка паказвае месца, на якім упершыню заўважыла курыцу. Мы становімся на калені, крок за крокам аглядаем зямлю.

— Вось, глядзі, — крычыць Аўгінка, — аж чатырнаццаць штук.

Мы складаем яйкі ў кошык, пакідаючы ў гняздзе адно. Цяпер у нас ледзь не тры дзесяткі яек. Можна вяртацца дамоў.

З-за лесу выплывае сонца. Няўтульная шэрань лесу зашываецца ў гушчар. Нас абступае ласкавая віднata новага дня.

— Здорава пашанцавала, — кажу я, пазіраючы на прыпухлыя Аўгінчыны вочы. У іх свецяцца два маленькія сонцы, толькі больш цёплыя, чым тое, што ўзыходзіць з-за лесу. Мне хочацца прытуліцца да яе так, як гэта было заўсёды, шчыра, па-братняму. Але цяпер не можна.

— Хадзем дамоў, — кажу я.

— А знаеш, што я надумала, — здзіўляе мяне Аўгінка. — Не пайду ў манастыр. Праўда, што там рабіць? Богу і дома можна памаліцца.

Мне хацелася сказаць нешта разумнае, але я не ведаў, што.

— Давай у нядзелю адпросімся ў гаспадара і сходзім да нас у Рассекі. Ганначка табе спадабаецца. Яна добрая, як і маці, — словы гэтыя прыходзяць самі, відаць, ад няёмкасці, але я добра ўжо ўяўляю, як прайдуся па вуліцы роднай вёскі з Аўгінкай. Мне крыху боязна. З нецярпеннем чакаю адказу.

— Абавязкова пойдзем, — весела адказвае Аўгінка.

Няхай бы яна лепш адмовілася. Зноў пачнуць кпіць з нас. А што яшчэ бацька скажа? Але адступаць няма куды. Я каторы раз пачынаю расказваць пра Ганначку, пра Зміцерку, пра нашу маленькую вёску.



Насустрач нам ідуць хлапчукі. Такія ж рабаўнікі, як і мы. Угледзеўшы нас, яны крычаць на ўсю моц:

Жаніх і нявеста,
Дзе ваша места?
Дзед штурхнуў у плечы:
Места вам на печы.

Я злуюся, гатоў кінуцца біцца. А Аўгінка смяецца і высоўвае хлопцам язык.

— Вам ні аднаго яйка не засталося, а ў нас поўны кошык, — кажа яна.

Хлопцы падыходзяць, цмокаюць губамі, ківаюць галовамі — зайздросцяць нашаму паляўнічаму шчасцю.

## *Дзень сёмы*

Шчасце ходзіць у адзіночку; гора плыве касяком. Не паспелі мы ўзысці на двор — насустрач гаспадар.

— Брындаеце, абібокі, а свінням хто травы нарве?

Мы стаялі моўчкі. Апраўдвацца нельга.

Гаспадар узяў кошык і адразу ж перастаў бурчэць.

— Ого, малайцы, вось за гэта хвалю. Не трэба будзе з хаты яйкі цягнуць. — Ён узяў у руку кошык. — Колькі тут?

— Дваццаць сем, — адказаў я, адразу зразумеўшы, што гэта значыць.

— Дзядзечка, але ж і Рыгор хоча ехаць на Мікольшчыну.

— Ён вось хай свінням травы нарве ды дамоў адпраўляецца. Наказвалі з Рассек, што бацька пры смерці. Спяшайся хутчэй, а то яшчэ не застанеш.

— То можа я свінням травы нарву, а ён хай бяжыць.

— Ліха яго не возьме, і сам нарве, — буркнуў гаспадар, а сам пайшоў у хату, забраўшы кошык.

І вось я бягу па пыльнай дарозе, спяшаючыся застаць бацьку жывога. Бачу родную хату і не пазнаю яе. Як яна пакрывілася і асела ў зямлю па самыя вокны!

Ля паваленага плота мяне сустракае Ганначка. Убачыўшы мяне, яна пачынае галасіць па-бабску, пранізліва і страшна.

— А мой жа ты, братка любенькі. Засталіся мы з табой сіротамі круглымі. Як жа мы жыць будзем, гора гараваць, бедныя. А ніхто нас не навучыць, ніхто не пашкадуе. Не пакідай хоць ты нас, гаротнікаў.

Я слухаю, як галосіць сястра і, каб супакоіць яе, кажу:

— Нічога, Ганначка, неяк жа пражывём. У чужых людзей працаваў — слова дрэннага не чуў. На сваёй зямлі спадручней будзе.

Мы ідзём у хату. Бацька ляжыць на лаўцы, доўгі і жоўты. Рыжая барада тырчыць уверх, рукі складзены на грудзях. У галавах гарыць тоненькая свечка. Стары Макар гартае псалтыр і нешта гугнявіць пад нос. Псалтыр толькі дзеля прыліку. Макар чытаць не ўмее. Малітвы ён гаворыць па памяці.

— Ага, прыйшоў, — перапыняе ён малітву. — Дамавіну трэба рабіць ды за папом пасылаць. Ну, чаго стаіш? Яго ўжо не ўваскрэсіш, на ўсё воля божая.

Ён зноў пачынае гугніць псалмы. А я стаю і гляджу на бацьку. Жаласці ў мяне няма. Кінуў нас на пакуты, а сам памёр. За што ж рукі

зачапіць? Неадчэпна лезуць у галаву думкі. Як далей жыць? Прыкідваю і так і гэтак. Атрымліваецца не блага. І ўсё ж боязна.

У хаце ні граша. Добра, што ў мяне было пяць рублёў дробнымі, завязаныя ў хустцы. Мне шкада расстацца з імі, але трэба. Няхай усе ведаюць, што я не жабрак, не гуляка, а гаспадар.

Выбягаю з хаты, спыняюся пасярод двара. Што рабіць? Дзе дастаць дошкі? Лезу на хлеў. У дальнім кутку нешта бялее, прыкрытае леташняй счарнелай саломай. Асцярожна іду па тонкіх жэрдках. Скідаю салому. Пад ёю новая дамавіна. Адкуль яна тут? Нечакана прыходзіць на дзіва простая думка: гэта ж бацька сам зрабіў дамавіну, каб не пакінуць нам лішніх клопатаў. Мне сорамна за свае нядаўнія благія думкі аб ім. Што ведаў я пра бацькава жыццё? Успамінаю і нічога, акрамя пабояў, не магу прыпомніць.

Высокі, худы, як астроўка, поп Антоні шчыра махае кадзілам. Тоўсценькі дзяк пяе вечную памяць. Стоячы на каленях, галосіць Ганначка, усхліпваюць бабы, перамаўляюцца паціху. Гучна стукае малаток, заганяючы ржавыя цвікі ў дамавіну. Да мяне падыходзіць Макар, дыхаючы гарэлым перагарам у твар, шэпча:

— Заўтра шнуры дзеляць. Не заспі, глядзі. Людзі — ваўкі. Хто мацнейшы — таго і верх.

Дамавіна паволі апускаецца ў яму. Нехта кідае грош, астатнія жменю зямлі. І вось ужо вырас маленькі курганок, а на ім белы бярозавы крыж. Размашыста хрысціцца поп, бласлаўляе нас і тыцкае рукой у твар — цалуйце.

З могілак мы вяртаемся ўтрох: я, Ганначка і Зміцерка.

— Ен ужо не вернецца? — пытае Зміцерка.

— Маўчы, дурненькі, — кажа Ганначка і балюча скубе Зміцерку за валасы.

У хаце пуста і няўтульна. Чорная печка вылезла на сярэдзіну хаты, ашчэрылася пустой зяпай. Пад палацямі грудок дробнай бульбы. На палацях — мех аўса. На паліцы — пачаты бохан чорствага хлеба. Ганначка і Зміцерка глядзяць на мяне, відаць, чакаюць, што я пачну рабіць? А я не ведаю. Стаю, апусціўшы рукі, і маўчу.

Там, у Тараса Тарасавіча, я добра ведаў, што мне трэба рабіць. А вось тут, у сябе дома, не знаходжу працы.

— Есці хачу, — хныкае Зміцерка, беручы Ганначку за спадніцу.

— Адкасніся ты, — злосна сыкае Ганначка і раптам пачынае плакаць па-дзіцячаму, шчыра і горка.

Мне хочацца зрабіць нешта падобнае на цуд. Але я сяджу на ўслоне і не магу паварушыцца. Як мне хацелася мець свой кавалак зямлі! Чаго ж я цяпер затужыў? Чаму не радуе зямля? Еш яе, зямлю! Хутчэй яна цябе з'есць! З'есць!..

Пад вечар зайшоў Макар. Ганначка абірала бульбу, а я ладзіў хамут. Зміцерка сядзеў пад сталом, майстраваў з дроў хату.

— Ну, здарова, гаспадары,— прывітаўся Макар.— Хамут ладзіш? Дзела. Не гаруй, хлопец, я меншы за цябе без бацькі застаўся, а вось жыву.

Жыць так, як жыў ён ці бацька, я не хацеў. Іншая справа — Тарас Тарасавіч. Вось ён жыве! Хоць і ён дрэнна жыве. Жмінда, два разы на дзень есць. Як трэба жыць, я не ведаў. Адчуваў, што не так, як жывуць людзі. Паглядзець бы на пана. Толькі куды мне да яго. У пана зямля, грошы.

— Ты вось што, Рыгор, заўтра раней уставай. Шнуры дзяліць будуць. Араць даўно пара. Багатым яно што, і пачакаць можна. А нам дай бог управіцца.



Жыццё вучыла, за што найперш трэба брацца ў гаспадарцы. Ноччу я доўга не мог заснуць. Думаў, разважаў. Насення не хопіць. Бульбы таксама. Дзе ж іх узяць? Папрасіць у Тараса Тарасавіча? Няхай аддасць тое, што я зарабіў. Усё ж нейкая падмога. А што, калі бацька забраў усю плату? Напэўна, забраў. Тады пазычу ў гаспадара ячменю і бульбы. Увосень аддам. Толькі няхай уродзіць. Тарас Тарасавіч скупярдзяй. Можа Тарасіха пашкадуе. Яна добрая, пашкадуе...

З гэтай надзеяй я і заснуў. Прачнуўся ад грукату ў дзверы. То быў Макар.

— Любіш, пане-браце, спаць. Сон мужыку, што пану карты — багатым не будзеш. Людзі вунь пайшлі ўжо на поле.

На ўзгорку за вёскай, там, дзе пачыналіся мужыцкія палоскі, стаяў натоўп. Дзялілі купленую ў пана Залуцкага зямлю. Надзельная, што засталася яшчэ ад прыгону, не перадзельвалася. Стараста, ваўкаваты, дужы мужчына, у сівым армяку ішоў паперадзе поперак шнуроў, раздзеленых баразнамі. Шнуры скрозь няроўныя: вузенькія, як дзве маснічыны.

За старастам — гурт мужыкоў і баб. Перамаўляюцца ціха, берагуць горла на пазней.

— Дык вось, мужыкі,— кажа стараста.— Пакінем шнуры, як ёсць. Хто летась сеяў, няхай і сёлета карыстаецца імі.

— І то праўда,— згаджаецца Астап Канцавы.— Я летась на свае шнуры сорак вазоў гною вывез, а другі, скажам, і прыгаршчаў не паклаў.

Цішыню сонечнай раніцы разарваў шум. Кожны даказваў нешта сваё, крычаў, махаў кулакамі, браў другога за грудкі. З ляманту нарэшце вырваўся пранозлівы бабскі голас:

— Не хачу, не хачу і ўсё. Давай, каму што выпадзе.

Адразу настала цішыня. Ускудлачаная баба выдралася з натоўпу, падбегла да старасты.

— Хіба я гной не клала? Клала, а якая карысць? На мае шнуры, хоць сам ляж — не ўродзіць. Залетась у Максіма былі — тое самае ўрадзіла. Дзе гліна, дзе пясок. Не хачу, давай нумаркі цягнуць!

Зноў загаманілі, закрычалі мужчыны. Нарэшце, размецілі шнуры, пачалі цягнуць нумаркі.

— Ідзі, чаго стаіш,— падштурхнуў мяне Макар.

Я нясмела накіраваўся да старасты. Той паглядзеў на мяне з вышыні свайго сажнёвага росту, запытаўся:

— Ты чый? Кавылачкін? Ну, цягні.

Першы нумар мне дастаўся той, што належаў ускудлачанай бабе, якая перакрычала мужчын. Я спахмурнеў. Але другі нумар выпаў лепшы — шнур Астапа Канцавога.

— Яшчэ скажы дзякуй богу, што не абодва дрэнныя, — супакоіў мяне Макар.

Таго ж дня я тэпаў да Тараса Тарасавіча. Гнала не толькі пільная патрэба, але і маркота па Аўгінцы. Што возьмеш з Ганначкі. Дзіця яшчэ і злосная нейкая. Пазірае на цябе з-пад ілба, быццам ты чужы ёй. За два дні набралася ў мяне многа добрых слоў, а ўбачыў Аўгінку — усё забыўся.

— Пахаваў бацьку? — запыталася яна.

— Пахаваў,— адгукнуўся я.

— На гаспадарцы цяпер застанешся?

— Застануся...

— Гэта лепш... Ну, я пайшла.

І ўся размова. А я так чакаў сустрэчы. Хоць бы моўчкі пастаяла са мной. Пайшла і нават не азірнулася. Што я дрэннага зрабіў ёй?

— Вось і гаспадар новы паявіўся,— пачуў я голас Тараса Тарасавіча. Я скалануўся, як заўсёды, калі гаспадар заставаў мяне без работы.— Што скажаш, сынок?

Я перамінаўся з нагі на нагу. Сорамна было пытацца пра свой заробак.

— Не выпадае мне ў вас далей працаваць.

— Ну што ж, хоць і шкадую, у самы разгар работ ідзеш. Дзе цяпер чалавека знойдзеш? Але ведаю, не па сваёй ахвоце робіш.

— Насення ў мяне, дзядзька Тарас, няма...— палохаючыся свайго голасу, прашаптаў я.

— А дзе ж яно. Я ўжо і за зіму з бацькам тваім разлічыўся. Жыў, як мот, памёр без забот — табе кашу расхлёбваць пакінуў.

Упершыню я пакрыўдзіўся. Раней размовы пра бацькава няўмельства жыць толькі выклікалі злосць, што ў мяне такі недарэчны бацька. Цяпер я адчуў абразу. Маўчаў аднак.

— Можа вы мне пазычыце ячменю і бульбы? Сеяць няма чаго.

— Пазычыць яно можна, а аддаваць калі будзеш?

— Увосень, дзядзечка, далібог аддам.

— Не знаю ўжо, што і рабіць з табой. На сіроцкае тваё гора гледзячы, трэба было б пазычыць. Ды ў самога не надта густа. Яшчэ вось зямелькі прыкупіў...

— Пазычце, дзядзечка, век буду бога маліць за вас.

— Бога, гэта добра. Бог ён усё бачыць. І тое, што засекі ў мяне не поўныя. Ну, ды не збяднее рука зычліўца. Прыязджай заўтра. Дам табе два мяхі ячменю і мяхоў з пяць бульбы. Глядзі ж, увосень аддай. Бачыш, шкадую я цябе, як сына роднага. Іншаму — не пазычыў бы. Толькі табе такую ласку раблю. І ты не забывай. Часам у прыпар нявыкрутка будзе, прыедзеш на кані, паможаш управіцца.

Я бег назад, бясконца ўзрадаваны дабратой Тараса Тарасавіча. Бег і не ведаў, што сам усунуў галаву ў пятлю, канец ад якой у майго былога гаспадара.

І пабеглі дні шэрыя, потныя. Жыццё, поўнае клопатаў, пачало шкуматаць, біць, секчы абразамі, крыўдамі, нястачай.

## Раздзел чацвёрты

Камсорг станкабудаўнічага завода Васількоў крочыў дадому. Кожная нарада ў райкоме камсамола абуджала ў ім энергію. Васількоў адкладваў усе справы і, як апантаны, браўся за тыя, пра якія толькі што ішла гаворка. Сённяшняя нарада была прысвечана барацьбе са стыляжніцтвам і амаральнымі паводзінамі моладзі. Называліся фабрыкі і заводы, дзе ў інтэрнатах наладжваюцца выпіўкі, прозвішчы доўгавалосых, у вузенькіх штоніках дзецюкоў, што запаланяюць клубы, прыносячы туды джазавую музыку і новы стыль танцаў. Васількоў чакаў, што ўспомняць пра іх завод, але пра яго ніхто не ўспомніў. Гэта абрадавала камсорга. Інакш і не магло быць. На заводзе сапраўды не было чуваць надзвычайных, ці, як называў сакратар, вартых увагі, фактаў. І ўсё ж Васількоў думаў над тым, як бы выявіць гэтыя факты.

«Факты павінны быць,— думаў ён.— Нездарма ж таварыш Ціліпчык раіў прыглядзецца да адпачынку моладзі. Факты знойдуцца, трэба толькі іх пашукаць. Тады мы будзем з імі змагацца. Барацьба абвастрае людзей. У ёй адчуваеш сваю моц».

За дваццаць хвілін спорай хады Васількоў успомніў нямала выпадкаў, пра якія можна і трэба было сказаць сваім актывістам. У камітэт ён заляцеў, бы той віхор. Дзяжурная, член камітэта Зоя Лагодзіч сядзела на старой, працёртай канапе, унурыўшы нос у кнігу. На Васількова яна не звярнула ніякай увагі.

— Мне не званілі? — на хаду запытаўся сакратар.

— Не,— адказала Зоя.

— Кідай кнігу і збірай членаў камітэта. Будзе размова.— Васількоў сеў у крэсла, выцягнуў шуфляду і пачаў перабіраць паперкі.

Зоя абзваніла ўсе цэхі і зноў узялася за кнігу. Васількоў тым часам накідваў тэзісы даклада. Ён часта задумваўся, моршчыў лоб, а потым, нешта ўспомніўшы, паспешліва занатоўваў на лістку паперы.

— Зойка, ці помніш, хто з нашых носіць штаны-дудачкі? — падняўшы галаву, запытаўся ён у дзяжурнай.

— Нашто табе? — здзівілася тая.

— Калі пытаюся, значыць трэба.

Зоя назвала двух хлопцаў з футбольнай каманды. У пакой адзін за другім заходзілі члены камітэта. Суровая цішыня абудзілася бесклапотным смехам, гоманам.

— Сядайце, таварышы, абмазгуем адну справу,— Васількоў прыўзняўся, абапёрся на стол рукамі.— Толькі што нас выклікалі ў райком. Праўда, не лаялі. Але варта нам заснуць у шапку, як пачнуць біць. Таму я адразу пачну з фактаў. Што ў нас робіцца ў клубе? Ганьба, таварышы. Аднекуль паяўляюцца кудлатыя тыпы ў вузкіх штоніках, прыносяць пласцінкі з пошлымі песенькамі, а мы, таварышы, не бачым гэтага. Мы мусім аб'явіць вайну новым модам. Нам стыль не патрэбны.

Нехта з членаў камітэта нясмела падаў голас:

— Сам Дывінец вунь звузіў калошы, ды і ў сцільным гальштучку расхаджвае...

Васількоў запнуўся, збянтэжана пазіраў на членаў камітэта. Ён разумеў, што павінен неадкладна адказаць на недарэчную рэпліку. Але як?

Дывінец лічыўся лепшым брыгадзірам маладзёжнай брыгады. Яго партрэт вось ужо два гады вісеў ля прахадной завода. Пра Дывінца пісалі газеты. Яго ведалі завод, горад і нават рэспубліка. Дывінец быў ягоным сябрам — не вельмі блізкім, але ўсё ж сябрам, якім можна ганарыцца.

Васількоў намагаўся ўспомніць, ці былі ўчора на Дывінцу гэтыя праклятыя штаны-дудачкі. У галаве выразна аднаўлялася кожнае слова з іх размовы. Перад ім паўставаў дабрадушны твар Анатоля з хітра прыжмуранымі вачамі. Але якія на ім былі штаны — гэта не прыходзіла на памяць. І ў чым ён наогул быў апрануты? Васількоў здзівіўся сваёй няўважлівасці.

— Ну і што ж,— няўпэўнена пачаў ён,— паправім, калі што якое.

Шчыра кажучы, як паправіць Дывінца, Васількоў не вельмі ўяўляў. Не таму, што Дывінец сябар. Камсорг баяўся пакрыўдзіць гарачага на справы брыгадзіра. Той ужо даўно імкнуўся перайсці на другі ўчастак у адсталую брыгаду Маруціча. На яго бок хілілася і дырэкцыя завода. Але Васількоў быў супраць. На заводзе ёсць адна сапраўды маладзёжная брыгада, а тады не будзе і яе. Камсорг усё ж улагодзіў Дывінца, і той застаўся на старым месцы. Пакрыўдзіш чалавека, а ён кіне брыгаду. Гэта і непакоіла Васількова.

Усё яшчэ думаючы над тым, як лепш намякнуць Дывінцу, каб ён не насіў вузенькіх штаноў, Васількоў пачаў расказваць пра нараду ў райкоме, пра камсамольскія дружыны, якія трэба будзе стварыць на заводзе.

Тэлефонны званок перапыніў яго. Васількоў, пакутліва скрывіўшы хударлявы жоўты твар, зняў трубку.

Гэта гаварыў дырэктар. Яго густы басавіты голас Васількоў мог адрозніць сярод тысячы іншых галасоў. Здавалася, вось-вось трэсне мембрана. Васількоў трымаў трубку далей ад вуха.

— Што ж гэта з Дывінцом робіцца? Зазнаўся? Нос задраў?.. Што? Нічога не чулі? П'е, жонку з дому выгнаў. Не ведаеце? Дык вось, разбярыцеся. На заслугі не глядзіце. Яны не даюць права разводзіць бруд у нашым доме.

Васількоў ціха паклаў трубку. Тыя, што сядзелі бліжэй да стала, відаць, улавілі сэнс дырэктарскіх слоў. Яны з цікаўнасцю пазіралі на камсорга.

— Хто ведае, што там у Дывінца з Лількай? Кажуць, выгнаў ён яе з дому.

— Падумаеш, кажуць,— першая адгукнулася Зоя.

— Не падумаеш, а дырэктар,— паправіў яе Васількоў.

Члены камітэта пераглянуліся. Ведалі, што дырэктар не церпіць сямейных разладаў. Вінаваціў у іх толькі мужчын. Варта было яму толькі пачуць, што рабочы ці інжынер пасварыўся са сваёй жонкай, як Міхась Андрэевіч выклікаў вінаватага ў свой кабінет. Пра што там ішла размова, ведалі толькі яны ўдвох. Але ў той сям'і надоўга ўстанаўлівалася згода. Пакрыўджаныя жонкі не маглі нахваліцца дырэктарам-заступнікам. Ды і мужчыны, якіх прабіраў ён, не крыўдавалі. Дырэктар шанаваў сваю жонку, добрую, чулую, ласкавую жанчыну, загадчыцу дзіцячага сада. Раісу Антонаўну любілі ўсе і можа таму даравалі яе мужу бесцырымоннае ўмяшанне ў чужыя сямейныя справы. Ва ўсякім выпадку, на заводзе не было паспешлівых разводаў. За два гады быў разышоўся з жонкай толькі камендант інтэрната Рабышка. Але яго можна было і не лічыць членам заводскага калектыву, бо перад тым, як падаць заяву ў суд, ён перш-на-перш вызваліўся ад працы. Дырэктар яшчэ доўга пасля гэтага наракаў сваім супрацоўнікам, якія не змаглі папярэдзіць разлад. А жонку Рабышкі, на злосць яе мужу, паставіў камендантам. Самому Рабышку ён не мала папсаваў крыві. Таму не заставалася нічога рабіць, як толькі пакінуць горад.

Вось чаму члены камітэта камсамола змоўклі, як толькі пачулі, што навіну пра Дывінца паведаміў сам дырэктар. І ўсё ж не хацелася верыць. Толю ведалі даўно. Як магло здарыцца, што ён выгнаў жонку? Ды каго — Лільку Дашчынскую, прыгожую, вясёлую дзяўчыну. Праўда, так лічылі хлопцы. Дзяўчаты Дашчынскую не любілі. Але на тое яны і дзяўчаты.

Нарада неяк крута змяніла кірунак.

— А ён і сапраўды нешта пануры ходзіць. Дні два як спахмурнеў,— абазвалася Ліда Варачкіна.

— То зусім з іншай прычыны. Толя над новай канструкцыяй разца працуе, ды нешта не выходзіць у яго.

— Разец разцом, а неяк бачыў я, як ён з Лількай на вуліцы размаўляў. Гарачыўся, а калі ўбачыў мяне, змоўк, — падаў голас Аляксей Рымчук.

— А ты ўжо і вывад зрабіў...

Васількоў слухаў сваіх актывістаў, а сам думаў над тым, што яму рабіць. Не перашкодзіла б пагаварыць з Толем асабіста. Але ці зразумее Дывінец яго? Неяк Васількоў і сам заляцаўся да Лілі. Яна, здаецца, прыймала яго залёты. А пасля, і зусім нечакана, выйшла замуж за Толю. Было гэта якраз напярэдадні ад'езду Дывінца ў Чэхаславакію, куды



яго запрасілі падзяліцца сваім вопытам работы. Згулялі камсамольскае вяселле, а неўзабаве Дывінец аж на чатыры месяцы паехаў за мяжу.

«Што можа падумаць Дывінец? Адно, быццам я з-за помсты цяпер тачуся ў яго сямейнае жыццё. Лепей няхай члены камітэта вывучаць, хто там вінаваты».

Прыняўшы такое рашэнне, Васількоў адчуў незвычайную лёгкасць. Як гара з плеч!

— Хопіць дыскусіраваць,— спыніў ён спрэчку, што ўсё мацней разгаралася.— Словамі тут не паможаш. Ясна адно: Міхась Андрэевіч дарэмна не пазвоніць. Давайце створым камісію. Прашу кандыдатуры...

Актывісты адмоўчваліся. Стараліся не глядзець адзін аднаму ў вочы. Відаць, ім таксама не хацелася брацца за гэтую далікатную справу. Тады Васількоў, тыцкаючы пальцам, назваў тры прозвішчы: Рымчук, Гараеў, Лагодзіч.

... У пакоі засталіся камісія і Васількоў. Сядзелі, апусціўшы галовы, думалі. З чаго пачынаць праверку, ніхто не ведаў.

— Толькі ж вы асцярожна,— папрасіў Васількоў членаў камісіі.— Не абы-як. Самі разумееце. Наватар.

— А чаго там цырымоніцца, калі вінаваты. Падумаеш... — Зоя толькі на словах выдавала смелай. Былі і ў яе сумненні.

— А я вось не веру, і ўсё. Што хочаце рабіце, а не веру,— загарачыўся Віктар Гараеў, камсорг цэха, у якім працаваў Дывінец.— І ў камісію не веру. Адна валакіта.

— Ну-ну, лягчэй на паваротах. Не дагледзеў, вось і не верыш. А мы і да цябе дабяромся. Таксама зазнаўся.

Віктар хацеў нешта сказаць, але толькі махнуў рукой. З Васільковым спрачацца — толькі дарма траціць час.

— Пайшлі, ці што? — сумна запытаўся Рымчук.

— Пайшлі,— адказалі яму.

— Праз тры дні матэрыялы павінны ляжаць тут,— Васількоў з усяе сілы стукнуў далоняй па стале.

— Ладна,— буркнуў Рымчук і, ужо выйшаўшы на калідор, безнадзейна выпаліў: — Уліплі...

Перш за ўсё члены камісіі вырашылі пагутарыць з Ліляй Дашчынскай. Яна, як і меркавалі, была ў клубе. Сядзела за піяніна, развучвала новую песню з маладзенькай дзяўчынкай, чарцёжніцай. Убачыўшы адразу трох членаў камітэта, Ліля збянтэжылася, але вельмі хутка асвойталася. Усміхаючыся, пайшла насустрач гасцям.

— Надзейка, мілачка, прабач, але на сёння бадай хопіць. Папрактыкуйся яшчэ дома, без акампанементу.

На Лілі было прыгожае плацце. Зоя, забыўшыся на ўсё, пляснула ў далоні.

— Ой, Лілька, дзе ты гэты фасон дастала?

Дашчынская прыхільна ўсміхнулася.

— Хочаш, прынясу выкрайку.

— Канешне, яшчэ пытаецца...

Хлопцы пераступалі з нагі на нагу. Як трэба пачынаць такія далікатныя размовы? З якога канца брацца за іх? Каб хоць сама Лілька ўшчала гаворку пра Анатоля. Тады было б лягчэй. Дашчынская зусім не выдавала выгнанай з дому жонкай. На яе твары — бесклапотнасць і ветлівая гасціннасць гаспадыні, што ўзрадавана сябрам. Яна пачала расказваць пра тое, якую праграму рыхтуе да Кастрычніцкіх свят, спела пару песенек.

Хлопцы сядзелі, як на шпільках. Можа разыграў хто Васількова, падрабіўшы дырэктарскі голас? Уся гісторыя з Дывінцом выглядала

падазронай і дзіўнай. Каб такі хлопец дакаціўся да п'янства і сварак! Не можа быць. І чым больш члены камісіі думалі над гэтым, тым больш выяўлялася перад імі бязглуздасць іх незвычайнай місіі.

Між тым, Ліля кончыла іграць і нізка схіліла галаву. Рымчуку здалося, што на падлогу капнула сляза. А можа здалося?

— Я знаю, чаму вы прыйшлі,— пачулі яны кволы голас.— Дзякую вам за ўвагу.

Дашчынская зірнула на іх. Вочы ў яе былі мокрыя. На шчацэ застыла адна-адзіная слязінка, і Ліля не выцірала яе. Зоя адразу кінулася да Дашчынскай, абшчапіла за шыю.

— Не трэба, Ліля,— яна і сама вось-вось магла заплакаць.

Віктар Гараеў знямеў ад неспадзяванасці. Дасюль ён быў цвёрда ўпэўнены, што Анатоль не вінаваты. Слёзы расчулілі яго, і Віктар крута змяніў сваю думку. Рымчук крактануў ад няёмкасці і, адразу адчуўшы, што толькі ён адзін можа ўсё высветліць, пачаў распытваць Лілю з настойлівасцю следчага.

Ліля расказвала пра сваё няўдалае жыццё спаважна і грунтоўна. Так, яна вельмі кахала Толю. Яна кахае яго і цяпер. Але як жа жыць? Па-першае, ён раўнуе яе да кожнага. Вы кажаце, раўнуе таму, што любіць. Але ж нельга цярпець абразы. Вы ведаеце, мусіць, што ў мяне многа сяброў сярод музыкантаў? Я не магу з імі сустракацца. Ён сунраць. Ды і п'е. Няўжо вы не ведалі? Так, п'е. Пра гэта сорамна расказваць, але маўчаць немагчыма. Ён кідаўся на мяне з кулакамі. Я маўчала. Было сорамна прызнацца. А заўчора ён расквасіў нос артысту Сумскаму. Ведаеце, таленавіты хлопец, герояў іграе. Які ж з яго герой, калі нос распух. Я ледзьве ўпрасіла не падаваць на Толю ў суд. Чым Толя яго не ўпадабаў, не ведаю. Нарэшце,— можа гэта дробязь, вядома,— ён лічыць кожную капейку. Вы ж ведаеце, я нядрэнна зарабляю. Вось і мяркуйце, што мне было рабіць?

— І даўно ён так? — запытаўся Рымчук.

Зоя крадком зірнула на шчыгульненькую постаць Дашчынскай, хацела запытацца пра тое, што ў першую чаргу хвалюе пакінутую жанчыну, але пасаромелася хлопцаў.

— Ды што там, ясна. Эх, Толя, Толя,— па-дзіцячаму ўздыхнуў Віктар Гараеў, ускочыўшы з крэсла. Яму хацелася хутчэй выбегчы на вуліцу, каб не чуць страшэнных слоў пра свайго сябра, камсамольца, які ашукаў яго, усіх.

— Пачакай,— спыніў яго Рымчук.— Словы словамі, а нам дакументы патрэбны. Напішы, Ліля, пра ўсё, што мы пачулі.

— Калі ласка. Раз трэба, дык напішу. Толькі вы яго не карайце. Не хачу я гэтага. Ды і сорамна, хоць з завода ўцякай.

Зоя Лагодзіч адразу ўскіпела:

— Не ўжо. Мы яму ўсыплем. Не паглядзім на славутасць. Я, канешне, цябе разумею. Такія ўжо ў нас сэрцы, мяккія.

Ліля за нейкіх дзесяць хвілін спісала дзве старонкі ліста. Падаючы заяву Рымчуку, зноў папрасіла.

— А можа няхай бы так уладзілася. Не вельмі прыемна, калі варушаць такі бруд.

Рымчук акуратна склаў ліст у чатыры столкі, сунуў у кішэню.

— Пайшлі,— скамандаваў ён.

— Эх ты, сухар,— накінулася на яго Зоя.—«Пайшлі». Чалавеку, можа, цёплага слова не хапала. А ты, чарнільная твая душа, абы паперку набыць.

Усе трое адчувалі няёмкасць. Сапраўды, атрымалася суха, па-казённаму. Вырашылі ў Анатоля трымаць сябе працей. Усю дарогу раіліся,



як лепш весці размову, спрачаліся. Нарэшце, склалі план гутаркі, паводле якога Анатоль павінен быў папрасіць прабачэння ў Лілі і зноў зажыць шчаслівым сямейным жыццём.

Усё атрымалася не так, як меркавалі. Не паспела камісія зайсці ў пакой, як Анатоль, сурова натапырыўшы бровы, запытаўся:

— Ну што, пабачылі, якая яна?

— Ты яе і падэшвы не варты,— Зоі не цярпелася выказаць усё, што накіпела на душы, пакуль яна слухала Лілю.

— Чаго ж вы тады хочаце? — Анатоль стаяў, засунуўшы рукі ў кішэні. Было відаць, што ён хвалюецца і ледзьве стрымлівае сябе.

— Ты, Толя, кінь, — Рымчук ляпнуў Дывінца па спіне. — Давай без фокусаў. Справа, брат, сур'ёзная. Дырэктар ужо ведае.

Дывінец скінуў Рымчукову руку, прайшоўся па пакоі.

— Разумею. У нашага Міхася Андрэевіча заўсёды мужчына вінаваты. Няхай бы сам з ёй пажыў.

— А ты раскажы, раскажы,— падхапіўся Гараеў.

— Што раскажы? Пра такое хіба раскажаш. Яго толькі душой адчуць можна. Уліп я, вось і ўся размова. А цяпер — разбірайцеся самі. Усё роўна, раз да дырэктара дайшло — крышка.

— Нарабіў, а цяпер панікуеш,— насмешліва прыжмурыла вочы Зоя.

— А ты што разумееш,— узлаваўся Дывінец.— Яшчэ, мусіць, і з хлопцамі не цалавалася, а ў пракуроры лезеш.

Лагодзіч была не з тых, хто змаўкае пасля першага нападу. Яна ўмела пастаяць за сябе. Слова за слова, і разгарэлася тая бесталковая, непатрэбная сварка, у якой бывае так многа выпадковых і недарэчных абвінавачванняў. Дарэмна Віктар Гараеў спрабаваў прымірыць варожыя бакі, дарэмна Рымчук пагражаў адхвастаць Толю за тое, што не ўмее спрачацца, сварка толькі пашыралася. Нарэшце, Дывінец крыху астыў.

— Вось што, хлопцы, ні чорта мы так не высветлім. Што вы хочаце? Каб я ладзіў з Дашчынскай сям'ю? Ні за якія грошы гэтага не будзе. Кажаце, што біў я яе. Хлусня. Толькі замахваўся. Дурны быў — цяпер паразумнеў. Шкадую не таго, што замахваўся. Трэба было добра ўсыпаць. Не па-камсамольску, вядома. Але з такімі інакшай і размаўляць не можна. І дружку яе мала было нос разбіць. Каб мая ўлада была, я ўсіх бы яе дружкоў на Аляуцкія астравы адправіў.

Члены камісіі не верылі сваім вушам. У голасе Дывінца адчувалася непадробная шчырасць, крыўда і пякучы боль. І ў той жа час усе яго словы пярэчылі тым уяўленням аб маральным вобліку чалавека, якія неяк самі па сабе складаліся ў кожнага з трох членаў камісіі. У гэтай неразбярысе трэ' было знайсці свой пункт апоры, цвёрда ўтрымацца на ім. Факты паўставалі супроць Дывінца. Пачуцці, нягледзячы на Лілін расказ і яе слёзы, неяк былі на баку Анатоля. Але на чым грунтуюцца тыя пачуцці? Можа на даўняй дружбе? Ці на тым, што ніхто не хоча паверыць у дзіўныя змены, што адбыліся з Дывінцом? Факты доказвалі іншае. Трэба толькі мець іх болей.

І яны паявіліся, нечаканыя і ашаламляльныя. Нават Віктар Гараеў, які мужней за ўсіх адстойваў свайго сябра, нарэшце здаўся.

Ды і як было не здацца. Дывінцова цёшча, Адзелаіда Сяргееўна Дашчынская, пад строгім сакрэтам расказала камісіі, што яе зяць прагуляў пасаг дачкі: тры залатыя пярсцёнкі і дарагі па ўспамінах далёкай маладосці залаты ланцужок, які некалі падараваў ёй родны татусь. Дывінец абяцаў прамяняць гэтыя залатыя рэчы ў Чэхаславакіі на розныя каштоўныя тавары, але, не даехаўшы да мяжы, відаць, прапіў іх.

Адзелаіда Сяргееўна закачвала вочы, прыкладала руку да сэрца,

ацэньваючы ўсю жахлівасць зяцевага ўчынку. Яна прасіла не запісваць і нават не запамінаць гэта — бог з ім, золатам, але члены камісіі павінны ведаць, хто такі Дывінец.

Другі сведка, Вадзім Лапшын, хлопец з пячорынскімі вусікамі і доўгімі бакамі, расказаў, як Дывінец паявіўся на базе ў яго бацькі і папрасіў адпусціць яму два дываны і дзесяць метраў дывановых дарожак. Спачатку члены камісіі не надалі гэтаму асаблівай увагі. Лапшын славіўся на заводзе старамоднымі бакенбардамі, уменнем спрытна танцаваць і пераймаць гукі джазаў, спевы птушак. Можа яго даўно прагналі б з завода, але клуб не мог існаваць без майстра-імітатара. Выступленне Вадзіма было галоўным нумарам праграмы.

Члены камісіі ўспомнілі, што нідзе не бачылі тых двух атрыманых з базы дываноў. Пазванілі Лапшыну-старэйшаму. Той пацвердзіў, што сапраўды адпусціў знатнаму брыгадзіру два дываны і некалькі метраў дывановых дарожак.

Тады Зоя Лагодзіч зрабіла адкрыццё, што хціваець Дывінца, пра якую намякала Лілія, вымусіла знатнага брыгадзіра займацца спекуляцыяй. Да ўсяго, у камітэт паступіла заява ад таго артыста Сумскага, якому Дывінец расквасіў нос.

Члены камісіі моўчкі паклалі на стол чатыры лісты, спісаныя дробным почыркам. На пытанне Васількова: «Ну, што высветлілі?» — Зоя сказала толькі адно:

— Чытай...

У камітэце рыхтаваліся слухаць Дывінца. Але гэты незразумелы чалавек, як знарок, зблытаў усе планы. Напярэдадні пасяджэння ён ужыў, нарэшце, разец сваёй канструкцыі і за змену выканаў сем дзённых нормаў. Васількоў зусім разгубіўся. Усё ішло неяк наперакос. З аднаго боку, было радасна, што Дывінец зноў праславіў завод рэкордам, з другога — крыўдна, што не можна пра рэкорд гаварыць голасна, бо ўвесь завод ужо ведаў пра благія ўчынкі брыгадзіра. Ды і няўручна было слухаць Дывінца на пасяджэнні. А Васількоў прагнуў гэтага. Няхай усе ведаюць, што камсамол не палічыцца з заслугамі, калі хто звіхнуўся, збіўся з дарогі.

Камсорг цыбатымі нагамі шчыра вымерваў падлогу камітэцкага пакоя ўздоўж, ушыркі, па дыяганалях, але нічога прыдумаць не мог. І раптам прыдумаў. Васількоў спыніўся. Як ён раней не мог дадумацца? Проста і геніяльна!

Цяпер Васількоў з нецярпеннем чакаў пяці гадзін. Каб не забыцца пра сваё адкрыццё, ён акуратна запісаў думку на кавалку паперы, потым прачытаў дакладную камісіі і зноў пахваліў сябе за кемлівасць.

На гэты раз члены камісіі заходзілі пацíху, тоўпіліся ля дзвярэй, і Васількоў, пазіраючы на іх і добра разумеючы, чаму яны баяцца садзіцца бліжэй да стала, ухмыляўся. Усё скончыцца добра.

Дывінец прыйшоў разам з брыгадай. Васількову гэта не спадабалася. Нашто падрываць аўтарытэт брыгадзіра. Палаяць Дывінца ўсё ж трэба будзе.

— У нас, таварышы, персанальная справа,— сказаў ён рабочым,— так што пасяджэнне закрытае. Прашу лішніх пакінуць пакой.

Члены брыгады пашумелі, але выйшлі. Васількоў падаў дакладную Дывінцу.

— Азнаёмся пакуль.

Было ціха. Толькі час ад часу шуршала папера ў Дывінцовых руках. Нарэшце ён паклаў дакладную на стол.

— Ну, як? — Васількоў уважліва прыглядаўся да Дывінца.

— Факты, як дуб, зламаць цяжка, хіба з коранем вырвеш.



— Тады расказвай. Не чакалі мы ад цябе такога. Толькі, брат, шчыра.

Дывінец неяк пакрывіўся, выдавала, што ён хацеў усміхнуцца і не змог.

— Паслухай, Васількоў, усё роўна ж ты нічога не зразумееш. Я і сам заблытаўся, як снігір у сілку.

— Тут не адзін я, увесь камітэт сядзіць,— Васількоў прыўзняўся з крэсла.— Ім расказвай. Усіх падвёў.

— Не вінаваты я, таварышы,— Дывінец павярнуўся да членаў камітэта, што стаялі ўсё яшчэ ля парога.

Члены камітэта прамаўчалі.

— Ах, ды што там гаварыць,— Дывінец рашуча секануў рукой паветра. — У цябе ж, Васількоў, ужо гатовы нейкі праект, і ўсё роўна ты ад яго не адмовішся. Як я цябе пераканаю? Як я вас усіх пераканаю? Кажу, што не вінаваты, і ўсё! Хочаце верце, хочаце не. Работу вы маю ведаеце.

— Ты не пра работу, а пра золата скажы,— выгукнуў хтосьці з-за спіны.

— А што золата. Здаў я яго ў Львове. На грошы падарункі Лілі прывёз. Няхай сама скажа.

— А навошта браў, хіба законаў не ведаў.

— Ведаў, таму і прадаў. А што браў — дурны быў. Любіў яе.

— Слухай, Анатоль,— Васількоў нарэшце вырашыў выкласці свой галоўны козыр.— Канешне, учынкаў тваіх мы не ўхваляем. Каб не быў ты славутасцю, пагналі б мы цябе з камсамола. Ды ты і сам гэта добра ведаеш. Маральнае аблічча тваё, брат, вельмі папсавана. Будзем мы цябе лячыць па-свойму. Дапаможам, выправім. Але і ты нам абяцаць павінен, што зменішся. Хачу я табе дзелавую прапанову сказаць. Толькі ты не гарачыся. Я тут далей заглядаю. Даруем мы, напрыклад, табе грахі. Добра. Ты гэта заслужыў. А што людзі падумаюць? Вось, браце, дзе глыбінка. А калі ты памірышся з Дашчынскай і прынародна, на сходзе выступіш, знаеш, які гэта фактар для другіх?

Дывінец ашалела глядзеў на Васількова. Усе затаілі дыханне. Адзін Васількоў нічога не бачыў, яшчэ раз уражаны велічнасцю сваіх планаў.

— Каб я...— Дывінец цяжка дыхаў.— Гэта значыць, я павінен памылкі прызнаваць? А яна? Ды ты ж нічога не разумееш. Ты чалавека па ведамасці ведаеш. Плоціць узносы? Добра. Мае нагрузку — выдатна. Працуе не блага — герой. А ты ў душу яму загляні. Хто і для чаго працуе? Гэта ты ведаеш? А на калені мяне ставіш. Не, брат, на калені я не стану.

— Дык чаго тады маўчыш? — крыкнуў Рымчук.

— Вось і зноў ты пра сваё. А як я пра ўсё раскажу. Калі сам вінават, паддаўся. Думаў, выпраўлю яе. Смярдзючы дух выб'ю. Аж сам заблытаўся. Усе дні гэтыя думаў. Тут факты, а ў мяне пачуцці. Факты, глянеш на іх — дробненькія, не такія важкія, як тыя, што ў дакладной. Адно скажу, усе яе словы — хлусня. Паслухалі б вы, што яна мне гаварыла. Дык жа не паверыце.

Дывінец сеў.

— А чаму самой Дашчынскай няма? — запытаўся хтосьці з членаў камітэта.

— Яна ў бальніцы,— адказала Зоя Лагодзіч.

Настала жудасная цішыня.

— Дык што, не хочаш мірыцца? — парушыў маўчанне Васількоў.

— Не. Што хочаце, рабіце.

За строгую вымову паднялося сем рук. Пяць устрымалася. Назаўтра партрэт Дывінца быў зняты са сцяны.

* * *

Перад самым адбоем у бальніцу прывезлі жанчыну. Неслі яе на насілках дзве дужыя санітаркі, а яна курчылася ад болю і ўвесь час крычала:

— Ой, мамачка, баліць як!.. Дайце мне хоць атруты якой, цярпення больш не маю.

Заўсёды, калі прывозілі цяжка хворых, усе, хто мог хадзіць, вылазілі са сваіх палат на калідор, стаялі, на паўшэпт абмяркоўваючы паводзіны хворага, высвятлялі, што ў яго баліць і ці хутка ён выздаравее. У бальніцы кожны хворы становіцца ўрачом.

— Супакойцеся, хворая, — прасіў жанчыну дзяжурны ўрач, ідучы ля насілак. — Зараз мы зробім вам укол і грэлачку пакладзем — пройдзе...

Жанчына не спыняла ляманту. Толькі мінут праз пятнаццаць яна заціхла. Тады на калідор выйшлі жанчыны, часовыя жыхаркі той палаты, расказалі цікаўным, што жанчына тая зусім маладзенькая дзяўчына — піяністка Дашчынская, што ў яе прыступ печані і што заўтра яна ўжо будзе адчуваць сябе лепш.

Рыгор Яўхімавіч у гэты час сядзеў у невялікім закутку, дзе стаяў маленькі столік, дапісваў свае ўспаміны пра даўнія гады, калі лёс зрабіў яго гаспадаром бацькоўскага паўнадзелу зямлі. Цяжкое мінулае стаяла перад ім страшным прывідам. І нават лямант хворай жанчыны, здавалася, далятаў да яго з тых далёкіх дзён. Паставіўшы кропку, Рыгор Яўхімавіч загарнуў сшытак, задумаўся. Тое, што паведаміў яму Кветны, не вылазіла з галавы. Цвярозы голас пераконваў яго, што Андрэя даўно ўжо няма на свеце. І ў той жа час у глыбінях душы цяплілася надзея на сустрэчу з унукам. Была яна кволая, але балюча вярэдзіла сэрца. Паўставала адно і тое ж пытанне: калі ён жывы, дык чаму не падаў голасу? Рыгор Яўхімавіч адганяў назойлівую думку, а яна вярталася да яго, і ад яе было прыкра. «А што, калі ўнук зрабіў у часе вайны што-небудзь благое? Таму і не едзе дамоў». Тады стары пратэставаў рашуча і злосна. «Як я магу думаць так пра сына свайго сына? Хіба ён не пайшоў і там, у Францыі, да партызан? Чалавек з заечай душой не мог рызыкнуць на такое. Не, Андрэй не такі. Дзе ж ён тады? Яго бачылі адразу пасля вайны. Чаму ён не паехаў дамоў? А што, калі вярнуўся? Тады ён абавязкова прыехаў бы ў Рассекі, дзе жыла яго бабуля. Няхай Аўгінні Лявонаўны няма. Усё роўна ён павінен быў прыехаць туды. Калі не прыехаў, значыць, яго тут няма. Ён застаўся там. Чаму ж ён застаўся? Што робіць цяпер? Мог, вядома, здарыцца няшчасны выпадак. Напрыклад, аварыя. Мог захварэць на тыфус і памерці. Мог...»

І ўсё ж кволая надзея, што Андрэй жывы, не знікала нават пасля такіх разважанняў.

— Рыгор Яўхімавіч, вам не можна столькі сядзець, — гэта сказаў урач. Ён стаяў ля століка са стэтаскопам у руках, высакаваты і крыху няўклюдны ў кароткім белым халаце. — Што вы ўсё пішаце? Я заўтра загадаю адабраць у вас сшыткі і ручку, калі вы не будзеце слухацца. Навошта вам гэтая пісаніна? Ці не ўспаміны вы пішаце? Навошта? Маладыя цяпер не вельмі імі цікавяцца.

— Эге ж, не скажыце, — адказаў Агнёў. — Можа і зацікавяцца. Добрых усё ж больш, як благіх...



— Гэта праўда, а толькі скажу я вам, і благіх нямала. Хоць бы гэта дзяўчынка. Чулі, мусіць, як яна тут лемантавала. Піяністка, савецкую школу канчала, а паслухалі б вы яе. Жах, за галаву схопішся. Яе дзед, бачыце, некалі свой млын меў, уласныя дамы. Мы некалі саромеліся вадзіць знаёмства з багатымі, а гаварылі пра іх са злосцю. А гэтая дзяўчынка расказвае пра свайго дзеда так, быццам учора ў яго гасцявала. Па рэстаранах ездзіць, віно п'е, дарагія падарункі прыймае. Адкуль гэта, Рыгор Яўхімавіч, на саракавым годзе савецкай улады паявілася?

— Такіх нямнога, — запэўніў Агнёў урача.

— Я і не кажу, што шмат. Мала іх, але вочы на такія з'явы закрываць не можна. Ёсць у нас, у медыкаў, такі тэрмін «дрэмлючая інфекцыя». Ходзіць чалавек, здаецца, здаровы, моцны. Потым трапіў у нейкія неспрыяльныя ўмовы, і пачынае яго з'ядаць інфекцыя. А ўсё таму яна праяўляецца, што калісьці ўрач загнаў яе ў цела, прыглушыў на час медыкаментамі, а вылечыць зусім не мог. Захварэў той чалавек сам і другіх заразіў.

Цікавіўся я сям'ёй гэтай дзяўчынкі. Бацька музыкант, на флейце іграе. Гэткі прыгнуты жыццём чалавек, хоць таксама не без прэтэнзій. Некалі ў джазах выступаў. Ясна: апладысменты, кветкі, жанчыны, выпіўка, гастролі па ўсёй Расіі і куча грошай. Цяпер у рэстаране працуе, ды і там, відаць, не ўтрымаецца. А жонка — гэткая модніца. Ёй за пяцьдзесят пераваліла, а ўсё яшчэ малодзіцца і на французскі манер у нос гаворыць. Увесь дзень ляжыць на тахце і старамодныя раманчыкі чытае, ды на мужыка пакрыквае: «Ніколя, у мяне зноў грошай не хапіла. Ты ж ведаеш, што я не магу жыць на тваю зарплату». Вось і бегае Ніколя ў пошуках халтуры. Ірве, дзе можна. І дачка ад маці вучыцца. Таксама на мужа пакрыквае. Добры такі хлопец, сумленны. Дзе ён грошай возьме. Толькі ж ёй яго заробку мала. Вось і шукае сама заробкі... Што гэта такое? Ачаг інфекцыі. Гора яно тут не вялікае, але прыходзяць да гэтай Лілі дзяўчаты, хлопцы, глядзяць на старыя бліскучыя цацкі, крыштальныя вазы і бамбаньеркі, розныя залочаныя флаконы і пудраніцы, відэльцы і нажы з вензелем і нямеюць ад захаплення — вось як раней жылі! А таго і не ўцямяць, што ўсё тое прапахла потам і крывёю іх дзядоў і бацькоў. Каб не рэвалюцыя, дык і яны самі гнулі б спіну, каб пані Адзелаідзе Сяргееўне Дашчынскай добра жылося і смачна елася.

Доктар нарэшце змоўк. Ён быў прыгожы ў гневе, гэты высокі, крыху няўклюдны доктар.

«Нашай загартоўкі чалавек,— з гордасцю падумаў Рыгор Яўхімавіч. — Не, не дарэмна мы ваявалі, калі навокал вось такія неспакойныя людзі, якім да ўсяго хочацца дацягнуцца».

— Я вас стаміў сваімі размовамі, але, ведаеце, накіпіць часам злосць на такую вось заразу, што плодзіцца побач з табой, атручваючы здаровае паветра. І што самае дзіўнае. У гэтай жа Адзелаіды Сяргееўны ёсць яшчэ старэйшая дачка, ад мельніка нарадзілася. Тая зусім іншая. Працавітая, сціплая. Ва ўсякім разе, жыццё яе матулі ёй не падабаецца. Я ўжо аднаго разу думаў, чаму гэта так? А пасля дазнаўся, што старэйшая дачка ў дзіцячым доме гадавалася, рана гора паспытала — вось таму і разумее жыццё.

— Вы іх, гэтых Дашчынскіх, даўно знаеце?

— Каля года. Нешта летась яны сюды пераехалі і ў нашым доме пасяліліся,— адказаў урач і, развітаўшыся, пайшоў важкай хадою.

Сястра ўжо тушыла святло на калідоры. То там, то тут успыхвалі сінія лямпачкі, асвятляючы бальніцу халодным, нежывым святлом. У палаце ўсе ўжо спалі. Рыгор Яўхімавіч паклаў сшытак пад падушку, прылёг на ложак паверх коўдры. Расказ урача ўзрушыў яго.

Рыгор Яўхімавіч цвёрда намерыўся заўтра ж пагутарыць з гэтай Дашчынскай. Падбіраў словы, самыя пераканаўчыя, шчырыя, стараўся іх запомніць. Потым прыгадаў, як некалі яго паслалі выступаць у «дзікую» дывізію. Чаму ж тады ён загадзя не думаў над сваёй прамовай? А яна ж яму ўдалася, хоць гаварыў ён яе не рыхтуючыся. Мабыць, вельмі прывык выступаць па-пісанаму. Не, палымянае слова нараджаецца імгнення, як маланка, і тады яно ўсё спапяляе на сваім шляху.

...Бальнічны дзень пачынаўся з абходу сястры. Нячутнымі крокамі ўваходзіла яна ў палату, будзіла хворых, рабіла ўколы, клала на тумбачку медыкаменты. Але Рыгор Яўхімавіч прачнуўся і ад гэтых мяккіх крокаў. Ужо вывіднела. Сястра, сагнуўшыся над хворым, уводзіла пеніцылін.

— Сястра,— паклікаў яе Агнёў,— як тая хворая, што ўчора прывезлі?

Сцепаніда Іванаўна выпрасталася, здзіўлена паглядзела на Агнёва.

— Спіце, яшчэ рана...

— Я пра хворую пытаюся...

Сястра махнула рукой.

— З-за яе мы ўсю ноч не прыселі нават. То ёй мулка спаць, то грэлка халодная, то занадта гарачая, то нехта вельмі моцна стогне, і яна, бачыце, не можа спаць. Адным словам, няньчыліся гадзін да чатырох. І сон яе не бярэ. На злосць не спіць. Павекі зліпаюцца, дык яна іх пальцамі падтрымлівае.

Паклаўшы шпрыц на крышку біксы, Сцепаніда Іванаўна выбегла з палаты. Артыстка ўсё больш цікавіла старога. Хто ж яна: проста дзіця мімалётнага капрызу ці сапраўды сапсаванае сям'ёй маладое жыццё? Хацелася хутчэй паглядзець на яе, і таму было ў гэтым жаданні нешта несур'ёзнае і смешнае. А час цягнуўся марудна.

Снедаць Рыгор Яўхімавіч пайшоў першы. За сталамі хутка сабраліся ўсе знаёмыя — актрысы не было. І запытацца пра яе недарэчна. Наспех паеўшы, Рыгор Яўхімавіч стаў быў хадзіць па калідоры. Але пачаўся абход. Трэба было ісці ў палату.

«Пільную яе, як хлапчук,— усміхнуўся Агнёў сваёй нецярплівасці.— А навошта? Знайшоўся бальнічны агітатар. Лепш вось бяры сшытак і пішы».

Заняўшы сваё звычнае месца ў закутку, Рыгор Яўхімавіч паглыбіўся ва ўспаміны. Яны ўзнікалі лёгка і былі такія яркія, выразныя, што толькі паспявай запісваць. Ад думак яго адарваў прыглушаны шэпт. Не паварочваючы галавы, ён зірнуў перад сабой на шыбіну прыадчыненага акна і ўбачыў у ёй, як у люстры, дваіх, што сядзелі на мяккім крэсле за яго спіной: дзяўчына ў крэсле, мужчына — на шырокім падлакотніку. Дзяўчына была тая піяністка. Рыгор Яўхімавіч не ведаў яе ў твар, але адразу зразумеў, што гэта яна. Кароткія валасы, на ілбе — грыўка, у вушах кліпсы, на пальцы пярсцёнак. Мультановы халат расшпілены да непрыстойнасці — відаць голая шыя і ружаваты бюстгалтар. Мужчына — у белым халаце. Пад халатам — вязаная кофта і клятчатая каўбойка.

Мужчына ўзяў руку дзяўчыны, пацалаваў. Калі ён прыгнуўся, у шыбіне бліснула лысіна.

— Дзякую, што вы прыйшлі. Мне не ставала вас.



— Няўжо вас так узрушыла ўся гэтая камедыя?

— Як ні кажыце, а ўсё ж няёмка.

— Божа, і вы яшчэ звяртаеце нейкую ўвагу на такія глупствы.

— Я і сама так думаю. Усё маці. Падумаеш, прадаў золата. Дык не, пабегла да дырэктара.

— Не звяртайце, дарагая, увагі. Спакой — даражэй за ўсё.

Мужчына зноў дасканалым, завучаным жэстам паднёс руку да вуснаў.

Агнёву робіцца няёмка і за іх і за сябе. Навошта яму слухаць чужыя прызнанні. Трэба пайсці. Але чаму яны селі тут? Хіба не было іншага месца? Мабыць, яны не звяртаюць увагі на нейкага старога, што ўнурыўся ў вучнёўскі сшытак.

— Я хачу з вамі параіцца, мой друг, як мне быць далей?

— Гэта беспаваротна?

— Я думаю. Мы з ім розныя людзі. Калі б вы толькі ведалі гэтую вытворчую нуду. Разцы, планы, першыя месцы, спаборніцтвы, бясконцыя размовы пра паточны метад, эканомію, прадукцыйнасць. Вы не ўяўляеце нават, як усё гэта абрыдла ў першы ж месяц замужжа.

— Ну, дарагая, але ж гэта само сабой разумеецца...

— Вам лёгка казаць. А мне як было слухаць. У мяне ад размоў пра гэтыя метады пачыналіся колікі. Божа мой, думала, да чаго я дайшла.

— Але ж...

— Я ведаю, што вы скажаце. Не трэба. Толькі я ніколі не думала, што ён перапоўнены нечым сваім, як да краёў налітая шклянка. Мне ўяўлялася ўсё інакш. Зрэшты, ён мог стаць сапраўды інтэлігентным чалавекам. Дык ён задумаў пераходзіць у адсталую брыгаду. А што там будзе? Капейкі. На гэтым мы і пасварыліся канчаткова. Пытаюся ў яго: «А потым што будзе?» Дык ён, ведаеце, смяецца. «Потым,— кажа,— зноў у адсталую перайду». І пяройдзе. Яму нічога не трэба.

— І ўсё ж...

— Я разумею. Але ў мяне ёсць такі друг, як вы,— дзяўчына пазірае знізу ўверх какетліва, задзірліва,

Рыгор Яўхімавіч, ледзь стрымліваючы сябе, глядзіць на шыбіну, у якой адлюстроўваюцца дзве постаці. І раптам нешта няўлоўна знаёмае вымалёўваецца ў гэтым тонкім дзявочым профілі. Нейкая даўно забытая дэталь. Каго са знаёмых напамінае гэты профіль? Памяць адмаўляецца падказаць, напомніць. Плывуць перад вачамі твары блізкіх людзей, але ўсе яны зусім не падобны на гэты. Тонкія, далікатныя абрысы твару, тонкі нос з гарбінкай, тонкія вусны і маленькія, праніклівыя вочы. Калісьці ён бачыў жанчыну, якая падобна да гэтай піяністкі. Даўно. А можа нядаўна? Тоненькая нітачка ўспамінаў абрываецца.

Рыгор Яўхімавіч асцярожна, каб не заўважылі, паварочвае галаву, скошвае вочы. У дзяўчыны светлыя з рыжымі падпалінамі валасы, чорныя бровы і чорныя вочы. «Фарбаваная»,— мільгае абыякавая думка. Дзяўчына пазірае знізу ўверх на хлопца. У яе вачах бліскаюць чырвоныя агеньчыкі. Магчыма ад сонца, што свеціць на іх. Яна падымае руку і абыякава, з лянотай гладзіць мужчыну па галаве. Зноў нешта знаёмае ў яе руху. І тады яскрава ўзнікае ў памяці другі твар, такі ж напышлівы, фанабэрысты — твар жонкі Сяргея, сярэдняга сына пана Залуцкага — худой, чорнай Вікторыі Леапольдаўны. Агнёў паспешліва размотвае нітку ўспамінаў. «Доктар казаў, што яе матка Адзелаіда Сяргееўна... Няўжо яна дачка Сяргея Сяргеевіча Залуцкага? Тады Ліля — яго ўнучка. Унучка Вікторыі Леапольдаўны. Адзіны нашчадак паноў Залуцкіх. Няўжо яна?» Цяпер Рыгор Яўхімавіч глядзіць на дзяўчыну, не адчуваю-

чы няёмкасці. «Гэта ўжо не перажытак,— усміхаецца ён,— а цэлы панскі недабітак».

І таму, што «недабітак» гэты — кволая дзяўчына, яму неяк і смешна і горка. Сустрэцца праз колькі гадоў з апошнім магіканам роду Залуцкіх. Куды не прыводзяць шляхі. Хто ж гэты мужчына? Ці ведае ён, хто такія Залуцкія? Мабыць, ведае. А можа і сам з паноў ці кулакоў? Толькі ці абавязкова ў адных нашчадкаў вось такія думкі, брыдкія, чужыя. Прыгадаўся адзін даўні выпадак. У трыццатым годзе даводзілася раскулачваць былога батрака Лявонка, з якім некалі разам гнулі спіну на Братка. Той таксама тады лаяў Агнёва, камісараў і ўсю Савецкую ўладу. Быў батрак, а разбагацеў, забыўся на лапці, спаліў калгасны хлеў — стаў ворагам. Толькі той быў адкрыты вораг. А гэта? Ці вораг ён? Ворагам яго не назавеш. А размовы варожыя. Цяпер гэта перажытак мінулага. Вось і паспрабуй з ім змагацца. Мабыць, такія думкі яны не выказваюць пры народзе. Палічылі, што я глухі. Ні разу не павярнуўся ў іх бок.

— Вось і Рыгор Яўхімавіч на сваім сталым месцы,— чуваць голас палатнага ўрача, і адразу ў закутак уваходзяць Нічыпар і Кветны. Доктар спыняецца ля Дашчынскай, пытае ў мужчыны:— А вам хто, дарагі таварыш, дазволіў спатканне?

«Дарагі таварыш», разваліўшыся, адказвае:

— Галоўны ўрач дазволіў...

— Ясна... Дык вось, зараз жа пакіньце клініку. Ведаю я, хто вам дазволіў: вахцёр. І вы, хворая, ідзіце ў палату. Вам ляжаць трэба.

Дашчынская прыўзнімаецца, віхлястай паходкай ідзе за мужчынам. Агнёў сурова хмурыць бровы. Цяпер у яго няма сумнення, што гэта ўнучка сярэдняга сына пана Залуцкага, Сяргея. Таму прыкра і неяк моташна. Быццам паднёс нехта да твару агіднага слімака.

Не, ён яшчэ пагутарыць з гэтай дзяўчынкай. Ён тыцне яе носам у брыдоты старога свету, якія ёй здаюцца раскошай. Што яна ведае пра яго? Яна ўбачыць справы сваіх далёкіх родзічаў ва ўсёй іх агіднасці, і тады разляціцца ўшчэнт яе фанабэрыстасць, прыдбаная напракат з нейкай кінакарціны. Трэба толькі ў запісках шырэй расказаць пра паноў Залуцкіх. А хацелася абысці іх. Не, абысці іх не можна. Яны даўно ўжо згнілі, але інфекцыя захавалася. Перажыткі мінулага. Так, так, перажыткі. Панская лянота і халопская дагодлівасць, абыякавасць і злосная помста, разбэшчанасць і баязлівасць, вера ў бога і таптанне ўсяго жыцця — усё ідзе ад іх, ад паноў Залуцкіх. Няхай убачыць гэтая дзяўчына, як стагоддзямі яны калечылі душу чалавека, вытраўляючы з яе ўсё жывое. Няхай пабачыць тую вёску, з агіднымі звычаямі і непрасветнай цемрай. І калі чалавек стаў чалавекам, дык гэта адбылося наперакор панам Залуцкім.

Усё яшчэ смеючыся, госці вялі размову.

— Ого, гэтая дзяўчына далася нам у знакі,— казаў доктар.— Прымусіла ўсіх бегаць ля сябе. Нічога не зробіш — актрыса. Кажуць, нейкі талент.

Рыгор Яўхімавіч моўчкі паглядзеў на іх. Відаць, у яго позірку было нешта незвычайнае, бо доктар адразу змоўк, хоць хацеў яшчэ нешта сказаць.

— Калі б вы ведалі, што гэта за дзяўчына,— ён бачыў, што ўсе зацікавіліся, падышлі бліжэй.— Гэтая Ліля Дашчынская — дачка дачкі Сяргея Залуцкага, нейкай Адэлаіды Сяргееўны... Ну, вось... А вы кажаце...

Усе палічылі, што Нічыпар проста змарыўся. Ён неяк няёмка сагнуўся ў каленях, боўтнуўся ў крэсла, дзе толькі што сядзела Дашчынская.

— Ну, ды пра яе хопіць. Расказвайце, таварыш Кветны, пра навіны. Можа, пра ўнука пачулі?



## Раздзел пяты

### *Дзень восьмы*

Зімой вёска падобна да вялізнай бярлогі, у якой неспакойна спіць галодны мядзведзь. Сцюдзёныя сіверы занеслі снегам прысады, хлявы і гумны, перамялі вузенькія вулачкі, схавалі пад тоўстай шэранню сялянскія шнуры — цяпер навокал нічыйная прастора. На досвітку, калі ржавай зарой пакрываецца край неба над Абухаўскім лесам, пачынаюць курыцца хаты. Шызы дымок неахвотна распаўзаецца ў марозным паветры. Чырванаватым святлом паблісквацць маленькія акенцы, затканыя дзівоснымі ўзорамі намаразі. Зрэдку па сцежцы, што пракладзена сярод гурбаў снегу, прапаўзе мужчына, захутаны ў белы кажух, ці жанчына, падобная на капу леташняга парудзелага сена. Тады ля студні, што прытулілася ў маленькім раўку, пранізліва рыпіць журавель. Часам на двор выбягаюць басаногія дзеці, каб памясіць снег чырвонымі, як у бусла, нагамі, а заадно зрабіць тое, дзеля чаго рана ці позна, але даводзіцца пакідаць гарачы чарэн печы.

Пуста і няўтульна. У платах палускае мароз, ды недзе далёка за балотам вые воўк. Здаецца, вёска сабралася паміраць. І няма ёй ніякай справы да зямнога тлену. Але так здаецца толькі знадворку. У пракураных, цёмных хатах несціхана ідзе барацьба за жыццё. Галоднай хваткай учапілася ў біла кроснаў баба, стукаюць набіліцы, лётае чаўнок, няспынна гудзе самапрадка. Мужчына гне палазы ці робіць клёпку, прывалокшы на сабе з панскага лесу асінавы кругляк. Дзеці таўкуць у ступе ячмень, дамолваюць на жорнах жыта, сукаюць ніткі, гушкаюць крыклівых малых. У кожнага ёсць свой занятак, надакучлівы, сумны, але неабходны.

Толькі ў нашай хаце ціха, як на могілках. Я не ведаю, да чаго прыкласці рукі. Красці лес і рабіць з яго дзежкі ці бочкі я не ўмею. Можна было б прасці воўну ці кудзелю — гэтаму мяне навучыла Тарасіха. Але дзе іх возьмеш? Прывыклы да цяжкай работы ў Тараса Тарасавіча, я сумую, адчуваю сябе надзвычай няёмка. Я не магу сядзець склаўшы рукі. Гэта палохае мяне, наводзіць на сумныя роздумы. Мне здаецца, што ўся беднасць нашай хаты залежыць ад майго гультайства. Пакуль Ганначка паліць у печы, я іду да свайго хроснага, дзядзькі Макара.

Хросны сядзіць на ўслоне, пляце лапці. Выслізганы павірак мільгае ў Макаравых руках.

— Здароў, хросны,— вітаецца Макар, не спыняючы сваёй работы. — Ну, што, пане-браце, не сядзіцца ў хаце? Хлеб яшчэ не даеў? Тады гора не вялікае. Гора, калі мышы ад голаду з хаты пачнуць уцякаць.

— Чаго ты ашчэрваешся, недалуга праклятая, — налятае на хроснага Макарыха. — Знайшоў з чыёй беднасці кепікі строіць. На сябе лепей паглядзі, немач барадатая.

Макар кідае даплецены лапаць на падлогу, дастае з прыпечка лісты тытуню, трэ іх у далоні. потым, не спяшаючыся, набівае люльку.

— Падай вугольчык, — кажа ён жонцы.

— А каб цябе з тваім курывам. Задыміў усю хату зеллем гэтым праклятым, — бурчыць Макарыха, але агонь падносіць.

— Што ж ты думаеш далей рабіць? — пытае Макар, пазіраючы на мяне сваімі жаўтаватымі вачамі.

— Не ведаю нават,— адказваю я,— жыта да вялікадня хопіць, а пасля хоць торбу бяры. І так ужо напалам з мякінай хлеб пячом.

— Кепская, пане-браце, справа. Вось табе і зямля. Думалася некалі мужыку, што як атрымае ён зямельку, дык яму сам чорт не страшны. Аж праўду кажуць: пакуль пан ссохне, дык мужык здохне. Мужыку ўсё адно палёгкі не атрымалася.

— Не ўсім, лабідуда ты бязмозглы. Хто галаву на плячах мае, той абжыўся ўжо, — злосна крычыць Макарыха.

Хросны не звяртае на яе ўвагі. Ён гне сваю лінію.

— Яно, канешне, сумленна не нажывеш каменных палацаў. Толькі ж бог, ён усё бачыць. Яго не абдурыш. Вось як бы так наладзіць жыццё, каб і багатым быць і грахамі не абвесіцца. Эге ж! Паспрабуй абыдзі грэх.— Хросны крута мяняе размову.— А што, пане-браце, калі табе ў маёнтак падацца. Чуў я, што паненка Ксеня шукае сабе фурмана маладзенькага. Можа якраз і падышоў бы ты ёй.

Я і сам падумваў ужо над тым, каб знайсці дзе-небудзь работу, хоць бы да вясны. Думаў, але пабойваўся: на каго кінуць Ганначку і Зміцерку?

— Ці не здурэў ты, чалавек!— акрысілася на Макара жонка. Куды ты хлопца скіроўваеш. Няхай за зямлю трымаецца. Няма чаго яму на панскае распуства глядзець.

Словы Макарыхі насцярожылі мяне. У іх чулася пагарда да паненкі і намёк на нешта бессаромнае, што адбывалася ў панскім маёнтку. Шчыра кажучы, такія-сякія чуткі даходзілі да мяне. Уявіць, аднак, тое, пра што расказвалі, было цяжка. Распуста мне ўяўлялася ў выглядзе маладой, азызлай салдаткі Матруны, якая часта валялася пад плотам ля карчмы, бессаромна задраўшы спадніцы. Такая распуста ніяк не пасавала да паненкі, якую я аднаго разу бачыў у паддубскай царкве. Паненка была высокая, белатварая, чарнавалосая, у доўгім белым плацці. Яна пакорліва стаяла на каленях перад «царскімі варотамі» і на яе вачах паблісквалі слёзы.

— Галаву меўшы, дык баяцца няма чаго. А плаціць яна добра. Ды людзі і нагавораць. Языкі ім не завяжаш, — раздумліва між тым гаварыў хросны. — Паспрабаваць усё ж можна. З коньмі ты зладзіш. Вось і згаджайся. А дзяцей жонка мая дагледзіць.

Доўга думаць не было калі. Аднае раніцы, калі вільготны заходні вецер прынёс адлігу, хросны і я накіраваліся ў маёнтак.

Было прадвесне. Яшчэ моцна ціснулі маразы, але днём прыгравала ўжо сонца. Добра ўезджаная дарога паблісквала сырасцю. Дзе-нідзе наздрыўся спрасаваны зімовымі завеямі снег. Цяпер ён ужо не рыпеў пад нагамі, а глуха пахрумстваў. Сіняе неба павышэла, ачысцілася ад хмар. Здавалася, свет раздаўся ўшыркі і ў вышыню. Мабыць ад таго я адчуваў нейкую незвычайную лёгкасць. Нават было весела.

Панскі маёнтак стаяў адразу ж за лесам. Гэта быў вялікі белы дом на два паверхі, абнесены чыгуннай агарожай. За ім віднеўся другі, драўляны, на высокім цагляным падмурку. Направа ад маёнтка распластаўся па зямлі нізкі цагляны хлеў. Побач з ім барак для чэлядзі. Налева, на пагорку ўзвышалася капліца — сіняя з залатым крыжам цэркаўка. Казалі, што на гэтым месцы быў забіты на дуэлі родны брат старога пана Залуцкага.



Праз невысокую брамку мы ўвайшлі на двор і адразу накіраваліся ў флігель, дзе цяпер жыла паненка. Маладзенькая пакаёўка з нахабнымі вачыма сустрэла нас у пярэдняй.

— Вам каго? Ногі хоць бы абтрэслі. Мужыкі няшчасныя, лезуць ні свет ні зара.

Яна крывіла вусны, а сама пазірала на мяне і ўсміхалася.

— Прачулі мы, што пані фурман патрэбны, вось і прыйшлі, можа яна возьме гэтага хлапчука, — хросны зняў шапку, перахрысціўся на абразы.

— Сын твой, ці што?

— Не, сірата ён. Суседа майго сын.

— Пані каву п'е. Але я далажу.

Пакаёўка пайшла. Мы стаялі ў парозе. Пасля доўгай хады мне хацелася прысесці, але пабаяўся — раптам зойдзе паненка.

— Яно, пане-браце, нашаму брату мужыку служыць зусім не выпадае. Але што ты зробіш, калі кругом нявыкрутка. Можа вясной дні на тры адпросішся, зямлю засееш. А там паглядзіш, спадабаецца — застанешся да наступнай вясны. Не — кінеш.

Зноў паявілася пакаёўка, павяла нас да паненкі. Тая сядзела на нізкім крэсле, захутаная ў тонкую карункавую хустку. Калі мы зайшлі, паненка паднесла да вачэй ларнетку, доўга глядзела на нас з хросным.

— Падыдзі, мой друг, бліжэй, — сказала яна. І я нясмела зрабіў тры крокі. — Колькі табе гадоў?.. О, на свой узрост ты занадта моцны і высокі.

Я стаяў, апусціўшы вочы. Было ў яе бессаромным разглядванні маёй асобы нешта крыўднае і абразлівае. Спадылба я бачыў падол ружаватага плацця і носікі залацістых чаравікаў.

— Чаму ты кідаеш зямлю і ідзеш служыць?

Макар не даў мне адказаць:

— Ён, пані, сірата. Гаспадарка бедная, а апрача яго — двое дзяцей. Карміцца неяк трэба.

— Табе будзе не блага ў мяне. Вядома, калі будзеш слухацца.Ты — паслухмяны?

— Вады не замуціць, пані, — зноў адказаў Макар.

— Плата ў мяне пастаянная.

Я чуў, як хросны пераступіў з нагі на нагу, кашлянуў.

— Мо' пані задатак дала б. Дзецям есці трэба.

— Вось пакуль што, больш не дам, — я падняў галаву. Пані працягвала паперку. Я ўзяў грошы і адразу перадаў хроснаму. — Ты можаш ісці, а ён застанецца.

— Слухайся ж паню, ды пра дом не забывайся, — сказаў Макар і выйшаў.

Я застаўся сам-насам з паненкай.

— Насця, — паклікала паненка пакаёўку. — Зараз жа няхай памыецца. Усё, што на ім, спаліш. У гумне, здаецца, вісіць паляўнічы касцюм пана Канстанціна. Няхай адзене яго... Як цябе завуць? Рыгор? Добра, я цябе Юрыем зваць буду. Потым зойдзеш да мяне...

Так я стаў фурманам у пані Залуцкай. Увечары таго ж дня я запрагаў ужо коней на панскім двары. Стары конюх у аблезлым заечым трывуху стаяў, прыхіліўшыся да шулы, пазіраў, як я ўпраўляюся з вупражжу.

— Малайчына, відаць, гаспадарскі сын, — пахваліў ён мяне, калі коні былі запрэжаны. — Толькі скажы, калі ласка, чаго цябе да гэтай драндулеткі папёрла?

— Сірата я.
— Яно і відаць. Толькі не надта ўлягай. Малады ты яшчэ і неразумны. Багацце асляпляе.
Я не разумеў, пра што кажа конюх, а запытаць было боязна. Мо' паненка хоча выведаць, ці балбатлівы я?
Паненка ўжо стаяла на ганку, нецярпліва пастуквала высокімі абцасамі чаравікаў. Я падагнаў сані пад самы флігель, адгарнуў футравую папону. Так рабілі тыя ліхачы, што аднаго разу прывозілі паноў у нашу карчму.
— А ты паслужлівы, — здзівілася паненка майму спрыту. Пакорпаўшыся ў муфце, яна дастала рубель. — Вось табе на чай, за спрытнасць.
Я быў узрадаваны. Рубель за тое, што адгарнуў папону. Так не доўга і разбагацець. Трэба толькі дагаджаць.
І я стараўся. Здаецца, сказала б паненка: нясі мяне — і я панёс бы. Хацелася хутчэй разбагацець, заявіцца ў вёску сталым, незалежным ад беднасці чалавекам.
Надакучала толькі пакаёўка Насця. Я адчуваў пры ёй дзіўную ніякаватасць і нават разгубленасць. Часам, калі паненка ішла да брата ў дом, а Насця заставалася ў флігелі, яна прыходзіла ў мой пакой — маленькі закутак ля кухні.
— Фу, — моршчыла яна свой і без таго маленькі носік, — у цябе конскім потам смярдзіць.
Я добра ведаў, што ў маім пакоі пахне кухняй, але не спрачаўся і толькі чырванеў. Насця расшпільвала цесны жакет з высокім каўнерыкам, насмешліва пазіраючы на мяне, садзілася побач на ложак. Я крыху адсоўваўся. Тады яна хапала мяне за шыю і знарок моцна прыціскала маю галаву да сваіх грудзей. Я адбіваўся, а Насця, задраўшы галаву, заходзілася ад смеху.
— Ну і цялё ты. Дзевак баішся.
Дзевак я не баяўся. Але мне было няёмка ад яе бессаромнасці. Вясковыя дзяўчаты ніколі такога сабе не дазвалялі. А Насця магла выкінуць любы жарт.
— Дай руку, — загадала яна аднойчы мне, а калі я падаў, сказала: — А цяпер заплюшчы вочы.
Я зажмурыўся. Насця прыціснула руку да сваіх грудзей і раптам кінулася мне на шыю, пачала цалаваць. Гэта было так нечакана, што я, разгублены, ускочыў і з усяе сілы штурхануў яе.

### *Дзень дзевяты*

У той жа вечар мяне паклікала паненка. Я ішоў да яе ў пакой і дрыжэў за сваю будучыню. Думаў, што Насця напляла чаго-небудзь брыдкага і цяпер мяне звольняць з працы.
Паненка ляжала з кніжкай у руцэ. Вялізная, уся са шкла лямпа ярка асвятляла пакой. Я ледзь не аслепнуў. Жмурыў вочы, няёмка тупаў на месцы.
— Падыдзі, мой любы, бліжэй. Сядзь вось тут, на гэтую канапку. Мне трэба пагаварыць з табой.
«Паскардзілася, — падумаў я, праклінаючы Насцю. — Няхай жа і пані ўсё ведае, як яе пакаёўка лезе да мяне са сваімі любошчамі».
Але пані павяла зусім іншую гаворку.
— Мне трэба было сурова пакараць цябе за хлусню, — пачала яна,



як толькі я сеў. — Чаму ты маўчаў, што з'яўляешся сынам Братковай парабчанкі Макрэны?
Мне адразу ўспомніліся расказы крываротага Ігната Бубулькі, якім я тады мала верыў. Гэта насцярожыла мяне.
— Вы не пыталіся, чый я сын, — адказаў я.
— Магчыма і так, але табе трэба было самому сказаць пра гэта. Ці ведаеш ты, хто твой бацька?
— Яўхім Пазнячонак.
— Ты нічога не ведаеш? Ці можа хітруеш? Ва ўсякім разе, табе трэба ісці дамоў. Я паклапачуся, каб табе была аказана дапамога.
Не ведаю, што мяне прымусіла тады запытацца:
— Дык хто ж мой бацька? Ваш брат?
Паненка ўспляснула рукамі. Кніжка звалілася на падлогу.
— Ты ўсё ж ведаў? Гэта вялікі грэх хаваць ад сваіх блізкіх такія тайны. Але ты вялікі і зразумееш мяне. Мой брат, Канстанцін Сяргеевіч, зрабіў некалі недаравальнае глупства. Урэшце, не будзем судзіць яго надта строга. Ты сам малады, і я чула, што забаўляешся з Насцяй. Я не супраць, мой дарагі.
Мне хацелася крыкнуць: няпраўда, але язык чамусьці прысох да паднябення. І я маўчаў. Паненка ж прадаўжала гаварыць.
— ...Ты, вядома, не маеш права на наш маёнтак. Але было б грэшна пакінуць цябе ў беднасці і нястачы...
— Пані, — запінаючыся, перабіў я гаспадыню, — я прашу вас пакінуць мяне хоць бы да вясны. Інакш мне не будзе чым сеяць зямлю...
Паненка падумала. Відаць, нешта ўразіла яе ў маёй просьбе. Я ж толькі думаў аб адным, як бы стаць на ногі, выбрацца з той беднасці, на якую асуджаны я, сястра і брат. Маё «высакароднае» паходжанне зусім не турбавала мяне. Наадварот, было горка і крыўдна, што плёткі аказаліся праўдай.
— Бадай што твая просьба лагічная. Не трэба рабіць шуму. Ну што ж, заставайся, а я параюся з Аркадзем Сяргеевічам.
Але доўга на гэтай рабоце я не затрымаўся. Не ведаю чаму, можа прычынай гэтаму была мая размова з паненкай, толькі пачала расці ў маёй душы страшэнная непрыязнасць да паненкі і асабліва да яе брата Аркадзя. Хутка я ненавідзеў яго так моцна, як толькі можа ненавідзець чалавек. Мне хацелася кінуць ім у вочы нейкае цяжкае абвінавачванне, абразіць іх апошнімі словамі. Цяпер, калі паненка давала мне рубель або траячку, я ладзьве стрымліваў сябе, каб не сказаць штонебудзь крыўднае.
Урачыстая цішыня дома не ашуквала больш мяне. Я добра ведаў, што пан Аркадзь жыве з пакаёўкай сваёй сястры, што яго жонка двойчы ўцякала з афіцэрамі драгунскага палка, што паненка Ксеня кідаецца на шыю кожнаму пану, які прыязджае ў госці. Навокал была тая распуста, якая ўяўлялася мне ў вобразе п'янай салдаткі Матруны. Яна была не такая аголеная, а схаваная за знешняй прыстойнасцю, і тым больш агідная. Агідная таму, што мне ўяўляліся яе вынікі: пазбаўленыя бацькоўства дзеці. Мусіць, гэта і засцерагала мяне ад сапсаванай Насці і другой маладзенькай дзяўчыны, кухарчынай дачкі, якая толькі яшчэ пачынала сваё жыццё.
Аднак усю сапраўдную разбэшчанасць мне давялося пабачыць крыху пазней, на тое ж самае свята, якое я збіраўся два гады назад справіць разам з пастухамі і якое мне не давялося адзначыць, бо памёр бацька.
Вёрст за трыццаць ад маёнтка Залуцкіх знаходзіўся мужчынскі ма-

настыр. Кожны год на Міколу манастыр наладжваў кірмаш. З усяго наваколля туды з'язджаліся паны, купцы, мяшчане.

Яшчэ напярэдадні туды паехаў і я з паненкай. Вялізны манастырскі сад аглушыў мяне неўтаймаваным крыкам галак. Залатыя купалы царквы здзівілі сваёй раскошаю. А ўрачыстая цішыня і мноства свечак — сваёй прыгажосцю. На хорах спявалі суровыя манахі, вялізны чорны дыякан узрушаў царкву магутным басам, а нізенькі худзенькі поп, падняўшы рукі перад аналоем, здавалася, хацеў узляцець на неба, дзе сярод мноства зорак сядзеў на калясніцы бог.

З царквы я выйшаў апошні. Кірмаш кончыўся. Людзі раз'язджаліся. Трэба было і мне запрагаць коней. Яны стаялі на заднім двары. Я ішоў паволі. Было цёпла і нават парна. Над возерам за манастыром клубіўся туман. Пахла зямлёй, набрынялай веснавымі сокамі. Ад таго прыбаўлялася маркоты. Неяк прыпомнілася размова з Аўгінкай, яе жаданне пайсці ў манастыр, і я падумаў, што ці сапраўды адзінае спакойнае месца на зямлі тут, сярод тых пеўчых, што так прыгожа ўслаўлялі бога.

Цяпер я дзіўлюся, чаму на кожную маю думку жыццё давала адказ? Чаму яно няўмольна скіроўвала мяне да аднаго? Няўжо таму, што брыдот старога свету было болей, чым быльнягу на задворках маёй сядзібы? Мабыць таму...

Стары і, відаць, вечна п'яны конюх-манах, аднавокі і страшны, як чорт, што быў намаляваны на паперці паддубскай царквы, ляжаў на саломе, гугнявячы нейкую непрыстойную песню. Убачыўшы мяне, ён ускочыў на крывыя ногі, шырока расставіўшы іх, пайшоў мне насустрач. Ад яго несла гарэлкай і часнаком. Ухапіўшы за палу паліто, ён горача зашаптаў мне на вуха:

— Што ёсць грахоўная сувязь? Агонь, які спапяляе ўсё на зямлі. Бойся, сын мой, бабы, бо гэта і ёсць змяя лютая, што ўвергла Адама ў грэх вялікі. А вось гэта богу ўгоднае, бо сказана ў пісанні божым: ды ўвесялім душы нашы, — з гэтымі словамі манах выцягнуў з шырачэзнай кішэні бутэльку.

Я ўпіраўся, але манах настойліва цягнуў мяне ў дальні кут. Там ляжаў ахапак жытняй саломы, а на палічцы — хлеб, гуркі і ладны кавалак сала. Другую бутэльку манах выцягнуў з-пад саломы.

— Піце і весяліцеся, бо злічаны дні вашы, — таямніча сказаў ён.

Мы селі, выпілі па конаўцы. Манах зусім сп'янеў. Вёрз нейкую лухту, спрабаваў крычаць песню, але тут жа заціскаў рот рукой. Цямнела. Манах запаліў свечку, паставіў яе ў начоўкі з вадой. Наліўшы ў конаўку гарэлкі, зноў выпіў. Мне стала надакучаць яго п'яная балбатня.

— Мне трэба ехаць, — сказаў я.

Манах разявіў рот, ухапіўся за галаву. У яго горле нешта забулькацела. Я зразумеў, што ён рагоча.

— Чаго ты? — не вытрымаў я.

— Бо смешна глядзець на дурняў. Хадзем на двор. Толькі памажы мне падняцца.

Манах ледзьве стаяў на нагах. Спатыкаючыся, падаючы, мы нарэшце выйшлі на двор. У келлях запальваліся агні.

— Бачыш вунь тое акно, вуглавое. Дык вось, там сёння малебен пакі-пакі спраўляць будуць. Нікуды твая паненка не паедзе. Хочаш, паспрачаемся: стаўлю гарнец гарэлкі супраць адной бутэлькі, што не паедзе. Пасля поўначы глянь у акно, сам упэўнішся. Ну, дык як?..

Я падумаў, што манах зусім страціў розум ад гарэлкі, пайшоў



у людскую. Паненка ляжала на лаўцы і, як гэта ні дзіўна, не збіралася ў дарогу.

— Юры, — клікнула яна мяне, — я нешта захварэла. Давядзецца, відаць, пераначаваць. Табе ўсяго хапае? А то я загадаю, дык прынясуць.

Я падзякаваў. Цікавасць пачала разбіраць мяне. Няўжо манах не хлусіў? Што яшчэ за малебен могуць служыць манахі ўночы, калі нікому, апрача паненкі, на ім не дазваляецца прысутнічаць.

Ноч паволі ахутвала зямлю. Стары манах спаў. Ад моцнага храпення ўздрыгвалі коні. Я сеў на камень. Ля возера ў кустах спявалі салаўі. За возерам у вёсцы брахалі сабакі. Недзе далёка-далёка грымеў першы нясмелы гром. Бліскавіц, аднак, не было. Манастыр узвышаўся чорнай аграмадзінай, дзе-нідзе яшчэ свяціліся вокны, але хутка свечкі пагаслі — наступіла непраглядная чарната вясновай ночы.

«Ашукаў мяне манах, — падумаў я. — Трызніцца п'янаму чорт-ведама што, а я, дурань, веру». Але ісці ў людскую не хацелася. Прыгадаліся іншыя ночы, начлег пад зорным небам, Аўгінка, — усё, што было добрае ў жыцці. Ніколі, бадай, не адчуваў я сябе такім адзінокім і закінутым, як цяпер. Было сумна і неяк хораша.

Манастырскі вартаўнік стукнуў у калатушку. Прапаўзла яго невыразная, як здань, постаць і знікла. Відаць, пайшоў спаць. Яшчэ зачыніць дзверы, і тады я астануся на двары. Я падняўся з цвёрдым намерам ісці спаць... Вуглавое акно засвяцілася.

Я пайшоў крадком, як злодзей. Што цягнула мяне? Відаць, хлапечая цікаўнасць.

Да акна высока. Гладкая, як стол, сцяна была слізкая. Няўжо я так і не ўбачу таямнічага малебна? Успамінаю, што ў канюшні стаіць драбіна. Цяпер я спяшаюся, каб не спазніцца. А раптам малебен скончыцца.

Драбіна цяжкая, дубовая, зроблена, відаць, на векі. Асцярожна прысланяю да сцяны, пачынаю паволі ўзбірацца. Каб зазірнуць у акно, трэба стаць на апошнюю перакладзіну, учапіцца рукамі за карніз.

З келлі сапраўды далятаюць прыглушаныя спевы. Гэта яшчэ больш абуджае маю цікаўнасць. Нарэшце рукі хапаюцца за выступ, паціху адnымі наскамі станаўлюся на перакладзіну. Цяпер можна зазірнуць і ў акно.

Спачатку мне відаць толькі мноства яркіх свечак. Яны гараць усюды. Потым я заўважаю манахаў. У кожнага з іх кадзільніца. Яны ходзяць вакол чагосьці накрытага белым і спяваюць. Але чаму на іх тварах няма той сур'ёзнасці, якую я запрыкмеціў днём? Манахі рагочуць, ходзячы гуськом, і бязлітасна махаюць кадзіламі. Потым яны падыходзяць да белай «здані», кладуць на яе рукі, прытанцоўваюць і крычаць. Белая прасціна паўзе некуды ўверх, паволі агаляючы тое, што схавана пад ёй. Мне здаецца, што я сплю і бачу страшны сон. Пад прасцінай — паненка. Яна зусім голая, і валасы распушчаны, як у русалкі. Манахі кідаюць кадзілы і пачынаюць скакаць вакол яе.

За доўгае жыццё мне не раз даводзілася бачыць брыду чалавечых узаемаадносін. Але тое, што ўгледзеў цяпер, не толькі выклікала агіду — яно раскрыла вочы на крывадушнасць і подласць тых, хто ставіў сябе над намі.

Я вёз паненку і ўжо добра ведаў, што ніколі больш не буду служыць ёй. «Што яна зробіць, — думаў я, — калі сказаць ёй пра тое, што ўчора давялося мне ўбачыць?» Гэтае жаданне не давала спакою аж да самага маёнтка.

Багамолку выйшлі сустракаць абодва браты і нявестка. Паненка дала кожнаму па прасвірцы і, закочваючы пад лоб вочы, пачала расказваць пра абедню, кірмаш, пра незвычайную святасць нейкага айца Нікадзіма, а я стаяў і смяяўся гучна, на злосць.

— Чаго ты выскаляешся? — цыкнуў на мяне старэйшы з паноў.

Я зарагатаў яшчэ мацней. Цяпер ужо на мяне паглядзела паненка:

— Юры, хіба можна парушаць святасць непрыстойным смехам. Такой абедні, такога хору я даўно ўжо не чула ў Мікольскім манастыры.

— Асабліва ноччу ў вуглавой келлі...

Паны стаялі збянтэжаныя. Задаволены гэтым, я павярнуўся і пайшоў збіраць свае рэчы.

## *Дзень дзесяты*

Зноў я ў Тараса Тарасавіча. Ганначка пасвіць кароў у брата майго гаспадара — Яўмена. А Зміцерка на сірочым хлебе ў старасты, які ўзяў яго да сябе за тое, што засявае мой надзел. Трэці сноп з надзелу мой. Я ўсё яшчэ спадзяюся зарабіць грошай, купіць каня і, нарэшце, стаць гаспадаром.

Цяпер у хаце гаспадарыць Аўгінка. Тарасіха памерла на прадвесні. Аўгінка стала зусім дарослай дзеўкай. Калі я першы раз зайшоў у хату, яна пачырванела і хуценька схавалася за печчу. Я таксама адчуваў сябе няёмка, хоць, шчыра кажучы, радаваўся сустрэчы.

— Чаго за печ схавалася? — усміхнуўся гаспадар, але неяк злосна. У яго ўсмешцы я заўважыў штосьці новае.

Жыццё навучыла мяне глядзець на людзей больш цвяроза. І ўсё ж мне думалася, што гаспадар будзе гараваць па жонцы. А ён нібы памаладзеў і ўсё больш старанна расчэсваў шырокую бараду. Новы работнік Максім Барысёнак, цельпукаваты мужчына, кладучыся спаць на леташнім сене пад паветкай, таямніча паведаміў мне:

— Паглядзіш, і месяца не пройдзе, як ён прывязе новую жонку. Старыя хрычы без бабы і дня пражыць не могуць.

Я прамаўчаў: няхай прывозіць жонку.

Мінуў прадказаны месяц, а Тарас Тарасавіч і не думаў жаніцца. Стаў ён нейкі шумлівы, гаваркі, нават улетку насіў хромавыя боты з высокімі халявамі і чорную вышытую кашулю. У прыпар ён залішне доўга аціраўся каля жней і заўсёды браў ладкаваць снапы на застаронку бяздзетную жонку аднавяскоўца Архіпа. Жнеі пераміргваліся, шапталіся, але мне здавалася, што скажы гаспадар ісці ў ток, кожная з іх пайшла б.

Часам у хаце паяўляўся гаспадароў брат Яўмен. Крывабокі, няўклюдны і звераваты, ён улазіў у дзверы бокам, садзіўся на лаўку і доўга глядзеў, як тупае ля печы Аўгінка. Яго каршуновыя вочы паглядалі злосна.

— Тэт, чортма, ты робіш. Нашто столькі дроў насадзіла, — хрыпеў ён. — Гаспадыня на чужым дабры.

Аўгінка адбрэхвалася.

— Глядзі лепш за сваёй жонкай.

— Тэт, — цмокаў языком Яўмен, але не лез назолай у вочы.

Прыходзіў Тарас Тарасавіч, нядобра крывіўся на брата, пытаўся:

— Чаго чорт прыгнаў?



— Тэт... Парадку, брат, у цябе няма.

— А твая тут справа дзесятая...

— Жаніцца трэба, Тарас.

Гаспадар рагатаў, хоць такія размовы яму падабаліся.

— А што, Аўгінка, чым я не кавалер.

Аўгінка чамусьці бянтэжылася. Яна наогул зрабілася іншай, задумлівай. Аднаго разу, калі мы чысцілі клець, Аўгінка расплакалася, і я доўга не мог суняць яе. Чаму яна плакала, я так і не дазнаўся. Аўгінка зацята маўчала.

— Дык каго ж ты мне хочаш сасватаць? — пытаўся Тарас Тарасавіч, хітра прыжмурыўшы вочы.

— Тэт, — цыкаў Яўмен, — ці ж дзевак мала. Хоць бы Храсінку Кавалёву. Гаспадарлівая дзеўка, і дзяцей не будзе. Нашто яны табе пад старасць.

Храсінка, хваравітая, кульгавая перастарка, была роднай сястрой Яўменавай жонкі. Максім Барысёнак неяк растлумачыў мне, што Яўмен даўно нацэльваецца на братаву гаспадарку, таму і падсоўвае яму ў жонкі сваю радню. У Яўмена чацвёра сыноў, такіх жа зверавstatic, як і сам бацька, і тры дачкі, рабыя, таўстазадыя, якіх без добрага пасагу не возьме нават апошні парабак. Таму Яўмен так і стараецца для брата.

— Крывульку гэтую? — яхідна перапытвае Тарас. — А калі я на маладой дзеўцы жанюся? У мяне можа яшчэ дзеці будуць.

Яўмен мяняўся ў твары. Разоў пяць узапар паўтараў сваё звычнае «тэт», потым пагрозліва прадракаў:

— Паглядзіш, атруціць яна цябе, твая маладая. Ёй абы зямлёй завалодаць, а там і маладзейшага знойдзе. На чорта ты ёй патрэбны.

— Няхай труціць, — весела згаджаўся Тарас Тарасавіч.

— Чорту лысаму хочаш усё аддаць. Свае родныя табе, як чужыя. Ой, паплацішся ты, Тарас, т-тэт. Вылезе бокам табе багацце.

Калі Яўмен выходзіў з хаты, Тарас Тарасавіч смачна пляваў услед.

— Жываглот, крывабокая прорва, усё яму мала. Бацькаў надзел пад сябе загроб, цяпер да маёй зямлі дабіраецца. Вось адпішу на Аўгінку ўсю гаспадарку, тады ён няхай паскача.

Роздум заўсёды да чаго-небудзь прыводзіць. Я многа думаў, чаму змяніўся гаспадар. І дадумаўся: ён хоча жаніцца на Аўгінцы. Думка, як іголка ў ваўняным клубку, — хоць і не бачыш яе, а варта сціснуць клубок у далоні, як уколе балюча, да крыві. Я яшчэ нічога не ведаў, але сэрца ўжо ныла ад болю. Чаму Тарас Тарасавіч так настойліва выпраўляе мяне з Максімам спаць у адрыну? Чаму ён заўсёды бярэ Аўгінку на базар? Чаму ён купляе ёй хусткі і новыя чаравікі? Такіх «чаму» набіралася многа. Адказ на іх быў адзін. Не раз ужо я збіраўся пагутарыць з Аўгінкай, і заўсёды мне перашкаджаў гаспадар.

Знешне ўсё было добра. У кішэні я заўсёды знаходзіў акуратна загорнуты ў анучку хлеб, лусту сала ці вяндліны — адзнаку нязменных Аўгінчыных клопатаў. Падаючы есці на стол, Аўгінка заўсёды крадком паглядала на мяне з любасцю і шчырай адданасцю. Можа, каб быў я смялейшы і не меў такіх гарачых пачуццяў, усё было б інакш. Але каханне, як гэта ні дзіўна, скавала мяне. Аўгінка здавалася недасягальнай, як тая багародзіца над алтаром паддубскай царквы. Мне было соладка дакрануцца выпадкам да яе рукі і сорамна зрабіць гэта наўмысна. Я пакутаваў моўчкі.

Адна падзея назаўсёды крута змяніла маё жыццё. У штодзённай жыццёвай мітусні я неяк і не заўважаў, як вырасла Ганначка. Заставалася яна невысокая, худзенькая, але гэта была ўжо не тая баязлівая

дзяўчынка, якой я ведаў яе даўно, а бойкая і даволі прыгожая нявеста. Толькі каму? Пра гэта неяк не хацелася думаць. Я заўважыў, як пакруглелі ў сястры грудзі, як наліліся вішнёвым сокам вусны, як змянілася яе паходка. І ўсё ж я лічыў яе недаросткам.

Мясаед — пара вяселляў і вечарынак — у той год быў доўгі. Але для мяне ён праляцеў у працы, клопатах і пакутах. Дзіўная задумлівасць не пакідала Аўгінку.

— Чаму ты такая сумная? — пытаўся я ў Аўгінкі.

— Табе здаецца, — адказвала яна і хавала твар.

Заходзіў гаспадар, незадаволена варушыў бровамі.

— Работы хіба няма? — пытаўся ён і заўсёды знаходзіў мне занятак.

Цяпер Тарас Тарасавіч рэдка калі адлучаўся з дому. Тупаў па хаце, па двары. «Хоць бы ён на вечар куды з'ехаў», — думаў я. І выпадак дапамог мне. Аднаго разу на двары паявілася парка коней, з саней вываліўся кароценькі, тоўсценькі чалавек у дублёным кажуху. Зайшоўшы ў хату, ён перахрысціўся на абразы і, не адрываючы вачэй ад лампадкі, сказаў:

— Акуліна Іванаўна, цётка ваша, Тарас Тарасавіч, наказала вам доўга жыць і прасіла вас і брата вашага Яўмена Тарасавіча на пахаванне.

— А ты хто ж будзеш? — наструніўся гаспадар.

— Я — davераны іх, так сказаць, юрыдычная асоба. Паколькі гаворка будзе ісці аб завяшчанні нябожчыцы, вам, як самым блізкім сваякам, неабходна быць там.

Цётка Акуліна выйшла замуж вёрст за сорак у багатую вёску Каменку за пана аднадворца. Было гэта яшчэ пры паншчыне. Аднадворац выкупіў яе ў пана Залуцкага, ажаніўся, пажыў два гады і памёр. Цётка не захацела выходзіць замуж за прыгоннага, а дваране, нават з бедных, цураліся яе мужыцкага паходжання. Так і дажыла яна век удавой. Пасля раздзелу, калі старэйшы, Яўмен, абдурыў малодшага, Тараса, выселіў яго ў Загарані, цётка памагла пляменніку грашыма. Трэба было ехаць на пахаванне. Ды Тарас Тарасавіч, відаць, баяўся, каб старэйшы брат зноў не абвёў яго вакол пальца.

Марозны дзень ярка дагараў за лесам. Панавала цішыня, якую парушаў толькі цененькі пераразвон струменяў малака аб даёнку. Аўгінка спяшалася завідна падаіць кароў. Максім сек дровы, а я сядзеў на бервяне і думаў над тым, што скажу сёння Аўгінцы. Слоў не было. Думкі блыталіся, круціліся, як вада ў віры. І сярод іх найбольш дакучала адна: што я магу сказаць ёй, што магу прапанаваць? Каханне? Гэтае слова здавалася недасягальным і нейкім чужым. Пра яго на вёсцы гаварылі шэптам, часам пахвальна, але больш за ўсё з абгаворам. Кахаць маглі багатыя. Бядняк казаў: сцерпіцца — злюбіцца. Некалі я думаў, што сапраўднае каханне ўбачу ў маёнтку. Некалькі месяцаў жыцця ў паноў пераканалі мяне, што кахання там няма. Ёсць агідная, амаль непрыкметная распуста, якую мужыкі называлі кароткім звонкім словам. Гэткім жа словам называлі і даўнюю сувязь Мартына, маўклівага загаранскага мужыка і гаваркой чарнявай удавы Рыпіны. Яна абмывала яго дзяцей, ткала кросны, не саромячыся людзей, сядзела з ім у абдымку, але замуж чамусьці не ішла. Вясковыя бабы ў вочы называлі яе круцёлкай, абяцалі выдраць касу, а яна, прыжмурыўшы раскосыя вочы, крычала ім па-дзявочаму звонкім голасам:

— Захачу — усе мае будуць! Зайздросна, што любяць мяне? А вось вы паспрабуйце, каб вас любілі.



Яе і сапраўды любілі ўсе. Дзікія ў п'яным буйстве мужчыны адразу сціхалі, як толькі паяўлялася яна, невысокая, зграбная, з доўгай чорнай касой. Яна смела падыходзіла да мужчыны, абдымала яго за шыю і, заглядаючы ў вочы, гаварыла спакойна, ласкава:

— Ну, супакойся, любы. Ударыла дурная гарэліца ў галаву?

Мужык хапаў яе вялізнымі цяжкімі рукамі, стагнаў:

— Рыпінка, адна ты мяне разумееш.— І на жонку: — Згінь з маіх вачэй, халабудра ненавісная.

Я адчуваў, што ў Рыпіны ёсць нейкія зусім іншыя пачуцці да Мартына. Што мужыкам не хапае той нястрымнай, гарачай пяшчоты, якой так багата мела гэтая маленькая жанчына. Я сам пакутаваў без такой пяшчоты і ў той жа час баяўся яе. На вёсцы асуджалі ўсялякія бурныя праяўленні чалавечых пачуццяў. Мужык мог пры народзе знявечыць жонку, і ніхто не сказаў бы супроць яго дрэннага слова. А няхай бы ён абняў яе і пацалаваў на полі — яго палічылі б вар'ятам. Усё добрае, прыгожае хавалася глыбока ў душы, усё бруднае і агіднае выстаўлялася напаказ. Вёска ўяўлялася мне жабраком, які знарок агаляе цела, пакрытае балячкамі, каб выклікаць спачуванне. Я быў сынам гэтай старой вёскі, з матчыным малаком усвоіўшы ўсе яе старыя традыцыі. Вось чаму каханне ўяўлялася мне чымсьці саромным і далёкім. Адзінае, што я мог зрабіць — гэта ўзяць Аўгінку замуж. Такое выйсце здавалася не толькі жаданым, радасным, але і прывычным, зразумелым не толькі мне, а ўсім людзям. І зноў старая, даўняя традыцыя стаяла на маім шляху. Я ніколі не чуў, каб хлопец наперад казаў дзяўчыне, што возьме яе замуж. Ва ўсіх выпадках, якія былі вядомы мне, сватаўство вырашалася бацькамі сумесна з найбольш блізкай раднёй. Бацькі садзілі маладога ў сані, везлі ў сваты, дамаўляліся аб вяселлі ці разыходзіліся, незадаволеныя адзін другім. А як жа мне заслаць сватоў да Аўгінкі? Жывём мы ў адной хаце. Ды і хто захоча быць сватам у беднага парабка?

Цяпер гэтыя трызненні вясковага хлапчука здаюцца нікчэмныя і смешныя. Можа ты, сын майго сына, пасмяешся з маёй нясмеласці, нават абурышся ёю. Табе невядомы тыя сумненні і страхі, у палоне якіх некалі быў не адзін я. Але не ганарыцеся сваёй смеласцю. Яна здабыта намі для вас. Разрываючы путы старога свету на сваіх уласных руках, мы верылі ў тое, што вам ужо не давядзецца жыць так, як жылі мы. Для вас адкрыта найчысцейшае ў свеце пачуццё — каханне. Даражыце ж ім, не забрудзьце яго хоць бы адной плямкай, што пакінуў стары свет.

— Чаго замаркоціўся?— ляпнуў мяне па плячы Максім. Ад нечаканасці я ўздрыгнуў. — Не гаруй, хлопец, дзеўкі ўсе ламакі. Смялей націскай. Раз-два і ў дамкі.

Максім падміргваў, ківаў стаўбунаватай галавой у бок хлява.

— Пра што ты? — запытаўся я, хоць добра зразумеў, на што намякае Максім.

— Не прыкідвайся. Думаеш, у мяне вачэй няма. Бачыў, як ты пазіраеш на яе, быццам кот на скварку. У самы раз сёння. Няхай ведае стары хрыч, што за намі яму не ўгнацца. Яно я і сам думаў паспрабаваць шчасця, але саступаю. Сваім падножку не стаўлю. Толькі ты паслухай, як трэба рабіць. Я, браце, вучоны. Прыкінься, значыць, змораным, кладзіся і пачынай храпець. Яна і паверыць, што ты моцна спіш, і сама засне. Тут ты адразу да яе, ды глядзі, каб і апомніцца не паспела...

Нешта падкінула мяне ўверх, рукі самі схапілі за барты старога кажушка. Сатлелая аўчына глуха шаркнула, і я застаўся з кавалкам

паліны ў руках. Гэта, бадай, і выратавала мяне ад бойкі. Максім пазіраў на парваны кажушок і ціха стагнаў:

— Ай-яй-яй, браток, што гаспадар скажа.

Я кінуў кавалак аўчыны на снег і знік у хаце. Мяне душыла злосць. У ваччу скакалі чырвоныя агеньчыкі. «Задушу яго», — думаў я, сціскаючы кулакі.

Аўгінка на двары гаварыла з Максімам. Што ён кажа ёй? Можа што брыдкае? Трэба было пайсці на двор. Я сарваўся з лаўкі, з усяе сілы піхнуў дзверы. У сенцах стаяла Аўгінка, трымаючы ў руцэ вядро.

— Не бойся, я зашыю кажушок, ніхто нават і не ўбачыць, — сказала яна і зайшла ў хату. — Знайшоў з кім сілай мерацца. Ён жа, як мядзведзь, моцны.

Я слухаў Аўгінку, і развага пакрысе вярталася да мяне. Значыць, не сказаў, чаму мы пабіліся. Максім, зайшоўшы ў хату, зняў кажушок, апрануў сівы армяк, шапнуў мне: «Выйдзі на хвілінку»,— і вымеўся з хаты.

Ён чакаў мяне на двары, заклаўшы рукі за спіну. Я падыходзіў да яго з засцярогай.

— Чаму ты рукі распускаеш? Я і ў морду магу даць. Языком мянці, а волю рукам не давай. Падумаеш, недаткнента,— і раптам зусім інакш запытаўся: — Падабаецца яна табе? Ну, ну, не чырванеі. Дзеўка прыгожая. Толькі, брат, на гэты каравай рот не разяўляй. А я ўсё ж да Нохана ў карчму схаджу. Можа пойдзем разам? Ну іх, усіх дзевак і баб...

— Ідзі, я не пайду...

— Як хочаш. А ўсё ж можа паспрабуеш?..— ён штурхануў мяне ў плячо і паспешліва падыбаў да карчмы.

## *Дзень адзінаццаты*

У хаце гусцелі прыцемкі. Кволае святло лампадкі не разганяла іх. Адталыя за дзень вокны зноў замуроўваліся марозам. Аўгінка вымятала памялом печ. Старанна згарнуўшы вуголле ў прыпечак, пачала класці дровы. Мне не цярпелася распачаць гаворку. Але, як на грэх, не знаходзіў зачэпкі. Чаму раней былі ў нас цікавыя размовы? Чаму тады не было гэтай бязглуздай ніякаватасці? Няўжо гады вінаваты ў тым, што мы нібы аддаліліся адзін ад аднаго?

За печчу заліваўся цвіркун. З покута самотна пазірала багародзіца. Чорны кот ляніва цёрся аб ногі, раскрываў рот, быццам хацеў сказаць: «Чаго ты, дурань, маўчыш?» А мне здавалася, што ніякія словы цяпер не патрэбны. Добра, што мы ўдвух і нікога нідзе ва ўсім свеце няма.

— А дзе Максім? — запыталася Аўгінка.

— У карчму пайшоў,— адказаў я.

— Да трэціх пеўняў не прыйдзе.

— Раней не чакай,— згадзіўся я.

— А ты ўжо ўсё зрабіў?

— Усё.

— Сёння можна раней легчы спаць.

— Гаспадар знайшоў бы работу.

— Неяк трохі страшна,— зноў парушыла маўчанне Аўгінка.— Калі ўсе разам — весялей.

— Няма каго баяцца.



Размова нязначная і зусім не тая, пра якую я марыў. Але як добра чуць Аўгінчын голас!

— Запалі лямпу.

— І так відно,— адгукнуўся я, але лямпу запаліў.

Ружаватае святло лампады знікла. Белая відната разагнала цемру. Аўгінка чамусьці ўсміхнулася, мабыць нейкай сваёй патаемнай думцы.

— А помніш, як мы з табой, бывала, цапамі малацілі, удвух, і ў ёўні грэліся?

— Даўно тое было.

— А як за качынымі яйкамі хадзілі?

— Я ўсё помню, — сумна адказала Аўгінка. — Помніш, я табе тады яшчэ сказала, што ў манастыр не пайду. Дык вось, я перадумала. Адгуляю вялікадзень і пастрыгуся ў манашкі.

Я быў ашаломлены. Дык вось чаму яна такая задумлівая і сумная.

— Не, Аўгінка, не трэба ў манастыр.

Я расказаў усё, што бачыў і чуў калі-небудзь пра манахаў. Аўгінка стаяла, абапёршыся на качаргу. Маўчала, відаць, не хацела згадзіцца са мной.

— То ў мужчынскіх манастырах,— сказала яна.— У жаночых такога не бывае. Усе мужчыны нягоднікі. Ім што: абы з нашага брата паздзекавацца. Узяў сваё і хвастом накрыўся. А дзявочай чэсці не вернеш.

Яна паставіла ў кут качаргу і палезла на печ. Я прынёс з сяней пакулле, дастаў кручкі, пачаў віць лейцы. Можна было б і адпачыць, але сядзець без работы было яшчэ цяжэй.

За акном шасталі прамерзлым голлем дрэвы. Ціха падвывала ў коміне, ляскала непрывязанай аканіцай. Цеплыня хаты паволі выветрывалася. Я апрануў світку, але холад прабіраўся і пад яе.

— Рыгорка, кідай работу,— гукнула Аўгінка.

— Зараз,— адказаў я.

— Змерзнеш зусім, чуеш, як вецер вые.

— Трэба было б грубку выпаліць, — я зняў вяроўку з крука, зматаў і кінуў пад лаўку.

— Ідзі, пагрэйся, печ вялікая. І лямпу вазьмі з сабой.

Я падаў ёй лямпу і сам узабраўся на палаці. Аўгінка сядзела, прытуліўшыся спіной да коміна, падкурчыўшы пад сябе ногі.

— Пасунься сюды, тут нават горача.

— Мне і тут добра,— адказаў я і тут жа запытаўся:— Дык таму ты і пахмурая такая, што сабралася ў манастыр?

Яна схіліла галаву.

— А ты нікому не скажаш? Глядзі ж, Рыгорка, толькі табе і прызнаюся. Сіл маіх болей няма цярпець. Не дае спакою гаспадар. Усё цела ў сіняках. Шчыкаецца, тузае, а аднаго разу ўсе ручкі паламаў. Вось паглядзі, што нарабіў.

Яна расшпіліла кофту — чорныя, фіялетавыя, сінія падцёкі пакрывалі ўсе грудзі. Я ўжо не адчуваў таго знаёмага трапятання, якое абуджалася заўсёды, калі я глядзеў на яе грудзі, што ўздымаліся пад кофтай.

— Чаго ж ты маўчала? — не сцярпеў я.

— Вялікі ты ўжо, Рыгорка, а дурны. Што ж я зраблю, калі бацькі і слова сказаць не даюць. Помніш, улетку я дамоў хадзіла. Думала, не вярнуся. На каленях перад бацькам стаяла, ногі яму цалавала, прасіла забраць мяне. А ён выгнаў. А каб ты ведаў, як біў: намачыў у вадзе лейцы і датуль біў, пакуль я не згадзілася на ўсё... Рыгорка, любы мой, каб ты ведаў, як мне жыць не хочацца, а рук на сябе накласці не магу.

Прадалі яны мяне старому за ўсё яго багацце. Толькі і змагла я выпрасіць у бацькі, каб не аддаваў замуж, пакуль не споўніцца васемнаццаць гадоў.

«Што мне рабіць? Як выратаваць Аўгінку?» Думкі, бязладныя, бязглуздыя, тоўпяцца ў галаве. Няхай бы праваліліся пад лёд сані разам з гаспадаром! Няхай бы яго хапіў паралюш! На свеце такое здараецца часта, але заўсёды не з тым, хто баламуціць гэты свет.

— Па леце мне васемнаццаць будзе, — задумліва кажа Аўгінка. — Тады ўжо нідзе не дзенешся. Захопіць мяне гэты каршун пракляты. Я ўжо і сама не ведаю, адкуль толькі сілы бяруцца змагацца з ім. Вось і збягу ў манастыр, аддам сваё дзявоцтва богу.

— Аўгінка, не трэба ў манастыр,— прашу я.— Мы што-небудзь лепшае прыдумаем. Паглядзіш, прыдумаем.

— Што ты прыдумаеш,— глядзіць на мяне Аўгінка самотнымі вачыма.— Пэўна ўжо лёс мой такі.

— Аўгінка, — голас у мяне дрыжыць ад хвалявання. — Аўгінка, толькі ты не злуйся... Калі ты згодна, я цябе замуж вазьму. Угаворым папа, ён нас абвянчае. Як-небудзь пражывем год...

Мне чамусьці стала страшна ад сваіх слоў. Што скажа Аўгінка? А яна маўчыць.

— Нашто я табе, беспасажніца? Ты сабе багацейшую знойдзеш.

Якімі словамі даказаць ёй, што мне не трэба багацця? У мяне ёсць хата, старэнькая, пакрыўленая, без драўлянай падлогі, але свая. У мяне ёсць зямля. Аж паўнадзелу. Няхай не ўся добрая, але мая. У мяне ёсць хлеў. Хоць у ім ужо даўно не стаяла жывёла, але яна будзе.

— Аўгінка,— кажу я,— хіба ты, можа, не хочаш за мяне замуж выходзіць?

— Маўчы,— Аўгінка заціскае мой рот сваёй маленькай мазолістай рукой.— Як жа мы пажэнімся? Гаспадар не дазволіць.

— Я Максіма папрашу і хроснага дзядзьку Макара, яны дамовяцца з папом. Хросны некалі быў царкоўным старастам.

— Рыгорка, я добрай жонкай табе буду. Пабачыш, Рыгорка.

Мы сядзім, моцна прытуліўшыся адзін да аднаго. Нясмелыя рукі сціскаюць яе плечы, баязлівыя вусны палахліва кранаюцца скроні. Любая, пяшчотная цеплыня бунтуе кроў... Маленькія шурпатыя рукі, такія мілыя і лагодныя, нясмела кранаюць галаву, неяк бездапаможна і лёгка сціскаюць шыю. Я чую, як б'ецца пад яе пальцамі трапяткая жылка, і яшчэ мацней прытуляю Аўгінку.

Цудоўная пара нясмелага юнацтва! Як хораша, што ўсё дрэннае адступае перад некранутай чысцінёй першых пачуццяў! І якія яны моцныя, гэтыя пачуцці! Яны прыносяць найвялікшае шчасце.

Дагарала газа ў лямпе. Прыйшоў Максім з карчмы, крыху п'янаваты і вясёлы. Зазірнуў на печ, усміхнуўся хітраватай усмешкай.

— Ці вы яшчэ і не спалі? — здзівіўся ён.

— Цябе чакалі,— адказаў я.

Максім стаяў на ўслоне, паклаўшы галаву на палок, усмешка ўжо стухла на яго твары. Пазіраў ён на нас сур'ёзна і спагадліва.

— Эх вы, птушаняткі! Чаго замаркоціліся? Давайце я вашу бяду рукой развяду. Сваю, вядома, цяжэй. Любіцеся? Ну, ды не злуйцеся. Я без жартаў...

— Максім,— кажу я.— Мы хочам пажаніцца.

Мне здаецца, што Максім, як заўсёды, выкіне нейкую шаляніну, ад якой будзе толькі сорамна. Нашто было прызнавацца яму? Але ў Максімавых вачах не відаць тых смяшлівых агеньчыкаў, якія звычайна паяўляюцца перад яго кпінамі. І таму я чакаю адказу з хваляваннем.

— З мілай рай і ў шалашы,— кажа ён.— Ці надоўга толькі — вось гэта не ведаю. Маладыя вы, таму нічога і не разумееце. Але жаніцеся. Во ўжо гіцаль наш пазлуецца. Жаніцеся і ўсё тут. Пакуль гаспадар вернецца, дык мы і вяселле згуляем...

— Неяк жа дужа паспешліва. Не па закону,— сумняваецца Аўгінка.

— Дурныя вы. Які там закон. Залетась я ў паноў Рыльскіх служыў. Дык яго дачка ў адну ноч з драгунскім афіцэрам абвянчалася. Нават бацькі не ведалі. Раніцай выйшла ў сталовую і аб'явіла: так і так, я ўжо замужняя. Маці абмёрла, бацька пагражаў, крычаў, але нічога не мог зрабіць.

— Мы ж не паны,— заўважае Аўгінка.— Трэба ж хоць нейкае вяселле зрабіць.

— Дык чаго вы... Зробім. Ты, Рыгор, заўтра дамоў ідзі, збірай гасцей, а мы тут памазгуем, што і да чаго, а паслязаўтра прыязджай у царкву. Усё па закону будзе. А цяпер давайце спаць будзем. Раніцай на свежую галаву вунь як добра думаецца.

Раніца прынесла не заспакаенне, а новы клопат. Калі мы снедалі, у хату ўвалілася Ганначка, а з ёю незнаёмы белабрысы хлопец. Пераступіўшы парог, яны паспешліва апусціліся на калені, паднялі вочы на абразы, шчыра перахрысціліся і зашапталі словы малітвы.

Яны маліліся, а я стаяў скамянелы ад нейкага нядобрага прадчування. Па твары Ганначкі цяклі слёзы, і яна не выцірала іх. Белабрысы хлопец кланяўся, размашыста хрысціўся і час ад часу неяк дзіўна паглядаў на мяне. Аўгінка таксама плакала. Толькі Максім чэрпаў і чэрпаў крутую ячную кашу.

Нарэшце малітва скончылася, хлопец падняўся з каленяў, а Ганначка працягнула рукі, пачала прымаўляць, толькі не распачліва, як на пахаванні, а весела...

— Браток мой родны, самы старэйшы і разумнейшы. Не ўстану я з каленяў, пакуль ты не дазволіш мне слова сказаць запаветнае. Не дурную вестачку прынесла я табе. Разлятаецца сямейка наша дружная. Не сама разлятаецца, добры маладзец пастукаў у брамачку. Ці дазволіш адчыніць яму, на сустрэчу выйсці?

Аўгінка падбегла да Ганначкі, падхапіла яе пад пахі, пачала падымаць. Тады на калені бухнуўся хлопец.

— Рыгор Яўхімавіч, дазволь слова і ад сябе вымавіць. Абое мы з Ганнай Яўхімаўнай сіроты няшчасныя. Няма ў нас ні бацькі, ні маткі, ні блізкай другой радні. Адзін ты ў нас родны. Будзь жа ты нам, Рыгор Яўхімавіч, не братам, а бацькам родным. Блаславі нас з Ганначкай на вечны саюз,— хлопец распластаўся на падлозе, шырока расставіўшы рукі. Да мяне ледзь даходзіў сэнс яго слоў.

— Чаго ты стаіш, як слуп? — штурхнуў мяне пад бок локцем Максім.— Сястра просіць на шлюб блаславіць.

Я не паварухнуўся нават. Назойлівыя думкі апанавалі мяне. Былі яны цяжкія.

— Рыгорка, чаго ж ты стаіш? — Аўгінка палезла на лаўку, пачала знімаць абразок у залатой рамцы.— Блаславі сястру, Рыгорка.

Я ўзяў абразок, нясмела падышоў да маладых. Яны суладна нахілілі галовы. Ганначка пацалавала абразок, ухапіла маю руку, прыціснулася да яе мокрым тварам.

Малады падняўся з каленяў, пакланіўся ў пояс.

— Запрашаю вас, Рыгор Яўхімавіч, і вас, Максім Сідаравіч, на

вяселле. Будзеце: адзін за бацьку пасажонага, а другі шаферам за сталом пасядзець і ў царкву з'ездзіць.

Максім зноў пакланіўся ў пояс.

— А цябе, Аўгіння Лявонаўна, за шаферку запрашаю.

— Дзякую, Ганначка,— пакланілася Аўгінка.

— І яшчэ, браточак, ёсць да цябе ў нас просьба адна. Язык не хоча паварочвацца, але гора прымушае нас сказаць яе. Няма дзе ў нас жыць, няма да чаго рук прыкласці. А зямельку нашу ты ў арэнду здаваў. Аддай нам са Сцяпанам яе. Век за цябе бога будзем маліць і дзецям накажам.

Маладыя зноў упалі на калені. Я азірнуўся на Аўгінку. Яна стаяла, схіліўшы галаву, задумлівая і строгая. Зрабілася ціха-ціха, як на хаўтурах. Усе чакалі слова. Адно слова — і сястра будзе задаволеная і шчаслівая, а я і Аўгінка страцім сваё шчасце. Не, я не магу... Сястра яшчэ знойдзе сабе чалавека, я памагу ёй. Спраўлю пасаг. Усё аддам — толькі не зямлю. Зямля — уся мая надзея. Зямля — не толькі мой паратунак, але і Аўгінчын. Чаго так рана ўздумалася Ганне ісці замуж? Чаму на мяне ўзвалілася адразу столькі клопатаў? Сам бог бачыць, што я не маю права аддаць зямлю сястры. Але як цяжка сказаць пра гэта. Я бачу схіленыя галовы, згорбленыя спіны. Гэта мая сястра і мой будучы швагер стаяць перада мной на каленях. Яны чакаюць адказу. Няўжо яны не разумеюць, чаго просяць у мяне? Ганначка ўзнімае галаву. У яе вачах я заўважаю здзіўленне і надзею на маю самаахвярнасць. А я не магу ахвяраваць сваім шчасцем, жыццём, будучыняй.

— Падымiцеся,— кажу я.— Чаго вы стаіцё. Давайце за стол сядзем, ды і пагутарым толкам.

Сястра, відаць, заўважае, што я баюся глядзець на яе. Яна камечыць хустку, ліхаманкава завязваючы і развязваючы ражкі. Максім спрабуе жартаваць, але ў голасе яго няма бадзёрасці.

Мы садзімся на лаўку. Адна Аўгінка стаіць, абапёршыся на падаконнік, і паглядае на мяне тужлівымі вачыма. «Вось і ўсё»,—кажа яе самотны позірк. «Не, не ўсё яшчэ»,— адказваю я.

— Нечакана неяк вяселле ваша,— пачынаю я здалёк і раптам адчуваю, што мая прадмова недарэчы. Трэба секануць з размаху. — Не магу я, Ганначка, аддаць вам зямлю. Мне яна самому патрэбна. Я кідаю гаспадара. А ў жаніха хіба няма зямлі?

Ганначка закрывае твар далонямі, і яе плечы калоцяцца пад світкай.

— Як жа нам жыць, братка родненькі? — усхліпваючы, пытаецца яна.

«А як мне жыць? — хачу я запытацца ў яе. — Пра сябе ты падумала, а пра мяне забылася. Табе няма справы да мяне?»

Ганначка расцірае на шчоках слёзы, часта-часта шморгае тонкім носам. Але яе выгляд зусім ужо не кранае мяне. Маё сэрца скамянела. Я гатоў грызціся, абы не аддаць зямлю. Жаніх, нізка апусціўшы галаву, раз-пораз тузае Ганначку за паліну світкі.

— Адчапіся,— злосна кажа Ганначка.— Я ўсё выкажу. Маці табе, Рыгор, што наказвала? Ага, забыўся! А я помню! Мне бацька казаў. Уся зямля Зміцерку належыць. А дзе ён цяпер? На чужых харчах жыве: За парабка працуе. Дык ты яго на ўсё жыццё хочаш па людзях пусціць? І мяне за ім следам выправіць?

«Як яна можа такое казаць?!»

Я забываюся пра ўсё. Пагрозліва крычу ёй у твар:

— Мая зямля, чуеш, мая! Захачу, усіх вас выганю. Нічога не атрымаеце.



— Ага, панская кроў загаварыла,— узялася Ганначка ў бокі.— А хвігу табе. Дзяліць, дык усю зямлю пораўну.

— Вон! — крыкнуў я.

Ганначка адступіла. Жаніх засланіў яе, расставіў рукі, быццам баяўся, што я кінуся на сястру.

— Навошта ж так, Рыгор Яўхімавіч. Я, канешне, чалавек бедны. Ні кала ў мяне, ні двара. Зямля мне вось так, да зарэзу патрэбна. А толькі з-за яе я не хачу сварыцца. Як-небудзь пражывем. Рукі ў мяне ёсць. На першым часе паслужым у людзей. Дасць бог, назбіраем грошай — купім зямлі. Меркавалі мы, канешне, узяць Зміцерку ў хату, каб ён па людзях не блукаў. І табе думалі за зямлю выплаціць з часам. Але ж, відаць, не ўсё так бывае, як чалавек хоча.

Спакойная, развawжлівая шваграва гаворка дашчэнту збянтэжыла мяне. Я стаяў, як апляваны, хоць усё яшчэ думаў: ага, зямля мая, і я магу прывесці ў хату Аўгінку.

Маладыя засабіраліся. Патупалі ля парога, мабыць, не разумеючы, як жа цяпер спраўляць вяселле. Прыйдзем мы на яго ці не?

Раптам Аўгінка падбегла да Ганначкі, ухапіла яе за руку.

— Куды ж вы? Не пушчу я вас так. Не хачу. Ворагам вашым быць не хачу. З-за мяне ўсё гэта. Даруйце мне нягоднай.

Спалоханая Ганначка пазірала на Аўгінку. А тая раптам упала на калені і, паўзучы да мяне, глуха выкрыквала:

— Рыгорка мой любы, не будзе нам шчасця на сірочай зямлі. Аддай яе. Не парушай матчына завяшчанне,— яна працягвала да майго твару рукі.— Не такі ж ты, Рыгорка... Ты ж добры. Максім, чаго ж ты стаіш? Скажы яму, што нядобра ён чыніць.

— Зямля, каб яе немач...— прамармытаў у адказ Максім.

Аўгінка падхапілася і зноў кінулася да Ганначкі.

— Сястрыца мая любая, не злуйся на яго. Ці мала што чалавек скажа! У гарачцы ўсё. Распранайцеся, пасядзім, як людзі, пагаворым. Свае ж мы. Кроўныя.

За сталом, аднак, было не весела. У галаве ў мяне ўсё яшчэ гуло, звінела ды чуўся голас Ганначкі: «Ага, панская кроў загаварыла».

Ад яе слоў балюча сціскалася горла. Было сорамна і крыўдна. У грудзях глуха білася сэрца. Клекатала злосць на ўсё жыццё, такое недарэчнае і жорсткае. Я адчуваў сябе яго ахвярай, кволай і бездапаможнай. Цяпер мне было ўжо ўсё роўна: застанецца ў мяне зямля ці не. І калі я сказаў сястры: «Добра, няхай зямля будзе ваша»,— я нічога не адчуў, апрача вялікай змораннасці. І сястра не адчула той радасці, якую магла адчуць, калі б я аддаў ёй зямлю ў самым пачатку. Аўгінка таксама неяк залішне гучна і няшчыра паўтарала: «Карыстайцеся на здароўе. Карыстайцеся на здароўе». Нават Максім неяк горка кракнуў, абхапіў Ганначчынага жаніха за плечы, выгукнуў сваю любімую прымаўку: «Эх вы, птушаняты!»

Неўзабаве было вяселле. Прайшло яно бязрадасна, хмура, як сапраўднае сірочае вяселле. Мы вярталіся з яго ўтрох. Максім, седзячы ў перадку, правіў канём. Мы з Аўгінкай сядзелі ззаду, захутаўшыся ў пасцілку.

— Бывай, наша мара,— у сумным голасе Аўгінкі чуліся слёзы.

— Не каркай,— абарваў яе Максім.— Жаніцеся вы, чэрці. Ці ж свет клінам сышоўся. На свае рукі і без зямлі хопіць мукі. Эх вы, птушаняты.

Я раптам успомніў Сцяпана і яго ўпэўненыя словы: «Рукі ў мяне ёсць. Паслужым у людзях». Няўжо ж я недарэка такі, што спалохаўся. Сёння ж скажу гаспадару пра сваё жаданне жаніцца на Аўгінцы. Сме-

ласць падаграваласяя вясельнай чаркай. Усё выдавала простым. Чаго толькі я напалохаўся? Аўгінка, пачуўшы пра мой намер, папрасіла:

— Можа не трэба, усё роўна ўжо мясаед прайшоў.

— Сем тыдняў не вялікі час — пацерпіце. А там пасля праводнай нядзелі і абкруцім вас. Эх, птушаняты, і тупну я на вашым вяселлі. Толькі цяпер скажы пра гэта старому хрычу.

— Зараз жа, як прыедзем — скажу,— храбрыўся я.

— Скажы...

— Скажу...

## *Дзень дванаццаты*

З хаўтур Тарас Тарасавіч вярнуўся ў сапсаваным настроі. На тое былі падставы. Цётчына радня па мужу, збяднелыя панкі, у якіх, апрача дваранскага гонару, нічога не было, даўно ўжо цікавалі за Акулінай Іванаўнай. Яе багацце не давала ім спакойна спаць. Паны, відаць, падкупілі яе даверанага, і той склаў завяшчанне, якое без суда не можна было прачытаць. Ва ўсякім разе, завяшчанне ў першы ж дзень смерці было аспрэчана панічамі. З усяго, што безумоўна належала Тарасу Тарасавічу, была жывёла. Яўмен толькі і змог захапіць цётчыну вопратку. На астатняе па распараджэнню прадвадзіцеля дваранства быў накладзен арышт. Фактычна ж маёмасцю завалодала сястра аднадворца Алімпіяда Нікандраўна.

На пахаванні браты былі заадно, адбіваючы атакі шматлікіх сваякоў пана. А па дарозе дамоў пасварыліся між сабой. І да таго не вельмі прыязныя адносіны былі сапсаваны канчаткова.

Тарас Тарасавіч хадзіў чарней хмары. А тут яшчэ, на той грэх, пакацілася па вёсцы пагалоска аб маім сватанні да Аўгінкі. Тарас Тарасавіч, відаць, не знаходзіў патрэбным прыніжацца да размовы са сваім парабкам. Затое сваю сілу паказаў, як толькі мог. Ды і на Аўгінку пакрыкваў часцей.

Усё гэта было вядома мне. На добрую развагу, трэба было пачакаць. Але нецярплівасць — дрэнны дарадчык.

На двор мы ўз'ехалі перад абедам. Была масленіца. Непадалёк, на сажалцы, хлопцы і дзяўчаты круцілі карусель. На прызбах сядзелі мужыкі, хлапчукі ганялі адурэлых ад гоману і піску сабак.

Тарас Тарасавіч, прыхінуўшыся да шулы, стаяў ля варот.

— Каня хоць не запарылі? — прасунуў ён руку пад хамут, калі мы праязджалі міма яго.

— Ці ж нам першы раз на рысаках ездзіць. Усё ў спраўнасці, гаспадар,— выгукнуў Максім.

Я саскочыў з саней. Нешта так і падбухторвала мяне неадкладна пачаць размову.

— А ты што? — насцярожана паглядзеў на мяне гаспадар.

— Жаніцца хачу,— выпаліў я.

— Каб быў жывы бацька, дык можа і ажаніў бы цябе кіем.

— Я праўды жаніцца хачу.

— На кім жа гэта ты? Можа за свата возьмеш? Тады скажы Максіму, каб не распрагаў каня.

— Можна і ўзяць. Далёка не пойдзем, так што конь не трэба будзе. Вунь нявеста мая — Аўгінка.

Калматыя бровы гаспадара сышліся над пераносіцай, папаўзлі ўгору.



— Знайшоў сякеру пад лаўкай,— ён адвярнуўся і пашкандыбаў на двор. Людзі прыслухоўваліся і, відаць, штo-нішто ўхапілі з нашай размовы.

— Ды вы не думайце, я — сур'ёзна.

— Не для цябе, хлопец, бацькі яе гадавалі,— разважліва сказаў Тарас Тарасавіч і, схапіўшы вупраж, пайшоў у хлеў.

Максім падміргнуў мне:

— Націскай на яго, не давай апамятацца.

Тарас Тарасавіч вярнуўся з хлява. Падскочыўшы да Аўгінкі, ён паківаў перад яе носам доўгім, чорным пальцам.

— Што ж гэта я чую, галубка? На бацькоўскі наказ табе, значыць, начхаць? Гізаваць уздумала? Я табе пагізую. Сёння ж да бацькі адвязу, ён табе ўсыпле... Марш на печ. Даваў я табе патачку, цяпер скулля! Не пагляджу на твае слёзы.

— А вы не пагражайце. Мы і сёння можам ад вас пайсці.— Гэтымі словамі я нібы прыкаваў старога да зямлі. Ён вырачыў вочы, узмахнуў рукамі.

— Што ж гэта такое? Канец свету? Не, галубка, я за цябе вазьмуся, як і прасіў твой бацька. Гэты гіцаль прыстроіць табе дзіця. Байструкі — яны ўсе такія.

Ён ухапіў за руку Аўгінку, штурхануў у сенцы. Яна заплакала, і гэты плач вывеў мяне з задумення. Я кінуўся на гаспадара. На дзіва спакойна і лёгка гаспадар прыўзняў мяне і шпурнуў у гурбу снегу. Далей ужо я не зусім помню, што раблю. Нейкім цудам у маіх руках аказаўся яловы калок з плоту. Я замахнуўся з усяе сілы і апынуўся ў Максімавых абдымках.

— Ашалеў ты, ці што? Давай кол. Давай, давай, дурань... Выпіў ён, Тарас Тарасавіч...

Гаспадар, заклаўшы рукі за спіну, моўчкі паглядаў, як Максім звязвае мяне лейцамі.

— Эх ты, а яшчэ сябар,— знясілена працадзіў я скрозь зубы.

— Вось і сябар, птушаня жаўтаротае. Гэтага толькі і не хапала.

— Максім, запрагай каня,— загадаў гаспадар.— А ты збірайся. Паедзеш да бацькі.

Аўгінка прыпала да мяне, учапілася ў вяроўкі, ірвала іх, старалася развязаць, крычала на ўсю вуліцу.

— Нікуды я не паеду. Забіце, але ад яго не адступлюся.

— Тады бацька сам прыедзе.

Тарас Тарасавіч уваліўся ў сані, сцебануў каня. Зарыпелі палазы, і ўсё змоўкла.

— Давай развяжу. Гарачы пеўнік, няма чаго сказаць. Усю абедню сапсаваў,— бурчэў Максім, развязваючы мяне.— Цяпер, брат, вось што. Перш-на-перш, трэба Аўгінку схаваць. Я думаю так, няхай яна да Ганначкі ідзе. А ты да папа ляці. Толькі не ў нашу царкву, а ў гарадскую. На Канатнай вуліцы стараверская царква ёсць. Кажуць, што іх поп хоць чорта з ведзьмай абвянчае. Дамовішся — і назад. Каня я табе дам, толькі пастарайся раней за гаспадара вярнуцца. Пачакай ты. Вось табе грошы. Адразу папу не давай. Толькі пакажы яму, што ты чалавек сталы. Хіба што занадта папросіць. Тады дай рубля. Ды апраніся лепш. А я каня запрагу.

— Дык, можа, сёння паехаць? Няхай адразу і вянчае.

— Рабі тое, што я кажу.

Я зразумеў, што так і сапраўды лепш. Аўгінка плакала, але не папракала мяне за благі ўчынак. Калі я ўжо апрануўся, яна прыціснулася да маіх грудзей і ні за што не хацела адпускаць мяне.

Яна выйшла з двара на агароды, а адтуль па цаліку пачала выбіраца на дарогу, каб не ўгледзелі суседзі, куды пайшла. Я, не зважаючы на людзей, ляцеў па вуліцы, трымаючы кірунак да стараверскай царквы.

Поп аказаўся худзенькім дзядком з рэдкай бародкай. Спачатку ён упарціўся, а пасля, як я паклаў рубель, згадзіўся. Нават параіў сваіх знаёмых багатых старавераў, у якіх мы маглі б працаваць за парабкаў.

Акрылены яго абяцаннямі, я гнаў каня дамоў. Не, усё ж не такі дрэнны свет, калі чаго-небудзь хочаш дамагчыся. Заўтра мы абвянчаемся і адразу паедзем у тую далёкую вёску, на тым баку горада. Няхай тады знойдуць нас. Ды і што зробяць, калі знойдуць? Нічога.

Ад гэтай думкі было весела. І конь бег весела, пужліва ўсхрапваў, трос доўгай грывай. Вось так заўтра мы зноў будзем ехаць гэтай дарогай удвух з Аўгінкай, пад вянец.

Цямнела. Запальваліся зоркі. Браўся мароз, і белы іней пакрываў ужо конскую спіну. А я нічога не бачыў ад радасці ды здзіўляўся, чаму быў дурны. Трэба было даўно рызыкнуць, і тады мінула б столькі непрыемных прыгод. Усё зямля вінавата. Яна трымала мяне. А вось адрокся яе, і адразу палягчэла.

Максім чакаў мяне на двары.

— Ну як, дамовіўся?

— Ага.

— Вось бачыш. Дурныя мы. Калі прыпрэ добра, тады ўсур'ёз пачынаем думаць. Пад ляжачы камень вада не цячэ. Куды ты цяпер? Я думаю, што тут табе рабіць няма чаго. Дамоў таксама не варта ісці. Яны ў цябе пачнуць яе шукаць. Калі ты там будзеш — усю вёску пераверпуць, а знойдуць. А так мы ім след збытаем. Аўгінку Ганна да твайго хроснага адправіць. А ты падавайся ў карчму. Скажы Нохану маім словам, каб даў прытулак. Заўтра чакай мяне там. Ну, бывай.

У карчме пуста. Трое мужчын паціху гавораць ля стала. За прылаўкам сам Нохан у аксамітнай камізэльцы. Убачыўшы мяне, ён нізка кланяецца.

— Што пану Рыгору падаць?

— Нічога,— кажу я.— Максім прасіў, каб вы далі мне на ноч прытулак. Мы з гаспадаром пасварыліся.

— Ой-ёй-ёй, такі паважаны гаспадар. Як жа вам не сорамна так са старым чалавекам абыходзіцца.

Нохан доўга войкае, ківае галавой. Я цярпліва чакаю.

— У мяне ёсць чым заплаціць,— кажу я.

— Ой, хіба ў плаце справа. Як я пагляджу ў вочы Тарасу Тарасавічу.

— А ён і ведаць не будзе,— адказваю я.

— На благое вы мяне збіваеце. Толькі ўжо дзеля Максіма Сідаравіча і раблю ласку. Цыля! — кліча ён. Паяўляецца дачка, высокая, чарнявая. — Адвядзі пана ў бакоўку... Можа гарэлачкі прынесці?

— Не, не трэба. Хіба з'есці чаго.

— Не турбуйцеся, усё будзе.

У бакоўцы цесна і брудна. Акно завешана пасцілкай. Вузкі драўляны ложак, табурэтка і маленькі столік ля акна — вось і ўся мэбля. Але мне тут не вечна жыць. Я кладуся на ложак і адразу засынаю... Нехта моцна тузае мяне за плячо. Я адплюшчваю вочы. Максім. За ім галава Нохана.

— Уставай, брат, бяда здарылася.

Я ўскокваю. Сон як рукой зняло. Няўжо злавілі Аўгінку? Не трэба было яе адпускаць адну.



— Што з ёй? — пытаюся я.

— Не з ёй, а з ім. Гаспадара забілі. Мёртвага конь прывёз.

Спачатку я не бачу тут ніякай бяды. Смерць гаспадара прынесла мне вызваленне. Але Нохан вельмі ўжо красамоўна ківае галавой і на твары Максіма разгубленасць.

— Хто забіў? — пытаюся я.

Максім садзіцца на табурэтку.

— Гамонка ідзе, быццам, ты. Людзі ж бачылі, як ты следам ехаў.

Навіна аглушыла мяне. Я азірнуўся, як загнаны воўк. І раптам на дзіва простая здагадка прыйшла ў галаву. Яўмен забіў яго. Хто ж яшчэ мог? Толькі ён.

— Можа схавацца табе, га? — пытае Максім.

— Навошта. Я не вінаваты. Пайшлі туды. Я ім дакажу, хто забіў.

— Нічога ты не дакажаш,— панура гаворыць Максім, ідучы за мной.

— Э-э-э, разлічыцца варта было б. Хто яго ведае, як там будзе,— спыняе нас Нохан.

— Нічога,— кажу я.— Мы яшчэ вяселле згуляем.

На гаспадаровым двары поўна народу. Сабралася ўся вёска. Без шапкі стаіць Яўмен. Побач яго звераватыя сыны. Густы гоман вісіць над натоўпам. Смаляны корч гарыць яркім чырвоным агнём, асвятляючы барадатыя твары.

— Вось ён ідзе, анціхрыст!..— злосна і неяк радасна крычыць Яўмен.— Ідзі, ідзі, ірад.

Натоўп расступаецца. На санях ляжыць гаспадар, задраўшы ў чорнае неба белую бараду. Здаецца, ён прыкінуўся мёртвым. На твары адбітак злосці.

Яўмен нечакана хапае мяне ззаду. Я спрабую выкруціцца. Тады на мяне налятаюць яго сыны. Балюча ломяць рукі, б'юць пад бакі.

— Вяжыце ўжо,— прашу я, абы не цярпець удараў, што сыплюцца на мяне.

— Ужо ж звяжам. Паголяць табе лабаціну.

Другі раз на дзень я моцна звязаны вяроўкамі. Але ці так лёгка будзе выбавіцца з іх цяпер?

(Заканчэнне будзе.)



Яўген Верабей нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Лыскі на Беласточчыне. Пасля вайны скончыў Пінскае педвучылішча і цяпер працуе загадчыкам Чарнеевіцкай пачатковай школы на Брэстчыне.

**Яўген ВЕРАБЕЙ**

## РАДАСЦЬ


не радасна-радасна! Рэдка калі
Так хочацца бегаць, скакаць і спяваць.
І я, каб убачыць мяне не маглі,
Іду за сяло, дзе цвіце сенажаць.
Мне хочацца кожнае дрэўца крануць
І водар ад кожнае кветкі ўдыхнуць!
Акружаны мноствам званочкаў, стаю
І чую — яны мне звіняць навакол:
«Адкрый для людзей лепей радасць
сваю,
Як мы раскрываем пялёсткі для пчол».

І вось я іду, усміхаюся ўсім:
Мужчынам, жанчынам і дзецям
малым.
І мне усміхаецца кожны ў адказ
І гэтак з усмешкай ідзе нейкі час,
Пакуль не падхопіць сустрэчны яе...
Так, з вуснаў у вусны, усмешкі мае
Няўлоўна, нястрымна пайшлі
па людзях,
Да сэрцаў людскіх пракладаючы шлях.



І нібы знарок, цэлы вечар сяло
Ад песень і танцаў вясёлых гуло.
Была ў весялосці і радасці той,
Напэўна, і доля усмешкі маёй.

## НЯВЕСЦЕ


ы ад розных красуняў
чуеш
Аб геройскіх каханках іх
І мо' ўпотай не раз сумуеш,
Што чамусьці я не з такіх.

Не пішу надта пісем многа,
Не кажу, што палезці б мог
Месяц з неба схапіць
за рогі
І пакласці табе да ног.

Як адкрылі ў космас дарогу,
Кожны здолее Месяц зняць.
Я ж магу і памыць падлогу,
І абед любы згатаваць.

А як вечар крыллі
разгорне,
Мы і працу скончым якраз.
Паблукаем пад небам
зорным,
Дзе хадзілі раней не раз.

Там пагутарым мы з табою,
Як жывём і як будзем
жыць...
Месяц, з неба не зняты
мною,
Будзе радасна нам свяціць.

## НАДЫХОД ВЯСНЫ


я парога вясна,
А зіма за парогам.
Дакучае яна
І гаям і разлогам!

Ноч ужо не адну
Люты холад даймае:

Замарозіць вясну
Захацела старая.

І спачатку вясна
Крыху мерзла начамі,
Ды вядзецца здаўна
Яе дружба з людзямі.

І таму ля жылля
Скрозь, дзе госця ступіла,
Зачарнела зямля
Па-вясноваму міла.

У прыроды настрой
Жыццярадасны, новы.
Хутка згоніць вадой
Прыкры выгляд зімовы.



**Оцыя ІАСЕЛІЯНІ**

# БЕЛАЯ ДЗЯЎЧЫНА

**Навела**

Мал. В. Паповай.

Я здаў апошні экзамен, развітаўся з сябрамі, туга згарнуў стары матрац, склаў у чамадан усе свае рэчы: зубную шчотку, мыла, брытву, кішэннае люстэрка, пляшачку з чарнілам і маленькія нікеляваныя нажніцы. Кнігі і сшыткі з лекцыямі перавязаў шпагатам. Сеў на першы спадарожны грузавік, перасеў на другі і ўвечары, трошкі ўсхваляваны, адчыніў фортку свайго дома. Увайшоў і ціха шапнуў на вуха маці, якая абняла мяне:

— Вось я і вярнуўся, матуля...

Старшыня калгаса сустрэў мяне добра. Па-сяброўску паляпаў па плячы і, быццам давяраючы нейкую таямніцу, сказаў:

— Давай мы ведаеш што зробім?..

Я не ведаў, што мы павінны былі зрабіць, і пакруціў галавою.

— Прызначым цябе брыгадзірам. Ты малады, тэхнік-аграном. А Гермаген няхай адпачне... Што скажаш?

Справы ў Гермагена былі нікуды не вартыя. Ён пастарэў, і старшыня яму не давяраў. З палявымі работамі ён спраўляўся яшчэ так-сяк, але па збору чая яго брыгада заняла апошняе, шостае месца.

За працу я ўзяўся з душой: уставаў з першымі пеўнямі і да позняй ночы быў на нагах. Бегаў, як ачмурэлы. То пад гару, то з гары, то ля аднаго двара крычу:

— Серапіён!

То ля другога:

— Іванэ, Іванэ! Не падвядзі, не зарэж мяне без нажа!

А гэты чортаў Беса! І калі ён толькі завёў такога сабаку... Мо' пасля таго, як дачку ўкралі?

— Ідзі хутчэй!.. Слухай, ты што цягнешся, як паралізаваны?..

— Дзе гэта бачылі, каб вяселле ўлетку ладзіць. У самы разгар работы... Восенню справіш... А жонку можаш і цяпер прывесці, калі ўжо гэта модна.

— Не кажы! Не, не... Не тое, што сыр, калі душу сваю на кірмаш павязеш — усё адно не адпушчу...

Нарэшце, абышоў усіх. Цяпер — у поле. Адтуль на плантацыі. А там цэлы дзень гойсаў. Самі разумееце: гатунак чая, вага, пагрузка, перасылка на фабрыку. Праляжыць пад навесам даўжэй — перасохне. Зборшчыкам павінна хапаць вады — горача. І абед своечасова павінен быць гатовы. А ў машын ад спёкі камеры часта покаюць. Шафёры наогул народ гарачы, але і ім не пашкодзіць у агонь масла падліць...

...Іду і думаю: давай сёння падамся напрасткі, канал, пэўна, абмялеў, перамахну цераз яго і буду на плантацыях.

Іду. Выйшаў з пасёлка. Іду і радуюся. Нямаведама чаго...

Напэўна таго, што наперадзе шмат работы, што я брыгадзір, тэхнік-аграном, парады ў мяне пытаюць. І вельмі добра на душы. Можа і таго, што мая мама ніяк ад шчасця не ачуняе, дачакалася, маўляў, сына нарэшце... Што набяру працадзён і куплю сабе новы гарнітур, перасыплю сапрэлую ад дажджоў сцяну ў хаце і...

Крочу між платоў, зварочваю то ўлева, то ўправа.

Прыгожае ў нас сяло! Таполі растуць... Ужо ў лютым цвіце ткемалі*, і вакол становіцца бела-бялютка. У кожнага свой вінаграднік. А пераспелыя грушы нават парсюкі не чапаюць. Дамы ва ўсіх стаяць на высокіх па́лях. І хутка думаем пабудаваць свой клуб.

Выйшаў я за сяло — і пачаліся купіны, яркі, ухабіны. Тут калісьці была дарога. Дыбаю цераз яркі, абходжу яміны. Вось крынічка струменіць. Тут заўсёды гразка, і ў дождж, і ў спёку. На абочыне дарогі растуць гранаты.

Раней тут жылі людзі. Тады было ўсё роўна, дзе жыць,— скрозь бездарожжа. Потым узнялося сяло — і перасяліліся да новай дарогі. Так было лепей, так і зрабілі.

Баюся ўлезці ў гразь, адыходжу ўбок, яшчэ, яшчэ і — «бух» — гранат па галаве, як здаравенны кулак. Ах, д'ябал! І хто толькі гнаў мяне сюды!.. Гразь, купіны... ды яшчэ нейкі кудлач-сабака выскачыў на дарогу.

Так!.. Недзе ў гэтым баку жыве Тэбро̀... Вось і старэнькая хатка без вокан, крытая дранкай. Бедная Тэбро. Я нават ніводнага разу не ўспомніў пра яе. Ды і не дзіва: добра, калі раз у год на гэты канец зойдзеш. Нават сабака тут адвык ад прахожых.

Бедная Тэбро!.. Напэўна ёй памагае калгас. Іначай, што яна можа зрабіць. Мужа ў яе няма, ды і дзяцей таксама... Але ж у яе была дачка... Вядома... Памятаю, памятаю...

Яе звалі Цыяла, або Ціціно...

— Пшоў, дурны!

* Сліва (груз.)



Ціціно, вядома, яе звалі Ціціно... Яна была на два класы маладзейшая за мяне. Худзенькая, кволенькая дзяўчынка. Яна часта хварэла і бясконца прапускала заняткі. Так яна давучылася да пятага ці шостага класа. А потым, узімку, быў страшэнны снегапад...

— Сабака ты ці воўк, чорт бы цябе ўзяў!

Пасля гэтага я Ціціно не бачыў. Хаця не. Аднойчы я сустрэў яе ў горадзе. Цёпла захутаную, яе кудысьці вяла старэнькая Тэбро.

— Пшоў, кажу! Ды што ты прычапіўся да мяне!

І ў школе Ціціно трымалася неяк у баку. Звычайна яна стаяла дзе-небудзь воддаль ад усіх і сачыла, як гулялі дзеці. Яна нікога ніколі не крыўдзіла, ды і не магла пакрыўдзіць. Аднойчы нехта сарваў у яе з галавы хусцінку. Ціціно не пагналася за ім. Ні слова не сказаўшы, яна ўсё стаяла ля сцяны. І па яе твары цяклі слёзы. Вучоба давалася ёй цяжка. Яна і з-за гэтага таксама плакала.

Пасля заняткаў мы з крыкам выбягалі са школы, спявалі, смяяліся, дражнілі адзін аднаго. Ціціно вярталася адна. Павольна, апусціўшы галаву, сумная і бледная.

— Што за сабака ў гэтай Тэбро! З ланцуга ён сарваўся, ці што?!

Дзе цяпер Ціціно? Ужо два тыдні я тут. Кожны дзень у полі, у канторы не раз быў, усюды паспеў пабываць, а яе нідзе не сустрэў. Можа яна выехала? Але куды? Можа замуж выйшла?

— Батура, сюды! Сюды!.. У двор! Каб ты спрах!

У двары бабулька ўся ў чорным збірае грушы-ападкі. Тэбро заўсёды была сутулай, а цяпер стала як быццам нават гарбатай. Састарэла бедная Тэбро...

— Добры дзень, цётка Тэбро!

Яна паволі выпрасталася, паглядзела ў мой бок і стала паціраць рукі. Ад збянтэжанасці, ці што?

— Дай бог табе здароўя, сынок!

І хацела ўжо адвярнуцца, але я спытаў яе:

— Як вы сябе адчуваеце, цётка Тэбро? Не пастарэлі яшчэ?

Яна зноў выпрасталася. На гэты раз накіравалася да плоту і, паціраючы рукі, ціха сказала:

— Пастарэла, сынок, пастарэла, дай бог табе шчасця... Рана пастарэла.

Я дабраўся да форткі. Тэбро намагалася адчыніць яе.

— Заходзь, сынок! Мужчына — дарагі госць у нашай сям'і.

— Не, дзякуй, цётка Тэбро. Я спяшаюся па справе.

— Па якой справе? — паглядзела яна мне ў вочы, паківала галавой і, нібы просячы прабачэння, сказала: — Не пазнала я цябе. Старая стала... А старасць не радасць, сынок, ох, не радасць...

Я назваў сябе і хацеў ісці далей.

— Нарэшце маці дачакалася цябе. Заходзь, сынок. Мужчына ўвойдзе ў двор — дрэва ўсміхнецца. Вось каб і мая хлопчыкам нарадзілася.

— Ну, а як Ціціно?..

— Дай бог табе шчасця, не забыў яе...

— Дзе яна цяпер?

— Дома. Дзе ж ёй яшчэ быць...

— Чаму ж я яе нідзе дагэтуль не сустрэў?

— Дзякуй, што спытаў пра яе. Заходзь, дарагі, заходзь. Няма ў мяне нічога, але хоць груш пакаштуй. Або можа халоднай вады вып'еш?

Мне не хацелася яе пакрыўдзіць, і я не адмовіўся.

— Зайду, цётка Тэбро, зайду. Халодная вада для мяне лепей за любое віно.

Я ступіў у двор і замёр.

У прыадчыненых дзвярах старога дома я ўбачыў дзяўчыну, усю ў белым. Як толькі я глянуў на яе, яна знікла.

Тэбро паставіла перада мной стары табурэт, потым прынесла вады ў гліняным збане. Збан мясцінамі быў замазаны воскам. Не адрываючы вачэй ад дзвярэй, я выпіў дзве шклянкі сцюдзёнай вады. У доме было цёмна, і разгледзець што-небудзь было немагчыма. Я сеў пад дрэвам. Тэбро падала мне грушу. Я доўга трымаў грушу ў руках і ніяк не мог уцяміць, што з ёю рабіць. Нешта мяне непакоіла, нешта трывожыла. Здавалася, нехта сочыць за мной.

— Што, сынок? Ці груша табе не спадабалася? — пачуў я голас Тэбро. — У нас у канцы двара ткемалі растуць... Калі ты любіш — я прынясу.

— Не, не турбуйцеся. Груша ваша вельмі смачная...

— На, вось гэты яблык пакаштуй. Праўда, ён з зямлі падабраны, але на дрэва мне ўжо не ўзлезці.

— Так... — я не мог спакойна сядзець. — А як Ціціно? Яна не хворая?

— Не, сынок, хварэе. Каб яна была здаровая, і гора ў мяне ніякага не было б.

— А што з ёй?

— Не ведаю... Слабенькая яна была з маленства, ды так і не ачуняла.

— А ўрачы?

— Урачы... — Тэбро махнула рукой, — урачы... Не ведаю... Кажуць, малакроўе, зацямненне лёгкага. Ты, напэўна, ведаеш, што гэта такое.

— Зацямненне... Гэта не страшна... Цяпер гэта лечаць.

— Тваімі вуснамі мёд піць, сынок. Але не стала для яе радасці. Апетыту ў яе няма, ад сяброў-равеснікаў адстала. Адзін час тыя наведвалі яе, і яна была весялейшая, потым абрыдла ім па гэтай гразі дабірацца да нас і пакінулі. Пазаўчора доктар сказаў, што ёй лепш, але па начах яна ціха плача, не хоча, каб я чула... Ды хіба ад матчынага сэрца схаваеш што?..

— Дзе яна? Можна яе ўбачыць? — спытаў я.

— Зараз... Зараз яна,— Тэбро змоўкла, адвяла вочы, потым ціха прызналася. — Зараз... І не прыбрана ў нас, і не... А яна яшчэ спіць.... — і зноў стала збянтэжана паціраць рукі.

— Добра, пайду, — я павярнуўся да форткі. — Пайду, але вечарам абавязкова зайду яшчэ раз.

Я падняў паваленую фортку, умацаваў яе, паглядзеў на дзверы старога дома і выйшаў на дарогу. Сабака кінуўся за мной. Я нават не звярнуў на гэта ўвагі.

Мінуў двор, спусціўся ў даліну; у канале вады паменела, але я ўсё адно прамачыў ногі. Выйшаў на плантацыі і ледзь не наступіў на калгасніка, які прылёг у цяньку. Так і не заўважыў бы яго, каб не чырвоная павязка на галаве. На краі поля моцна ўдарыў нагу аб культыватар. Мне некалькі разоў гаварылі пра вагу сабранага чаю. Я нічога не запомніў, збегаў да навеса, адправіў машыну... Усё яшчэ раніца. Да вечара далёка. Да вечара цэлая вечнасць...

Прынесці вады. Кухар, не спяшаючыся, прыступіў да работы.

— Гэй, варушыся, поўдзень ужо.

Ён жмурыцца на сонца, потым на мяне і лянотна водзіць рукамі.

Зборшчыцы апаражняюць кашы, папраўляюць сукенкі, хустачкі. Смяюцца, спавядаюцца, колькі яны сабралі, хваляцца, што да вечара сабяруць утрая больш.



Нехта спявае, нехта рагоча-заліваецца.

Толькі кухар не спяшаецца.

— Вось пабачыш, спознішся з абедам, — прыспешваю я яго.

Ён зноў жмурыцца на сонца, выцірае рукі аб белы фартух, выцягвае з кішэні вялізны кішэнны гадзіннік. Глядзіць на гадзіннік, потым на мяне, і ўсё гэтак жа лянотна бярэцца за работу.

Бягу на плантацыі. Хтосьці кліча мяне:

— Бачуа, сюды, Бачуа!

Нехта зноў рагоча, да слёз. Недзе спяваюць.

— Бачуа-а-а!

Увечары я не стаў чакаць машыны і пайшоў нацянькі, гародамі. Калгаснік з чырвонай павязкай на галаве нарэшце прыступіў да работы.

Я не стаў скакаць цераз канал. Перайшоў яго ўброд і ўзбег на прыгорак. Іду праз кусты, цераз яркі. Спяшаюся, нават дыхаць цяжка. Здаецца мне, што хтосьці даўно, вельмі даўно чакае мяне.

А вось і дымок з коміна; старэнькі дом пад дранкавым дахам. Недзе тут з зямлі прабіваецца крыніца. Сабака зноў кідаецца да мяне, брэша. Дзверы ў доме адчынены. Хтосьці сядзіць на балконе.

— Ціціно?!

Яна ўбачыла мяне, устала... Я завярнуў да форткі. Ціціно ўвайшла ў дом.

— Батура, сюды, нягодны, сюды! — гэта выйшла Тэбро.

Я адчыніў фортку, асцярожна, каб яна зноў не павалілася.

— І сапраўды прыйшоў! — здзівілася Тэбро.

— А як жа, — пачаў я, прыціскаючы фортку спіной.

— Падае... увесь час падае, каб яна згарэла!

— Ды не, цётка Тэбро, яна добра прывязана.

— Прывязана? — здзівілася Тэбро, а потым пачала прымаўляць: — Не слухалася яна мяне сёння, зусім не слухалася. У канцы двара ў нас ткемалі растуць. Дык яна ўзяла кошык, дый на дрэва... Дагэтуль сядзела на балконе і нават хусткі на плечы не накінула...

— Нічога, цётка Тэбро, цяпер не холадна.

— Не холадна... А што, калі яна прастудзіцца? На адных леках трымаецца...

Да балкона быў прыстаўлен пляскаты камень: замест усходак. Я ступіў нагою на старую падлогу, яна зарыпела.

У пакоі ўжо гарэла лямпа. У куце, на высокім ложку, я ўбачыў Ціціно. Усю ў белым. Я ступіў да яе і падвярнуў нагу: падлога была вельмі няроўная.

І быццам аднекуль здалёк да мяне данеслася:

— Заходзьце...

— Мір вашаму дому...— чамусьці ціха сказаў я.

— Сюды, сынок, сюды! — пачуўся голас Тэбро, і яна падвяла мяне да ложка.

Ціціно паднялася і падала руку.

— Добры вечар, Ціціно...

— Добры вечар, — зноў данеслася аднекуль.

— Як ты сябе адчуваеш?

Я хацеў яшчэ нешта сказаць, хацеў пажартаваць, але не змог.

— Дзякуй...

— Ціціно... Я даўно цябе не бачыў. Пасля сямігодкі я паступіў у тэхнікум... А цяпер я ўжо скончыў яго, зусім скончыў.

— Сядай, дарагі, сядай, — падсунула мне крэсла Тэбро.

Ціціно таксама прысела на ложку. Тэбро прыкрыла яе плечы цёмным шалікам і выйшла.



— Цяпер я зусім скончыў тэхнікум... І буду часта заходзіць да цябе... А што ў цябе?

Ціціно моўчкі паглядзела на мяне. Ніколі ў жыцці я не бачыў такіх доўгіх веек.

Яна нічога не сказала, але я аж уздрыгнуў: здалося, яе вочы даверылі мне нейкую вялікую таямніцу.

— Ціціно...

Яна зноў не сказала ні слова і апусціла галаву.

Стала ціха. За спіной у Ціціно пела «курну» разамлелая кошка. Лямпа цьмяна асвятляла цёмныя сцены. Белая, як палатно, Ціціно ў белай сатынавай сукенцы здавалася нейкай казачнай пэры.

— Ціціно!..— я хацеў сказаць, як гэта добра, што ёй цяпер лепш, але перадумаў.— Так... Ты ведаеш,— я падняўся, потым зноў сеў,— я сёння вельмі стаміўся.

Ціціно зноў глянула на мяне.

— Тысяча спраў, чорт бы іх узяў! Як аднаму за ўсім паспець,— я раптам адчуў, што пачынаю выхваляцца, і змоўк. Але сядзець моўчкі было яшчэ горш, і я зноў пачаў гаворку.— Што рабіць з чаем, Ціціно? Чаю многа — рабочых рук не хапае. Не, вядома, хапае, але каб іх больш было, таксама не пашкодзіла б,— і не ведаю, адкуль мне прыйшла ў галаву такая думка, але я раптам сказаў: — а ты нам не памагаеш.

І прыкусіў язык.

Ціціно спачатку здзіўлена паглядзела на мяне, потым усміхнулася,— у яе былі белыя-белыя зубы.

Яе ўсмешка прыбавіла мне сілы. Забыўшыся і на стому, і на ветлівасць, заклаўшы рукі ў кішэні, я пачаў хадзіць па пакоі. Як, бывае, робіць старшыня.

— Не памагаеш... Гультайнічаеце, таварыш, гультайнічаеце!

Ціціно зноў усміхнулася.

— Так, не памагаеш нам. Чаму? Хто ведае чаму. Не жадаеш памагаць.

Ціціно ўсміхнулася і ціха сказала:

— Не хачу.

— Вось-вось, менавіта — не хочаш, у цябе няма жадання працаваць, а каб... — і чорт ведае, адкуль зноў прыйшла мне ў галаву думка, — а каб у цябе спыталі пра замужжа, каб жаніх добры знайшоўся...

Ціціно апусціла галаву. Але было відаць, што ўсмешка не знікла з яе вуснаў, і я зноў загаварыў:



— Вядома, работа нявартая цябе! А мы што?.. Чым мы горшыя за цябе?

Ціціно зноў узняла галаву, усміхнулася... Я ніколі ў жыцці не бачыў такіх доўгіх веек.

— Не, не горшыя, — я стаў перад ёй, узяўся ў бокі і змерыў сябе позіркам.

Яна таксама змерыла мяне позіркам з ног да галавы.

— Як бачыце — не горшыя.

Я адчуваў, што ёй вельмі хочацца засмяяцца. Але яна зноў толькі ўсміхнулася.

— Не горшыя, — паўтарыў я.

На гэты раз яна не вытрымала, адкінула галаву і залілася смехам, звонкім, вясёлым. Яна нават не заўважыла, як цёмны шалік споўз у яе з плеч.

Мне раптам захацелася абняць яе, прыхіліць да сябе і пабегчы... Пабегчы, хто ведае куды. У поле, да мора, у лес, да д'ябла, — усё адно куды. Але бегчы, бегчы і каб Ціціно смяялася, смяялася. Толькі каб яна смяялася...

Павячэралі. Пасля вячэры прынеслі фрукты. У жыцці я не еў столькі ткемалі. Позна ўвечары Тэбро праводзіла мяне да форткі. І ў дзесяты раз дзякавала мне.

— Бачыш, як яна ажыла. Дай бог табе, сынок, многа год жыцця... Не забыў... Прыйшоў!

— Я і заўтра прыйду, цётка Тэбро, і паслязаўтра...

...Раніцай я ўстаю, калі крычаць першыя пеўні, і адразу за работу. То пад гару даводзіцца бегчы, то з гары. То ля аднаго дома закрычу:

— Серапіён!

То ля другога:

— Іванэ! Іванэ! Не падводзь, глядзі! Лепш ужо сваёй рукой зарэж!

...Прыгожае ў нас сяло. У кожным двары — таполі. Вясною цвіце белая акацыя. Вінаграднікі ў нас блакітныя, мы іх абліваем купаросам... А пераспелыя грушы нават парсюкі не чапаюць. У кожнага свой дом у сакавітай зеляніне, і мы пачалі ўжо будаваць свой клуб.

...Радуюся я невядома чаго. Мо' таго, што не гультайнічаю, што я брыгадзір, парады ў мяне пытаюць, можа таго, што мама дачакалася мяне нарэшце. Восенню на грошы з працадзён куплю сабе новы гарнітур і падрамантую дом...

Выходжу за сяло, пачынаецца бездарожжа. Крочу, скачу, караскаюся.

Вось крынічка прабіваецца... Тут заўсёды гразка. Адыходжуся ўбок, яшчэ, яшчэ і — «бух!» — гранат па ілбе, як здаравенны ружовы кулак.

— Ціціно-о-о!

У першы дзень мне нічога ў адказ. У першы дзень яна нават не чакала мяне.

На другі.

— Ціціно-о-о!

Яна прыадчыняе дзверы і ўсміхаецца.

На трэці дзень.

— Ціціно-о! Даволі спаць, выходзь!

І яна выходзіць. Усміхаецца, смяецца.

— Ціціно, ну выходзь жа на двор!..

І Ціціно выходзіць на двор, нячутна ступае па роснай траве, даходзіць да форткі і ідзе ўздоўж плота, праводзіць мяне.

— Ціціно, пойдзем на плантацыі! Мы будзем павольна ісці. Ты па-

працуй... Трошачкі... А калі хочаш — зусім не працуй... Проста так прайдзіся...

І Ціціно ідзе. Ідзе з кошыкам у руках.

— Асцярожна, Ціціно, асцярожна... Не трэба так хутка... Вось сюды, тут суха... Ты не стамілася?.. Выйдзем на паляну, і ты адпачнеш. І ля канала адпачні. Я перакіну дошку цераз канал. Табе нельга мачыць ногі... Ты адпачні.

Я намацваю цвёрдую зямлю, але Ціціно не дацягваецца да купіны.

— Ціціно... што гэта? У цябе ж мокрыя ногі. Ціціно — ты ж прастудзішся... Вярніся назад.

Яна ўсміхаецца.

Мы выходзім на паляну. Дзякуй богу, хоць Ціціно адпачне цяпер, скіне шкарпэткі, высушыць... Куды спяшацца...

Яна глядзіць на мяне і ўсміхаецца.

— Адпачні, Ціціно.

— Не, — яна круціць галавой.

— Ты не стамілася?

— Не!

— Перакулі кошык і сядзь на яго. На траве раса — ты прастудзішся.

— Не! — зноў адмаўляецца Ціціно.

— А што ж нам рабіць? — непакоюся я.

— Пабяжым!

— Пабяжым?!

Яна хапае мяне за руку, у другой у яе кошык.

Я не паспяваю сказаць слова. Мы ўжо бяжым. Імчымся, як вецер.

— Ціціно! — шапчу я.

Ціціно смяецца, цягне мяне, і мы бяжым...

— Ты ўпадзеш! — крычу я.

Ціціно смяецца, скача цераз яры, кусты, пырхае, як белы матылёк.

— Стой жа, Ціціно... Тут... Ціціно, мы трапім у канал... — і трапілі. Сцюдзёная вада, аж заняло дух. Я быццам праглынуў язык. Змоклая да ніткі Ціціно заліваецца смехам, звонкім-звонкім.

— Бачуа... Бачуа! — кліча яна мяне і смяецца, смяецца.

Я цягну яе да берага, цягну сілком, саджу на прыгорак, на траву і прашу супакоіцца, прашу... Вось-вось заплачу.

А Ціціно смяецца, і шчокі яе палаюць агнём. Яна глядзіць і глядзіць на мяне.

Я ніколі ў жыцці не бачыў такіх доўгіх веек.

А Ціціно смяецца, смяецца...

Пераклаў з грузінскай мовы
У. КАРАТКЕВІЧ.



# *Дарогамі сямігодкі*



Міністр сельскай гаспадаркі БССР М. М. Луцэнка.

## УСЕНАРОДНАЯ СПРАВА

З небывалым натхненнем рыхтуецца да вясны калгасная вёска. Працаўнікі сельскай гаспадаркі Савецкай Беларусі, узброіўшыся разгорнутай баявой праграмай — гістарычнымі рашэннямі студзеньскага Пленума ЦК КПСС, рэзалюцыяй актыву Кампартыі Беларусі, — цвёрдым поступам выходзяць заваёўваць вызначаныя рубяжы на шляху да багацця сельскагаспадарчых прадуктаў.

**Раскажыце коратка аб задачах, якія стаяць перад працаўнікамі сельскай гаспадаркі рэспублікі ў трэцім годзе сямігодкі,** — з такім пытаннем звярнуўся наш карэспандэнт да Міністра сельскай гаспадаркі БССР Міхаіла Мікалаевіча Луцэнкі.

— У нашай краіне дасягнуты значныя поспехі ў сельскай гаспадарцы. Узраслі вытворчасць і нарыхтоўкі збожжа, мяса, малака і іншай сельскагаспадарчай прадукцыі.

У мінулым годзе ў калгасах і саўгасах рэспублікі ў параўнанні з 1959 годам вытворчасць мяса ўзрасла на 12 працэнтаў і малака — на 15 працэнтаў. На сто гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў атрымана 30 цэнтнераў мяса ў жывой вазе, 151 цэнтнер малака.

Ураджайнасць збожжавых у параўнанні з 1959 годам павышана на 1,6 цэнтнера, бульбы на 11 цэнтнераў, цукровых буракоў — на 20 працэнтаў, ільноваласкна ў паўтара раза. Значна пашыраны плошчы пасеву шматгадовых траў, кармавога лубіну, кукурузы.

Разам з тым, як адзначыў студзеньскі Пленум ЦК КПСС, тэмпы росту вытворчасці сельскагаспадарчых прадуктаў, асабліва ў жывёлагадоўлі, сур'ёзна адстаюць ад узросшых запатрабаванняў насельніцтва на харчовыя тавары.

На Пленуме ЦК КПСС адзначалася, што ў Беларусі аслаблена ўвага да вырошчвання збожжа, асабліва такой каштоўнай культуры, як грэчка. Валавы збор збожжа адстае ад паказчыкаў, прадугледжаных сямігадовым планам. Рэспубліка не выканала сваіх сацыялістычных абавязацельстваў па вытворчасці мяса, надою малака на карову, ураджайнасці асноўных збожжавых культур і бульбы.

Студзеньскі Пленум ЦК КПСС, падвёўшы вынікі развіцця сельскай гаспадаркі ў другім годзе сямігодкі, вызначыў ясныя шляхі далейшага ўздыму ўсіх галін сельскагаспадарчай вытворчасці.

На сходзе актыву Кампартыі Беларусі дэталёва і грунтоўна абмяркоўваліся канкрэтныя мерапрыемствы па далейшаму ўздыму ўсіх галін калгаснай і саўгаснай вытворчасці ў рэспубліцы.

У галіне зернявой гаспадаркі галоўнай задачай калгасаў і саўгасаў з'яўляецца далейшае павышэнне валавога збору збожжа з тым, каб к канцу 1965 года давесці яго да 4,7 мільёна тон. Як вядома, у 1960 годзе мы атрымалі 2,2 мільёна тон.

Галоўная задача ў галіне грамадскай жывёлагадоўлі — павелічэнне статку жывёлы і павышэнне яе прадуктыўнасці. Да канца сямігодкі ў калгасах і саўгасах на 100 гектараў сельскагаспадарчых угоддзяў трэба мець 17—18 кароў. Усямерна развіваць свінагадоўлю — найбольш скараспелую галіну жывёлагадоўлі, з тым, каб ужо сёлета зняць з адкорму не менш чым 1 800 тысяч свіней — гэта ў два разы больш мінулагодняга.

Трэба больш увагі ўдзяліць авечкагадоўлі, а таксама развядзенню птушкі і трусоў.

**Якія ў нас, у рэспубліцы, рэзервы павелічэння вытворчасці збожжа?**

— Рост ураджайнасці, павелічэнне пасеўных плошчаў галоўным чынам за кошт асваення тарфянікаў, замена малаўраджайных культур высокаўраджайнымі, пераход на суцэльныя пасевы гатунковым насеннем — вось тыя рэзервы, якія неабходна выкарыстаць. Да гэтага яшчэ трэба дадаць высокую агратэхніку.

Неабходна смялей замяняць малаўраджайныя культуры больш ураджайнымі. Замест аўса і яравой пшаніцы, якія не даюць высокага прыбытку, больш сеяць проса, ячменю, азімага жыта, кукурузы на зерне. Трэба даць «зялёную вуліцу» грэчцы. Ужо сёлета плошчы пад гэтай культурай трэба будзе давесці да 160 тысяч гектараў — замест 129 тысяч гектараў у мінулым годзе.

**Што робіцца для павелічэння вытворчасці кукурузы, для атрымання найбольшай колькасці пачаткаў малочна-васковай спеласці?**

— Пасевы кукурузы ў рэспубліцы з кожным годам пашыраюцца, павялічваецца яе ўраджайнасць. Дагэтуль у асноўным кукуруза вырошчвалася на сілас. Насенне ж яе завозілася з іншых раёнаў краіны — з Малдавіі, Украінскай ССР.

Цяпер прыймаюцца захады, каб мець уласнае насенне — хуткаспелыя гатункі і гібрыды кукурузы.

Вырошчванне насеннай кукурузы канцэнтруецца на поўдні рэспублікі — у Брэсцкай і Гомельскай абласцях. Абласныя доследныя станцыі будуць спецыялізавацца на вырошчванні насення эліты. У калгасах і саўгасах будуць укараняцца змешаныя пасевы ранняй і позняй кукурузы. Гэтым мы забяспечым атрыманне як мага больш пачаткаў малочна-васковай спеласці.

Сёлета змешаная кукуруза будзе пасеяна на плошчы прыкладна 100 тысяч гектараў.

Карыстаючыся выпадкам, я хацеў бы звярнуць увагу моладзі на гэту важнейшую кармавую культуру. Камсамольцы Беларусі палюбілі зялёную «каралеву палёў». Механізаваныя звенні, якія вырошчвалі ў апошнія гады кукурузу, выдатна праявілі сябе ў новай справе. Трэба шырэй укараняць такія комплексныя механізаваныя звенні, пераходзіць ад звенняў да брыгад, беручыся за вырошчванне кукурузы, цукровых буракоў, бульбы. Жыццё паказала, што яны поўнасцю апраўдваюць сябе. Каму, як не камсамольцам, вясковым энтузіястам, узяцца за гэту важную справу!

**Якія рэзервы павелічэння жывёлагадоўлі ў рэспубліцы і ўзняцця яе прадуктыўнасці?**

— Паляпшэнне догляду і ўтрымання жывёлы — вось рэзерв павелічэння вытворчасці мяса. Штогод мы нясём вялікія страты ад падзяжу. У калгасах і саўгасах яшчэ высокая ялавасць матачнага пагалоўя. У 1960 годзе, напрыклад, ад ста кароў і нецеляў было атрымана толькі па 80 цялят, а ад ста аўцаматак — па 75 ягнят. Калі б мы на сто матак

**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ**



Мінскі тонкасуконны камбінат даўно прывабіў маю творчую ўвагу. Я правёў там шмат часу, робячы замалёўкі, эцюды. На мяне вялікае ўражанне зрабілі тыя цёплыя, таварыскія, сяброўскія адносіны між людзьмі, імкненне памагчы адно аднаму на рабоце і ў асабістых справах. Адчуванне кожнаю з работніц шчасця працы і натхніла мяне на стварэнне карціны «Ткачыхі».

**Х. Ліўшыц.**

**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ**



Над партрэтам настаўніцы я пачаў працаваць яшчэ калі быў студэнтам мастацкага інстытута. Мне вельмі хацелася стварыць светлы вобраз чалавека, вернага сваёй справе, шчырага ў сваім высакародным імкненні аддаць веды, вопыт, чуласць сэрца выхаванню новага пакалення. Такі вобраз настаўніцы пачынаў складвацца ў маёй свядомасці яшчэ, мусіць, у школьныя гады, калі я з глыбокай павагай ставіўся да сваіх канкрэтных выхавацеляў. Цяпер жа канкрэтнае афармілася ў абагульненае, тыпізаванае.

**Міхась Лісоўскі.**

атрымалі 95 цялят і 100 ягнят, то змаглі б дадаткова атрымаць 125 тысяч цялят і 117 тысяч ягнят. Падгадаваўшы гэты маладняк хоць бы да году, павялічылі б вытворчасць мяса на 28 тысяч тон.

Нездавальняюча ў нас яшчэ пастаўлена гадоўля свіней. Летась у сярэднім на адну свінаматку атрымана па 12.6 парасяці. Калі б мы атрымалі ад адной асноўнай свінаматкі 15 парасят і адкармілі гэты маладняк, то дадаткова мелі б 25 тысяч тон свініны.

Вельмі важным рэзервам з'яўляецца таксама шырокая арганізацыя нагулу і адкорму буйнай рагатай жывёлы. Каб у 1960 годзе мы здавалі дзяржаве кожнага нецёля ці бычка жывой вагою да 250 кілаграмаў, а не 197, як гэта было, то дадаткова мелі б 40 тысяч тон мяса.

Варта ўказаць яшчэ на неабходнасць паляпшэння малочнай прадуктыўнасці кароў. Шырокае ўкараненне штучнага абсемянення — вось сродак, які дапаможа нам рэзка палепшыць племянныя якасці статку. У рэспубліцы створана 6 абласных і 23 міжраённыя дзяржаўныя станцыі, якія займаюцца штучным абсемяненнем жывёлы.

З надыходам пашавага перыяду трэба звярнуць асаблівую ўвагу на правільнае ўтрыманне жывёлы. Сёлета неабходна будзе дадаткова паставіць на нагул 650 тысяч галоў буйнай рагатай жывёлы, выдзеліць нагульныя гурты ў кожным калгасе і саўгасе.

Сельскія камсамольцы, як вядома, актыўна ўдзельнічаюць у агульнанароднай справе ўздыму грамадскай жывёлагадоўлі. У апошнія гады на фермы прыйшлі маладыя калгаснікі з ліку выпускнікоў сярэдняй школы, якія прынеслі з сабою не толькі камсамольскі задор і энергію, але і новыя адносіны да працы. Маладым, больш чым каму з людзей пажылога веку, уласціва пачуццё новага.

Камсамольцы могуць і павінны стаць застрэльшчыкамі ўкаранення ўсяго новага і перадавога, што нараджаецца навукай і сельскагаспадарчай практыкай.

У калгасах і саўгасах і сёлета ствараюцца спецыялізаваныя фермы і брыгады па гадоўлі жывёлы, яе нагулу і адкорму. Абавязак камсамольцаў — вылучыць сваіх лепшых людзей, якія возьмуцца за адкорм жывёлы, стануць за пастухоў, даглядчыкаў, даярак.

**Як ідзе ўкараненне механізацыі ў сельскай гаспадарцы і асабліва ў жывёлагадоўлі?**

— У калгасах і саўгасах рэспублікі вырошчванне збожжавых культур у асноўным механізавана поўнасцю. У мінулым годзе больш чым на палове ўсёй плошчы кукуруза вырошчвалася з дапамогай машын. Між тым, вузкім месцам яшчэ застаецца механізацыя вырошчвання ільну, бульбы, канапель, гародніны. І гэта не таму, што калгасы і саўгасы не праяўляюць актыўнасці ў гэтай справе. Няма яшчэ дасканалых машын для гэтага, і навукова-даследчыя ўстановы, канструктарскія бюро ў вялікім даўгу перад вёскай.

Недастаткова вядзецца работа па механізацыі жывёлагадоўчых ферм. Прымаюцца меры, каб у бліжэйшы час на фермах поўнасцю механізаваць паенне, прыгатаванне і раздачу корму, даенне і г. д. Сёлета рэзка ўзрасце пастаўка машын і абсталявання для механізацыі работ у жывёлагадоўлі.

Задача заключаецца ў тым, каб не адкладаць «на заўтра» работы па механізацыі працаёмкіх працэсаў і па-гаспадарску выкарыстаць тыя машыны і абсталяванне, што ёсць на фермах і якія будуць набыты.

У нас ёсць павучальныя прыклады таго, як пры ўмелым, разумным выкарыстанні механізмаў аблягчаецца праца людзей і якія выгады дае механізацыя гаспадаркі. Дзякуючы ўвядзенню механічнага даення і механізацыі іншых працэсаў на ферме камсамолка саўгаса «Падалессе» Рэчыцкага раёна Ніна Пастухова даглядае 95 кароў. Такіх прыкладаў з кожным днём становіцца ўсё больш. Гэта нашы маякі, на якія трэба раўняцца!



**Што будзе зроблена ў Беларусі ў гэтым годзе па асваенню «беларускай цаліны» — балот і тарфянікаў?**

— На цяперашняе сямігоддзе намечаны вялікія работы па асваенню балот і забалочаных зямель. Згодна рашэнняў студзеньскага Пленума ЦК КПСС у наступныя пяць год сямігодкі мяркуецца асушыць балоты, забалочаныя і завільгочаныя землі на плошчы 1 300 тысяч гектараў. Ужо сёлета прадугледжана асвоіць і палепшыць 230 тысяч гектараў, апрача таго, правесці карэннае і паверхневае паляпшэнне лугоў і сенажаці на плошчы 222 тысячы гектараў, пашаў і выпасаў — на плошчы 160 тысяч гектараў.

— Гэта — велізарная работа. Яна патрабуе шмат сіл і сродкаў, але затраты акупяцца. Як вядома, на асушаных землях вырошчваюцца багатыя ўраджаі розных сельскагаспадарчых культур і траў. Тарфянікі — невычэрпна багатае дно, якое чакае працавітых рук!

Важная задача кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, сельскіх камсамольцаў заключаецца ў тым, каб у 1961 годзе не застаўся не асвоены ні адзін гектар асушаных ужо зямель.

**Як беларускія вучоныя памагаюць партыі і народу ў вырашэнні задачы стварэння багацця сельскагаспадарчых прадуктаў?**

— За апошнія гады навукова-даследчыя ўстановы рэспублікі ўнеслі значны ўклад у развіццё сельскай гаспадаркі. Сельскагаспадарчая навука стала бліжэй да жыцця, да карэнных пытанняў, якія хвалююць людзей вёскі.

Як вядома, у Беларусі балоты і забалочаныя землі займаюць вялікія плошчы. Каб іх асвоіць, трэба сучасная меліярацыйная тэхніка. Яе і ствараюць нашы вучоныя. Навукова-даследчы інстытут механізацыі і электрыфікацыі распрацаваў комплекс меліярацыйных машын, якія прайшлі ўжо выпрабаванні і атрымалі станоўчую ацэнку.

Разам з практыкамі вучоныя рэспублікі распрацавалі навукова-абгрунтаваную сістэму вядзення гаспадаркі, якая ўжо тры гады, як укараняецца ў вытворчасць. Сіламі навукова-даследчага інстытута глебазнаўства праведзена вялікая работа па складанню глебавых карт, якія дапамогуць калгасам і саўгасам правільна выкарыстаць землі для размяшчэння сельскагаспадарчых культур.

У сувязі з новымі задачамі, якія пастаўлены перад вёскай, перабудоўвае сваю работу і Міністэрства сельскай гаспадаркі. Яго дзейнасць цяпер будзе сканцэнтравана на паляпшэнні работы навукова-даследчых устаноў, абагульненні і прапагандзе навукі і перадавога вопыту, на распрацоўцы з улікам занальных асаблівасцей рэкамендацый калгасам і саўгасам па пытаннях найбольш рацыянальнага вядзення гаспадаркі, падрыхтоўцы кадраў вышэйшай і сярэдняй кваліфікацыі, племяннай справы, ветэрынарыі, па барацьбе з хваробамі і шкоднікамі сельскагаспадарчых раслін.

Што датычыць матэрыяльнага забеспячэння, рамонту і выкарыстання тэхнікі ў калгасах і саўгасах, то гэту справу будзе ажыццяўляць спецыяльнае аб'яднанне, якое з'явіцца пасрэднікам паміж прамысловасцю і вёскай.

Апорай міністэрства будуць доследныя станцыі, іх вопытныя гаспадаркі, а таксама вялікі атрад спецыялістаў і практыкаў на месцы.

У новых умовах роля спецыялістаў-аграномаў, заатэхнікаў, ветэрынарных урачоў, інжынераў-механікаў і інш., як ніколі раней, узрастае. Мы павінны клапаціцца аб уладкаванні маладых спецыялістаў, стварыць ім усе ўмовы для плённай работы.

**У вёсцы з кожным годам павялічваецца колькасць юнакоў і дзяўчат, якія закончылі дзесяцігодку. Палітэхнічная база ў сельскіх школах, як вядома, яшчэ слабая. Ці не думаюць у Міністэрстве прыняць меры, каб моладзь вёскі больш актыўна рыхтавалася да ўдзелу ў сельскагаспадарчай вытворчасці?**

— Так, пытанне гэта надзённае. Вучням ужо ў школе трэба даваць

трывалыя практычныя навыкі, выхоўваць іх у духу павагі і любві да тае працы, да таго занятку, якім жывуць бацькі.

Для моладзі пасля школы — шырокі прастор на палях і на жывёлагадоўчых фермах, у трактарных брыгадах. У сучасны момант у рэспубліцы створаны вучэбны камбінат, які сёлета навучыць каля 45 тысяч юнакоў і дзяўчат розным сельскагаспадарчым спецыяльнасцям.

Пры навукова-даследчых інстытутах і навуковых установах, абласных доследных станцыях, у перадавых калгасах і саўгасах дзейнічаюць школы перадавога вопыту, дзе маладыя людзі, выпускнікі, могуць набываць і ўдасканальваць неабходныя навыкі, вывучаць дасягненні навукі і практыкі.

У кожнай вобласці дзейнічаюць шасцімесячныя курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы брыгадзіраў паляводчых і жывёлагадоўчых брыгад.

У рэспубліцы ёсць чатыры вышэйшыя сельскагаспадарчыя навучальныя ўстановы, 27 сельскагаспадарчых тэхнікумаў і чатырыаднагадовыя школы. Перавага пры паступленні ў іх аддаецца юнакам і дзяўчатам, якія пасля атрымання атэстата сталасці папрацавалі ў сельскагаспадарчай вытворчасці не меней двух год.

**Як будуць вырашацца пытанні далейшага паляпшэння быту сельскіх працаўнікоў?**

— Клопаты аб дабрабыце народа — у цэнтры ўвагі нашай партыі. Сельскія працаўнікі, якія ствараюць багацце прадуктаў для грамадства, акружаны ўсенароднай павагай.

Калгасная вёска з кожным днём харашэе, наладжваецца быт калгаснікаў. Кіно, радыё, тэлебачанне сталі звычайнай з'явай, неад'емнай часткай вясковага побыту.

У бліжэйшыя гады ў рэспубліцы ўзнікнуць новыя добраўпарадкаваныя пасёлкі, якія мала чым будуць адрозніваццa ад горада. У вёсках будзе збудавана шмат клубаў, школ-інтэрнатаў, бальніц, магазінаў, дзіцячых садоў і ясляў.

Адбудова і ўпарадкаванне населеных пунктаў праводзіцца няспынна і будзе ўвесь час узмацняцца з ростам эканомікі калгасаў і саўгасаў. У новыя сельскія цэнтры будуць ссяляцца ў першую чаргу калгаснікі, рабочыя саўгасаў, якія жывуць яшчэ на хутарах і ў невялічкіх вёсках.

Вядуцца работы з тым, каб у хуткім часе электрыфікаваць усе калгасы і саўгасы рэспублікі.

**Што новае прынясе вясна 1961 года?**

— Вясна — падмурак года. У народзе кажуць, што вясновы дзень — год корміць. У гэтай народнай прыказцы вялікі сэнс. Ад таго, як калгаснікі, механізатары, усе працаўнікі і спецыялісты сельскай гаспадаркі пастараюцца ў гарачыя веснавыя дні, залежаць нашы далейшыя поспехі, лёс будучага ўраджаю.

Найпершы абавязак калгасаў і саўгасаў — усебакова падрыхтавацца да веснавой сяўбы, паспяхова завяршыць зімоўку жывёлы, каб стварыць надзейныя ўмовы для выканання сацыялістычных абавязацельстваў.

Там, дзе яшчэ не закончана падрыхтоўка насення, рамонт сельскагаспадарчай тэхнікі, не скамплектаваны брыгады і звенні па комплекснай механізацыі вырошчвання сельскагаспадарчых культур і работ у жывёлагадоўлі, трэба неадкладна завяршыць усе гэтыя падрыхтоўчыя работы. Неабходна ўзмацніць вывазку на палі мясцовых угнаенняў, шырэй разгарнуць агразаатэхнічную вучобу калгаснікаў і рабочых саўгасаў.

Вясна 1961 года прынясе новыя радасці і поспехі калгаснай вёсцы. Вялікім стымулам ва ўздыме сельскай гаспадаркі з'яўляюцца прынятыя Цэнтральным Камітэтам КПСС і ўрадам СССР рашэнні аб зніжэнні цэн на трактары, машыны, запасныя часткі да іх, аб прадастаўленні льгот калгасам пры абкладанні іх даходаў ад жывёлагадоўлі; устаноўлены новыя, больш выгадныя для калгасаў умовы дзяржаўнага крэдыту. Калгасы рэспублікі ў 1961 годзе будуць мець ад усяго гэтага эканомію ў 25,7 мільёна рублёў новымі грашыма. Апрача гэтага, зроблена адтэрміноўка плацяжоў за набытую тэхніку ў суме 5 мільёнаў рублёў і па доўгатэрміновых крэдытах Дзяржбанка — у суме 7,5 мільёна рублёў.

Сёлета ў Беларусь будзе больш пастаўляцца машын, механізмаў, абсталявання для аснашчэння сельскай гаспадаркі. Салігорскі камбінат ужо дае калгасам і саўгасам мінеральныя ўгнаенні.

Студзеньскі Пленум ЦК КПСС — вялікая школа для ўсіх нас. Матэрыялы пленума, асабліва выступленне Мікіты Сяргеевіча Хрушчова, рэзалюцыя партыйнага актыву Кампартыі Беларусі ўзбройваюць кіраўнікоў калгасаў і саўгасаў, усіх працаўнікоў сельскай гаспадаркі яснай, канкрэтнай праграмай дзеянняў, усяляюць упэўненасць у тое, што вызначаныя рубяжы на 1961 год будуць узяты.

Шырэй разгорнем сацыялістычнае спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXII з'езда КПСС, унясем свой уклад ва ўсенародную справу ўздыму сельскай гаспадаркі і далейшае ўмацаванне эканомікі нашай краіны.



## МАЯКІ НАШАГА ЧАСУ

**На фермах калгасаў і саўгасаў Беларусі працуе 72 000 юнакоў і дзяўчат. Многія з іх ужо сталі перадавікамі сельскагаспадарчай вытворчасці, якія ўсе свае сілы аддаюць народу. Такіх людзей Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў, выступаючы на студзеньскім Пленуме ЦК КПСС, назваў маякамі.**

**Сярод удзельнікаў пленума была і свінарка саўгаса „Баронь" Полацкага раёна Ліля Баравіцкая. Вярнуўшыся з Масквы, яна выступіла перад мікрафонам Беларускага радыё.**

**— Камсамольцы Віцебшчыны, — сказала Ліля, — сталі ініцыятарамі сацыялістычнага спаборніцтва сельскай моладзі за дастойную сустрэчу XXII з'езда роднай партыі. Я вырашыла ў трэцім годзе сямігодкі адкарміць 2 000 свіней — на 500 галоў больш, чым летась.**

Фота А. Дзітлава



# ГРАМАДСКІЯ КАНСТРУКТАРЫ

**Рэпартаж**

Канструктарскае бюро сталеліцейнага цэха. Закончан рабочы дзень. Замёрлі да раніцы тонкія чорныя рукі кульманаў. Праз акно ў пакой увайшла цемра. Ціха. Але ціха толькі тут. А наўкол звычайны заводскі гул: роўна дыхае «ліцейка», чуваць, як б'ецца вялізнае гарачае сэрца кузні. Завод працуе, завод жыве ў напружаным рытме сямігодкі.

Ды і ў канструктарскім бюро цішыня ненадоўга. Хутка збяруцца грамадскія канструктары — новыя калегі Івана Мікалаевіча Немiровiча, начальніка ЦКБ. Сёння дамовіліся падвесці вынік зробленага і абмеркаваць новыя планы.

Вынікі... Прызнацца, Іван Мікалаевіч не чакаў, што пройдзе ўсяго некалькі месяцаў і можна будзе весці вялікую размову аб зробленым. Не думалася, што грамадскае канструктарскае бюро так хутка, энергічна стане на ногі і знойдзе сваё месца ў агульным рэчышчы няспыннага заводскага паўнаводдзя. І вось ужо ёсць вынікі і вынікі нядрэнныя.

Памятае Немiровiч, як у кастрычніку мінулага года запрасілі яго ў партыйнае бюро. Прысутнічалі начальнік цэха Куляшоў і парторг Бажко.

— Нашу гутарку наконт грамадскіх канструктараў не забыў? — спытаўся парторг. — Дык вось бюро ў цэху ствараем. Вырашана. Табе думаем даручыць узначаліць яго. Што скажаш?

Іван Мікалаевіч згадзіўся.

Аб стварэнні бюро абвясцілі ў цэху. У той жа дзень на стол Немiровiча ляглі першыя заявы.

«Ад кранаўшчыцы Сышчанка Тамары Антонаўны.

Прашу залічыць мяне ў грамадскае канструктарскае бюро».

«Ад памочніка майстра стрыжнёвага аддзялення Лабачова.

Прашу прыняць у грамадскае канструктарскае бюро».

«Ад брыгадзіра слесараў Жыгарава.

Хачу працаваць у грамадскім канструктарскім бюро».

«Ад падручнага сталявара Перапечкіна»...

«Ад намесніка начальніка цэха Поляка»...

Немiровiч перачытваў заявы і прыгадваў тых людзей, што пісалі. Аказалася, ён ведаў амаль усіх. Яны і раней праяўлялі цікавасць да рацыяналізацыі і вынаходніцтва, і Немiровiчу з імі не раз даводзілася гутарыць аб прапановах, ідэях, якія выношваліся і спелі ў неспакойных, дапытлівых галовах; даводзілася і кансультаваць, дапамагаць, спрачацца.

А некаторых, напрыклад, брыгадзіра слесараў Андрэя Жыгарава, Немiровiч ведаў зусім добра. Андрэй у цэху не вельмі даўно, а на яго «баявым» рахунку ўжо каля двух дзесяткаў важкіх рацыяналізатарскіх прапаноў. Бываючы ў цэху, Немiровiч з задавальненнем сочыць за Андрэем. Больш-менш вопытнаму воку адразу відаць, як пульсуе ў гэтым чалавеку творчая жылка. Брыгадзір не можа проста прайсці па цэху, ён абавязкова спыніцца ля машыны, яму абавязкова трэба што-небудзь падкруціць, наладзіць.



**Сканструяванае Андрэем Жыгаравым прыстасаванне хутка ўвойдзе ў «быт» сталеліцейнага цэха.**

Робячы нешта, ён абавязкова задумаецца. Відаць, як ён у думках разбірае машыну па частках, прыкідвае, шукае. Гэта ўжо ўвайшло ў кроў, стала прывычкай, такой жа, як прывычка ў час прыходзіць на працу і прыдзірліва сачыць за «здароўем» электрапечаў.

Між іншым, калі зайшла гутарка аб грамадскім канструктарскім бюро, Неміровіч адразу падумаў пра Андрэя. Ён не сумняваўся, што Андрэй запішацца першы. Мала таго, «праз» Жыгарава ён лепш за ўсё бачыў будучыню творчага калектыву і асабліва добра адчуваў сэнс народжанай жыццём ідэі стварэння такіх бюро.

Узяць іхні завод. Тут такіх, як Жыгараў, сотні. І даўно наспявала неабходнасць неяк аб'яднаць, згуртаваць іх сілы, памагчы гэтым людзям навучыцца «адліваць» свае задумы ў іншыя формы — не ў агульныя, даволі расплывістыя схемы на імянных бланках бюро па рацыяналізацыі і вынаходніцтву, а ў дакладныя контуры і разлікі на лістах ватмана, на кальцы.

Такіх, як Жыгараў, — следапытаў у тэхніцы, — з кожным днём усё больш і больш і, натуральна, усё дужэе і дужэе плынь рацыяналізатарскіх прапаноў. Сярод іх шмат каштоўных, якім ніяк нельга залежвацца ў папках. А каму заняцца іх распрацоўкай? Штатнаму канструктарскаму бюро? Але яно ледзь спраўляецца з планавымі заданнямі — прыток новага расце літаральна не па днях, а па гадзінах. А вось грамадскія канструктары змогуць узяць на сябе гэтую ношу.

Карацей кажучы, Жыгараў быў для Неміровіча лепшым прыкладам, калі спатрэбілася б недзе адстойваць ідэю грамадскіх канструктарскіх бюро. На шчасце, у сталеліцейным ды і на заводзе наогул такой неабходнасці не было.

Грамадскае канструктарскае бюро з'явілася на свет. Ля кульмана, які паставілі спецыяльна для грамадскіх канструктараў, вечарамі заўсёды нехта ёсць. Часам нават двое, трое: навічкам разам лягчэй пазнаваць мудрасць канструктарскай дыялектыкі. Да таго ж, у бюро з першых дзён павялося ствараць для распрацоўкі прапаноў двуадзіны саюз рабочага і інжынера або рабочага і тэхніка. Практыка паказвае, што такія саюзы вельмі карысныя і дзейсныя.

Практыка паказвае... Вось ужо якія словы ўжывае кіраўнік ГКБ! Што ж, практыка сапраўды ўжо выдала грамадскім канструктарам атэстат сталасці. Дванаццаць прапаноў распрацаваны імі і ўкаранёны або ўкараняюцца ў вытворчасць, а дванаццаць яшчэ распрацоўваюцца. І ўсе каштоўныя.

Узяць хоць бы апошнюю прапанову таго ж Андрэя Жыгарава. Раней купал электрапечы падымаўся пры дапамозе электрарухавіка і рэдуктара. А ў рэдуктараў вельмі хутка зношваліся шасцерні. А знасіліся — значыць, рамонт, значыць, спыняецца печ. Андрэй прапанаваў замяніць рэдуктар і электраматор пнеўмацыліндрам. Паспрабавалі — атрымалася добра. Павысілася прадукцыйнасць печы, меншымі сталі выдаткі на абсталяванне. Неўзабаве навіна брыгадзіра слесараў увойдзе ў «быт» усяго цэха.

Шмат каштоўнага прапанавалі і іншыя. З дапамогай грамадскіх канструктараў укаранёна механічнае, замест ручнога, закліньванне электродаў, якое павышае прадукцыйнасць печаў і ўдасканальвае тэхніку бяспекі; ажыццяўляецца пераход на біметалічныя электродатрымальнікі (эканоміцца 200 кілаграмаў бронзы на кожным!).



**Косця Хадаркевіч—былы стрыжнёўшчык, а цяпер канструктар цэхавага бюро і студэнт палітэхнічнага інстытута.**



Але ж справа не толькі ў прапановах. Справа яшчэ ў актыўнасці, у баявітасці грамадскага канструктарскага бюро, а галоўнае, бадай, — калі глядзець далёка ў будучыню — у росце людзей (і ён прыкметны ўжо!), якія там супрацоўнічаюць.

Баявітасць. Іван Мікалаевіч заўсёды прыгадвае прыклад з рацыяналізатарскай прапановай Зямковіча і Яненкі. Гэтую прапанову бюро рацыяналізацыі і вынаходніцтва завода адхіліла, спасылаючыся на складанасць распрацоўкі і груваcткасць ажыццяўлення. І вось яна трапіла ў рукі грамадскіх канструктараў.

— Паспрабуем? — звярнуўся Неміровіч да аднаго, другога, трэцяга.

Усе адказалі дружна:

— Вядома, паспрабуем!

Грамадскія канструктары ўзяліся, і цяпер прапанова Зямковіча і Яненкі ўжо «на выхадзе». У бюро ніхто не сумняваецца, што з яе ўкараненнем транспартыроўка адлівак у тэрмаабрубачнае аддзяленне ўдасканаліцца і да таго ж стане больш таннай.

Ну, а пра рост людзей Неміровіч можа расказваць гадзінамі, і нават, бадай, днямі.

Вунь за тым сталом, насупраць яго, Неміровіча, сядзіць цяпер Мая Баран. Цікава складваецца лёс дзяўчыны. Мая — кранаўшчыца, скончыла вячэрні машынабудаўнічы тэхнікум пры заводзе, запісалася ў ГКБ і цяпер часова замяняе штатнага канструктара ў цэхавым бюро. Маіна кемлівасць, стараннасць, любоў да справы ўмацавалі ў Неміровіча перакананне: будзе Мая канструктарам, і добрым.

А вось направа другі стол. За ім сядзіць таксама член ГКБ Косця Хадаркевіч, былы стрыжнёўшчык, а цяпер канструктар цэхавага бюро, студэнт Беларускага палітэхнічнага інстытута.

Цікава, як раскрываюцца многія з'явы, выкліканыя подыхам часу. Калі ўся дзейнасць Андрэя Жыгарава — цудоўны доказ наспеўшай патрэбы ў грамадскіх канструктарскіх бюро, дык прыклад Маі Баран і Косці Хадаркевіча — яркае пацверджанне думкі аб тым, што яны, грамадскія канструктарскія бюро, дапамагаюць раскрыць, вызначыць «тэмпературу творчага кіпення» працаўніка.

Сапраўды, раней многія з маладых спецыялістаў, ледзь пераступіўшы заводскі парог, заяўлялі: «Я канструктар па прызванню. Усякая іншая праца не па мне, таму прашу накіраваць мяне ў канструктарскае бюро». Іх часта накіроўвалі і часта памыляліся. А цяпер інакш. Грамадскія канструктарскія бюро — гэта выпрабавальны стэнд: ты канструктар па натуры — калі ласка, прыходзь сюды пасля працы, думай, ствара́й. Ватман заўсёды скажа праўду аб тваім прызванні і здольнасцях.



**Будзе Мая Баран канструктарам, і добрым.**

Словам, грамадскія канструктарскія бюро, можна цвёрда сказаць, апраўдалі сябе. На адным толькі Мінскім трактарным заводзе іх дзейнічае цяпер 15, прычым 14 з іх — у цэхах. Нядрэнны ўзлёт! І ён мог бы стаць яшчэ смялейшы, калі б... Ну, вядома, дробязі, няўвязкі, прыкрыя перашкоды. Пра іх не хочацца нават гаварыць, але трэба — яны перашкаджаюць, як перашкаджае дыхаць дым, хоць яго часам амаль зусім не відаць у паветры.

Бывае так. Прыходзіць увечары грамадскі канструктар да кульмана і аказваецца, што няма паперы або чарцёжнага алоўка, або і такой дробязі, як сцірка.

Або іншае. Ці ж не прыкра, што намеснік галоўнага металурга завода т. Рукшын, які лічыцца шэфам грамадскага канструктарскага бюро сталеліцейнага цэха, ні разу яшчэ не сустрэўся са



**Народжаны ў грамадскім канструктарскім бюро чарцёж увасабляецца ў метал.** Злева направа: **намеснік начальніка сталеліцейнага цэха С. Поляк, начальнік ГКБ І. Немiровіч і токар І. Кур'яновіч.**

сваімі падшэфнікамі. А чаму заводскіх грамадскіх канструктараў ні разу да гэтага часу не сабралі разам? Чаму неяк мімаходзь, між справамі, цікавяцца імі Савет народнай гаспадаркі і Дзяржаўны навукова-тэхнічны камітэт БССР? Чаму да гэтага часу не наладжаны абмен вопытам грамадскіх канструктараў розных заводаў рэспублікі?

Пра гэта яны гавораць ужо сёння на ўвесь голас на сваёй нарадзе, абмяркоўваючы план, вырашаючы, хто за якія прапановы возьмецца. У групе цяпер 16 чалавек. Дастаткова. Але можна і, відаць, варта, стварыць яшчэ некалькі груп. Жыццё, напэўна, зацвердзіць іх. Гэтага патрабуе час, патрабуе завод, які ідзе ў авангардзе тых, хто пачаў спаборніцтва за дастойную сустрэчу XXII з'езда роднай камуністычнай партыі.

**А. ШЧАРБАКОЎ.**

**Мінскі трактарны завод.**

Фота А. Дзітлава.

*Гары, камсамольскі аганёк!*

Георгі МАЗАНІК

# ВЯРБІНКА

## Нарыс

Маша чакала і хвалявалася: «Хаця б хутчэй, хаця б адбыць усё гэта ды агледзецца...»

А старшыня ўсё марудзіў.

Спачатку гаварылі пра ўгнаенні, потым пра запасныя часткі...

І вось падняўся з-за стала Яўхім Пятровіч, старшыня.

— А цяпер знаёмцеся, таварышы. Гэта наш новы заатэхнік Марыя Мішкавец.

Маша ўскочыла з месца, ухапілася за ручку чамадана, які стаяў побач, ды так і засталася стаяць перад новымі людзьмі — тоненькая, у просценькім дэмісезонным паліто, збянтэжаная.

Па пакоі папоўз шэпт:

— За-а-тэх-нік!

А нехта з'едліва кінуў з кутка:

— Ну і спецыялiста прычакалі!.. Дзіця нейкае!..

Праўленцы пераглянуліся. Старшыня сярдзіта паглядзеў у той бок, адкуль пачулася рэпліка.

Маша пабялела, яе тонкія бровы-дужкі нахмурыліся. Яна адчула, як нялёгка ёй будзе тут на першым часе.

У той жа вечар у баковачцы за перагародкай у хаце брыгадзіра трэцяй брыгады Івана Вішнявецкага Маша ўзялася за пісьмо. У горле засеў горкі камяк, слёзы капалі на чысты аркушык паперы, але словы клаліся адно ля другога вельмі хутка: «Раіса, дарагая, дзень добры! Вось я і на месцы. Мой адрас — Брэсцкая вобласць, калгас «17 верасня». Сустрэлі мяне добра... Відаць, цікава будзе тут, хоць і не лёгка...»

Аднак ліст застаўся недапісаны. Хіба выкажаш адразу ўсе свае сардэчныя прызнанні і спадзяванні...

Маша ляжала на рыпучым ложку, закінуўшы рукі за галаву. Думкі беглі спакойна, павольна, не спяшаючыся. «...А як жа мяне павінны былі сустрэць? Кветкамі, воплескамі? За якія заслугі? Хіба за тое, што дыплом у Пінскім заатэхнікуме атрымала?»

Крыўды ўжо не было. Усё стала на сваё месца — і гэтая цесная ба-

ковачка, і рыпучы драўляны ложак, і расчынены чамадан, што стаяў на падлозе. Чамадан — Ма́шына гордасць, набыты на апошнюю стыпендыю. У ім, на самым дне, ляжаць кнігі. Някрасаў, Пушкін, Лермантаў, Купала, Шчыпачоў. А яшчэ — чырвоны томік Маякоўскага, падарунак Раісы Паваротнай. Цяпер Раіса таксама ўжо заатэхнік, працуе непадалёку. Калі што якое — можна і параіцца.

Паспакайнеўшыя думкі навеялі сон.

...Загадчык фермы Павел Пятровіч Труханові́ч здзівіўся. Проста на вачах мянялася дзяўчына. Першыя дні яна, маўклівая, непрыкметная, толькі прыглядалася да ўсяго ды час ад часу запісвала нешта сабе ў кніжачку. Але неўзабаве ў кароўніках і свінарніках заўважыліся перамены: праходы пачысцелі і сцены засвяціліся белізной. Паявіўся распарадак дня, і даяркі пачалі выходзіць на работу мінута ў мінуту.

Маша неяк адразу пачала жыць будзённымі клопатамі калгаса. Зінаіда Трафімаўна, яе гаспадыня, толькі здзіўлена ўздыхала, заўважыўшы, што з Машынага пакойчыка прабіваецца ўпарты праменьчык святла: трэція пеўні праспявалі, а кватарантка ўжо не спіць. Раніцаю яна бурчэла:

— Дзе ж гэта бачна было, каб усю ноч сядзець, галаву тлуміць...

Марыя толькі ўсміхалася ў адказ. Хутка перакусіўшы, яна спяшалася на фермы, каб самой бачыць, як пачынаецца працоўны дзень.

Праўда, не ўсё выходзіла так, як ёй хацелася. Шмат часу аднімалі розныя паперкі, пісаніна. Гадавыя заданні, вытворча-фінансавы план, справаздачнасць, — гэта яшчэ зразумела, гэта трэба. А вось розныя там формы анкет, што прысылалі раённае і абласное статыстычныя ўпраўленні...

Маша пачала заўважаць, што цяпер тыя ж самыя дзядзькі, якія ў праўленні смяяліся і перашэптваліся за яе спіной, неяк больш уважліва адносяцца да яе. Ужо ніхто не глядзіць на яе, як на «нейкае дзіця».

Першы раз, як яе назвалі па бацьку, Маша збянтэжылася і нават засаромелася. Дваццаць два гады ўсяго, а тут раптам табе такая павага!.. Толькі, відаць, нездарма даецца яна, не лёгка заслужыць яе ў калгаснікаў.

Гэта падбадзёрвала, надавала сілы. І Маша старалася. «У Турах кароўнік на дзвесце галоў, механізацыя... А малако дарагое — 1 рубель 22 капейкі абыходзіцца літр. Чаму так? Мусіць таму, што кароў дояць уручную. А на складзе ж ёсць электрадаільныя апараты...»

Маша накіравалася ў праўленне. Старшыня калгаса Яўхім Пятровіч Сагановіч, убачыўшы праз акно заатэхніка, зашастаў паперамі. Ведаў, што гэтая дзяўчына зноў ідзе з нейкай прапановай. Хутка яшчэ, чаго добрага, прымусіць, каб сцены ў кароўніку былі кафелем выкладзены. Але выйсці з кабінета не паспеў: Маша пераступіла парог.

— Ну, што табе яшчэ трэба? Усё ўжо, мабыць? — першы пачаў старшыня.

— Не, не ўсё!

— А што яшчэ?

— Электрадаілкі. Зусім новыя на складзе ляжаць. Іх, напэўна, даўно ўжо набылі.

Яўхім Пятровіч задумаўся. Не вельмі лёгка ўзяцца за электрадаенне. Пакуль даяркі навучацца, пакуль жывёла прывыкне... А тут жа самыя «ўдойныя» месяцы — лета. План трэба выконваць — кожныя пяць дзён зводкі па надоях даваць трэба.

— Можа пачакаем да восені? — няўпэўнена прагаварыў Яўхім Пятровіч.

А Маша ўжо дастала з кішэні запісную кніжачку, сыпала лічбамі. Дзяўчына разышлася так, што аж расчырванелася. Старшыня махнуў рукою:

— Ну што ж, пробуй!

Пераканаць старшыню было лягчэй. Адукаваны, вопытны чалавек, ён сам добра ведае карысць ад механізацыі. З даяркамі ж так проста не выйшла. Алена Мацвееўна Мішук адразу падхапілася:

— Не дам псаваць кароў! Выпрабоўвай свае гэтыя штучкі дзе хочаш, але не на маіх каровах. Я спраўлюся і рукамі...



— Алена Мацвееўна, паслухайце...

— І слухаць не хачу, — гарачылася жанчына. — Бач ты яе, вучыць надумала! Маё вунь прозвішча ў вобласці не на апошнім месцы і без тваіх даілак...

Аня Шыкунец і Надзя Уродніч, маладыя дзяўчаты-даяркі, усміхаліся. Яны добра ведалі, што цётка Алена ў крыўду сябе не дасць. Лепш яе зусім не чапаць. Дужая, спрытная жанчына, яна вунь колькі год рукамі даіла, а тут ёй перавучвацца раяць. Ды яшчэ невядома, як каровы, ці прывыкнуць. Можа нават і надоі знізяцца?

Ды раптам сціхлі дзяўчаты. Смех прайшоў, быццам яго і не было. Сціплая, спакойная Маша на іх вачах змянілася: стала нейкая сур'ёзная, строгая.

— Вось што, Алена Мацвееўна, я жартаваць не збіраюся. На ферме будзе ўведзена электрадаенне, хочацца вам гэтага ці не.

— Ну, дык і дай маіх кароў сама. А я пасяджу, павучуся на старасці год, — злосна кінула яна і адышлася ўбок.

— І буду даіць. А вы павучыцеся...

Маша прынесла электрадаільны апарат, уключыла яго, пачала прыладжваць. Даяркі моўчкі стаялі, пазіралі, што з гэтага будзе. Як на той грэх, ці то ад хвалявання, ці то яшчэ ад чаго, пальцы зусім не слухаліся, сталі нейкія нязграбныя. Стаканчыкі саслізгвалі з сасков, карова нервавалася, азіралася. Так і не ўдалося падаіць на гэты раз.

Тады Алена Мацвееўна моўчкі адхінула рукой Машу і мігам падаіла карову.

Але Маша не адступілася ад свайго. Не дзень і не два важдалася яна з даілкай, вучыла дая́рак разбіраць і мыць яе, уключаць, замацоўваць стаканчыкі. Старонкі ў падручніку, дзе было напісана пра механізаванае даенне, аж зашмальцаваліся.

Паступова даяркі навучыліся абыходзіцца з апаратам. Ды і каровы прывыклі, палохацца перасталі. На ферме па-новаму перадзялілі кароў. Замест дванаццаці даярка стала даіць васемнаццаць кароў. Дзве даяркі вызваліліся.

Алена Мацвееўна Мішук хоць і з недаверам, але ўзялася даіць апаратам і працавала не горш за іншых. Неўзабаве надоі зноў павялічыліся. У запісной кніжцы заатэхніка адзначалася: «Літр малака каштуе цяпер 93 капейкі. Па 30 капеек сэканомлена на кожным літры, а колькі гэта каштавала сіл...»

У калгас прыйшлі газеты з Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета СССР аб узнагароджанні жанчын-перадавікоў. Сярод іх была і Алена Мацвееўна Мішук. Яе ўзнагародзілі ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

Горача віншавалі даяркі сваю старэйшую сяброўку.

Алена Мацвееўна падышла да Машы, зазірнула ёй у вочы і раптам моцна абняла. Маша заўважыла, што ў жанчыны на вачах слёзы.

— Цётачка Алена, даражэнькая, што вы!.. Усё ж добра, мы ўсе так рады!..

— Ведаеш, Машачка, дай ты мне яшчэ пару кароў. Няхай будзе да роўнага ліку — дваццаць, — раптам прагаварыла даярка.

І гэтыя словы, гэтая просьба для Машы былі даражэй, чым самыя гучныя словы ўдзячнасці.

Раней і ў тэхнікуме і дома Маша не адчувала асаблівай радасці ад таго, што рабіла. Усё вымяралася адным словам «трэба». Трэба пісаць канспекты, слухаць лекцыі, здаваць экзамены і залікі. І не было тут нічога незвычайнага. Проста жыла сабе — і ўсё. Маша раней пыталася, чаму яна пайшла вучыцца на заатэхніка. І адказ быў кароткі: параілі бацька і маці. Ды і конкурс у заатэхнікуме быў меншы...

Затое каб цяпер прапанавалі Машы новую работу, яна пакрыўдзілася б: ужо вельмі ж па душы прыйшлася ёй яе простая прафесія.

Маша ахвотна бралася за ўсё, што ёй даручалі. Камсамольцы вылучылі яе ў члены камітэта камсамола. І прагаласавалі ўсе аднагалосна, дружна. Пасля грамадскія даручэнні пасыпаліся, як з мяшка. Маша стала прапагандыстам, членам жаночага савета, пасля — са-

кратаром таварыскага суда, членам райкома камсамола.

Сакратар райкома камсамола Эдуард Палубіс, які аднойчы заехаў у калгас «17 верасня», сказаў:

— Нагрузак у цябе, Маша, столькі, што і не пералічыць. Не цяжка табе?..

Маша на момант задумалася.

— Калі людзі давяраюць, дык не цяжка. Наадварот, радасна і прыемна!..

У гэтых словах — уся яна, Маша Мішкавец, якая не шукае лёгкага шляху ў жыцці. Для яе любімая справа — крыніца радасці. І час для любімай справы заўсёды знаходзіцца.

Нібы тая клапатлівая птушка, Маша цягне ў свой калгас, на свае фермы, усё новае, усё лепшае, пра што толькі дзе-небудзь дазнаецца. Гэта па прапанове Машы сам загадчык свінафермы Павел Пятровіч Труханoвіч узяў сякеру і выправіўся ў лес. Хутка ў свінарніку запахла хвояй. Свінням у якасці мінеральнай падкормкі пачалі падмешваць хваёвую муку. А ў праходах паявіліся скрынкі з вапнай, каб ачышчаць паветра ад лішняй вільгаці.

У гаспадарчых дробязях, у будзённых справах імкліва беглі дні. Маша ўсё ясней адчувала, што ёй падабаецца вось такое кіпучае жыццё.

... Будзільнік празвінеў, як заўсёды, роўна ў шэсць гадзін раніцы. Маша прыглушыла яго, апранулася. Перагарнула лісток календара. Забылася нават, што сёння яе дзень нараджэння — дваццаць тры гады. Нават стала крышачку сумна. Дома ці ў тэхнікуме яе віншавалі б сябры, жартавалі б, смяяліся. А тут, пэўна, ніхто і не здагадаецца...

Маша толькі пераступіла парог, як заўважыла, што неяк таямніча і загадкава пaглядаюць на яе дзяўчаты, перашэптваюцца паміж сабой.

Маша зазірнула ў чырвоны куток. На стале стаяла звычайная зеленаватая бутэлька. З яе выцягнуліся тры цыбатыя пушыстыя галінкі вярбы. Былі яны такія пяшчотныя і духмяныя, што Маша залюбавалася.

Вясна на Палессі яшчэ не настала. Дрэвы яшчэ не скінулі снегавыя шапкі. Дрэмлюць рэкі, скаваныя лёдам. А вярба ў бутэльцы зазелянела, зацвіла пераможна, наперакор халадам. Маша стаяла, прыцiскаючы да грудзей гэтыя галінкі, і сама была падобна на вярбінку. Такая ж тоненькая, стройная, непрыкметная, з такой жа учэпістасцю і прагай да жыцця.

**Калгас «17 верасня»**
**Столінскага раёна**
**Брэсцкай вобласці.**

# ДОБРАЕ СЭРЦА

Каля ложка хворай сядзіць дзяўчына. Яна памагае хворай памыцца, пераслаць пасцель, потым ідзе ў аптэку, у магазін, гатуе для хворай абед, мые бялізну...

Гэта не яе сваячка, нават не блізкая знаёмая. Гэта — камсамолка Люба Грашчанкава з Мінскага бюро медыцынскіх сясцёр, якое нядаўна створана Таварыствам Чырвонага Крыжа па догляду хворых дома. Гэта маленькая і незвычайная ўстанова зарэкамендавала ўжо сябе з добрага боку. Медыцынскія сёстры прымацаваны да той ці іншай паліклінікі. Па назначэнню ўчастковых урачоў яны ідуць дамоў да тых хворых, якія не маюць родных ці блізкіх, і дзяжураць там, пакуль чалавек не паздаравее, не стане на ногі. У дапамогу сабе сёстры запрашаюць актывістаў Чырвонага Крыжа, якія ёсць на кожным урачэбным участку. Хворы чалавек не застаецца адзінокім: яго акружаюць увагай і клопатам.



**Люба Грашчанкава.**

Бюро медыцынскіх сясцёр існуе яшчэ мала часу, а ў гарадскі камітэт Таварыства Чырвонага Крыжа прыходзяць пісьмы, поўныя шчырых пачуццяў і падзякі тым, хто ідзе на дапамогу чалавеку.

Былая хворая Р. А. Пекар піша пра Любоў Грашчанкаву:

«Кожны дзень да мяне прыходзіла жыццерадасная, ласкавая сястрычка Люба. І адразу на сэрцы станавілася лягчэй. Люба была мне як родная дачка. І ўкол зробіць, і націранне спіртам, і пакой праветрыць. Кожныя дзесяць дзён у ванне мяне памые... Сваімі клопатамі і душэўнасцю яна памагла мне хутчэй ачуняць ад цяжкай хваробы».

Шмат цёплых, шчырых слоў сказана ў пісьмах і аб медыцынскай сястры Яніне Малеж, якая прымацавана да медыка-санітарнай часткі на Мінскім трактарным заводзе. Пасля заканчэння медыцынскіх курсаў пры Таварыстве Чырвонага Крыжа яна, як і астатнія сёстры, праходзіла практычныя заняткі ў стацыянары. За некалькі месяцаў Яніна Малеж зрабіла 280 розных ін'екцый, 40 разоў ставіла медыцынскія банкі і выканала шэраг іншых працэдур.

Бюро медыцынскіх сясцёр стварающца таксама ў Віцебску, Гродна, Гомелі, Магілёве і іншых гарадах рэспублікі. Савецкія дзяўчаты адгукнуліся на заклік Таварыства Чырвонага Крыжа і сваім цяплом, спагадай і ласкай акружаюць людзей, што трапілі часова ў бяду — цяжка захварэлі. Добрае сэрца ў нашых дзяўчат.

**П. ТОРМАСАЎ.**
Фота **С. Чырэшкіна.**



Іван ЦІШЧАНКА

# РЫЦАРЫ БЕЗ СТРАХУ

Сто гадоў таму назад было адменена прыгоннае права ў Расіі. Сялянскія бунты прымусілі Аляксандра II прызнаць, як пісаў У. І. Ленін, што лепш вызваліць сялян зверху, чым чакаць, пакуль звергнуць знізу.

У выніку рэформы большая частка лепшых зямель засталася ў руках памешчыкаў, а сялянства так і засталося гібець без зямлі.

Па ўсёй Расіі пракаціліся сялянскія бунты. Толькі на Беларусі за першую палавіну 1861 года адбылося 300 выступленняў сялян супраць памешчыкаў.

На чале сялянскага руху 1863 года ў Беларусі стаяў рэвалюцыянер-дэмакрат Кастусь Каліноўскі. Пасля разгрому паўстання ён з-за турэмных крат заклікаў народ да барацьбы, да змагання: «Ваюй, народзе, за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за зямлю сваю родную».

«За сваё чалавечае і народнае права» лепшыя сыны і дочкі народа не шкадавалі асабістага жыцця.

Сярод мужных змагароў, што склалі галовы за шчасце людское, ёсць нямала сыноў беларускага народа.

Нам хочацца расказаць пра аднаго з іх. Імя яго стаіць побач з імёнамі лепшых прадстаўнікоў рускага рэвалюцыйна-вызваленчага руху. Апошні дзень жыцця гэтага чалавека паказаў усё хараство яго душы.

Таму мы і пачнем з канца, з таго апошняга дня.

1 сакавіка 1881 года ад Зімняга палаца, плаўна гушкаючыся на рысорах, адкацілася карэта, запрэжаная цугам. Фурман у насунутай набакір шапцы туга нацягваў шаўковыя лейцы, стрымліваючы неспакойных стаеннікаў. Шчыльна абступаючы карэту спераду, ззаду і па баках, ехаў кавалерыйскі эскорт. Пышны экіпаж імчаўся па вуліцах горада, і пешаходы здалёк здымалі галаўныя ўборы, аддаючы пакорлівы паклон.

Па Пецярбургу ехаў рускі цар Аляксандр II.

Царская світа прыймала паклоны гараджан як належнае, але ў позірках ахоўнікаў блукалі агеньчыкі трывогі. У завулках, за сцяной агарож мільгалі палахлівыя цені тайных агентаў. Пільнае вока паліцыі не драмала. Целаахоўнікі, як хвост, валачыліся за царом і тады, калі ён ішоў у апартаменты царыцы, і тады, калі яму, «змардаванаму» дзяржаўнымі справамі, станавілася душна ў службовых пакоях і яго, як рыбу да пролубкі, цягнула за горад, каб хапіць свежага паветра.

Але паветра гэтае, як пісалі ў друку, для рускага імператара «было насычана страхам за будучае». Дзіва што! Толькі за апошнія два гады на Аляксандра II было зроблена восем замахаў.

Пакуль што цару шанцавала. А хто ведае, ці пашанцуе на дзевяты раз!? «Дзякуй богу, — думаў ён, вяртаючыся дамоў, — усё закончылася шчасліва!» Адхінуўшы фіранку, цар хацеў глянуць праз бакавое акенца карэты, але тлусты конскі круп засланіў усё. Спераду ж замінаў ездавы. Неспакой цара перадаўся фурману, і той, паплёўваючы ў рукі, раз-пораз высвечваў пугай беланогіх вараных, якія ад вясёлага алюру, выцягваючыся ў струнку, перайшлі на шалёны галоп.

Вось экіпаж пад цокат капытоў праляцеў па Інжынернай вуліцы, крута павярнуў направа і панёсся па ўзбярэжнай Кацярынінскага канала да Тэатральнага маста. Насупраць саду Міхайлаўскага палаца магутны выбух падкінуў царскую карэту, як каробок з-пад запалак, і размёў царскую ахову.

Але фартуна і на гэты раз злітавалася над царом. Ён уцалеў.

Вылезшы з карэты, цар падаўся да ўзбуджанага натоўпу. На зямлі ляжаў чалавек. Гэта быў Мікалай Рысакоў. Ён няўдала кінуў бомбу ў царскую карэту і тут жа быў затрыманы трамвайным вартаўніком і салдатамі аховы. Цяпер яго білі прыкладамі і ботамі па галаве і па грудзях. Ён маўчаў. І толькі на слязлівае пытанне разлютаванага салдата: «Што ты



**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ**

Валерыя ЖОЎТАК вядома ў беларускім жывапісу як аўтар старанна выкананых і добра скампанаваных палотнаў «Першага верасня», «Зіма прыйшла», «Да партызан за дапамогай». Шмат увагі аддае мастак жанру пейзажа, праўдзіва адлюстроўваючы вобразы беларускай прыроды. Карціна «Вясна» кранае тонкім лірызмам у перадачы настрою, звязанага з веснавым абуджэннем прыроды.

**З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ**

Вядомы беларускі мастак Віталь ЦВІРКА ў апошні час стварыў шмат хвалюючых палотнаў, на якіх адлюстраваў родныя яму краявіды: «Разліў у Мінску», «Сакавік», «Халодны дзень», «Возера Нарач», «Цішыня», «Каля млына». Адна з апошніх яго работ у гэтым жанры — «Зіма».



нарабіў?» ціха адказаў: «Даведаецеся пасля, бо пакуль што вы яшчэ цёмныя людзі».

Цар з выглядам вялікага гуманіста і добразычліўца падышоў да знявечанага чалавека і з прытоенай пагардай запытаў: «Чаго ж ты хочаш ад мяне, грэшнік?.. А я, дзякуй богу, жывы і цэлы».

«Ці дзякуй яшчэ богу?» — раптуча адпаліў чалавек. І не паспеў цар апамятацца, як новы аглушальны выбух скалануў зямлю і паветра.

Калі густое воблака чорнага дыму і снегу рассеялася, позірку адкрыўся, як успамінаў адзін з сучаснікаў, жахлівы малюнак: на зямлі ляжала чалавек дваццаць — забітых і параненых, на снезе валяліся аксельбанты, эпалеты, залатыя пазументы і кутасы, кавалкі шпор, шабляў. У абсмаленых лахманах, прысланіўшыся спіною да чыгуннай агарожы, цар коўзаўся па зямлі — спрабаваў падняцца на раструшчаныя ногі. На ўцалеўшую царскую галаву насунулі да самых вушэй каску, падхапілі самога пад пахі і што дыху папёрлі да палаца. Там «бацька народаў» неўзабаве аддаў богу душу.

Апошнім з зямлі падабралі незнаёмага чалавека ў зімовым паліто — знявечанага і акрываўленага, які, як заўважылі іншыя, і кінуў другую бомбу. «Злачынца» даставілі ў бліжэйшы шпіталь, дзе ён пасля страшэнных пакут у той жа вечар памёр. Увесь час ён заставаўся без прытомнасці, адзін толькі раз, калі памяць прасвятлела, на пытанне следчага, як яго прозвішча, ледзь чутна прашаптаў: «Не ведаю».

Імя сапраўднага забойцы Аляксандра II заставалася невядомым і тады, калі былі схоплены ўсе арганізатары замаху, і тады, калі царскі суд па костачках перамываў кожнага нарадавольца, і тады, калі заганяўся апошні цвік у эшафотную масніцу на Сямёнаўскім пляцы.

На судзе ў якасці дзяржаўнага пракурора-абвінаваўцы па справе нарадавольцаў выступіў Мураўёў-вешальнік. У прысутнасці членаў сената ён публічна распісаўся ў сваёй бездапаможнасці: «... Цяжка, літасцівыя гасудары, быць юрыстам... У такую рашаючую гістарычную мінуту, калі і ў сабе самім і вакол усё дрыжыць ад жаху... Але тут побач стаіць іншае пытанне аб тым, хто кінуў другі снарад, снарад, які выклікаў смяртэльны выбух... Чалавек, які кінуў другі снарад, не знаходзіцца ў ліку падсудных... ён памёр пад выдуманым іменем Ельнікава ад ран пры выбуху».

Вядома, паліцэйскія сышчыкі збіваліся з ног, здабываючы новыя звесткі пра забойцу цара, але іх намаганні не мелі поспеху. Мураўёў-вешальнік змог усяго толькі і паведаміць: «Ельнікаў, ён жа Міхаіл Іванавіч, ён жа Коцік — рэвалюцыйная мянушка — вось усё, што мы ведаем пра гэтага чалавека».

Пры вобыску пакоя, дзе жыў «Ельнікаў», паліцыя знайшла толькі 6 экземпляраў «Рабочай газеты» і «Праграмы рабочых членаў партыі», а таксама хусцінку з ініцыяламі «Н. И. Р.» (Мікалай Іванавіч Рысакоў. — **І. Ц.**).

На судовым працэсе гаспадыня кватэры Ганна Артамонава і яе наймічка Акуліна Смялкова далі даволі скупыя звесткі. Яны паведамілі, што Ельнікаў у іх пасяліўся некалькі месяцаў таму назад. Жыў ён адасоблена, адзінока, быў вельмі бедны і сціплы. З дому кватарант выходзіў рана і вяртаўся позна. Іншы раз вечарамі да яго заходзілі госці — трое мужчын і дзве жанчыны. Незнаёмыя людзі, зачыніўшыся ў пакоі, падоўгу аб нечым напаўголаса гаманілі. 1 сакавіка, паведаміла Ганна Артамонава, Ельнікаў падняўся раней, чым звычайна, хутка апрануўся і пайшоў.

Вось і ўсё.

Вар'яцелі суддзі: ніточка следства абрывалася.

Затое не абарваліся намыленыя вяроўкі на эшафоце, калі 3 красавіка 1881 года ў 9 гадзін 50 мінут на шыі нарадавольцаў Андрэя Жалябава, Цімафея Міхайлава, Мікалая Кібальчыча, Соф'і Пяроўскай, Мікалая Рысакова крывавая рука ката накінула смяртэльную пятлю. А яшчэ раней рука ката апусціла сякеру на шыю ўжо мёртвага «Ельнікава». Галаву чалавека аддзялілі ад тулава і, набальзамаваўшы, выставілі на публічны паказ. Каты такім чынам спадзяваліся разматаць загадкавы клубок забойства імператара.

Некалькі дзён сотні пецярбуржцаў — старых і малых, мужчын і жанчын — праходзілі ў панурым маўчанні перад адсечанай галавой чалавека. На правакацыйна закінутую следчымі органамі вуду ніхто не клюнуў. Мёртвая галава маўчала, і жывыя людзі маўчалі, як мёртвыя!

Сапраўднае імя забойцы Аляксандра II стала вядома царскаму ўраду пасля заканчэння працэсу над удзельнікамі падзей 1 сакавіка. Гэта быў беларус Ігнат Яўхімавіч Грынявіцкі.

Ён нарадзіўся ў 1856 годзе ў маёнтку Басін Бабруйскага павету Мінскай губерні ў сям'і аканома. Бацька яго пазней, у 1860 годзе, купіў невялікі маёнтак у в. Вялікія Грынавічы Гродзенскай губерні, адкуль паходзіў і сам. Аднак мізэрныя даходы не маглі пракарміць сям'і з адзінаццаці душ. Прыйшлося прадаць маёнтак. Хутка пасля гэтага памерла маці, а неўзабаве ад гора звар'яцеў бацька.

Дзяцінства Грынявіцкага праходзіла цяжка і бязрадасна. З малых год хлапчуку даводзілася самому зарабляць на кавалак хлеба. Разам з братамі і сёстрамі ён працаваў на полі.

Пасля заканчэння Бельскай павятовай школы ён вучыўся ў Беластоцкім рэальным вучылішчы. Без матэрыяльнай падтрымкі, Грынявіцкі трапіў у цяжкае становішча. «Піць чай нават па святах, — успамінаецца аб Грынявіцкім у адной з кніг, — было для яго раскошай».

Знаходзячыся ў асяроддзі студэнцкай моладзі, якая жыла ідэямі свабоды і роўнасці, слухаючы лекцыі дэмакратычна настроеных выкладчыкаў, Грынявіцкі пазнаёміўся з сацыялістычным вучэннем і глыбока пранікся духам сацыялізма. «Ідэалам маладога Ігнація, — чытаем у кнізе аб народніках, — стала служэнне народу».

У 1875 годзе, паспяхова закончыўшы вучылішча, Грынявіцкі ў ліку першых вучняў прыязджае ў Пецярбург. Прага да ведаў, гарачае жаданне прынесці як мага больш карысці свайму шматпакутнаму народу прывялі вясковага хлопца ў сталіцу.

Тут ён паступае ў тэхналагічны інстытут на механічнае аддзяленне. Выбар рабіўся невыпадкова. Студэнты гэтага інстытута лічыліся найбольш радыкальна настроенымі і карысталіся значнай свабодай у сваім унутраным жыцці, што адпавядала вольналюбівым імкненням Грынявіцкага.

У 80 гады мінулага стагоддзя Расія бурліла народнымі хваляваннямі. Нездавальненне сялян, голад, падпалы памешчыцкіх сяліб насілі масавы характар. Асабліва прыкметна расце рабочы рух. На фабрыках і заводах буйнейшых прамысловых цэнтраў — Пецярбурга, Масквы, Серпухава, Іванава-Вазнясенска — сталі частымі стачкі і бунты рабочых, якія выступалі супраць звальненняў, патрабавалі адмены штрафаў, увядзення разліковых кніг, паляпшэння умоў працы і г. д. Разам з ростам стачачных выступленняў расла і палітычная свядомасць рабочага класа і, галоўнае, усведамленне неабходнасці аб'яднання для сумеснай барацьбы за свае інтарэсы. Узнікаюць шматлікія палітычныя гурткі рабочых, рэвалюцыйна настроенай моладзі, студэнцтва.

Актывізавала сваю дзейнасць у Пецярбургу група «Народная воля». Яна разлічвала з дапамогай індывідуальнага тэрору захапіць дзяржаўную ўладу з тым, каб потым склікаць устаноўчы сход, які б здзейсніў рад рэформ сацыяльна-палітычнага характару.

У 1880 годзе ў Пецярбургу існаваў так званы «Цэнтральны студэнцкі саюз», які, падпарадкоўваючыся выканаўчаму камітэту «Народнай волі», удзель-

нічаў ва ўсіх студэнцкіх хваляваннях.

Грынявіцкі ўступае ў адзін з нарадавольчых гурткоў і пачынае актыўна дзейнічаць — стварае новыя гурткі, збірае грошы для ссыльных і г. д. Сярод членаў гуртка ён карыстаецца ўсеагульнай павагай.

У 1879 годзе Грынявіцкі выязджае ў вёскі з мэтай стварэння «баявых атрадаў», якія маглі б служыць апорнымі пунктамі для рэвалюцыі. Блізка пазнаёміўшыся з тагачаснай вёскай, Грынявіцкі глыбока задумваецца: хто вінаваты ў тым, што просты народ — стваральнік усіх матэрыяльных каштоўнасцей — пазбаўлен элементарных чалавечых правоў? І прыходзіць да памылковага вываду, што толькі захоп дзяржаўнай улады тэрарыстычнай партыяй можа пакласці канец усім несправядлівасцям.

У адной з афіцыйных хронік, выдадзеных да рэвалюцыі, пра Грынявіцкага знаходзім такі запіс: «Ён быў адданым і заўзятым прапагандыстам; ён сам зрабіў спробы насадзіць і развіць у правінцыі «баявыя дружыны», якія павінны былі служыць аперацыйнай базай рэвалюцыі».

З 1880 года Грынявіцкі канчаткова звязвае свой лёс, сваю падпольную дзейнасць з нарадавольцамі. Звычайны радавы гэтай партыі, ён не цураўся ніякай работы, якая яму даручалася. Асноўнай жа, прафесіянальнай работай для яго цяпер стала рэвалюцыйная прапаганда сярод рабочых. З так званай «Справы аб злачыннай прапагандзе сярод пецярбургскіх рабочых у 1881 г.» відаць, што ў рабочую арганізацыю ў якасці яе кіраўніка разам з Жалябавым, Пяроўскай уваходзіў і Грынявіцкі.

Пры самым непасрэдным удзеле Грынявіцкага 15 снежня 1880 года выходзіць першы нумар «Рабочей газеты» (другі выйшаў 27 студзеня 1881 года), Грынявіцкі дапамагаў арганізоўваць друкарню, працаваў там наборшчыкам.

Складаныя ўмовы падполля патрабавалі строгай канспірацыі. Таму Грынявіцкі мяняе сваё прозвішча. Пад імем Мікалая Сцяпанавіча Ельнікава — канторскага работніка, былога віленскага мешчаніна ён пасяляецца на Выбаргскай старане па вуліцы Сімбірскай у доме № 59, кв. 2 у нейкай Ганны Артамонавай.

Зімой 1881 года рух нарадавольцаў асабліва ажывіўся. Пасля неаднаразовых няўдалых спроб забіць Аляксандра II выканаўчы камітэт, куды ўваходзілі Жалябаў, Пяроўская, Міхайлаў і іншыя, яшчэ больш актыўна і рашуча ўзяўся за арганізацыю новага замаху на рускага цара. У тэроры нарадавольцы бачылі адзіны сродак, які зможа абудзіць народныя масы да барацьбы.

У лютым Жалябаў «кідае кліч». 47 нарадавольцаў выказалі сваё жаданне, сваю гатоўнасць пайсці на забойства цара. Адным з першых адгукнуўся «Міхаіл Іванавіч» — Грынявіцкі. Выканаўчы камітэт з агульнай колькасці выбраў толькі чатырох чалавек, сярод іх аказаўся і Грынявіцкі. З гэтай чацвёркі была створана спецыяльная група кідальнікаў — галоўная і самая адказная, яна складалася з самых рашучых і надзейных людзей.

Доўга і старанна змоўшчыкі вывучалі выезд цара. Разам з асноўнай групай Грынявіцкі вывучаў выбуховыя рэчывы, саматробныя снарады, выязджаў за горад, дзе трэніраваўся ў дакладным кіданні бомбы. Соф'я Пяроўская начарціла план мясцовасці, па якой павінен быў праязджаць цар, кожнаму з кідальнікаў вызначыла канкрэтны пункт. Прытым на самае небяспечнае месца прызначаліся асобы больш вопытныя, з «лепшым рэвалюцыйным мінулым», такія, як Грынявіцкі і Міхайлаў. Усю ноч не спаў «тэхнік» Кібальчыч, рыхтуючы самаробныя бомбы. Раніцай, загарнуўшы іх у хусцінку, Соф'я Пяроўская прынесла бомбы на канспіратыўную кватэру. А днём жанчына з высокім ілбом і прагнікнёнымі вачыма ні на мінуту не спускала з вачэй царскі экіпаж, які ехаў па вуліцах Пецярбурга.



Час ад часу пры сустрэчы са сваімі людзьмі Пяроўская даставала хусцінку і выцірала нос; звычайны, непадазроны рух служыў паролем для нарадавольцаў: значыць, трэба ісці на свой участак.

У той жа дзень 1 сакавіка 1881 года нарадавольцы здзейснілі свой прысуд: Аляксандр II быў забіты.

Аднак забойства цара не выклікала масавага рэвалюцыйнага руху. Гэта здарылася таму, што, разгортваючы свой план дзеяння, нарадавольцы не ўлічвалі многіх фактараў, у тым ліку не разумелі перадавой рэвалюцыйнай ролі пралетарыята. Галоўную стаўку нарадавольцы рабілі на сялянства, як на носьбіта грамадска-арцельнай «камуністычнай свядомасці». Але і сялянства яны таксама не разумелі, бо не бачылі працэсу класавай дыферэнцыяцыі. Рухаючай сілай развіцця грамадства яны лічылі так званую «крытычна мыслячую асобу», «героя», які павінен рухаць гісторыю і весці за сабой натоўп, народ. Аднак, як указваў У. І. Ленін, ва ўтапічных стваральных планах народнікаў быў прагрэсіўны з пункту гледжання пралетарыята «элемент разбуральны ў адносінах да сярэдневякоўя», у адносінах да перажыткаў прыгонніцтва.

Нягледзячы на тую шкоду, якую прынеслі нарадавольцы рэвалюцыйнаму руху, іх дзейнасць, тым не менш, аказалася адчувальнай. Тэрарыстычная барацьба выражала рост нездавальнення палітыкай царскага ўрада сярод розных класаў грамадства.

Паводзіны нарадавольцаў на судовым працэсе выклікаюць сімпатыі да іх стойкасці, цвёрдага перакавання. Нарадавольцаў можна назваць рыцарамі без страху ў поўным сэнсе гэтага слова. Усе яны былі маладыя. Рысакову было 19 гадоў, астатнім па 26—27.

Адзін з галоўных арганізатараў замаху — Жалябаў быў схоплены паліцыяй яшчэ да 1 сакавіка і, натуральна, не прыймаў удзелу ў забойстве цара. Даведаўшыся аб тым, што Аляксандр II забіты, а нарадавольцы кінуты ў турму і падвергнуты допыту, ён тут жа напісаў царскім уладам заяву, у якой прасіў лічыць і яго забойцам цара. Адмовіўшыся ад адвакатуры, Жалябаў выкарыстаў судовы працэс як трыбуну, з якой выступіў не як абвінавачаны, а як абвінаваўца рускага царызма. «... Суддзёй паміж намі, партыяй рэвалюцыянераў і ўрадам, можа быць толькі адзін суд — усенародны суд», — заявіў ён. Сваімі дасціпнымі і разумнымі адказамі ён ставіў у тупік царскіх суддзяў.

Такой жа стойкай і да канца мужнай засталася Соф'я Пяроўская. Напярэдадні пакарання вечарам жанчыне паведамілі, што па прыгавору суда заўтра раніцай яна будзе павешана. Якое яе апошняе жаданне, што ёй хацелася б зараз? Пяроўская стрымана адказала: «Спакойнага сну. У дзесяць гадзін вечара я заўсёды кладуся спаць».

Незадоўга да сваёй смерці Грынявіцкі пісаў: «Мне не давядзецца ўдзельнічаць у апошняй барацьбе. Лёс асудзіў мяне на раннюю пагібель, і я не ўбачу перамогі, не буду жыць ні аднаго дня, ні гадзіны ў светлы час урачыстасці, але я лічу, што сваёю смерцю зраблю ўсё, што павінен быў зрабіць, і большага ад мяне ніхто, ніхто на свеце патрабаваць не можа».

Справа рэвалюцыйнай партыі запаліць ужо назапашаны гаручы матэрыял, кінуць іскру ў порах і тады прыняць усе меры да таго, каб узніклы рух закончыўся перамогай, а не паталоўным знішчэннем лепшых людзей краіны».

Іскры, кінутыя нарадавольцамі, разгарэліся ў цэлае полымя Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, якая пад кіраўніцтвам генія вялікага Леніна раз і назаўсёды знішчыла свет насільнікаў, для барацьбы з якімі аддавалі сваё маладое жыццё і сыны беларускага народа.

Імя Грынявіцкага-змагара заслугоўвае таго, каб яго памяталі і шанавалі.

нічаў ва ўсіх студэнцкіх хваляваннях.

Грынявіцкі ўступае ў адзін з нарадавольчых гурткоў і пачынае актыўна дзейнічаць — стварае новыя гурткі, збірае грошы для ссыльных і г. д. Сярод членаў гуртка ён карыстаецца ўсеагульнай павагай.

У 1879 годзе Грынявіцкі выязджае ў вёскі з мэтай стварэння «баявых атрадаў», якія маглі б служыць апорнымі пунктамі для рэвалюцыі. Блізка пазнаёміўшыся з тагачаснай вёскай, Грынявіцкі глыбока задумваецца: хто вінаваты ў тым, што просты народ — стваральнік усіх матэрыяльных каштоўнасцей — пазбаўлен элементарных чалавечых правоў? І прыходзіць да памылковага вываду, што толькі захоп дзяржаўнай улады тэрарыстычнай партыяй можа пакласці канец усім несправядлівасцям.

У адной з афіцыйных хронік, выдадзеных да рэвалюцыі, пра Грынявіцкага знаходзім такі запіс: «Ён быў адданым і заўзятым прапагандыстам; ён сам зрабіў спробы насадзіць і развіць у правінцыі «баявыя дружыны», якія павінны былі служыць аперацыйнай базай рэвалюцыі».

З 1880 года Грынявіцкі канчаткова звязвае свой лёс, сваю падпольную дзейнасць з нарадавольцамі. Звычайны радавы гэтай партыі, ён не цураўся ніякай работы, якая яму даручалася. Асноўнай жа, прафесіянальнай работай для яго цяпер стала рэвалюцыйная прапаганда сярод рабочых. З так званай «Справы аб злачыннай прапагандзе сярод пецярбургскіх рабочых у 1881 г.» відаць, што ў рабочую арганізацыю ў якасці яе кіраўніка разам з Жалябавым, Пяроўскай уваходзіў і Грынявіцкі.

Пры самым непасрэдным удзеле Грынявіцкага 15 снежня 1880 года выходзіць першы нумар «Рабочей газеты» (другі выйшаў 27 студзеня 1881 года), Грынявіцкі дапамагаў арганізоўваць друкарню, працаваў там наборшчыкам.

Складаныя ўмовы падполля патрабавалі строгай канспірацыі. Таму Грынявіцкі мяняе сваё прозвішча. Пад імем Мікалая Сцяпанавіча Ельнікава — канторскага работніка, былога віленскага мешчаніна ён пасяляецца на Выбаргскай старане па вуліцы Сімбірскай у доме № 59, кв. 2 у нейкай Ганны Артамонавай.

Зімой 1881 года рух нарадавольцаў асабліва ажывіўся. Пасля неаднаразовых няўдалых спроб забіць Аляксандра II выканаўчы камітэт, куды ўваходзілі Жалябаў, Пяроўская, Міхайлаў і іншыя, яшчэ больш актыўна і рашуча ўзяўся за арганізацыю новага замаху на рускага цара. У тэроры нарадавольцы бачылі адзіны сродак, які зможа абудзіць народныя масы да барацьбы.

У лютым Жалябаў «кідае кліч». 47 нарадавольцаў выказалі сваё жаданне, сваю гатоўнасць пайсці на забойства цара. Адным з першых адгукнуўся «Міхаіл Іванавіч» — Грынявіцкі. Выканаўчы камітэт з агульнай колькасці выбраў толькі чатырох чалавек, сярод іх аказаўся і Грынявіцкі. З гэтай чацвёркі была створана спецыяльная група кідальнікаў — галоўная і самая адказная, яна складалася з самых рашучых і надзейных людзей.

Доўга і старанна змоўшчыкі вывучалі выезд цара. Разам з асноўнай групай Грынявіцкі вывучаў выбуховыя рэчывы, самаробныя снарады, выязджаў за горад, дзе трэніраваўся ў дакладным кіданні бомбы. Соф'я Пяроўская начарціла план мясцовасці, па якой павінен быў праязджаць цар, кожнаму з кідальнікаў вызначыла канкрэтны пункт. Прытым на самае небяспечнае месца прызначаліся асобы больш вопытныя, з «лепшым рэвалюцыйным мінулым», такія, як Грынявіцкі і Міхайлаў. Усю ноч не спаў «тэхнік» Кібальчыч, рыхтуючы самаробныя бомбы. Раніцай, загарнуўшы іх у хусцінку, Соф'я Пяроўская прынесла бомбы на канспіратыўную кватэру. А днём жанчына з высокім ілбом і пранікнёнымі вачыма ні на мінуту не спускала з вачэй царскі экіпаж, які ехаў па вуліцах Пецярбурга.



Час ад часу пры сустрэчы са сваімі людзьмі Пяроўская даставала хусцінку і выцірала нос; звычайны, непадазроны рух служыў паролем для нарадавольцаў: значыць, трэба ісці на свой участак.

У той жа дзень 1 сакавіка 1881 года нарадавольцы здзейснілі свой прысуд: Аляксандр II быў забіты.

Аднак забойства цара не выклікала масавага рэвалюцыйнага руху. Гэта здарылася таму, што, разгортваючы свой план дзеяння, нарадавольцы не ўлічвалі многіх фактараў, у тым ліку не разумелі перадавой рэвалюцыйнай ролі пралетарыята. Галоўную стаўку нарадавольцы рабілі на сялянства, як на носьбіта грамадска-арцельнай «камуністычнай свядомасці». Але і сялянства яны таксама не разумелі, бо не бачылі працэсу класавай дыферэнцыяцыі. Рухаючай сілай развіцця грамадства яны лічылі так званую «крытычна мыслячую асобу», «героя», які павінен рухаць гісторыю і весці за сабой натоўп, народ. Аднак, як указваў У. І. Ленін, ва ўтапічных стваральных планах народнікаў быў прагрэсіўны з пункту гледжання пралетарыята «элемент разбуральны ў адносінах да сярэдневякоўя», у адносінах да перажыткаў прыгонніцтва.

Нягледзячы на тую шкоду, якую прынеслі нарадавольцы рэвалюцыйнаму руху, іх дзейнасць, тым не менш, аказалася адчувальнай. Тэрарыстычная барацьба выражала рост нездавальнення палітыкай царскага ўрада сярод розных класаў грамадства.

Паводзіны нарадавольцаў на судовым працэсе выклікаюць сімпатыі да іх стойкасці, цвёрдага пераканання. Нарадавольцаў можна назваць рыцарамі без страху ў поўным сэнсе гэтага слова. Усе яны былі маладыя. Рысакову было 19 гадоў, астатнім па 26—27.

Адзін з галоўных арганізатараў замаху — Жалябаў быў схоплены паліцыяй яшчэ да 1 сакавіка і, натуральна, не прымаў удзелу ў забойстве цара. Даведаўшыся аб тым, што Аляксандр II забіты, а нарадавольцы кінуты ў турму і падвергнуты допыту, ён тут жа напісаў царскім уладам заяву, у якой прасіў лічыць і яго забойцам цара. Адмовіўшыся ад адвакатуры, Жалябаў выкарыстаў судовы працэс як трыбуну, з якой выступіў не як абвінавачаны, а як абвінаваўца рускага царызма. «... Суддзёй паміж намі, партыяй рэвалюцыянераў і ўрадам, можа быць толькі адзін суд — усенародны суд», — заявіў ён. Сваімі дасціпнымі і разумнымі адказамі ён ставіў у тупік царскіх суддзяў.

Такой жа стойкай і да канца мужнай засталася Соф'я Пяроўская. Напярэдадні пакарання вечарам жанчыне паведамілі, што па прыгавору суда заўтра раніцай яна будзе павешана. Якое яе апошняе жаданне, што ёй хацелася б зараз? Пяроўская стрымана адказала: «Спакойнага сну. У дзесяць гадзін вечара я заўсёды кладуся спаць».

Незадоўга да сваёй смерці Грынявіцкі пісаў: «Мне не давядзецца ўдзельнічаць у апошняй барацьбе. Лёс асудзіў мяне на раннюю пагібель, і я не ўбачу перамогі, не буду жыць ні аднаго дня, ні гадзіны ў светлы час урачыстасці, але я лічу, што сваёю смерцю зраблю ўсё, што павінен быў зрабіць, і большага ад мяне ніхто, ніхто на свеце патрабаваць не можа.

Справа рэвалюцыйнай партыі запаліць ужо назапашаны гаручы матэрыял, кінуць іскру ў порах і тады прыняць усе меры да таго, каб узнікшы рух закончыўся перамогай, а не пагалоўным знішчэннем лепшых людзей краіны».

Іскры, кінутыя нарадавольцамі, разгарэліся ў цэлае полымя Кастрычніцкай рэвалюцыі 1917 года, якая пад кіраўніцтвам генія вялікага Леніна раз і назаўсёды знішчыла свет насільнікаў, для барацьбы з якімі аддавалі сваё маладое жыццё і сыны беларускага народа.

Імя Грынявіцкага-змагара заслугоўвае таго, каб яго памяталі і шанавалі.

# *Навука і культура*

## НАРОДЖАНЫЯ ГАЗАМ

Калі вам давядзецца быць на Сураханскіх нафтапромыслах, вы абавязкова пачуеце расказ пра «вечнае», незгасальнае полымя, якое на працягу стагоддзяў гарэла ў царкве паклоннікаў агню.

Яшчэ ў мінулым стагоддзі тут узвышалася квадратная вежа, абкружаная нізкімі чатырохвугольнымі будынкамі. На вежы былі ўмацаваны вялікія каганцы. Удзень і ўначы, улетку і зімою, у яркі сонечны дзень, у дождж і ў завіруху палалі ў іх языкі полымя, выгіналіся, нібы гіганцкія вогненныя змеі.

На працягу многіх стагоддзяў сюды прыходзілі пешшу, прыязджалі конна і на вярблюдах паломнікі з суседняга Ірана і далёкай Індыі, каб памаліцца перад незгасальным полымем.

Цудоўны агонь, які выклікаў свяшчэнны страх у людзей, гарэў не толькі ў Сураханскай царкве, нярэдка ён загараўся ў многіх месцах Апшаронскага паўвострава. Мясцовыя жыхары здаўна карысталіся гарачым полымем вечных агнёў. З дапамогай яго абпальвалі вапну, плавілі жалеза.

Доўгі час людзі не ведалі, хто той «невідзімка», які падтрымлівае вечны агонь, і таму лічылі яго дарам боскім.

З развіццём навукі былі разгаданы многія з'явы, якія людзі лічылі раней звышнатуральнымі. Была раскрыта і таямніца вечнага агню. Высветлілася, што «невідзімка» — гэта прыродны газ, нязменны спадарожнік нафты.

Не маючы колеру і паху, прыродны газ непрыкметна падымаецца па шчылінах зямной кары з падземных глыбінь і рассейваецца ў паветры. Часам з зямных нетраў вырываецца струмень газу, падымаючы ў неба велізарны фантан нафты.

Ужо больш ста гадоў, як здабываюць нафту. З кожным годам здабыча яе ўзрастае. У 1958 годзе ў нашай краіне было выпампавана з нетраў зямлі больш 110 мільёнаў тон нафты. У 1960 годзе — 148 мільёнаў тон, а ў 1965 годзе гэта лічба будзе складаць 230—240 мільёнаў тон.

Здабываючы нафту, раней не звярталі ніякай увагі на яе пастаянны спадарожнік — прыродны газ. Толькі ў канцы мінулага стагоддзя былі, нарэшце, ацэнены цудоўныя якасці газу. На вуліцах вялікіх гарадоў запаліліся газавыя ліхтары. Успыхнулі блакітныя агеньчыкі на камфорках газавых пліт.

Прыродны газ стаў самым танным палівам. Ён дзешавейшы за дровы і вугаль, нафту і мазут, ды і гарыць без копаці і дыму.

За дзве мінуты можна згатаваць ваду, а за дзесяць мінут нагрэць у газавай калонцы для ванны. Аднаго кубаметра газу дастаткова на суткі для работы газавага халадзільніка. Газ прыгодны для работы пакаёвых леднікоў, смецеспальвальніка, машын для мыцця бялізны і нават... для сілкавання радыёпрыёмнікаў там, дзе няма электрычнасці. На газавых гарэлках награваюць спецыяльныя пласціны — тэрмаэлементы, у якіх пад уздзеяннем цеплыні ўтвараецца электрычны ток.

Газ мае і яшчэ адну важную перавагу: для дастаўкі яго спажыўцу не патрэбны ні аўтамашыны, ні платформы, ні наліўныя баржы і судны — яго можна транспартаваць па трубах на тысячы кіламетраў.

Саратаўскі газ гарыць у кватэрах масквічоў, дашаўскі — кіяўлян і мінчан, шабелінскі — харкаўчан. Неўзабаве ленінградцы атрымаюць газ з далёкага Стаўрапаля.

За апошнія гады ў СССР знойдзены новыя буйныя месцанараджэнні прыроднага газу — у Краснадарскім краі, у Заволжжы (Сцяпанаўскае), у Сталінградскай вобласці (Каробкі). Вялікія залежы газу знойдзены ў Азербайджане (Карадаг і Каніздаг), ва Узбекскай ССР (каля Бухары).

У 1960 годзе было здабыта 47 мільярдаў кубаметраў газу. У бліжэйшыя пятнаццаць год здабыча газу павялічыцца ў 13—15 разоў.

У 1960 годзе датэрмінова завершана будаўніцтва газапровода Дашава—Мінск. Прыродны газ прыйшоў у Беларусь. Таннае і зручнае паліва атрымаюць не толькі мінчане, але жыхары многіх гарадоў і пасёлкаў рэспублікі.

Партыя і ўрад, як вядома, прынялі пастанову аб далейшым развіцці газавай прамысловасці. У 1965 годзе ў СССР будзе пабудавана сорак новых газаправодаў. Сотні гарадоў атрымаюць прыродны газ. Тысячы фабрык і заводаў і дзесяткі тысяч кватэр будуць забяспечаны газам з газаносных пластоў Паўночнага Каўказа і Украіны, Азербайджана і Паволжжа, Сярэдняй Азіі і Заходняй Сібіры.

Калі б выцягнуць у адну лінію трубы новых газаправодаў, то іх працягласць склала б дваццаць шэсць тысяч кіламетраў.

Вывучаючы прыродны газ, хімікі, знайшлі, што ён складаецца амаль цалкам з метану — злучэння вугляроду з вадародам, да якога прымешана крыху азоту, вуглекіслага газу, а часам і серавадароду.

Выяўлена, што метан, які часта называюць «балотным газам» (на балотах часам ноччу можна ўбачыць блакітныя агеньчыкі), не толькі таннае і зручнае паліва, але і каштоўная хімічная сыравіна.

### Лекавая бялізна з... газу

З прыроднага газу можна атрымаць рэчывы, якія патрэбны для прыгатавання азотных угнаенняў і друкарскай фарбы. Старонкі любой кнігі, газеты ці часопіса надрукаваны не без яго дапамогі — у друкарскай фарбе ёсць газавая сажа.

Калі прыродны газ акісліць кіслародам, атрымаецца фармалін. Ён ужываецца для дэзінфекцыі жылых памяшканняў. Фармалін — грозны вораг усялякіх шкодных насякомых і мікробаў. А ў руках хімікаў фармалін — гэта родапачынальнік найбольш распаўсюджаных пластмас: фенапластаў і амінапластаў.

Гледзячы на прыгожую вазу з кітайскім арнаментам, цяжка сабе ўявіць, што яна зроблена з амінапласту, а не з фарфору. Таксама цяжка паверыць, што корпус радыёпрыёмніка зроблены з пластмасы, атрыманай з газу, які гарыць у вашай газавай пліце на кухні.

Але як жа з газу зрабіць лекавую бялізну? Аказваецца, што і гэта не так цяжка для хімікаў.

Прыродны газ прадзімаюць з вялікай скорасцю праз полымя электрычнай дугі. Не праходзіць і некалькіх тысячных долей секунды, як «нараджаецца» новы газ — ацэтылен.

З яго хімікі атрымліваюць і пластмасы, і сінтэтычны каўчук,

і розныя клеі, якія склейваюць дрэва з металам, метал з металам і многае іншае.

З ацэтылену вырабляюць выдатную пластмасу — полівінілхларыд. Яна не паглынае вільгаці, не баіцца кіслот і шчолачаў. Калі гэтую пластмасу расплавіць і атрыманую густую, як сіроп, вадкасць праціснуць праз тонкія дзірачкі, дык струмені вадкасці застынуць у вельмі тонкія шаўкавістыя ніці.

З гэтага сінтэтычнага валакна, якое называецца «хларынам», робяць спецвопратку для хімічных цэхаў і шыюць прыгожыя жаночыя сукенкі.

Нядаўна выяўлена, што такія ніці валодаюць новымі, лекавымі якасцямі.

Маскоўская трыкатажная фабрыка «Красная заря» ўжо некалькі год выпускае з хларыну лекавую бялізну. Цяпер хворым рэўматызмам і радыкулітам не абавязкова ехаць на курорты Мацэсты або Цхалтуба — яны маюць магчымасць лячыцца пры дапамозе лекавай бялізны. Хларынавая трыкатажная бялізна рэкамендуецца таксама хворым паліартрытам, ішыясам і нават астмаю.

Лекавыя асаблівасці гэтай бялізны заснаваны на вельмі своеасаблівай фізічнай з'яве — так званым турбаэлектрычным эфекце. Бялізна трэцца аб скуру, і гэта выклікае невялікія электрычныя разрады. Яны заспакойваюць боль.

### Газ замяняе... хлеб

Газ можа замяніць хлеб... На першы погляд, гэта недарэчна — усе ведаюць добра, што для ежы газ непрыгодны. І тым не менш ён паспяхова замяняе і зерне і бульбу ў вытворчасці сінтэтычнага каучуку і некаторых іншых хімічных вырабаў, дзе патрэбны спірт.

Падлікі паказваюць, што для атрымання адной тоны спірту патрэбна чатыры тоны зерня або дзесяць тон бульбы. Такую ж колькасць спірту даюць нам дзве тоны звадкаванага прыроднага газу.

На выраб адной тоны каучуку ідзе 2,2 тоны спірту. Атрыманне спірту з прыроднага газу дае магчымасць эканоміць мільёны пудоў зярна і бульбы.

У рашэннях XXI з'езда партыі, у пастанове Пленума ЦК КПСС аб паскораным развіцці хімічнай прамысловасці і асабліва вытворчасці сінтэтычных матэрыялаў і вырабаў з іх вялікае значэнне надаецца выкарыстанню побач з прыродным газам нафтавых спадарожных газаў.

Кожны год на нашых нафтавых месцанараджэннях здабываюцца мільярды кубаметраў спадарожных газаў, якія ідуць на выраб розных пластмас, сінтэтычных каучукаў, сінтэтычных валокнаў.

Навуковыя работнікі Інстытута сінтэтычнага каучуку ў Ленінградзе стварылі з нафтавых газаў новы від штучнага каучуку. Ён валодае павышанай устойлівасцю, не страшны яму масла і бензін. Ні адна гума, зробленая з натуральнага каучуку, не вытрымлівае тэмпературы звыш 130 градусаў. Не вытрымлівае такой тэмпературы і гума з сінтэтычных каучукаў, якія вырабляюцца цяпер на заводах. А вось гума з новага віду каучуку не мяняе сваіх уласцівасцей нават пры 300 градусах.

Аўтамабільныя шыны, зробленыя з гэтага каучуку, вытрымалі самыя суровыя выпрабаванні і аказаліся трывалымі ў самых цяжкіх умовах.

Каучукі з прыродных і нафтавых газаў будуць выкарыстаны таксама ў вытворчасці тавараў шырокага ўжытку: галошы, гумавыя боты, спартыўны інвентар з іх будуць лепшыя за тыя, што вырабляюцца цяпер.

У 1965 годзе для вытворчасці сінтэтычнага каучуку і іншых палімераў прадугледжана выкарыстаць звыш двух з паловаю мільёнаў тон вадкіх вуглевадародаў са спадарожных газаў. Яны заменяць трыста мільёнаў пудоў зярна або сямсот пяцьдзесят мільёнаў пудоў бульбы.

### «Сваякі» капрону

З нафтавых газаў робяцца таксама прыгожыя лёгкія тканіны. Яны нагадваюць танюткі шоўк. Толькі добра спрактыкаванае вока спецыяліста можа заўважыць, што гэтая тонкая шаўковая тканіна зроблена не з коканаў шаўкапрада, а са створанага хімікамі рэчыва — энанту.

Цяпер з прыроднага газу, каменнага вугалю, нафты хімікі атрымліваюць каля дваццаці відаў розных сінтэтычных валокнаў. Сярод іх усім вядомыя капрон, нейлон, нітрон і такія, што толькі пачынаюць ужывацца і яшчэ зусім невядомыя ў практыцы.

Зусім нядаўна з'явілася ў нашай краіне новае сінтэтычнае валакно — хеланка, або эласцік. Гэта — вельмі блізкі «сваяк» капрону, але яго ніці мяккія, пушыстыя, ён саграваe лепш за воўну, а каштуе значна дзешавей. Вырабы з гэтага валакна больш трывалыя і прыгажэйшыя за валняныя. Асаблівасць іх тая, што ніці эласціку расцягваюцца, — гэта вельмі зручна для вырабу панчох.

У 1965 годзе выраб хімічных валокнаў павялічыцца ў чатыры разы, а найбольш каштоўных з іх — сінтэтычных — у 12 — 14 разоў.

Савецкія людзі атрымаюць у 1965 годзе ў дзесяць разоў больш дабротных і прыгожых тканін, чым у 1957 годзе. Усё гэта будзе зроблена з газу.

**Б. РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**



# РЭПІН У БЕЛАРУСІ

У 1891 годзе Ілья Яфімавіч Рэпін скончыў сваю славутую карціну «Запарожцы пішуць пісьмо турэцкаму султану» і аддаў у Рускі музей, атрымаўшы за яе 35 000 рублёў. Акрамя гэтага, мастак прадаў у прыватныя рукі многа эцюдаў і эскізаў да карціны. На вyручаныя грошы ён купіў сядзібу Здраўнева, якая размяшчалася за 18 кіламетраў ад Віцебска.

Селячыся ў Беларусі, Рэпін жыў вялікімі творчымі надзеямі. Аб гэтым ён пісаў 22 чэрвеня 1892 года вядомаму грамадскаму дзеячу, вучонаму-мастацтвазнаўцу В. Стасаву: «...я тут у «Здраўневе» жыву самым першабытным жыццём, якім жылі яшчэ грэкі «Адысеі»... Часта ўспамінаю Сізіфа, які цягаў камені, і зайздрошчу цудам над Антэем... **Ах, калі б гэтае дакрананне, блізкае да зямлі, аднавіла мае сілы, якія ў Пецярбургу ў апошні час пачалі слабець...»** (Падкрэслена мною. — **А. У.**)

У Пецярбургу Рэпін траціў шмат сіл не на творчую працу, а на ідэйную барацьбу з усялякімі мадэрнісцкімі плынямі ў мастацтве, таму што гэтыя плыні, на думку мастака, перашкаджалі росту і развіццю рускага рэалістычнага мастацтва. Вось чаму, пасяліўшыся ў Здраўневе, мастак душой адпачываў ад усёй пецярбургскай мітусні, якая так перашкаджала ў творчай працы.

У Здраўнева Рэпін пераехаў з сям'ёй у маі 1892 года, і там яму давялося нямала папрацаваць. Над домам была збудавана вежа-майстэрня з верхнім святлом. З яе былі добра відаць ваколіцы Здраўнева. Асабліва прыгожа выглядала Заходняя Дзвіна, па якой часта праходзілі параходы, плылі лодкі,

беларускія плытагоны сплаўлялі плыты, бурлакі цягнулі баржы, нагружаныя збожжам.

Жыццё сярод чароўнай беларускай прыроды ажывіла і асвяжыла Рэпіна. У яго лістах той пары часта сустракаюцца апісанні малюнкаў здраўнеўскай прыроды. Летам 1892 года Рэпін пісаў дачцы Л. М. Талстога Тацяне Львоўне:

«На Дзвіне вельмі весела. Проста за ракой, перад вачыма высокі прыгожы лес паднімаецца ўгару без канца; часта ўверх супраць плыні велічна праходзяць лайбы з велізарнымі парусамі; часта іх цягнуць бурлакі партыямі ад чатырох да адзінаццаці чалавек...»

У Здраўневе Рэпін напісаў шмат эцюдаў. Адзін з іх — «Беларус» — быў напісаны ў 1892 годзе. Фігура селяніна-беларуса паказана ў рассеяным асвятленні пахмурнага дня. На селяніне — шэравата-белая світка, якая па-майстэрску выпісана шырокім энергічным рэпінскім мазком, характэрным для творчасці мастака ў дзевяностыя гады. На грудзях пад белай світкай светла-ружовая святочная кашуля, колер якой пераклікаецца з колерам светла-зялёнага святочнага пояса. Такімі суадносінамі колераў мастак ажывіў эцюд. Хто паслужыў мадэллю для гэтага эцюда, і да гэтага часу невядома. Некаторыя мастацтвазнаўцы, напрыклад О. Ляскоўская, сцвярджаюць, што гэта партрэт пэўнай асобы — Сідара Шаўрова з вёскі Сахарава. Мясцовыя ж людзі пазнавалі ў партрэце смелага дзвінскага плытагона Сцяпана Крывенку, які памёр не так даўно.

Але хто б ні быў чалавек, намаляваны на гэтым партрэтным эцюдзе, тут важна іншае: Рэпін першы з мастакоў стварыў глыбока пераканаўчы вобраз беларускага селяніна, і ў гэтым яго вялікая заслуга перад беларускім народам, перад беларускім мастацтвам.

У тым жа годзе мастак спрабуе напісаць карціну, прысвечаную барацьбе беларускага народа з каталіцызмам — «Пропаведзь Кунцэвіча ў Беларусі». Эскізны малюнак да гэтай карціны знаходзіцца ў Мінску ў Дзяржаўным мастацкім музеі. Каталіцкі епіскап Ісафат Кунцэвіч, які вылучаўся сваёй жорсткасцю пры насаджэнні ўніяцтва на Беларусі, быў забіты ў 1623 годзе жыхарамі Віцебска. Гэты факт і зацікавіў мастака. Ён так захапіўся гэтай тэмай, што падрыхтаваў для карціны шмат эцюдаў з мясцовых сялян, часта ездзіў у Віцебск вывучаць месца, дзе была ўчынена расправа над ненавісным епіскапам.

У Здраўневе Рэпін працаваў шмат. Ён пісаў эцюды з натуры, ствараў партрэты. Адзін з партрэтаў, напісаны з Веры Ільінічны, называецца «Асенні букет». Ён належыць да ліку лепшых рэпінскіх партрэтаў.

Улетку 1896 года І. Я. Рэпін напісаў невялікую карціну «Паненка ў статку», дзе паказаў дачку Веру, якая любіла карміць хлебам кароў. У тым жа годзе ім была створана і яшчэ адна карціна — «Ноч пры святле месяца».

Не ўсе работы мастака, створаныя ў здраўнеўскі перыяд, былі ўдалыя. Асабліва гэта датычыць «Віншавання маладых» і «Юбілейнага абеду».

Ворагі рэалістычнага мастацтва, усялякія «левакі» і містыкі, радаваліся няўдачам Рэпіна. А прычына гэтых няўдач была ў адным: мастак не мог знайсці сапраўдную, хвалюючую тэму.

І толькі ў карціне «Дуэль», над якой Рэпін працаваў з 1895 па 1897 год, ён знайшоў, нарэшце, тое, што па-сапраўднаму ўсхвалявала і захапіла яго. «Дуэль» — лепшы твор здраўнеўскага перыяду — была адказам на пытанні, якія хвалявалі тагачаснае грамадства. Яна яшчэ раз сведчыць аб тым, наколькі цесна звязана з рэчаіснасцю творчасць кожнага сапраўднага мастака.

Рэпін пісаў сваю «Дуэль» як водгук-пратэст на ўзаконенае царскім урадам правядзенне дуэлей. Справа ў тым, што ў тагачасным афіцэрскім асяроддзі панавала беспрабуднае п'янства, нікчэмныя, дробныя інтрыгі, якія даводзілі людзей да самагубства, да гібелі на дуэлях.





І. Рэпін. Дуэль.

Карціна Рэпіна напісана на дзесяць гадоў раней, чым аповесць Купрына «Паядынак». Таму, калі мы чытаем Купрына, нам, здаецца, што апісанне дуэлі надта знаёмае. А знаёмае таму, што мы бачылі яе ў рэпінскай карціне.

Трагічная тэма дуэлі ў карціне — гэта тэма дарэмна загубленага жыцця.

... У засені густога, свежага свае́й зелянінай лесу на траве сядзіць малады паранены афіцэр. Каля яго неяк нязграбна прысеў разгублены доктар. Падтрымліваючы смяротна параненага афіцэра, ён з глыбокім дакорам пазірае на забойцу. Яго позірк — гэта позірк старога, разумнага чалавека. Тут жа побач — група афіцэраў, арганізатараў гэтай злачыннай дуэлі. Яны збянтэжаны і не ведаюць, што рабіць. Дуэлянт-пераможца таксама адчувае сябе няёмка. Ён стаіць спіной да гледача. Закрыўшы твар левай рукою, ён працягвае правую свайму нядаўняму ворагу — ахвяры гэтай бессэнсоўнай дуэлі. Усе прыгнечаны і прыніжаны велікадушшам параненага, які працягвае руку свайму забойцу.

У карціне з выключным жывапісным майстэрствам выпісаны пейзаж, які адыгрывае вялікую ролю ў раскрыцці ідэйнага зместу гэтага цудоўнага твора мастацтва.

Здраўнеўская прырода, сярод якой адбываецца трагічная падзея, перадсмяротная ўсмешка параненага, што мірыцца са сваім забойцам, — усё гэта напоўнена нейкім велізарным смуткам.

Узыходзіць сонца. Дзе-нідзе праз лістоту прабіваюцца яго першыя промні. І, здаецца, убачыўшы гэтую страшэнна бессэнсоўную смерць чалавека сярод жывой і свежай прыроды, яны, гэтыя промні, нібы спалохаліся, засаромеліся і баяцца дакрануцца да людзей, якія прыносяць у ахвяру нікчэмнай і пустой фанабэрыстасці сваё жыццё. Затое сваім ласкавым дотыкам да лісцяў і ствалоў дрэў яны надаюць усяму непаўторную прыгажосць. Ад гэтага гібель чалавека паўстае перад намі яшчэ больш сумнай і трагічнай.

Толькі з самага левага краю карціны промні сонца нібы шукаюць чалавека. Яны цягнуцца да аднаго з удзельнікаў дуэлі — секунданта, які знаходзіцца воддаль. Паклаўшы рукі ў кішэні свайго афіцэрскага шыняля, ён павольна

ным і цяжкім крокам ідзе да цэнтральнай групы. На твары ў яго — глыбокі роздум. Ён нібы асуджае бязглуздасць усяго, што адбылося. Іменна да яго цягнуцца промні сонца, нібы радуючыся, што ў гэтым чалавеку абудзілася сумленне.

Ствараючы карціну «Дуэль», Рэпін паспрабаваў вярнуцца да тых глыбока гуманістычных пачуццяў, якімі ён жыў, калі пісаў карціну пра Івана Грознага. У «Дуэлі» мастак не паказвае віноўнікаў трагедыі. Ён глядзіць на іх, як на ахвяры кансерватыўных устояў і звычаяў тагачаснага жыцця. Гэта выклікае ў гледача не абурэнне і злосць да людзей, паказаных на карціне, а пачуццё глыбокага жалю да іх. Мы бачым, што гэтыя людзі, якія шукаюць не барацьбы, не помсты, а прымірэння са сваім лёсам, і невыпадкова мастак неўзабаве змяніў назву карціны. Ён назваў свой твор па-новаму: «Даруйце...»

Напісаная ў Здраўневе карціна «Дуэль» з'явілася на Венецыянскай выстаўцы ў Італіі ў 1897 годзе і мела вялікі поспех. Адтуль назад у Расію карціна не вярнулася — яна была куплена прыватнай асобай і вывезена ў Ніцу.

У 1899 годзе карціна была выканана ў гравюры В. В. Матэ і пад назвай «Даруйце!» змешчана ў часопісе «Ніва».

У карціне «Дуэль» выключна закончаная думка, такія ж завершаныя вобразы. Таму, гледзячы на гэты твор, адразу ўяўляеш пустату і нікчэмнасць жыцця афіцэрства тагачаснай царскай арміі. Гэта неблагія людзі, яны мяккія, добрыя рускія інтэлігенты, але афіцэрскае асяроддзе, увесь уклад жыцця зрабілі іх такімі нікчэмнымі. Рэпін нібыта і не крытыкуе, не выкрывае герояў у карціне «Дуэль», паказвае іх мілымі і добрымі. І ўсё ж, як галоўны ідэйны вывад, у гледача ўзнікае думка аб скасаванні тагачаснай сацыяльнай рэчаіснасці.

Усё гэта было вынікам таго, што вялікі рускі мастак Рэпін стаяў на пазіцыях рэалізма, які ён сваёй карцінай «Дуэль» узняў яшчэ на вышэйшую ступень.

**А. УС.**

# НОВЫ ОПЕРНЫ СПЕКТАКЛЬ

На сцэне Беларускага дзяржаўнага ордэна Леніна тэатра оперы і балету ідзе новы оперны спектакль «Калючая ружа». Юры Семяняка, які напісаў гэту оперу, па сутнасці яшчэ толькі пачынае свой шлях у галіне музыкі буйных форм. Сапраўды, менш чатырох год прайшло з таго часу, як ён, у мінулым таленавіты самадзейны кампазітар з Гродзеншчыны, закончыў вучобу ў Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі і стаў самастойна спрабаваць свае сілы ў вакальным жанры. Трошкі большы стаж работы ў оперным мастацтве мае паэт Алесь Бачыла: за яго плячыма, акрамя лібрэта «Калючай ружы», ёсць яшчэ лібрэта оперы «Яснае світанне», музыку якой напісаў кампазітар А. Туранкоў.

Грамадскасць вельмі правільна адзначыла тое каштоўнае, што прынесла на сцэну новая беларуская опера, хоць і не даравала аўтарам недахопаў. Што ж каштоўнае выдучае «Калючую ружу» сярод іншых новых опер? Адкажам адразу: подых сучаснасці. Мы адчуваем тут пульс сённяшняга жыцця і ў рытмах, і ў вобразным ладзе музыкі. Опера захапляе аўдыторыю агульным настроем весялосці, дасціпным высмейваннем гнілога, мяшчанскага побыту, што замінае яшчэ нам у жыцці.

Да здабыткаў новай оперы трэба аднесці і добрае выкарыстанне кампазітарам магчымасцей спевакоў, і цікавыя ансамблі, і вельмі пластычныя рэчытатыўныя эпізоды, і эфектныя балетныя сцэны, як, напрыклад, студэнцкі баль.





Святлана (засл. артыстка рэспублікі Т. Шымко) і Андрэй (засл. артыст рэспублікі В. Глушакоў).

Мы наўмысля звярнулі ўвагу на творчую маладосць аўтараў «Калючай ружы», бо твор не пазбаўлены недахопаў. Іменна з-за адсутнасці належнага творчага вопыту атрымаўся такі расцягнуты першы акт оперы. Аўтары адразу знаёмяць слухачоў з большасцю герояў, раскрываюць узаемаадносіны паміж імі, і цікавасць слухача да разгортвання дзеі меншае. Вонкава яркія музычныя характарыстыкі дзеючых асоб не заўсёды маюць патрэбнае развіццё. Так, напрыклад, Андрэй Паромскі намаляван адной, няхай прывабнай, моцнай па колеру, але толькі адной фарбай. Адсюль і пэўная статычнасць вобраза, яго збедненасць. Тое ж можна сказаць і пра псіхалагічную неабгрунтаванасць паводзін жыццерадаснай Ірыны (пятая карціна), калі яна робіць спробу атруціцца.

Блага і тое, што аркестр пастаўлен «па-за» сімфанічнае развіццё, што хор мала ўплывае на драматургію.

Пры ўсім гэтым поспех «Калючай ружы», а значыць і яе аўтараў, бясспрэчны. Але гэта заслуга не толькі аўтараў твора. Вялікая частка поспеху па праву належыць калектыву опернага тэатра.

Пачуццём выключнай адказнасці прасякнута была работа пастаноўшчыкаў новага спектакля (дырыжор Л. Любімаў, рэжысёры В. Броўкін і Ю. Ужанцаў, мастак Я. Чамадураў, хармайстар А. Кагадзееў). Выдатна гучыць у спектаклі аркестр, вабяць жывыя жанравыя мізансцэны, захапляе часам жыццёвасць сцэнічных паводзін выканаўцаў. Не можа не ўсхваляваць гледачоў натхнёнае ўвасабленне на сцэне тэатра цудоўных куткоў нашага прыгажуна-Мінска.

Гаворачы аб яркасці спектакля «Калючая ружа», трэба сказаць аб тым, што тут выявілася рэдкая для тэатра наогул колькасць акцёрскіх удач, выдатны ансамбль выканаўцаў. Нельга не захапіцца той непасрэднасцю і абаяльнасцю, з якімі В. Чарнабаеў знаёміць нас са сваім героем Тарасам — другам і дарадчыкам студэнта кансерваторыі Андрэя Паромскага, што закахаўся ў Святлану Зорыну, дачку прафесара. Тарас дае свайму сябру шмат парад, але і сам не можа ўстаяць перад Ірынай. І бедны хлопец так разгубіўся, што аж пачаў «заліваць» сваё гора віном. Але ўсё гэта паказана з адчуваннем мастацкага такту. Мы верым выканаўцу, што ў яго героя гэта часовае, выпадковае, і радуемся, калі яно мінае.



Тарас (арт. В. Чарнабаеў) і Ірына (нар. артыстка рэспублікі Т. Ніжнікава).

сабой... А тут штосьці надта злосна ты гаворыш аб пяцідзесятніках... Ці не насалілі яны табе чым-небудзь?.. Інакш справа не дайшла б да расколу ў секце...»

Я парашыў скарыстаць непрыязнасць былога прасвітара Жаўтко да тых, хто адкалоўся, і спытаў:

— Чаму пяцідзесятнікі не даб'юцца, каб на іх спусціліся промні святога духу, як гэта напісана ў біблії, у пасланні апосталам? Чаму на іх не спускаецца вогненнае полымя?

Жаўтко закашляўся і змоўк, баючыся, што можа зусім скампраметаваць пяцідзесятнікаў. Гэтага ён не хацеў: як ні кажы, а яны ўсё-такі «браты». Тым больш, што сам Жаўтко незадаволены і некаторымі баптысцкімі абрадамі.

Знаёмячы мяне з часопісам «Вестник евангельских християн», які выдаецца ў Маскве пад кіраўніцтвам генеральнага сакратара баптыстаў Карава, ён паказаў на здымак, змешчаны ў ім. Там былі: прасвітар Жыткоў, Караў, дэлегацыя амерыканскіх баптыстаў, жанчына ў белым і баптыстэрыя (ванна, у якой хрысцяць вадой пры прыёме ў баптысты). Жаўтко заўважыў:

— Баптыстэрыя — гэта адступленне, бо трэба хрысціць у прыродных вадаёмах, а не ў штучнай пасудзіне.

Вядома, галоўнае не гэта. Жаўтко абурала тое, што прасвітар Жыткоў на абшчынныя сродкі пасылае свайго сына вучыцца ў духоўную акадэмію ў Англію.

— Аб гэтым мы, радавыя баптысты, — сказаў ён, — не можам нават марыць. — У голасе яго адчуліся ноткі незадаволенасці. — Камандаваў намі бацька, будзе камандаваць сын.

У куце пакоя ў рамцы вісеў лозунг — «Бог ёсць любоў». Жаўтко пачаў тлумачыць яго сэнс. Пакуль ён цягнуў адно за другім выказванні са святых пісанняў накшталт таго, што «леў, рыкаючы, любіць ільвіцу сваю і дзіця сваё», я слухаў і думаў: «Хлусіш ты, чалавеча, крывадушнічаеш... Думаеш ты адно, а гаворыш другое... Справа не ў тым, што «бог ёсць любоў». Справа зусім у іншым: хто больш прыбыткаў атрымае, спекулюючы гэтай «любоўю», узводзячы ў зман цёмных і неадукаваных людзей... Перад гэтым жа ты сам гаварыў, што нічога не траціш ад таго, існуе бог ці не, што нават сумняваешся ў яго існаванні... А вось калі размова зайшла аб тым, хто будзе камандаваць баптыстамі, дык ты і пра бога забыўся, адразу па-інакшаму загаварыў...»

Было даволі позна, і на гэтым наша першая сустрэча закончылася.

Пазней пазнаёміўся я з бруднымі справамі кіраўніка секты пяцідзесятнікаў Уладзіміра Андрэевіча Смушко.

Сам ён — з-пад Юрацішак. Яму пад 50 год. Баптыстам стаў у 1937 годзе. Праз тры гады апынуўся ў Лідзе, працаваў стрэлачнікам, жыў у далёкай сваячкі Ганны Міхайлаўны Лавыш. Падгледзеў, што ў яе шмат багацця. Ды і Ганнін сын сказаў аднойчы, хвалячыся:

— Няхай хоць усе паздыхаюць, а мне і маім дзецям на дзесяць год хопіць.

Відаць, моцна запалі ў душу Смушко гэтыя словы. Калі праз некалькі год Лавыш засталася адна, яна пажадала прадаць палову дома. Даведаўшыся пра гэта, Смушко груганом уварваўся ў яе дом і амаль закрычаў:

— Нашто чужым прадаваць?! Лепш мне прадай!

Так палова дома перайшла ў рукі Смушко.

У дагаворы, заключаным паміж Смушко і Лавыш, значылася, што ён будзе ўтрымліваць старую да смерці, а пасля за гэта яму дастанецца другая палова дома. Аднак чакаць, пакуль старая памрэ, Смушко не хацеў. Ён рашыў, як кажуць, каваць жалеза гарачае.

Ён выганяў Лавыш з хаты, карміў яе дрэнна, забраў кажух, якім яна накрывалася ноччу. Старая спала на голых дошках. Пачала прадаваць апошнія рэчы. А людзям гэты сапраўдны юда плявузгаў, што Лавыш — вядзьмарка.

Не вытрымаўшы такіх здзекаў, Лавыш раздабыла воцатную эсенцыю і выпіла яе. Гледзячы на пакуты сваячкі, Смушко дакараў:

— Калі паправішся, сорамна будзе людзям у вочы глядзець.

Лавыш неўзабаве памёрла. Смушко завалодаў усім домам.

Як многія «браты ва Хрысце», Смушко нідзе не працуе. Гандляваў яблыкамі, зарабіўшы на гэтым 30 тысяч. Купіў легкавую аўтамашыну за 6 тысяч, прадаў яе за 12. Але гэтага мала. Пачаў дабівацца ўлады ў абшчыне. Дзеля гэтага ён хацеў праўдай і няпраўдай заваяваць «аўтарытэт».

А каб расчысціць дарогу, абвінаваціў Жаўтко ў парушэнні статута абшчыны, «у атэізме і шпіёнстве». Дамогся-такі, каб Жаўтко знялі з прасвітарства.

Цяпер, нарэшце, я поўнасцю зразумеў, чаму незадаволены Мікалай Жаўтко і расколам секты, і пяцідзесятнікамі, і самім Смушко. Аказваецца, не падзялілі ўлады і перагрызліся... Гэтага было дастаткова, каб Смушко ператварыўся ў пяцідзесятніка, перамяніў, як кажуць, «веру»...

... Баптысты актывізавалі сваю дзейнасць у кравецкай майстэрні па вуліцы Міцкевіча. Даведаліся аб гэтым у атэістычнай секцыі гарадскога аддзялення Таварыства па пашырэнню палітычных і навуковых ведаў. Прапанавалі мне правесці гутарку «Рэлігійнае сектанцтва і яго рэакцыйная сутнасць». І вось я ў майстэрні.

Дзве гадзіны як мага даходлівей расказваў я аб узнікненні рэлігіі, яе шкоднасці, неабгрунтаванасці. Многа гаварыў пра баптызм, пра тое, як гэтая вера ператварае людзей ў бязвольных істот, як яна шкодзіць нашаму грамадству. Прыводзіў прыклады з дзейнасці лідскай абшчыны.

Прысутнічаў на лекцыі і Вальдамар — сын былога прасвітара Жаўтко. Гэты малады хлопец пусціў у ход усё сваё ўмельства, каб абвергнуць тое, аб чым я гаварыў. Як тонучы за саломінку, хапаўся ён за «свяшчэннае пісанне» — біблію. Ён прапанаваў тлумачыць яе не ў літаральным сэнсе, як гэта зроблена ў чэхаславацкім кінафільме «Стварэнне свету», а ў «творчым развіцці». Гэта яму спатрэбілася для таго, каб схаваць відавочныя супярэчнасці біблії.

Вось прыклад «творчага развіцця».

Вальдамар даказваў, што Зямля наша нагадвае валовую скуру, якая трымаецца на кітах. Разбіць гэтыя довады было лёгка, але баптысты, наперакор фактам, крычалі, што яны ўсё роўна застаюцца пры сваім уяўленні аб Зямлі.

Смешна і крыўдна было ўсё гэта слухаць. Шкада было пазіраць на гэтых людзей, якія настолькі адсталі ад жыцця, што не маюць нават элементарных уяўленняў аб будове і форме Зямлі. Вось адкуль пачынаюцца вытокі іхняга цемрашальскага фанатызму, іхняй сляпой веры ва ўсё тое, што ім гавораць прапаведнікі.

... У адзін асенні вечар сцяжынка па краі рова прывяла мяне да невысокага пабеленага вапнай доміка — штаба пяцідзесятнікаў. Быў вечар. На двары сядзела жанчына гадоў пад сорак і пры святле месяца абірала бульбу. Гэта была Праскоўя Спірыдовіч. Яна здзіўлена агледзела мяне і запрасіла ў дом.

— Заходзьце.

У пакоі — амаль ніякай мэблі. На сценах у прыгожых рамках — некалькі выказванняў з біблії, фотаздымкі.

З Праскоўяй, якая прынесла табурэтку, увайшла яе сястра. Загаварылі аб ураджаі бульбы і іншых справах.

— Усё залежыць ад бога, — сцвярджалі сёстры.

Неўзабаве прыйшла дамоў Праскоўіна дачка Зіна. Паступова разгаварыліся аб рэлігіі.

— Усё ад бога, — сказала Праскоўя. — Ну, хоць бы зіма і лета, вясна і восень.

— Растлумач, Зіна, — паспрабаваў я знайсці саюзніка. — Ты ж, я думаю, ведаеш, што ўсё гэта вельмі проста.

Зіна адмовілася, спасылаючыся, што яе не паслухаюць.

Жанчыны слухалі мае довады пра апошнія даследаванні сусвету і, відаць, нічога не хацелі разумець.

Праскоўя перапыніла:

— Ніхто на сонцы і месяцы не быў і не ведае, што там робіцца.

І ніхто не можа вымераць адлегласць да іх.

Папрасіў аркушык паперы, каб паказаць, як вымяраюцца адлеглacці да нябесных цел. Але яе ў хаце не аказалася. Здзівіла, што Зіне, якая толькі што скончыла дзесяцігодку, стала не патрэбна папера.

На краі выкрайкі малюю прамавугольны трохкутнік і працягваю тлумачыць. Зіна згаджаецца са мной і дадае, што трыганаметрыю крыху забылася. Здаюцца і яе цёткі. Аднак кажуць:

— Вось каб там пабыць, тады іншая справа.

Баптысткі пачалі мяне «апрацоўваць», пераконваць у карысці рэлігіі, раілі паверыць у бога. Калі ж Зіна сказала, што я настаўнік, хуценька змоўклі.

Наступны раз да Спірыдовічаў я зайшоў з тэлескопам Максутава. Гэта было пасля таго, як савецкая касмічная ракета дасягнула Месяца. Сабраліся ўсе пяцідзесятнікі. Малодшая сястра ўзмоцнена агітавала прапаведніка абшчыны Сая паназіраць спадарожнік Зямлі, аднак той упіраўся, гаворачы, што Месяц — вадкі і нічога на ім няма. Нарэшце паглядзеў. На яго, як і на іншых, убачанае зрабіла велізарнае ўражанне. Яны пераканаліся ў наяўнасці на Месяцы няроўнасцей, мораў, горных ланцугоў. Іх усё гэта вельмі здзівіла.

Семнаццацігадовая Валя Смушко адмаўлялася глядзець у тэлескоп, кажучы, што рабіла гэта ў час вучобы ў сельскагаспадарчым тэхнікуме. Аднак не вытрымала — паглядзела і яна.

У пакоі я пазнаёміў пяцідзесятнікаў з картай Месяца, паказаў месца прылунення ракеты, расказаў аб Месяцы і касмічнай аўтаматычнай станцыі. У пяцідзесятнікаў узнікла пытанне, што такое зоркі. Я растлумачыў, гаварыў ім аб памерах і тэмпературы Сонца, аб сонечнай сістэме, адлегласцях да зорак і іншым. Пазнаёміў з метадам, якім вучоныя вызначаюць адлегласці і памеры нябесных цел.

Натуральна ўзнікла пытанне аб гармоніі, аб першапачатку. Зіна па маёй просьбе дала фармуліроўку закону захавання энергіі і рэчыва. Я растлумачыў яго сэнс.

Прапаведнік пяцідзесятнікаў Сай пачаў даказваць, што ў камуністаў і баптыстаў — адна мэта: і адны і другія хочуць дамагчыся братэрства на зямлі, ліквідаваць усялякую несправядлівасць. Нашто, маўляў, у такім выпадку змагацца супраць баптызму? Мяне абурыла такая бессаромная аналогія.

— Нічога агульнага, — кажу, — баптысты не маюць з камуністамі. Калі камуністы вядуць за сабой навуку, каб пабудаваць светлую будучыню, прыкладаюць да гэтага ўсе намаганні, то баптысты прапаведуюць адмаўленне ад жыцця. Яны ў большасці нідзе не працуюць. Вы нават не ходзіце ў кіно, на канцэрты, зусім адарваліся ад жыцця, адасобіліся ад людзей. Што ж вы маеце агульнага з камуністамі, за якімі ідзе ўвесь савецкі народ? Вы замкнуліся ў сваёй секце, моліцеся, паклёпнічаеце на нашых людзей і іх справы, нават свае законы бессаромна парушаеце. І ў гэтае балота ўцягваеце моладзь, робіце з іх пасіўных, да ўсяго абыякавых істот. Сваю «ідэалогію» супрацьпастаўляеце камуністычнай. І яшчэ адважваецеся гаварыць аб агульнасці інтарэсаў з камуністамі.

Сай раззлаваўся. У маёй прысутнасці ён стаў чарніць наш друк, паводзіны некаторых грамадзян. Ён вышукваў асобныя недахопы ў нашым жыцці, прыводзіў факты, узятыя з залы суда (куды ён спецыяльна для гэтага хадзіць), і падаваў іх як тыповыя. Асабліва абураўся ён атэістычнай прапагандай.

Давялося даць прапаведніку належны адпор.

Праз некаторы час я зайшоў да Праскоўі Спірыдовіч па астранамічныя плакаты, якія пакінуў у мінулы раз. Захапіў з сабой біблію і дзве кнігі Крывялёва «Аб евангельскіх сказаннях» і «Аб супярэчнасцях евангелля». У Зіны была Вольга Самойлава, дзяўчына з Курскай вобласці, цяпер тэлефаністка, актыўная пяцідзесятніца. Вяртаючы плакаты, дзяўчаты сказалі, што паказвалі іх веруючым. Яны вельмі зацікавіліся маёй бібліяй 1911 года выдання і тут жа прапанавалі за яе вялікія грошы. Безумоўна, я не згадзіўся, бо прынёс яе не для продажу, а каб пераканаць, што і я цікаўлюся тым самым, чым цікавяцца яны.

На вокладцы кнігі Крывялёва Зіну зацікавіў славянскі шрыфт. Яна расказала, што вельмі любіць маляваць, і аднойчы не сцярпела — зайшла ў Вільнюсе ў карцінную галерэю, дзе ёй вельмі спадабалася. Я звярнуў увагу на тое, што сказала Зіна. Выходзіць, што ніякія запалохванні прапаведнікаў не могуць канчаткова адарваць тых нешматлікіх юнакоў і дзяўчат, якія трапілі ў павуцінне баптызму, ад навакольнага жыцця. Гэтыя маладыя людзі рвуцца да навукі, да мастацтва. Трэба, чаго б гэта ні каштавала, дапамагчы ім выйсці на правільны шлях у жыцці. Я параіў Зіне паступіць куды-небудзь вучыцца. Яна задумалася і адказала:

— Сродкаў няма...

Цікава, за біблію можна і некалькі соцень прапанаваць, а на вучобу... грошай не хапае.

Пачалі чытаць кнігу «Аб супярэчнасцях евангелля». Асабліва ўразіла пяцідзесятніц і выклікала разгубленасць тое, што радаслоўная Хрыста па Матфею і Луку пачынаецца з розніцай на 14 пакаленняў. Звярылі па бібліі. Пацвердзілася. Разглядвалі і іншыя супярэчнасці, якія апісвае Крывялёў.

Нарэшце Зіна не вытрымала:

— Новы запавет можна абвергнуць, а вось стары...

— У старым запавеце, — адказаў я, — яшчэ больш супярэчнасцей.

— Давайце тады пачытаем біблію, — прапанавала Самойлава.

Я разгарнуў кнігу і пачаў чытаць 22 верш з трэцяга раздзелу «Ісходу», дзе гаворыцца, што бог Саваоф навучаў Маісея абкрасці егіпцян.

Дзяўчатам гэта не спадабалася.

— Вы наўмысна падабралі такое месца, — сказала Зіна. — Пачытайце другое.

Разгарнуў наўгад. Чытаю, як Рахіль дала на ноч Іакаву сваю служанку Ваалу, а затым прадала Іакава Ліі за мандрагоравы яблыкі з той жа мэтай.

Гэты ўрывак аб маральным раслажэнні святых таксама не спадабаўся пяцідзесятніцам.

Тады я прапанаваў, каб Зіна сама разгарнула кнігу. Трапілася старонка, на якой апісана, як Юдзіф забралася ў ложак да цара персідскага, а затым перарэзала яму горла.

Так нічога боскага, высокамаральнага і не знайшлі ў бібліі.

...Неяк Валя Смушко спыніла мяне на Ленінскай вуліцы. Пагаварылі аб тым-сім, затым — аб існаванні бога.

— Доказам таго, што бог ёсць, — сказала дзяўчына, — з'яўляецца атэістычная прапаганда.

— Як гэта?

— Нельга змагацца супраць таго, чаго няма. А вы змагаецеся супраць бога, значыць — ён ёсць.

Тлумачу, што барацьба вядзецца не супраць бога, а супраць тых забабонаў і адсталасці, якія нарадзілі гэтага бога.

Нарэшце, Валя згаджаецца.

— Можа, я і парву з рэлігіяй, — сказала яна.

Валя — вучаніца 9-га класа школы рабочай моладзі. Неяк я напомніў ёй, што на сходзе ў Спірыдовічаў яна выступала супраць тэорыі Дарвіна. Валя перапыніла мяне:

— Я гэтую тэорыю добра ведаю. Нядаўна адказвала па ёй на ўроку і атрымала чацвёрку. Аднак у тое, што гаварыла, ніколькі не веру.

— Няўжо, — пытаю ў яе, — ты са сваімі далёка недастатковымі ведамі лічыш сябе разумнейшай, чым вялікія вучоныя?

— Ну, добра. Можа я і памыляюся, але мяне трэба вучыць, а не выганяць са школы, я ж не вораг.

Я ведаў, што ў Валі не было дакументаў аб заканчэнні васьмі класаў. Яны засталіся ў сельскагаспадарчым тэхнікуме ў Ашмянах, бо Валя, закончыўшы адзін курс, парашыла, што працаваць у вёсцы — непрыемна, і паехала дамоў, пакінуўшы вучобу і дакументы. Вось іх ад яе і патрабавалі, папярэдзіўшы, што могуць адлічыць са школы.

Валя ж з бацькам раззванілa па ўсім горадзе, што яе выключаюць са школы за веру ў бога.

Яна зрабіла з сябе вялікамучаніцу, узбунтавала вучняў, пахвалялася:

— За мяне ўсе камсамольцы гарой стануць.

У Маскву паляцела скарга.

— Савецкая ўлада павінна мяне вучыць, нягледзячы ні на што,— заяўляла высакамерна Валя.

— Прынясі дакументы,— гаварылі ёй.— Гэта патрабуецца ад кожнага вучня.

Нарэшце дакументы прыбылі. Раздуты «інцыдэнт» заціх.

Смушко таксама хоча, каб дачка атрымала адукацыю, але ён лічыць, што гэта не перашкодзіць ёй быць пяцідзесятніцай. Ён нават лічыць за добрае, што сектантка стане настаўніцай. Я спытаў у бацькі Валі:

— І вы думаеце, што бацькі павядуць сваіх дзяцей на навучанне да пяцідзесятніцы? Яна ж застанецца без работы.

Ого! Трэба было бачыць Смушко пасля апошніх слоў.

— Не маюць права! — гарачыўся ён. — Гэта будзе парушэннем Канстытуцыі. Вось няхай закончыць дзесяць класаў і інстытут, а тады — паглядзім. Будзе працаваць. Судом возьмем!

Гэта быў той самы Смушко, які ўсяляк зневажаў савецкія законы. А тут, бачыце, адразу пра іх успомніў.

Я працягваў весці атэістычную прапаганду сярод баптыстаў, выкарыстоўваючы дасягненні нашай савецкай навукі, абапіраючыся на марксісцка-ленінскае вучэнне, выкрываючы крывадушша «божых служак». І трэба сказаць, што мае намаганні не прапалі дарэмна.

... Аднойчы ў гутарцы з былым прасвітарам Мікалаем Фамічом Жаўтко я расказаў аб цёмных справах веруючых, аб тым, як царква праследавала многіх выдатных людзей, якія марылі аб справядлівым грамадстве і змагаліся за яго.

— Так,— сказаў Жаўтко.— Уся гісторыя рэлігіі — гэта гісторыя чалавеказабойстваў, нянавісці і бязглуздых спраў.

Ён памаўчаў.

— Узяліся камуністы пабудаваць справядлівае грамадства — і пабудуюць. А мы? У нашай абшчыне адны спрэчкі, няма ніякай любві, нават павагі да свайго бліжняга.

І ён расказаў, як сустрэўся на вуліцы са Смушко, прывітаўся з ім. Той закрычаў «Юда!» і плюнуў свайму «брату» ў твар. Жаўтко ў адказ адвесіў аплявуху.

У лідскай абшчыне цяпер няма адзінства. Яна фактычна засталася без кіраўніка. «Браты» перастаюць давяраць Смушко. Сярод баптыстаў пануе разгубленасць. Праваліліся іх спробы завербаваць новых членаў. Так адна дзяўчына, якая жыла на кватэры ў баптыстаў Сарокаў, перайшла жыць у іншае месца, бо тыя хацелі ўцягнуць яе ў секту.

Парвала з сектай Валя Смушко. Калі пры сустрэчы з Валяй я спытаў пра яе адносіны да баптыстаў, яна адказала:

— Што аб тым гаварыць... Яны цяпер нікому не патрэбны.

Што датычыць былога прасвітара Мікалая Жаўтко, то ён часта цяпер заглядвае да мяне на кватэру, шкадуе, што позна апамятаўся. Ён з цікаўнасцю чытае антырэлігійную літаратуру, якую бярэ ў гарадской бібліятэцы. Вельмі задаволены Жаўтко і тым, што гарком партыі дапамог уладкаваць яго сына ў лідскую школу-інтэрнат.

Парвала з баптыстамі жонка Вальдамара Жаўтко. Цяпер яе часта можна бачыць у кіно, на канцэртах або на лекцыі.

Не наведваюць баптысцкіх сходаў і ўсё больш адыходзяць ад рэлігіі яшчэ некаторыя былыя члены баптысцкай абшчыны.

Яны пакідаюць секту цемрашалаў, каб разам з усім савецкім народам будаваць камунізм, каб заўсёды крочыць у нагу з нашым шматгранным жыццём.

Запісаў Мікола ДЗЕЛЯНКОЎСКІ.



## ЧАЛАВЕК І ЯГО ЖЫЦЦЁВЫЯ ДАРОГІ



Літаратурнае вучнёўства маладога празаіка Вечаслава Адамчыка прайшло амаль не заўважаным. Ды вучнёўства гэтага і не было, — не было ў тым сэнсе, што Вечаслаў Адамчык з першых сваіх крокаў у літаратуры не цягнуўся за якімсьці аблюбаваным узорам.

Ужо ў першым, невялічкім зборніку апавяданняў «Свой чалавек» прарэзаўся ўласны голас пісьменніка, праступіла свая, хай яшчэ і не асабліва глыбокая, канцэпцыя жыцця. Раннія апавяданні В. Адамчыка пакідаюць уражанне першаадкрыцця нават тады, калі пісьменнік закранае так званыя адвечныя тэмы, вырашае вядомыя ўжо ў літаратуры канфлікты.

У апавяданні «Зоня» расказваецца аб каханні, атручаным у атмасферы ўласніцтва. Сялянскі хлопец Уладак, застаўшыся ў 17 год сіратой, ідзе ў парабкі да свайго заможнага аднавяскоўца Сідара Сіўтука. Неўзабаве Уладак і дачка Сіўтука Зоня пакахалі адно аднаго. Але сумеснага шчасця ім не суджана было зведаць. Бацька Зоні прыгледзеў сабе зусім іншага зяця — лысага, даўганосага Васіля, «ат сабе хлопца», нават па словах самога Сіўтука, у якога была адна мерка вартасці чалавека: «каб багаты». Васіль жа быў багаты кавалер. Ён з Сіўтуком дамагліся свайго: Зоня стала Васілёвай жонкай.

Канфлікт у апавяданні не новы. Не новыя і скаргі дзяўчыны на горкую долю і бацькаву волю. Чаму ж у такім разе апавяданне гучыць свежа, па-новаму?

В. Адамчык вывучае і адлюстроўвае жыццё, праектуючы яго, галоўным чынам, на маральна-этычныя праблемы, раскрываючы сутнасць характараў сваіх герояў пераважна праз адносіны іх да кахання.

У апавяданні «Зоня» пісьменнік глянуў на людзей і жыццё вачыма свайго сучасніка, чалавека шчырага, непасрэднага, паюнацку бескампраміснага. Ніякія пабочныя меркаванні не могуць апраўдаць у яго вачах здрады ў каханні і пасіўнасці ў той момант, калі вырашаецца пытанне аб самым дарагім.

Уладак клікаў Зоню з сабой, аднак ёй і ў галаву не прыходзіла, што шчасце залежыць не толькі ад бацькавай волі, але і ад яе самой. Прывабная спачатку, Зоня ў канцы апавядання выклікае ўжо толькі спагаду ў чытача і нянавісць — ва Уладака. Зоню, сцвярджае ў падтэксце аўтар, можна зразумець пазней, у сталейшым узросце, калі чалавек больш дабіраецца да прычын, чым мяркуе аб усім па выніках. У новай кніжцы апавяданне «Зоня» так і называецца — «Сэрца даруе потым».

Чытачу будзе над чым падумаць, калі ён яшчэ раз прачытае ўключаныя ў зборнік «Млечны шлях» * ранейшыя апавяданні пісьменніка: яны загучалі мацней і ў спалучэнні з новымі творамі выразней акрэслілі пошукі маладым празаікам сваёй тэмы, паўней выявілі яго погляды на жыццё.

Гэта адчуваецца ва ўсім. Возьмем, да прыкладу, апавяданне «Млечны шлях». У ім, як і ў творы «Сэрца даруе потым», выразна гучыць матыў страчанага кахання.

Студэнтка Валя, якая кахала свайго аднакурсніка Косцю Манцэвіча, выходзіць замуж за Грышу: той неўзабаве павінен стаць кандыдатам навук.

Замужжа не прынесла ёй шчасця. Сустрэўшыся праз два гады з Валяй, Косця не заўважыў у ёй нічога з таго, што выдае шчаслівую маладую жанчыну. «Зблізку Валін твар здаўся нейкі больш чужы. Косця заўважыў на ім сталасць, абыякавасць. У карых яе вачах, здаецца, ужо зусім датлела ўсё тое ранейшае, вясёлае, маладое, і яны глядзелі на Косцю неяк разважліва і бяскрыўдна. «Як сышла з яе ўся тая прыгажосць і дзявочасць», — з нейкай жаласцю падумаў Косця».

Валя жыве ў другі час, у іншых, непараўнальна лепшых умовах, чым Зоня, і яе асабістая віна непамерна большая.

За роспачным ускрыкам Зоні «Не чапай мяне! Я хаджу дзіцем...», за яе плачам мы адчуваем і горыч страты каханага, і ўсведамленне сваёй памылкі і віны. Валя ж тым і выклікае непрыязнасць, што яна нават не адчувае жахлівасці свайго становішча, змірылася з ім. Жыць памяшчанску абыякава, без ніякае мэты, увесь час чуць «прыглушаны, нібы з пустое бочкі» голас індыкаватага, самаўпэўненага мужа і не ўзбунтавацца — гэта страшна.

У асобе Зоні пісьменнік асудзіў жыццёвую пасіўнасць, развянчаўшы Валю, ён вынес прыгавор духоўнай абыякавасці, пустаце.

У памяці і ў сэрцы Косці Валя, не гэтая, «толькі падобная на тую, колішнюю Валю», а тая, якую ён «кахаў і кахае яшчэ», засталася як магутны, уладны покліч жыцця, кахання. «Ён сустрэне яе, абавязкова сустрэне, мілую, добрую, прыгожую Валю! Яна ходзіць недзе тут».

Гэтая ўпэўненасць героя ў сваёй будучыні стварае тую атмасферу жыццерадаснасці, жыццесцвярджальнасці, якой не ставала апавяданню «Зоня», дзе пераважаюць туга па страчаным і нявыказаная думка аб тым, што шчасце засталося ў мінулым.

Творчасць Вячаслава Адамчыка нясе на сабе адзнакі агульнага ўзроўню сучаснай беларускай прозы. Тут маецца на ўвазе павышаная цікавасць пісьменніка да простага чалавека, узятага ў яго штодзённым жыцці, майстэрства псіхалагічнага аналізу і моўная культура творчасці.

Адштурхоўваючыся ад думкі аб разнастайнасці жыццёвых дарог людзей, Адамчык асабліва пільна прыглядаецца да тых, чые дарогі ў жыцці не лёгкія і не такія ўжо і прамыя, і ў першую чаргу раскрывае не самі якасці герояў, якія імі ўжо набыты, а працэс станаўлення гэтых якасцей.

Станоўчы герой пісьменніка — чалавек малапрыкметны, ён нічога асаблівага не здзяйсняе, не бярэ крутых пераваляў, але ён увесь час штосьці адкрывае ў сабе і ў людзях, прыходзіць да нечага такога, што кладзе вельмі выразны рубеж у яго жыцці і выяўляе ў ім новага чалавека.

Грузчык Сяргей Каштан, герой апавядання «Ліповы цвет», ажаніўся з удавою, старэйшай за яго на тры гады. «У першыя дні пасля жаніцьбы Сяргей бачыў перад сабою нейкі дзіўны свет. Прыйшло ў гэты свет невядома адкуль нешта чароўнае, вясёлае і змяніла, перайначыла яго, падхарошыла людзей. І нават неба, што было заўсёды аднолькава прыгожае і высокае, пасінела і паднялося вышэй».

Але праз некаторы час гэтае шчасце пачало «спадаць неяк імкліва і крута». Каб не дачушка, кінуў бы Сяргей жонку.

А пачалося ўсё з выпадкова пачутай гутаркі. Вартаўнік Сілівон Гуз пераканана гаварыў загадчыку базы: «Што ні кажы, а на тое яна і баба: раз пакаштавала з адным, то з другім не ўжыве. Хіба толькі дзеля прыліку, калі дзіця мецьме».

«Сяргею здалося, што Гуз гаварыў знарок яму. І Сяргею зрабілася неяк брыдка, сорамна, і ён адчуў вінаватасць невядома перад кім, што жонка яго — колішняя ўдава, што яна была замужам, хоць ён і не ведаў за кім, бо неяк не смеў, палохаўся распытваць пра гэта. І яго ахапіла злосць, працяў боль, калі ён падумаў, што яна пэўна гэтак хораша, гэтак ласкава абыходзілася з некім другім, гэтак лагодна, мякка, нячутна тулілася да нейчага пляча і гэтак далікатна цалавала нечыя вочы...»

А Гуз працягваў бубніць: «Што ні кажы, на тое ж яна і баба. Яна жыве з адным, а думае пра другога».

І Сяргей «кінуўся на двор і пабег, не разбіраючы лужын, і толькі перад самым складам пачуў, што яго моцна хвошча буйны дождж і недзе аж за паясніцу бяжыць халодная вада — і ў яго крыху адлегла на сэрцы».

Вельмі пераканаўча, праз дакладныя псіхалагічныя дэталі перадае пісьменнік тую атмасферу, у якой сумеснае жыццё Сяргея і Рагіны станавілася немагчымым.

Сяргею пачало здавацца, што «жончыны валасы пахлі нечым чужым, нейкім удушлівым пахам хвойнага мыла», а голас стаў чужы, абыякавы і злосны. Ён адчуваў, што ўзяў у галаву штосьці ліхое, але не ведаў, як даць сабе рады, хацеў сказаць Рагіне нешта «самае лепшае, што яшчэ ніколі не гаварыў», і не мог, чакаў лагодных, ціхіх жончыных слоў, якія б усё змянілі, і натыкаўся на непераадольнае: разгадаўшы нядобрае ў думках мужа, Рагіна зацята маўчала.

Можа так і ішло б жыццё да веку, калі б Сяргея аднойчы не ўгаварыла зайсці да сябе загадчыца гаспадарчага магазіна Тося. Яна ўжо даўно не зводзіла з яго сваіх «сініх палінялых» вачэй.

П'яны Сяргей скардзіўся на сваё жыццё, плакаў, а яго «казытліва гладзіла па галаве цяжкая Тосіна рука, і ён лавіў гэтую руку і цалаваў». Калі назаўтра раніцай Сяргей прачнуўся, «гэтая цяжкая рука ляжала на шыі». Ён «аж прыгнуўся ад сораму, ад гідлівасці, ад усяго, што прынесла гэтая дзікая, праклятая ноч» і пабег дадому. Рагіна не спала ўсю ноч, яна чакала Сяргея...

Сяргея прывяло дамоў не проста пачуццё віны перад Рагінай, а нешта большае. З яго душы зваліўся ранейшы цяжар, ён зразумеў, што прыстасавацца да кахання, падрабіцца пад яго, прытварыцца закаханым нельга, што Рагіна кахае яго, а не таго, першага, што шчасце трэба берагчы і даражыць ім, што яго шчасце — гэта Рагіна.

Ды і ці мала яшчэ што зразумеў цяпер Сяргей! У ім умацавалася такое маральнае пераканане, якое засцеражэ яго ад памылак у будучым, праўдзе і праз больш суровыя выпрабаванні.

Нешта вельмі значнае ўладна ўваходзіць і ў дзіцячую душу Валічка («Срэбра на павуціне»), і ў лёс бабыля Язэпа («Свой чалавек»).

Валічак не любіў свайго айчыма Паўла за яго нягеглы, сіплы голас, за доўгія з рабаціннем ру-

* Вячаслаў Адамчык. «Млечны шлях». Апавяданні. Дзяржаўнае выдавецтва Беларусі. Мінск, 1960.

кі, а болей за тое, што Павел роўна праз год пасля смерці Валічкавага бацькі ўвайшоў у іх дом, ненавідзеў Паўлаву аднавокую кабылу, якую яму трэба было штодня даглядаць.

Валічак крыўдаваў і нават злаваў на маму за айчыма, плакаў ад роспачы, калі нехта са старэйшых пастухоў сказаў, што яму прыйдзецца, акрамя сляпой кабылы, даглядаць і рудых Паўлавых дзяцей.

Валічак, які «ведаў тое, чаго не павінны, але што ведаюць трынаццацігадовыя дзеці», убачыў, што мама сапраўды хадзіла дзіцем, і яму стала яшчэ горш.

Дзіця памерла пры нараджэнні. У Валічка быццам адлягло ад сэрца, калі ён убачыў, што айчым са скрынкай на плячы пайшоў на могілкі.

Змучаная мама стала «нейкай інакшай, дзіўна прыгожай». Яна нямоцна плакала і дрыготкім голасам усё гаварыла Валічку, што ў яго быў брацік.

І хай Валічак зразумеў яшчэ не ўсё, але, адчуўшы боль і пакуты маці, ён утапіў у пякучых слязах усю тую крыўду на яе, якая доўга жыла ў яго сэрцы. «Мамачка, родная, любая, даруй. Я шкадую браціка, я люблю яго і буду любіць, колькі жыцьму», — плакаў ён ноччу ў здзічэлым садзе.

Стары Язэп з апавядання «Свой чалавек» пасля гібелі абодвух сыноў і смерці жонкі цураўся людзей, не ўступаў у калгас. Жыццё паступова пераканала яго, што сваім чалавекам для яго з'яўляецца не сусед Марцін, які часта забягаў перакінуцца словам, пачаставаць жоўтым бесарабам, а калгасны брыгадзір Цімох. Марцін украў у Язэпа новы бурнос, з якога стары збіраўся шыць буркі, краў калгаснае жыта, Цімох жа цягнуў Язэпа да людзей, да працы ў калгасе. Злавіўшы каля жытніх бабак Марціна, Язэп заспяшаўся ў вёску: хай ведаюць усе, што «Язэп за людзей стаіць, ён не гэтакі, не...» Гэты зрух у душы і ў свядомасці Язэпа яшчэ амаль не асэнсаваны ім, хоць і адчуваецца ўсёй яго істотай. «Язэп слухаў, як хрумсцела ў моцных конскіх зубах сакаўная трава, і да яго зноў прыйшла весялосць, і нейкая таемная радасць працяла ўсю яго істоту».

Выяўленне таго амаль няўлоўнага, што нараджаецца ў чалавеку «недзе ў глыбіні, на граніцы пачуцця і думкі», прымушае сцвярджаць, што адным з літаратурных настаўнікаў Вечаслава Адамчыка з'яўляецца Кузьма Чорны.

У лепшых апавяданнях маладога празаіка псіхалагічны малюнак вельмі дакладны. Адамчык умее бачыць і тое, што чалавек хавае за словам. Гэта праяўляецца нават пры абмалёўцы другарадных персанажаў. Прыгадаем сцэну, калі Тося вяла да сябе Сяргея. «Жыву адна, адна і старэю», — прамовіла яна з сенцаў «молада і звонка».

Гэтае «молада і звонка» дае нам адчуць, што Тося думае зусім не пра адзіноту і старасць, дазваляе разгледзець яе затоеную радасць, што дамаглася свайго, заўважыць схаваную ў ёй гарэзлівасць. І хто ведае, як бы склаўся лёс гэтай жанчыны, калі б яна ў свой час сустрэла добрага чалавека.

Шматзначнасць псіхалагічнай дэталі — адна з моцных якасцей манеры В. Адамчыка. І, здаецца, яму не трэба разбураць гэтую шматзначнасць непасрэдным лагічным вывадам, ацэнкай.

Услухаемся ў размову паміж Зоняй і яе бацькам.

«— Чаму ж без агню сядзіш?

— Яшчэ відно, нашто лішне газу смаліць, — агрызнуўся з печы Сідар.

«Скупы які, — падумаў я сам сабе, — з ім не ўжывеш».

Вывад, ацэнка тут не толькі лішнія, яны ў значнай меры глушаць работу думкі і пачуцця чытача. Ацэнка Уладакам Сідаравай скупасці зацямняе ўсе іншыя сэнсавыя адценні, якія ёсць у Сідаравых словах. Сідар жа не проста адказаў, а «агрызнуўся». А гэтае слова пралівае святло і на грубасць, звераватасць яго натуры, і на адносіны паміж ім і дачкой.

Пранікаючы ў псіхалогію ча-



лавека, малады пісьменнік улічвае абумоўленасць яго характару і светапогляду не толькі жыццёвымі ўмовамі і жыццёвым вопытам, але і тым, што ідзе з глыбіні часу.

Алесь Макарчык («На крыжавых дарогах») у панскай Польшчы быў батраком, грузчыкам, некалькі год прасядзеў у турме за тое, што ў свята Першамая вывесіў чырвоны сцяг на станцыі. Пасля вызвалення Заходняй Беларусі ён працаваў фінагентам у сельсавеце, а ў час Айчыннай вайны быў «спраўным партызанам».

Здавалася б, каму ж, як не яму, трэба першаму ісці ў калгас. Але ў душы гэтага чалавека жыве яшчэ тое, што звязвае яго нябачнымі ніцямі з жыццём, якое даўно адышло ў нябыт. Макарчык, калі ў яго адрэзалі зямлю, страляе праз акно ў сябра свайго юнацтва, таварыша-партызана, цяперашняга старшыню калгаса Падліпскага.

Макарчык выкрываецца не толькі ў сацыяльным, але і ў маральна-этычным плане, бо робіць не так, як людзі.

Гаворачы аб культуры сюжэта ў Адамчыка, мы маем на ўвазе не імклівасць развіцця дзеяння, не вострыя сітуацыі, не туга закручаныя вузлы, — гэтага якраз і не знойдзеш у яго апавяданнях. Тут гутарка ідзе аб нечым большым, аб той натуральнасці праяўлення чалавечага характару, без якой няма сапраўднага мастацтва.

Парушаючы іншы раз гэтую натуральнасць, пісьменнік траціць вельмі многа. Дапусціўшы ў апавяданні «Млечны шлях» выключэнне Манцэвіча з інстытута за крытыку ў адрас намесніка дэкана і «двойку», В. Адамчык тым самым паставіў героя ў некалькі штучныя абставіны перад штучнымі цяжкасцямі і гэтым збядніў твор.

Сюжэтна непрадуманым да канца з'яўляецца і апавяданне «За перагародкай». Герой яго Андрэй Сідорчык пастаўлен у становішча простага назіральніка жыцця. Пазбаўленае колькі-небудзь значнага эмацыянальнага зараду, гэта апавяданне выклікае не роздум, а толькі думку, што ў жыцці бывае і так.

Сідорчык у камандзіроўцы пазнаёміўся з прывабнай маладой жанчынай, якая здалася зычлівай, сардэчнай, а на самай справе аказалася крыху легкадумнай, крыху нахабнай, крыху распуснай. Добра напісанае, багатае яркімі дэталямі, апавяданне не стала ўдачай аўтара. Сідорчык не адкрывае нічога такога, што б узбагаціла яго, было павучальным і для іншых.

Мова зборніка наводзіць на думку аб тым, што малады пісьменнік не без поспеху ўслухоўваецца ў гучанне роднага слова ў неўміручых творах Якуба Коласа, вучыцца ў яго адчуваць багацце мовы народа, яе сінанімікі. Спашлемся на адзін толькі прыклад.

«Сышоўшы з дарогі, мы спусціліся ў сырую лагчыну. Сцежка, павіляўшы па жыце, шмыганула ў прылесак маладога грабу і арэшніку, прашылася праз гушчар і выбегла на выезджаную лясную дарогу.

Лес быў вясёлы. Трапляліся абамшэлыя дужыя дубы, гонкія хвойкі, месцы ніжэйшыя густа апанаваў ельнік, на цёплых прагалках буяў маліннік, угару цягнуліся рэдкія асіны і глушылася дробналессе».

Такога не вымучыш і не «народзіш» раптам, не створыш, не маючы перад сабой вялікіх узораў і не адчуваючы іх хараства.

Ужо зазначалася, што калі чытаеш апавяданні В. Адамчыка, думка міжволі звяртаецца да творчасці нашых класікаў. І не таму, што раптам наскочыш на чыста знешняе падабенства, падазронае супадзенне абставін. Механічнага пераймання тэм, матываў, вобразаў Я. Коласа або К. Чорнага ў маладога празаіка мы нідзе не сустрэнем. Але яго апавяданні яшчэ раз пераконваюць, наколькі плённым для кожнага маладога пісьменніка з'яўляецца адчуванне багацця здабыткаў усёй літаратуры, якімі шчодра адарылі яе майстры слова, і наколькі небяспечна хоць

крыху адысціся ад пярэдняга краю жыцця, дзе заўсёды гучаў іх магутны голас.

Тут маецца на ўвазе занядбанне ў некаторых творах апошніх год разнастайнасці грамадскіх інтарэсаў людзей, адгароджанасць гэтых твораў ад сферы высокага інтэлекту, ад роздуму над жыццём, над яго заканамернасцямі.

У некаторай ступені гэты недахоп уласцівы і зборніку Вечаслава Адамчыка. Яго героям часам нестае шырокіх сувязей з жыццём. Жыццёвыя сцежкі, якімі яны ходзяць, не заўсёды прыводзяць іх туды, дзе кіпяць грамадзянскія страсці, дзе адбываецца вялікая бітва ў дарозе, па якой чалавек ідзе ў будучыню.

Пашырэнне погляду на жыццё і на месца ў ім чалавека, асэнсаванне грамадскага значэння жыццёвых з'яў, раскрыццё шырокіх грамадскіх сувязей чалавека — такія нялёгкія задачы стаяць перад маладым пісьменнікам. Але таленту Вечаслава Адамчыка яны пад сілу.

**Сяргей ГУСАК.**

## СКАРБЫ НАРОДНЫЯ




У беларускай лінгвістычнай літаратуры шырока і поўна апісаны фанетычныя асаблівасці жывой народнай мовы, даволі глыбока распрацаваны пытанні марфалагічнага складу і граматычнага ладу, сабраны і падрыхтаваны да друку багаты і разнастайны матэрыял па сінтаксісу беларускіх гаворак. І, як гэта ні дзіўна, самы багаты і цікавы раздзел — лексіка беларускіх гаворак — амаль зусім не знайшоў пакуль адлюстравання ў нашай мовазнаўчай навуцы.

У апошні час прыймаюцца захады, каб ліквідаваць гэты недахоп у вывучэнні жывой народнай мовы. Вялікую работу ў гэтым напрамку вядзе Інстытут мовазнаўства імя Якуба Коласа Акадэміі навук БССР, выкладчыкі і студэнты філалагічных факультэтаў Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна і педагагічных інстытутаў рэспублікі. Аднак сабрана пакуль вельмі нязначная частка народна-дыялектнай лексікі, а яшчэ менш апублікавана.

Нядаўна ў выдавецтве Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна выйшла кніжка, якая носіць назву «Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы» *. У стварэнні гэтай працы прынялі ўдзел студэнты, аспіранты і навуковыя супрацоўнікі інстытута.

У кнізе знайшлі сваё адлюстраванне асаблівасці народна-дыялектнай лексікі розных раёнаў Беларусі: Быхаўскага, Глускага, Бялыніцкага — Магілёўскай вобласці, Парыцкага — Гомельскай вобласці, Карэліцкага — Гродзенскай вобласці, Ляхавіцкага — Брэсцкай вобласці, Докшыцкага — Віцебскай вобласці, Барысаўскага і Маладзечанскага раёнаў Мінскай вобласці.

Усяго ў зборніку дванаццаць падборак дыялектызмаў. У кожнай падборцы словы размяшчаюцца ў алфавітным парадку. Загалоўнае слова даецца ў фанетычным запісу. Да слова падаюцца граматычныя паметкі, даецца яго тлумачэнне і (праўда, не заўсёды) выраз, у якім ужыта дадзенае слова. Іншы раз прыводзяцца паралелі з твораў мастацкай літаратуры, а таксама прыказкі, прымаўкі і фразеалагічныя спалучэнні.

Сваёй змястоўнасцю, паўнатой і ўмелай падачай матэрыялу вылучаецца падборка навуковага супрацоўніка інстытута М. Яўневіча. Тлумачэнне кожнага слова ў яго яснае і вычарпальнае, шырока раскрываецца мнагазначнасць слова. Возьмем, напрыклад, слова «адсадзіць». Яно ўжываецца ў многіх значэннях: 1. Пасадзіць асобна ад іншых (калі гаворка ідзе пра чалавека); 2. Аддзяліўшы ад групы, пасадзіць у другое месца (аб расліне); 3. Аддзяліць (ад маці), змясціць у іншае памяшканне (аб маладых жывёлах); 4. Пасадзіць другі раз, калі расліна загінула (адсадзіць гуркі); 5. У пераносным значэнні (адсадзіць лёгкія).

Да многіх слоў М. Яўневіч прыводзіць паралелі з твораў мастацкай літаратуры ці з навуковых даследаванняў.

Руплівы і дбайны збіральнік моўных скарбаў беларускага народа Ф. Янкоўскі парадаваў нас новымі, цікавымі запісамі народных прыказак, прымавак і фразеалагічных спалучэнняў. Вось некаторыя з іх: «Часам і кляча далёка заскача», «Кепскія песні лепш за добрыя слёзы», «І на здаровай яблыні гнілы яблык знойдзецца», «Глядзіць, як тая гусь на бліскавіцу», «Як атопкам па цымбалах», «Не вучы рыбу плаваць».

У другой падборцы Ф. Янкоўскага змешчаны традыцыйныя беларускія мужчынскія і жаночыя імёны з мэтай ілюстрацыі фанетычных і граматычных асаблівасцей жывой народнай мовы.

Добра вытлумачаны разнастайны па свайму складу моўны матэрыял у падборках С. Прача, М. Гуліцкага, В. Бекіша і іншых.

Выпускніком Мінскага педінстытута В. Рабкевічам занатаваны народныя прыказкі і прымаўкі. Сярод іх:

«Ад яблыні — яблыка, ад елкі — шышка», «Куды вароне ні ляцець, а ўсё роўна падаль кляваць», «У чужым краі толькі вецер зжаліцца» і інш.

Матэрыялы, змешчаныя ў зборніку, красамоўна пацвярджаюць, якая лексічна багатая жывая мова беларускага народа.

Пра нязграбнага, някемлівага, няўдалага, нездатнага чалавека ў народзе гавораць: «кашлапень», «капошка» (вёска Кліны Бялыніцкага р-на Магілёўскай вобл.), «вярэня», «разінька» (в. Пустаселле Докшыцкага р-на Віцебскай вобл.), «цілялень» (в. Абідавічы Быхаўскага р-на Магілёўскай вобл.).

Нават у адной і той жа гаворцы існуе некалькі слоў з аднолькавым значэннем. Напрыклад, у в. Кліны Бялыніцкага раёна у значэнні «дакучаць, шумець» ужываюцца словы «зяліць» і «тлуміць». У в. Шклянцы Докшыцкага раёна ў значэнні «пайсці ад сям'і» ўжываюцца словы-сінонімы «уна́начкі» і «упрочкі».

Вось такое багацце народнай лексікі, багацце яе сінанімікі і аманіміі зноў і зноў напамінае нам пра выказванне народнага песняра Беларусі Якуба Коласа, які вельмі слушна заўважаў, што «перад увядзеннем кожнага новага слова трэба добра абшарыць кішэні свае памяці, перагледзець слоўнікавыя і фальклорныя крыніцы, прыслухацца да жывой гаворкі — а можа і знойдзецца якраз тое, што неабходна, што ўжо ўжывалася і чамусьці забыта (ці ужываецца і невядома нам)».

А ў нас часам бывае так, што ўжываюць якое-небудзь запазычанае слова, у той час як у народнай мове шырока бытуе сваё. Напрыклад, на шыльдах магазінаў і ў газетных аб'явах часта ўжываюць слова «фрукты», у той час як у народзе ёсць сваё цудоўнае слова — «садавіна». Замест таго, каб сказаць «сцірка», ужываюць «рызінка».

У народна-дыялектнай мове на ўсёй тэрыторыі Беларусі шырока бытуюць такія прыслоўі, як: «кудою» (-ой, -эю), «сюдою» (-ой, -эю), «тудою» (-ой, -эю), якія адрозніваюцца па свайму значэнню ад літаратурных «куды», «туды», «сюды». «Ісці сюдою, тудою» — гэта значыць, ісці пэўным шляхам, у пэўным кірунку. Інакш кажучы,

* Матэрыялы для слоўніка народна-дыялектнай мовы. Пад рэдакцыяй Ф. Янкоўскага. Выдавецтва Белдзяржуніверсітэта імя У. І. Леніна. Мінск, 1960.

гэта прыслоўі са значэннем пэўнага, канкрэтнага напрамку руху. А можа варта не абмінаць і гэтыя словы пры ўкладанні новага слоўніка беларускай літаратурнай мовы.

Чытаючы «Матэрыялы для слоўніка» дзіву даешся, колькі харошых слоў, выразаў так і просяцца на старонкі кніг, газет, часопісаў. У падборцы Ф. Янкоўскага ёсць цудоўны фразеалагізм «дыхнуць не даць», які шырока ўжываецца па ўсёй Беларусі. Так кажуць у народзе, калі каму-небудзь не даюць спакою, увесь час турбуюць, не даюць агледзецца, апамятацца.

А колькі трапнасці і вобразнасці ў слове «лысіць», якое ўжываецца ў значэнні «скрэбсці бульбу толькі з большага». Не менш трапнымі і сакавітымі з'яўляюцца і такія словы, як: «мармыля» — той, хто незразумела гаворыць; «вырабіцца» — выбрацца, вызваліцца; «галаруч» — з голымі рукамі, без рукавіц; «свойскі» — у значэнні хатні, прыручаны.

Невычарпальнае багацце сінанімікі і ў народна-дыялектнай мове. Так, напрыклад, у гаворках Глускага раёна на жанчыну, якая любіць хадзіць па хатах і разносіць розныя чуткі, могуць сказаць і «пабягуха» і «пахатуха»; у той жа гаворцы ў значэнні «сцебануць», «перацягнуць» могуць сказаць «ушпуліць» і «хвоснуць».

У падборцы навуковага супрацоўніка М. Яўневіча прыведзен цэлы шэраг сінонімаў ад слова «журавель» (студні). У Бялыніцкім раёне яго называюць «шчагла»; у Слуцкім, Капыльскім, Старобінскім — «пругло»; у Капыльскім, Клецкім — «коварат»; у Парыцкім, Глускім, Бярэзінскім — «страла»; у Карэліцкім — «журавель», у Радашковіцкім — «журоў»; у Валожынскім — «ваг»; у Горацкім, Уздзенскім — «вага»; у Докшыцкім, Глыбоцкім, Мядзельскім — «асвер»; у Барысаўскім — «перасвір»; у Юрацішскім — «свіршня».

У слоўніку прыводзіцца багата выпадкаў аманіміі слова. Так, слова «капані» існуе як форма загаднага ладу дзеяслова («капані нагой») і як назоўнік: «капані» — сані, у якіх палазы не гнутыя, а зробленыя з дрэва, выкапанага з коранем; слова «юшка» можа ўжывацца як назва стравы, прыгатаванай з рыбы, і як назва засаўкі, накрыўкі ў коміне.

Народная мова тоіць у сабе вялікае багацце самых вобразных, самых дакладных, самых дасціпных і прыгожых па свайму гучанню слоў. Яна — невычэрпная крыніца для ўзбагачэння літаратурнай мовы. Вось чаму хацелася б спадзявацца, што шэрагі збіральнікаў народнай лексікі і фразеалогіі будуць расці і памнажацца.

**Мікола ТОНДЗЕЛЬ.**

## БРАТНЯЯ ДРУЖБА ЛІТАРАТУР




На працягу шматвекавой гісторыі свайго развіцця беларуская літаратура была цесна звязана з братнімі славянскімі літаратурамі: рускай, украінскай, польскай і другімі. Гэтая цесная ўзаемасувязь, якая наглядаецца з даўніх часоў, асабліва яскрава праяўляецца ў нашы дні, калі лепшыя творы адной з літаратур становяцца здабыткам усіх братніх літаратур.

Прасачыць узаемасувязі літаратур братніх народаў — пачэсная задача даследчыкаў. У апошні час беларускае літаратуразнаўства ў гэтым напрамку мае значныя поспехі. Выйшлі ў свет кнігі Паўла Ахрыменкі «Фальклорна-літаратурныя сувязі ўкраінскага і беларускага народаў», Алега Лойкі «Адам Міцкевіч і беларуская літаратура», у якіх асвятляюцца некаторыя пытанні ўзаемасувязей беларускай і ўкраінскай, беларускай і польскай літаратур. А нядаўна выйшла ў свет кніга Сцяпана Александровіча «Старонкі братняй дружбы» *.

Кніга адкрываецца артыкулам «Янка Купала і польская літаратура», у якім расказваецца аб жыватворчым уплыве літаратуры польскага народа на творчасць беларускага песняра. Яшчэ ў маленстве Янка Купала пазнаёміўся з творамі польскіх пісьменнікаў — Выспянскага, Славацкага, Міцкевіча, Кандратовіча, Канапніцкай, Ажэшкі, Крашэўскага і іншых. Пад уплывам польскай літаратуры ён пачынае ў 1902—1903 гг. пісаць вершы на польскай мове. «Пісаў спачатку на польскай мове, але ў хуткім часе пачаў пісаць і на беларускай мове», — адзначаў пазней паэт у сваёй аўтабіяграфіі. У артыкуле даецца аналіз вершаў Купалы, напісаных на польскай мове і змешчаных у літаратурна-грамадскім часопісе «Зярно», які выдаваўся ў Варшаве. Даследчык справядліва зазначае, што ўжо ў гэтых вершах выразна гучаць сацыяльныя матывы, паказваецца цяжкая доля селяніна.

Водгукі аб паэзіі Янкі Купалы з'явіліся ў польскім друку вельмі рана, пачынаючы з 1908 года, і былі звязаны з выхадам зборніка «Жалейка». У артыкулах Ежы Янкоўскага «Песняры маладой Беларусі», Рубера (Стэфана Руднянскага) — «З сялянскіх грудзей. Аб сучаснай беларускай паэзіі», у літаратурна-крытычным нарысе Вацлава-Рамана Вегняровіча «Маладая Беларусь», а пазней у артыкулах Ю. Нагорнага, К. Яворскага і ў многіх іншых, як зазначае аўтар кнігі, у асноўным правільна ацэньваецца творчасць Янкі Купалы. Вось, напрыклад, што гаворыць вядомы перакладчык твораў беларускага песняра на польскую мову К. Яворскі: «І перад ім беларус меў паэтаў (найбольш значныя ў XIX ст. — В. Марцінкевіч, Ф. Багушэвіч і на пераломе XIX і XX ст. — Я. Лучына), але ніхто з іх не ахапіў сваёй творчасцю ўсяго багацця прыроды Беларусі і жыцця яе людзей, ніхто не разумеў ролі, якую выконваў у літаратуры, не меў паэтычнага таленту ў той меры, як Купала... Ніхто перад ім у беларускай паэзіі не быў у такой ступені народным паэтам — у поўным значэнні гэтага слова, ці калі ствараў прыгожыя айчынныя краявіды, ці калі адлюстроўваў жыццё беларускага селяніна, яго цярпенне і надзеі, побыт і вераванні, песні — гісторыю народа. У яго творах між густа раскіданых слёз — бо цяжкае было жыццё народа — заўсёды гучыць аптымізм, вера ў перамогу справядлівасці».

Не абмінае Сцяпан Александровіч і тыя артыкулы і рэцэнзіі пра творы Янкі Купалы, аўтары якіх усякім чынам стараліся прынізіць, нават не прызнаць не толькі творчасць беларускага песняра, але і літаратуру беларускага народа. Так, напрыклад, буржуазна-нацыяналістычны крытык Зянон Пяткевіч у артыкуле «Янка Купала, Адвечная песня» не толькі не прызнае выдатнай драматычнай паэмы Я. Купалы, якую Максім Горкі высока цаніў і раіў «перакласці яе на вялікарускую мову», але і робіць такія тэндэнцыйныя «сцверджанні», накшталт: «Беларускі народ ніколі не меў і не мае сваёй літаратуры. Створана яна штучным чынам, у значнай ступені не адлюстроўвае ні душы народа, ні яго звычаяў, традыцый, вераванняў, ні нават складу яго мовы».

Сцяпан Александровіч спыняецца на перакладах Янкам Купалам твораў польскіх пісьменнікаў на беларускую мову і перакладах твораў беларускага песняра на польскую мову. Янка Купала на працягу ўсяго свайго творчага шляху знаёміць беларускага чытача з літаратурай і культурай поль-

* Сцяпан Александровіч. Старонкі братняй дружбы. Дзяржаўнае выдавецтва БССР. Мінск, 1960.

скага народа. Ім былі перакладзены некаторыя творы Адама Міцкевіча, Марыі Канапніцкай, Уладзіслава Сыракомлі, Юзафа Крашэўскага, Уладзіслава Бранеўскага і іншых. Вельмі добра, што даследчык не толькі пералічвае творы польскіх пісьменнікаў, перакладзеныя Янкам Купалам, але на шматлікіх прыкладах паказвае яго перакладчыцкае майстэрства, якое «заключаецца ў тым, што перакладчык умее адным позіркам ахапіць асноўнае, перадаць мастацкі вобраз так, што ў ім захоўваюцца не толькі асноўныя адзнакі арыгінала, але і тая ж паэтычная сіла ўздзеяння».

Перакладчыцкае майстэрства Янкі Купалы разглядаецца і ў артыкуле «Янка Купала — перакладчык твораў Тараса Шаўчэнкі». Прасачыўшы сувязь паэзіі беларускага песняра з паэзіяй вялікага ўкраінскага Кабзара, Сцяпан Александровіч паказвае, як паступова, год ад году, удасканальвалася перакладчыцкае майстэрства Янкі Купалы. Перакладаючы творы Т. Шаўчэнкі, паэт захоўвае не толькі сацыяльную аснову і рэвалюцыйны пафас яго паэзіі, але і даносіць да чытача прастату і наватарства стылю, рытмічнае багацце неўміручых шаўчэнкаўскіх твораў.

Праблеме перакладаў твораў беларускіх пісьменнікаў на рускую мову прысвечаны артыкулы «Арыгінал і пераклад» і «Беларуская проза на рускай мове». У гэтых артыкулах даследчык правільна ставіць пытанне аб тым, што для перакладчыка неабходна глыбока ведаць мову арыгінала, яе лексічнае багацце, культуру і нацыянальныя звычаі таго народа, з мовы якога ён бярэцца перакладаць мастацкі твор.

З цікавасцю чытаюцца артыкулы, у якіх расказваецца аб ацэнцы польскай крытыкай творчасці В. Дуніна-Марцінкевіча і аб жыцці і творчай дзейнасці беларускага рэвалюцыйнага дзеяча XIX стагоддзя і аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Францішка Савіча.

Выкарыстаўшы архіўныя матэрыялы, даследчык у артыкуле «Новае пра Ф. Багушэвіча» прыводзіць цікавыя факты аб месцы нараджэння паэта, аб пачатку яго літаратурнай дзейнасці, аб удзеле Ф. Багушэвіча ў паўстанні 1863 года, аб дружбе яго з польскай пісьменніцай Э. Ажэшка і г. д. Даследчык спыняецца і на публіцыстыцы паэта, у прыватнасці на яго карэспандэнцыях, дасланых з 1887 года па 1900 год у часопіс «Край» пад псеўданімам «Demos», у якіх расказваецца аб цяжкім становішчы сялянства, яго галечы і паднявольным жыцці. У артыкуле разглядаецца і малавядомае сатырычнае апавяданне Ф. Багушэвіча «Тралялёначка», якое было ананімна выдадзена ў 1892 годзе Кракаўскім выдавецтвам «У. Л. Анчыц і Суполка».

У артыкулах Сцяпана Александровіча, сабраных у кнізе «Старонкі братняй дружбы», прыводзіцца шмат новага фактычнага матэрыялу, які дапаможа чытачу глыбей пазнаёміцца з жыццём і творчай дзейнасцю некаторых беларускіх пісьменнікаў.

**Мікола БАЗАРЭВІЧ.**

# Агрэхі стылю

**«Чытаеш такую фразу, усё роўна як мякіну жуеш,— ніяк праглынуць не можаш».**

**К. КРАПІВА.**

## З НЕНАДРУКАВАНАГА

«Тры мінуты аддзялялі іх адно ад аднаго».

«Эма як стаяла ў дзвярах, так уся і пасвятлела».

«Канчаткова паверыў у сілу свінафермы і дзядзька Адась».

«Палілі буйныя касякі дажджу».

«Елена Андрэеўна расхаджвала шырокім салдацкім крокам вакол стала і з асалодай энергічна перамывала Івану Савічу костачкі».

«Спяваючы, яна ўключыла радыё: сваёй весялосці нехапала».

«Сэрца Валі поўнілася тым пачуццём, якое было ў Сяргея, калі ён стаяў на пероне».

«На вуліцы ўзвышаліся насыпы свежапакамечанай зямлі».

«Матчыну цеплыню і ласку яна перадавала пляменніку без лішніх слоў і мітусні».

«У паветры звінелі нейкія дробныя казюлькі. Над дваром прагуў майскі жук, і, дрэнна зруляваўшы, стукнуўся аб верхнюю перакладзіну варот».

«Пятрусь набраў поўныя грудзі паветра і выдыхнуў».

«Я не толькі не павесіў Зіну на першай асіне, а яна нават вырасла ў маіх вачах».

«Косцік пакляўся пакончыць з Эмай».

«Барада ў старога прыкметна адрасла, але ён выглядаў стомлена. На сэрцы старога звіло гняздо гора».

«Непадалёку шумеў невялікі натоўпчык».

«Андрэй Піліпавіч адбіваўся па тэлефону».

«Сорам тачыў сумленне, забіраючыся ў самую глыбіню».

«В наше время человек стал чувствительным, как часовой механизм, его нельзя толкать из стороны в сторону».

«В семье все семейные неполадки и ссоры возникают в степени алкогольного опьянения мужа и траты денег на водку... Пора этим мужчинам понять, что природа создала человека, но не дала ему запасных частей, следовательно надо беречь себя, беречь свое здоровье для светлого будущего».

**(З рукапісаў, дасланых у рэдакцыю).**

*З блакнота падарожніка*



Пастухі.

**ZaH**

**MIROSLAV ZIKMUND A JIŘÍ HANZELKA**

**Іржы ГАНЗЕЛКА, Міраслаў ЗІКМУНД**

# ПА ДАРОГАХ СВЕТУ

### Гэта будзе ў 2000 годзе

Друзаў налічваецца каля чвэрці мільёна. Прыблізна 150 000 жыве ў Сірыі, пераважна ў гарах Джэбель эль-Друз, каля 100 000 — у Ліване, астатнія — у Ізраілі.

У 1925 годзе каля 15 000 друзаў перасялілася з Сірыі ў Ліван.

Гл. №№ 5, 6, 7, 11, 12—1960 г. і № 1—1961 г.



Але яны не атрымалі ліванскага падданства, хоць на яго можа прэтэндаваць кожны чужаземец, які жыве дзесяць год на тэрыторыі Лівана.

— Гэта вынік палітыкі хрысціянска-мараніцкай секты, якая мае большасць у краіне і баіцца яе страціць. Дарэчы, гэтая непадатлівасць была адной з галоўных прычын узброенага выступлення друзаў супраць улады прэзідэнта Шамуна...

Мы вярнуліся на могілкі, па якіх хадзілі гадзіну назад. Успомнілі чалавека, які не мог сказаць, што будзе ў пятай нішы.

— Статуя эль-Хакіма, апошняга з пяці ўвасабленняў бога, — з гатоўнасцю адказаў Джумблат. — Але каб вартаўнік і ведаў, ён мог бы вам гэта не сказаць. Гаварыць няпраўду ў рэлігійных пытаннях дазволена адным з нашых галоўных прынцыпаў веры, так званай атакіяй — асцярожнасцю...

Мы зноў пераходзім у вобласць містыкі і спірытызму.

— Чатырыста год назад жыў выдатны друзскі прарок шэйх Абу Абайд. У сваіх вершах ён прарочыў, што некалі на Ніле будзе стаяць плаціна. Ну, вось бачыце, тая плаціна, якую ў Асуане збудавалі англічане, ужо лічыцца недастатковай, Саветы пабудуюць там яшчэ большую, важнейшую!

Потым Джумблат гаворыць аб атамнай энергіі, рэактарах, аб тым, што сапраўды неўзабаве чалавек паляціць у космас. Гэта будзе прыблізна ў 2000 годзе. Паводле друзскай легенды, пасля 2000 года настане эпоха вечнага міру...

Ён правёў нас па доўгай лесвіцы старадаўняй арыстакратычнай рэзідэнцыі і з цікавасцю агледзеў нашы «татры».

І потым развітаўся з намі — друзскі шэйх, былы міністр эканомікі Лівана, дэпутат, старшыня ліванскай сацыялістычнай прагрэсіўнай партыі, прафесар філасофіі і народнай гаспадаркі ў Бейруцкім універсітэце і архітэктар.

І аднак перш за ўсё — містык.

### Так, гэта пустыня!

У Дамаску нам параілі добра запасціся на дарогу прадуктамі і вадой. Галоўнае — вадой.

— Вы ж едзеце ў пустыню. Вазьміце з сабой усё, што можна піць. Лепш за ўсё — піва. І пабольш фруктаў. Зрэшты, вы самі добра ведаеце, што такое пустыня. І не забудзьцеся за Кар'ятэйнам павярнуць налева, трапіце да нафтаправода, а там ужо не заблудзіце.



За гадзіну да старту прыехаў пан Джадат Барудзі, якога міністэрства ўнутраных спраў Сірыі вызначыла нам за праваднікa. Ён выглядаў элегантна: чорныя туфлі, адпрасаваныя штаны, светлы замшавы пінжак, гальштук. Шафёр таксі падаў яму ў машыну лёгкі дарожны куфэрак і згорнуты плед, перавязаны рамянямі з ручкай. Потым адчыніў багажнік і выцягнуў два мяшкі апельсінаў.

— Куды гэта паставіць? — спытаў ён коратка.

З адчаем пераглянуўшыся, мы дапамаглі яму ўцягнуць мяшкі ў «татры» — па адным у кожную машыну.

— Мы ж едзем у пустыню, — заявіў ён, калі мы, пазнаёміўшыся, выказалі сваё здзіўленне. — Ды гэта дробязь, — дадаў ён, — у майго бацькі аптовы гандаль фруктамі, пра нейкія два мяшкі не варта і гаварыць.

— Праз два тыдні мы вернемся, — запэўнілі мы сяброў з консульства, якія з цікавасцю назіралі за гэтымі дзіўнымі зборамі. І мы рушылі на паўночны ўсход.

Пустыня пачалася праз дваццаць тры кіламетры ад Джэруда. Роберт, які ўпершыню ў жыцці бачыў яе, быў у захапленні.

— Гэта цудоўна, хлопцы, тут мы ўжо ні з кім не можам сутыкнуцца. Колькі тут дарог! Можна выбраць якую хочаш! Не верыцца!

Мы налічылі вакол сябе адзінаццаць дарог. Але штохвіліны якая-небудзь з іх збочвала налева ці направа, яны зліваліся, перакрыжоўваліся. «Праезджая частка» была шырынёй у добры кіламетр, абапал яе мякка ўзнімаліся схілы нагор'яў, якія двума паралельнымі хрыбтамі цягнуліся ў далечыню.

— А я праведу новую дарогу, там, дзе яшчэ ніхто не праязджаў.

— Мы, наогул, можам увесь час ехаць побач, тут нас ніхто не аштрафуе.

Раніцай мы прачнуліся зусім скачанелыя ад холаду. Тэрмометр у кабіне паказваў плюс адзін градус, на лужах іскрыліся кавалкі лёду. Высока над сонным Кар'ятэйнам вісеў вузкі сярпок месяца,

над ім мігцела зорка. Гэта крыху нагадвала турэцкі сцяг, з якога на хвіліну адскочыла некуды зорка.

— Я не думаў, што буду ў пустыні нацягваць шарсцяное адзенне і рукавіцы...

І ўчарашняя спрэчка разгарэлася зноў. Мы ў пустыні ці не?

— Ну, вядома, у пустыні, паглядзі на карту. Сірыйская пустыня Бадые эш-Шам.

— А чаму гэтыя хмызнячкі навокал? І глеба? Гэта ж не пясок, а чырваназём.

Праехалі яшчэ дзесяць кіламетраў і перасеклі шырокае, нядаўна ўзаранае поле. Барозны былі праведзены нават упоперак дарогі, але колы машын зноў прыкаталі іх, пакідаючы пасля сябе няроўныя ўзгаркаватыя палосы. Сям-там з зямлі тырчэла сухая трава, па баках поля заўважылі канавы, якія павінны затрымліваць дажджавую ваду. А праз некаторы час зноў перад намі было ўзаранае поле. Выйшаўшы з машын, мы вымушаны былі ступіць на далікатны зялёны пушок, які пасля нядаўніх дажджоў нястрымана лез да святла. Куды ні кінь вокам, раскінулася пустыня, пакрытая рэдкім светла-зялёным покрывам.

— Вось яна якая, гэтая пустыня! Праз месяц, калі яшчэ пройдзе добры дождж, тут узнімецца трава — на радасць. Што б там ні гаварыла нам карта, але гэта стэп, а не пустыня.

Пацверджаннем такога вываду былі і статкі авечак, якія мы спаткалі непадалёк ад Каср эль-Хейра. Чабаны збегліся да машын, ахвотна згадзіліся на фатаграфаванне і нічога не сказалі нават тады, калі мы расхінулі іх кажухі. Гэта было і іх адзенне, і пасцель — там, дзе застане іх вечар, кладуцца яны на зямлю, засунуўшы рукі ў шырокія рукавы і перакінуўшы хустку праз галаву, і — спяць.

— Калі пройдзе добры дождж, трава вырасце вось дасюль, — паказваюць яны да кален.

Потым усю дарогу мы разважалі аб тым, колькі мільёнаў людзей магла б яшчэ пракарміць гэтая зямля, азначаная на карце пустыняй, калі б прасвідраваць тут артэзіянскія калодзежы, як у паўночнай Афрыцы, ды пабудаваць сетку абвадняльных каналаў, як, напрыклад, у Лівіі!

Зрэшты, гэтае адраджэнне зямлі не было б нечым новым — некалі, яшчэ ў трэцім стагоддзі, тут каласіліся нівы ячменю, у Пальміры запасаліся правіянтам усе караваны, якія ішлі ад берагоў Еўфрата да Міжземнага мора і назад. Потым Пальміра занялала, і палі запусцелі.

Сёння тут пустыня.

(Працяг будзе)

Пераклад з чэшскай мовы У. МАЖЭЙКІ.



Тут праходзілі тысячныя караваны па дарозе на Усход.

*Спорт*



Уладзімір Гараеў. Фота М. Зісмана.

Уладзімір ВЕЛЬТНЕР

# НАПЕРАДЗЕ БЛАКІТНЫ СЦЯЖОК

Рым сустрэў іх незвычайнай спёкай, разнамоўным говарам, шпалерамі шматколерных сцягоў краін — удзельніц Алімпіяды, страшэннай мітуснёй вуліц з паліцэйскімі ў белых касцюмах, мільганнем Алімпійскай эмблемы. Пяць пераплеценых кольцаў віднеліся ўсюды: і ў вітрынах магазінаў, і на велізарных маляўнічых

пано, і ў карунках яркіх светавых рэклам...

З акна аўтобуса, які вёз савецкіх алімпійцаў з аэрадрома і павольна рухаўся па горадзе, Уладзімір Гараеў з хваляваннем разглядаў вуліцы і плошчы італьянскай сталіцы.

А потым разам з таварышамі ён часта хадзіў па шумлівых рымскіх вуліцах, наведаў Капітолій, надоўга спыняўся ў музеях ля бессмяротных палотнаў Рафаэля, Леанарда да Вінчы, Тыцыана, захапляўся скульптурамі Мікельанджэла. Тут кожны крок быў самой гісторыяй. У памяці міжволі ажывалі знаёмыя па кнігах карціны далёкага мінулага, паўставалі перад вачыма любімыя героі — Спартак, Гарыбальдзі, Авадзень...

Каля стадыёна «Фора Італіко», «Палацо дэла спорт», старажытных сцен Базілікі Масенцыю, дзе штодзень праходзілі спаборніцтвы барцоў, збіраліся натоўпы людзей, якія жадалі трапіць на сустрэчы лепшых атлетаў свету. На чорным рынку спекулянты за нечуваную цану прапанавалі білеты на спаборніцтвы. Па рымскіх вуліцах важна хадзілі групы турыстаў. Некаторыя прыязджалі цэлымі сем'ямі. Уся гэта размаітая публіка навадняла вузкія рымскія вуліцы, ствараючы заторы ў найбольш ажыўленых месцах. Многае тут здзіўляла савецкага чалавека. Раскошныя асабнякі багачоў, масіўныя палацы Ватыкана і тут жа непадалёку бедныя хаціны пралетарыяў, трушчобы беднякоў. Знаходзячыся ў гэтай мітусні, разамлеўшы ад невыноснай гарачыні, Уладзімір міжволі ўспамінаў шырокі праспект роднага Мінска.

Пакуль Уладзімір адпачываў, робячы лёгкія трэніроўкі, Алімпіяда ішла сваім парадкам. Амаль кожны вечар у алімпійскай вёсцы адзначаліся пераможцы. А як радасна было, што лік залатых медаляў сярод мужчын адкрылі беларускія веслярьі-канаісты — брэстаўчанін Сяргей Макаранка і гамяльчанін Леанід Гейштар! Праз некалькі дзён вялікі прыгожы торт быў уручаны новаму алімпійскаму чэмпіёну земляку Уладзіміра — Алегу Караваеву.



«Малайчына, Алег! — думаў пра яго нават з некаторай зайздрасцю Гараеў. — Ён дамогся найвышэйшага ў жыцці спартсмена шчасця — дасягнуў вяршыні Алімпа, з гонарам апраўдаў давер'е таварышаў, давер'е Радзімы». А як хацелася не застацца ў даўгу і самому!

Па праграме — спаборніцтвы па трайному скаканню павінны былі адбыцца 6 верасня. Напярэдадні Уладзімір нікуды не пайшоў, вырашыў добра адпачыць. Разам з Вітольдам Крэерам, сваім старым прыяцелем і сапернікам у спорце, яны глядзелі тэлеперадачу: на ўсіх франтах Алімпіяды ішлі гарачыя баі за медалі, за ачкі (няхай і неафіцыйныя), за прэстыж сваіх краін.

Бралася на вечар.

— Ну, я пайду, падрамлю, — сказаў Уладзімір.

Было душна, як перад навальніцай. Не спалася. У памяці ўсплывалі карціны мінулага. Ён у думках агледаў свой спартыўны шлях. З чаго ўсё гэта пачалося? Можа з таго асенняга кросу ў Чырвоным Урочышчы, калі ён упершыню выйшаў на старт разам са сваімі аднакласнікамі? А можа з урока фізкультуры, калі ён аднойчы пачуў скупую пахвалу настаўніка? Не. Усё ж, відаць, з таго дня, калі ён нясмела пераступіў парог спартыўнай залы.

— Навум Давыдавіч (так звалі трэнера), я хачу ў вас займацца, — звярнуўся ён да трэнера.

— Што ж, — адказаў той, — паглядзім, на што ты здольны.

Трэнер крытычна агледзеў шчуплага, вуглаватага падлетка і прапанаваў яму зрабіць некалькі практыкаванняў.

— Добра, прыходзь у нядзелю.

Як гэта было цікава — першыя трэніроўкі, сустрэчы з новымі таварышамі-спартсменамі.

Ішлі тыдні, месяцы, і трэнер усё з большай увагай прыглядаўся да навічка, захапляючыся яго стараннем і працавітасцю. Уладзімір ахвотна займаўся рознымі відамі лёгкай атлетыкі — бегам, скачкамі, кіданнямі. І вось прыйшлі першыя поспехі. Спачатку на раённых, потым на гарадскіх спаборніцтвах. Уладзімір выйшаў пераможцам на спартакіядзе школьнікаў рэспублікі па скаканню ў даўжыню. Яго паслалі на ўсесаюзныя спаборніцтвы.

... Імкліва нарастае разбег, і нібы рыкашэтам, як каменьчык ад вады, гіганцкія крокі скачка — адзін, другі, трэці! Прыгожа! Трэба паспрабаваць.

— Гэта цяжкі і складаны скачок, — гаварыў яму трэнер.

— Складаны? Тым лепш. Іншыя ж могуць. Вучыце!

І вось дзесяткі, сотні разоў паўтарае юнак разнастайныя элементы трайнога скачка. І з кожным днём прызямляецца ўсё далей і далей ад планкі адштурхвання.

Кіеў. Усесаюзная спартакіяда вучняў. У сектары для скакання выступае хударлявы юнак у акулярах. Яго вынік лепшы. Першая вялікая перамога! Гэта было пяць гадоў назад.

А як жа вучоба? У школьным дзённіку Валодзі Гараева толькі пяцёркі і чацвёркі.

Цяжка, вельмі цяжка спалучаць вучобу са штодзённымі трэніроўкамі. А асабліва, калі табе ўсяго 15—16 гадоў, калі яшчэ столькі непрачытаных кніг, калі ў спякотны дзень так хочацца з'ездзіць выкупацца на возера ці схадзіць з таварышамі на танцы. І акрамя ўсяго, ён жа камсамолец. Ці ж можна яму не выйсці на нядзельнік ці горача не паспрачацца на камсамольскім сходзе?

Але калі табой авалодала мара абавязкова стаць класным спартсменам і калі ў цябе ёсць сілы і воля, дык усё можна паспець, усё можна пераадолець.

Так! Усё можна пераадолець, але нельга пераскочыць самога сябе. Узяць хоць бы гэтую праклятую хуткасць. Колькі крыві і нерваў яна яму сапсавала! Хуткасць разбегу — адзін з важнейшых элементаў трайнога скачка. Чым вышэй хуткасць, тым далей і лепшы скачок. Але што ён мог зрабіць з сабой? З дзяцінства Валодзя не вызначаўся здольнасцямі ў спрынце. А хуткасць — гэта ў значнай ступені прыроджаная якасць. І, як на злосць, іменна яму, скакуну-легкаатлету, не хапала гэтай каштоўнай якасці. Што ж рабіць? А можа плюнуць на ўсё гэта, ці мала ёсць іншых захапляючых заняткаў? Не, не адступаць! Не адступалі ж перад вялікімі цяжкасцямі героі яго любімых кніг — Павел Карчагін, Саня Грыгор'еў з яго цудоўным дэвізам: «Змагацца і шукаць, знайсці і не здавацца!»

Як заўсёды, Уладзіміру на дапамогу прыйшоў трэнер. Разам думалі, шукалі. Што такое трайны скачок? З чаго ён складаецца? Гэта хуткасць разбегу плюс сіла штуршка, плюс тэхніка і асобае пачуццё рытму, злітнасць усіх рухаў.

«Ну што ж, калі хуткасць больш павысіць нельга, значыць трэба адточваць тэхніку і павялічваць сілу штуршка», — вырашылі настаўнік і вучань. Яны падоўгу ў дэталях вывучалі кінаграмы скачкоў лепшых спартсменаў свету, на трэніроўках старанна адшліфоўвалі кожны рух, кожны крок, узмах рукі. Даўся ў знакі і заступ. Ён праследаваў Уладзіміра ў дні адказных спаборніцтваў, калі часам возьмуць ды падвядуць нервы. Бывала, у дні трэніровак усё ішло нармальна. Але вось ён выходзіць на старт буйных спаборніцтваў, і яго пачынае трэсці, як у ліхаманцы. Знікала ўпэўненасць, парушаўся выпрацаваны доўгімі месяцамі заняткаў рытм — і ён ніяк не мог трапіць на планку. Так было на матчы з легкаатлетамі зборнай каманды ФРГ, калі ён упершыню выступаў у міжнароднай сустрэчы. Чатыры разы ён рабіў спробы і чатыры разы суддзі давалі адбой — заступ! Толькі адна спроба закончылася добрым скачком, які і прынёс яму перамогу.

— Нічога, не адчайвайся, — гаварыў яму трэнер, — вопыт і спакой прыйдуць з часам.

У канцы 1959 года пасля Другой спартакіяды народаў СССР, дзе Гараеў упершыню заваяваў бронзавы медаль, уступіўшы толькі рэкардсмену свету масквічу Алегу Федасееву і экс-рэкардсмену ташкенцкаму студэнту Алегу Рахоўскаму, Уладзіміру даверылі



**Міжнародныя спаборніцтвы лёгкаатлетаў у Нарвегіі. Уладзімір Гараеў** (у цэнтры) **са сваімі сябрамі з Польскай Народнай Рэспублікі Р. Мальхерчыкам і рэкардсменам свету Ю. Шмідтам** (справа).

абараняць гонар савецкай краіны ў адказных міжнародных матчах з немцамі і англічанамі. І абодва разы масквічы горача апладзіравалі мінскаму студэнту, які падымаўся на п'едэстал пашаны. Але самы вялікі поспех чакаў Уладзіміра на ўсесаюзных спаборніцтвах дынамаўцаў у Краснадары. Калі суддзі вымералі яго лепшы скачок, аказалася, што ён роўны 16 м 51 см! Гэта быў вынік найвышэйшага класа. Усяго на 19 см не дацягнуў ён тады да сусветнага рэкорду, устаноўленага Федасеевым.

Надышоў алімпійскі год. Датэрмінова здаўшы некалькі экзаменаў, Уладзімір стартаваў у шэрагу адказных матчаў і сустрэч. На буйнейшых міжнародных спаборніцтвах на прыз імя братоў Знаменскіх, што адбыліся ў чэрвені на маскоўскім стадыёне імя Леніна, ён зноў паказаў, што з'яўляецца мацнейшым у краіне, ды і не толькі ў краіне. Праўда, у Маскву не прыехаў тады яго асноўны сапернік, варшавянін Юзэф Шмідт, з якім ён ужо доўга вёў завочную дуэль. Але сваім вынікам — 16 м 41 см ён быў задаволены.

Усё ішло добра, заставаўся апошні рубеж перад Рымам — асабістае першынство СССР. І раптам нечаканы правал. Уладзімір заняў толькі чацвёртае месца, скокнуўшы ўсяго на 16 метраў. Некалі гэта быў для яго высокі вынік. Некалі! Але не цяпер. Відаць, адбілася перагрузка. А чэмпіянат СССР павінен быў канчаткова вырашыць пытанне: хто ж паедзе на алімпіяду ў Італію. Уладзімір вельмі перажываў гэтую няўдачу «Вось табе і вызначыўся. Ганьба! — у думках праклінаў ён сябе. — З такімі вынікамі хіба паедзеш у Рым!»

...Яго ўсё ж уключылі ў зборную алімпійскую каманду. Заўтра ён прыйме старт, які, магчыма, больш не паўторыцца ў яго жыцці. Мала хто са спартсменаў двойчы выступаў на алімпіядах. А наступныя гульні будуць у далёкім Токіо праз доўгія чатыры гады.

Ужо ў Рыме Уладзімір зрабіў некалькі трэніровак, прывыкаючы да саракаградуснай гарачыні і асаблівасцей італьянскага клімату. Ён адчуваў сябе цудоўна, зноў вярнулася былая ўпэўненасць у сваіх сілах, а гэта — палова поспеху.

* * *

— Уставай, Валодзя! — пачуў ён праз сон і расплюшчыў вочы. Перад ім стаяў Вітольд Крэер, маскоўскі студэнт, яго даўні сябар і сапернік па скачках. Вось і падышла чарга! Сёння яны разам будуць стартаваць на дарожцы алімпійскага стадыёна. Але спачатку раніцай трэба прайсці адборачныя спаборніцтвы. Алімпійскі класіфікацыйны нарматыў — 15 м 50 см — высокі. Гэта — норма майстра спорту ў нашай краіне. І не дзіўна, што з 43 атлетаў, якія прадстаўлялі 15 краін і прыйшлі на ўтульны Мармуровы стадыён, на вячэрнюю праграму трапіла толькі 15. Вось, панура схіліўшы галаву і ссутуліўшы магутныя плечы, прайшоў міма Уладзіміра рослы, атлетычна складзены негр з Бразіліі Дэ Сільва. На гэты раз фартуна не ўсміхнулася двухразоваму алімпійскаму чэмпіёну, герою Хельсінкі і Мельбурна. Ён не здолеў выканаць устаноўлены нарматыў і выключаўся з далейшай барацьбы. Так, гады даюць сябе адчуць. Затое ў бліскучай форме варшаўскі аўтамеханік Шмідт. Ён лёгка з першай спробы прызямляецца за 16-мятровай адзнакай, адразу абвергнуўшы распаўсюджаныя некім чуткі, нібы ён хворы. «Так, з ім змагацца будзе цяжка, — думае Уладзімір. — Эх, мне б яго хуткасць!»

Паляк з'яўляецца адным з лепшых спрынтэраў у сваёй краіне. 100 метраў ён прабягае за 10,4 секунды, а лепшы вынік мінчаніна — 11 секунд. «Нічога, пачакаем да вечара. Добра, каб быў хоць невялікі спадарожны вецярок, — марыць Уладзімір, — гэта ўсё-такі дапамога!»

Не, Уладзімір не падвядзе таварышаў і каманду, не зганьбіць гонару сваёй Радзімы.

* * *

Бурліць, гудзе велізарная чаша алімпійскага стадыёна «Фора Італіко». **Каго толькі няма** на яго трыбунах! Тут змяшалася ўсё: мовы, норавы, вопратка, звычаі. Многія турысты махаюць нацыянальнымі сцяжкамі, а калі перамагае іх суайчыннік, бурна выказваюць сваю радасць. Цэнтральная падзея новага дня — спаборніцтвы «трайнікоў», і ўвага шматтысячнага стадыёна звернута сюды, да сектара, дзе разбягаюцца і скачуць удзельнікі фінальных спаборніцтваў. Тут знаходзіцца і Уладзімір разам з іншымі ўдзельнікамі фіналу. Ззаду тры папярэднія спробы. У шасцёрку лепшых, акрамя яго, трапілі Вітольд, амерыканец Айра Дэвіс, уладальнік сярэбранага медаля Мельбурнскай алімпіяды ісландзец Эйнерсан, Юзэф Шмідт.

Вельмі лёгка скача варшавянін. Ён добра выкарыстоўвае сваю вялікую хуткасць разбегу. У лепшай спробе суддзі фіксуюць 16 м 81 см! Гэта вышэй за афіцыйны рэкорд свету. Так, лёс залатога медаля, здаецца, ясны. А як жа з сярэбраным? Тут ідзе гарачая спрэчка. Пакуль што наперадзе амерыканец, у яго ў актыве скачок на 16 м 41 см. Але Уладзімір упэўнены ў сваіх сілах. У яго ж яшчэ чацвёртая спроба, у якой ён звычайна паказвае свае лепшыя дасягненні.

Вось называюць яго прозвішча. Уладзімір павольна ідзе да сваёй адзнакі на дарожцы разбегу.

«Сабрацца і сканцэнтравацца! Адключыцца ад усяго». Ён павінен, ён не можа не перамагчы!..

Пайшоў! Насустрач усё хутчэй імчыцца дарожка разбегу. Вось планка, ён адчувае яе пад нагой. Вось скачок ужо ззаду. Вялікі крок, а цяпер усе сілы ў заключны скачок! Лічаныя імгненні працягваецца палёт. І вось пад нагамі пясок. Усё! Ого! Выдатна, — яшчэ не да канца асэнсаваўшы тое, што здарылася, адчувае Валодзя.

Яго абнімае Вітольд. Неўзабаве на светавым табло над усім стадыёнам запальваецца лічба — 16 м 63 см! Так далёка ён яшчэ ніколі не скакаў. Значыць, «серабро» пакуль за ім. Хаця б не пераскочылі, але гэта можа зрабіць толькі Шмідт. А з ім пытанне ўжо вырашана. Засталіся апошнія ўдзельнікі. Малайчына, Вітольд! У шостай завяршальнай спробе ён здолеў адкінуць амерыканца на чацвёртае месца, заваяваўшы бронзавы медаль. І разам з тым трохі шкада гэтага дабрадушнага, заўсёды з усмешкай негра Дэвіса — як яго цяпер сустрэнуць на яго няласкавай радзіме ў Штатах?

Вось Уладзімір ужо на п'едэстале пашаны. Прэзідэнт Міжнароднага алімпійскага камітэта чыкагскі мільянер Брэндэдж уручае яму, простаму савецкаму хлопцу, сыну мінскага рабочага, доўгую скрыначку, у якой цьмяна паблісквае сярэбраны алімпійскі медаль...

У Гараева іх цяпер шмат, гэтых дарагіх спартыўных трафеяў. Але асабліва дарагія яму тры медалі. Ён з гонарам паказвае іх. Першы — сярэбраны медаль за выдатныя поспехі ў школе, якія ўручыў яму разам з атэстатам сталас-

ці на выпускным вечары дырэктар школы. Затым алімпійскі медаль, таксама сярэбраны на доўгім прыгожым ланцужку, і, нарэшце, на чырвонай стужачцы бліскучы скромны кружочак, на якім ярка вылучаюцца словы: «За працоўную доблесць» — медаль, якім савецкі ўрад высока ацаніў яго сціплую працу спартсмена.

* * *

Блакітным сцяжком па даўняй традыцыі адзначаюць на буйных спаборніцтвах вышэйшае ў свеце дасягненне. Усяго 40 см аддзяляюць цяпер мінскага скакуна, студэнта IV курса хімічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта Уладзіміра Гараева ад гэтага прывабнага рубяжа. Сорак сантыметраў! Здаецца, нямнога. Але той, хто ведае лёгкую атлетыку, хто сам не раз выходзіў на старт, той разумее, якіх намаганняў каштуюць гэтыя апошнія дзесятыя долі секунды, гэтыя апошнія сантыметры. Тут спрэчка ідзе на мяжы чалавечых магчымасцей.

... Трапечацца на ветры, нібы спакуса, маленькі блакітны агеньчык. Ён вабіць, ён кліча, ён уладна загадвае: вазьмі!

## У ШАХМАТЫСТАЎ-АМАТАРАЎ

Пасля ўзбуйнення спартыўных таварыстваў нашай рэспубліцы значна ажывілася работа калектываў фізкультуры на прадпрыемствах. Цяпер адно за адным адбываюцца спаборніцтвы ўнутры спартыўных калектываў.

Вялікую дзейнасць разгарнуў мінскі абласны савет добраахвотнага спартыўнага таварыства «Спартак». Звыш ста дваццаці аматараў шахмат і шашак — членаў прафесіянальнага саюза мясцовай прамысловасці і камунальнай гаспадаркі разыгралі сваё асабіста-каманднае першынство. Пераможцы турніраў, якія адбыліся ў розных вытворчых калектывах, атрымалі магчымасць не толькі пазнаёміцца адны з другімі, а і памерацца сіламі за шахматнай дошкай. Вынікі гэтых сустрэч вельмі суцяшальныя: дваццаць два шахматысты і шашысты павысілі свае спартыўныя разрады.

У такіх камандных спаборніцтвах поспех залежыць не толькі ад здольнасцей кожнага ўдзельніка, але і ад арганізаванасці ўсяго калектыву. Спалучэнне гэтых абодвух якасцей і прынесла перамогу па шахматах калектыву мінскага «Водаканалтрэста», а па шашках — трамвайна-тралейбуснаму ўпраўленню сярод мужчын і фабрыцы № 3 — сярод жанчын.

Адна з задач наладжвання такіх турніраў — гэта выяўленне маладых здольных шахматыстаў. Вельмі добрыя вынікі паказаў, напрыклад, начальнік участка «Водаканалтрэста» Аркадзь Ліўшыц. Яго сапернікамі былі вопытныя першаразраднікі, і ўсё ж Аркадзь перамог, набраўшы дастатковую колькасць ачкоў. Ён атрымаў першы разрад і адначасова вывеў сваю каманду на першае месца. Аркадзь — актыўны камсамолец, намеснік сакратара камсамольскай арганізацыі «Водаканалтрэста». Ён актыўна супрацоўнічае ў ДТСААФ і займаецца рознымі відамі спорту; мае трэці разрад па стральбе і ступень кандыдата ў майстры па шашках. Работа на прадпрыемстве, грамадскія нагрузкі і захапленне спортам не перашкодзілі Аркадзю паступіць на завочнае аддзяленне Інстытута механізацыі сельскай гаспадаркі. Ён ужо здаў паспяхова экзамены за першы курс.





**Начальнік участка «Водаканалтрэста» Аркадзь Ліўшыц і майстар спорту А. Сакольскі.**
Фота А. Дзітлава.

На працягу некалькіх год я знаёмы з майстрам радыёатэлье Віктарам Арнатовічам. Ён прыйшоў у шахматную секцыю тры гады таму назад, маючы ўсяго толькі чацвёрты разрад. Упартая праца і вялікая зацікаўленасць дазволілі Віктару менш чым за два гады прайсці шлях да першаразрадніка.

Віктар заваяваў вялікі аўтарытэт у сваім рабочым калектыве. Пасля заканчэння вячэрняй школы ён цвёрда вырашыў атрымаць вышэйшую асвету. З малых год Віктар жыве без бацькоў, але рамеснае вучылішча, дзе ён вучыўся, дало юнаку добрую загартоўку, выхавала ў яго ўпартасць у дасягненні мэты, дысцыплінаванасць, працаздольнасць. Усё гэта і дапамагае Віктару Арнатовічу з поспехам спалучаць працу з вучобай на завочным аддзяленні лесатэхнічнага інстытута, а таксама з шахматным спортам.

— Хіба кепска ведаць радыё і тэлетэхніку ў нашы дні лесніку! — адказвае Віктар, калі ў яго пытаюцца, чаму ён вырашыў змяніць спецыяльнасць.

Віктара прынялі нядаўна кандыдатам у члены КПСС. Цяпер у Віктара прыбавілася грамадскай работы, але ён не кідае шахмат: вось ужо некалькі год, як Віктар Арнатовіч з'яўляецца нязгласным чэмпіёнам прафсаюза мясцовай прамысловасці. Каманда шахматыстаў завода «Металабытрамонту», якую ён узначальвае, неаднойчы выйгравала першынство аблсавета ДСТ «Спартак» і нават перамагала ў рэспубліканскіх спаборніцтвах.

Два гады запар гэтая каманда ўдзельнічала ва ўсесаюзных спаборніцтвах. Тут Віктар сустрэўся за шахматнай дошкай з майстрам спорту Т. Прахаровічам (Масква). Юнак яшчэ і сёння ўспамінае тыя добрыя пазіцыі, якія былі ў яго



**Майстар радыёатэлье Віктар Арнатовіч.**

партыях з Прахаровічам і якіх ён не змог выкарыстаць як след.

— Не, ніколі, мусіць, не адолею я «таямніцы» шахмат... — часам гаворыць ён у хвіліну няўдачы.

І хочацца сказаць яму: не трэба траціць веру ў свае сілы. Заўсёды варта памятаць, што няўдачы бываюць у кожнага. Моцных яны толькі загартоўваюць. А Віктар Арнатовіч — чалавек сталага характару. Пра гэта сведчаць высокія адзнакі па шасці відах спорту, якія мае ён.

Нядаўна мне давялося пазнаёміцца з шахматнымі секцыямі прафсаюза работнікаў культуры. І там шмат энтузіястаў. Моцныя калектывы існуюць у Вышэйшай партыйнай школе, Дзяржаўным выдавецтве Беларусі, на паліграфічным камбінаце, у Беларускім савеце прафесіянальных саюзаў.

Як правіла, у кожным з гэтых калектываў ёсць свой шахматны «завадатар», які цягне за сабой астатніх. Такім «завадатарам» у Белдзяржвыдавецтве з'яўляецца рэдактар мастацкай літаратуры Ванкарэм Нікіфаровіч, на паліграфкамбінаце — стэрэатыпер Іван Іваноў, які асабліва вызначыўся на нядаўнім камандным першынстве абкома прафсаюза работнікаў культуры. Не маючы ніякага разраду, І. Іваноў адразу набыў другі і заняў першае месца на першай дошцы.

Але ў шахматных спаборніцтвах калектываў поспех вырашае не адзін, нават лепшы з лепшых, ігрок, перамога здабываецца намаганнямі ўсіх членаў каманды. Калектыў шахматыстаў Белдзяржвыдавецтва, мусіць, добра засвоіў гэты прынцып і таму заслужана заваяваў пераходны кубак аблсавета таварыства «Спартак».

Камандныя спаборніцтвы выклікалі цікавасць не толькі ў пераможцаў. Многія «няўдачнікі» ўзгарэліся жаданнем добра патрэніравацца і сёлета заваяваць пераходны прыз. Што ж, гэта добрая спартыўная зайздрасць! Але каб дамагчыся перамогі ў наступных спаборніцтвах, трэба няспынна працаваць над удасканаленнем свайго майстэрства.

Паводле палажэння аб III Спартакіядзе народаў СССР, кожная рэспубліка павінна паслаць у Маскву лепшы заводскі шахматны калектыў. Вынікі сустрэч гэтых калектываў увойдуць у агульны залік Спартакіяды народаў. Таму асаблівая ўвага павінна быць звернута на развіццё шахматнага спорту сярод нашай заводскай моладзі. Вось чаму так хваляваліся мы ў часе каманднага рэспубліканскага першынства заводскіх калектываў, якое было праведзена таварыствам «Чырвоны сцяг». Перамаглі мінскія аўтазаводцы, на чале з майстрам А. Ройзманам. Перамога застаецца перамогай, але для паспяховага выступлення на Усесаюзнай спартакіядзе і гэты калектыў павінен сур'ёзна і шмат яшчэ працаваць.

Беларуская шахматная федэрацыя ставіць сваёй неадкладнай задачай стварэнне шахматных секцый на кожным прадпрыемстве рэспублікі і рэгулярную арганізацыю ўнутрыкалектыўных турніраў. Лепшыя шахматысты калектываў павінны рэгулярна сустракацца адзін з другім у камандных сустрэчах, на шахматных вечарах. Гэта загартоўвае волю да перамогі, выклікае імкненне да павышэння майстэрства.

Кожнае буйнае прадпрыемства павінна мець спецыяльна абсталяваны для шахматнай гульні пакой, згуртаваць свой актыў. Толькі пры такой арганізацыі справы ў нас будуць створаны належныя ўмовы для развіцця шахматнага спорту ў вытворчых калектывах.

* * *

Прынята лічыць, што камбінаванне ў шахматнай гульні — здольнасць толькі майстроў. Гэта зусім памылковае ўяўленне. Камбінацыі ўзнікаюць і ў партыях звычайных шахматыстаў-аматараў. Праўда, часам ім нестае майстэрства разліку, каб давесці свае задумы да лагічнага завяршэння. Таму цікава і карысна разабраць адну з такіх партый.

Гэта пазіцыя ўзнікла ў партыі А. Навасельскі (студыя тэлебачання) — І. Скапараў (Белдзяржвыдавецтва) на камандным першынстве прафсаюза работнікаў культуры.



У чорных лішняя пешка і пагроза Ф : f2 вельмі моцная. Але... ход за белымі. Наступны камбінацыйны ўдар каардынальна мяняе становішча на шахматнай дошцы.

1. Л : g6+! fg, 2. Ф : g6+ Крh8, 3. Ф : h6+ Крg8.

Тут А. Навасельскі, узрадаваны, што так удала «выскачыў», згадзіўся на нічыю. А між тым ён мог выкарыстаць цудоўную камбінацыю, якая прывяла б да фарсіраванага выйгрышу!

4. Сd5+!! Ф : d5, 5. Фg6+! Крh8, 6. Ле7!

Цяпер, каб уберагчыся ад мату, чорныя павінны аддаць фярзя: 6. ... Ф : g2+, 7. Кр : g2 Л8 : f2, 8. Крg1! Лg2+, 9. Ф : g2 Л : : g2+, 10. Кр : g2. Гульня пераходзіць на завяршэнне, дзе белым ужо няцяжка дамагчыся перамогі.

Прапануем чытачам самастойна вырашыць, ці могуць чорныя пайсці 1. ... Ле3!? пры пазіцыі, якая пададзена на гэтай дыяграме?



Дасылайце вашы рашэнні на адрас рэдакцыі часопіса «Маладосць».

**Аляксей СУЭЦІН,**
**майстар спорту, чэмпіён Беларусі па шахматах.**



**Пераможцы першынства калектываў — шахматысты Дзяржаўнага выдавецтва Беларусі У. Шахавец, С. Польскі, І. Скапараў, В. Нікіфаровіч, І. Ганчароў, Р. Ярохін, інструктар па шахматах М. Бабуліна.**



*Гумар і сатыра*

Яўген КАРШУКОЎ

# ГУЛЬНЯ Ў ДУРНЯ

Мал. Г. Скамарохава

Асцярожна прычыніўшы дзверы, я ціхенька, нібы злодзей які, крадуся па калідоры ў свой пакой... Іду і лаю сябе: «Ну, навошта, навошта я пасяліўся тут на кватэры? Ніводнага вечара вольнага не маю!»

У калідоры — цёмна. Знарок не ўключаю святло: можа не заўважаць, прашмыгну як-небудзь.

Ды ўсё дарэмна: раптам нагой чапляюся за дарожку, спатыкаюся і з грукатам лячу на падлогу...

У тую ж хвіліну адкрываюцца суседнія дзверы, і я чую прастуджаны галасок гаспадыні — Галіны Казіміраўны:

— Васінька, гэта вы?

— Я...

— Вось малайчына! Даўно чакаем. Заходзьце да нас, якраз гуляем у дурня! Чацвёртага не хапае...

Клянучы ўсё на свеце, я моўчкі заходжу ў пакой гаспадара Антона Лукіча Дунькіна.

— А-а, Вася! — узрадавана крычыць ён мне ад стала. І тут жа мякка, нібыта бацька, дакарае: — Што ж ты гэта запазніўся? Нядобра так! Мы ўжо тры дурні без цябе згулялі. Сядай, сядай хутчэй!

Збянтэжаны, я пачціва апускаюся на крэсла.

За сталом — уся сям'я Дунькіных: сам ён, кругленькі, нібы бочачка, з вялікай лысінай. Худая, як трэска, Галіна Казіміраўна і дачка Соня, у якой занадта доўгая шыя і маленькая галоўка. Соня нейкая млявая, нудная. Здаецца, зараз пазяхне і скажа: «Спаць хачу!» Але яна трымаецца, нават кідае ў мой бок нейкія таямнічыя позіркі.

— Ну, моладзь, трымайцеся, зараз мы вам усыплем, — густым басам гаворыць Дунькін. — Ох, усыплем! Раздаю карты: раз-два-тры!.. Раз-два-тры... Козыр — пікей... Чый заход?

— Наш, Антоша, наш...

— Цудоўна, жоначка! Хадзі!

— Пачакай, якой жа? Дай падумаць... А, пайду з васьмёркі. Адбівайся, дачушка!

І Соня «адбіваецца»... Яна думае доўга, перабіраючы зашмальцаваныя карты, нешта мармыча сабе пад нос. Потым, глыбакадумна зірнуўшы ў столь, прыймае карту.



Прыймаю і я ад Антона Лукіча... Ён задаволены, весела рагоча:

— Эх, моладзь, моладзь! Далі мы вам, га? Не-е, старых яшчэ голымі рукамі не возьмеш... Ці не так, жонка?

Але жонка не спяшаецца з адказам.

— Антоша, а яна ўсё роўна ў выйгрышы! — таямніча ўстаўляе яна.

— Як так?

— А так... Людзі кажуць: «Каму ў карты не шанцуе, таму шанцуе...»

І гаспадыня з выразнай усмешкай глядзіць спачатку на Соню, потым на мяне.

— О-хо-хо! — на ўвесь пакой рагоча Дунькін.— І як я забыўся... «Каму ў карты не шанцуе, таму ў каханні шанцуе!» Нічога, нічога, малады чалавек, не губляйцеся. Нам з Галінай Казіміраўнай таксама не шанцавала, пакуль не пажаніліся.

Я адчуваю, як пот градам коціцца па твары.

— А жаніцца вам час, Васінька, — раптам сур'ёзна пачынае гаспадыня. — Час! Інстытут закончыў, першы інжынер на будоўлі, працуеш добра... Антоша, праўда, працуе добра? Вось бачыш... Ды і наша нешта ў дзеўках засядзелася! Праўда, Антоша?

— «Ка-му ў кар-ты не шан-цуе, таму ў ка-хан-ні...» — зграбаючы карты са стала, напявае Дунькін і таксама пазірае сваімі масляными вочкамі-гузікамі на мяне.

А я гатоў у гэтую мінуту скрозь зямлю праваліцца. Вунь куды вецер дзьме! Недарэмна, значыць, таварышы насміхаюцца — «Дунькін зяць!»

Як праз сон, чую словы гаспадыні:

— Сонька наша інстытутаў не канчала, таму і не працуе нідзе. Ды хіба ж для сямейнага шчасця гэта трэба? Я вось усё жыццё не працую... Галоўнае, каб муж на добрай пасадзе быў. Праўда, Антоша?

Гадзіны праз дзве гульня, нарэшце, заканчваецца. Я ўстаю, хістаючыся, як п'яны, і іду ў свой пакой.

Мяне праводзіць сам гаспадар. У калідоры спыняемся перакурыць. І тут нечакана Дунькін бярэ мяне пад руку і гаворыць ціхім, даверлівым голасам:

— А ведаеш што, Вася, давай ты на самай справе жаніся на Соньцы! Ты думаеш, я не бачу? Даўно бачу, як у міргалкі гэтыя гуляеце... Ну што ж, не пярэчу!

Ён змаўкае, пасля, не звяртаючы ўвагі на мой бледны твар, працягвае:

— Яна, безумоўна, не гаспадарлівая у мяне... Бялізну не мые, абедаў гэтых таксама не варыць. Пасля дзесяцігодкі хацеў яе прыстроіць дзе-небудзь, дык жонка не дазволіла. Але не бяда! Прывыкнеш, як я. Будзеце разам у сталовую хадзіць! А што? Нават цікава, браток... Хо-хо! Ну дык як? Што-небудзь прыдумаем?

Калі, нарэшце, я трапляю ў свой пакой, мне здаецца, што я выскачыў з лазні...

«Не, таварыш Дунькін, не выйдзе! — рашуча гавару я сабе. — Хопіць гуляць у дурня — заўтра ж мяняю кватэру...»



# УСМЕШКА

Ёсць людзі, па твары ў якіх увесь час гуляе ўсмешка... Яны нібы нараджаюцца з гэтай сваёй усмешкай — крыху іранічнай, крыху задумлівай, але заўсёды вясёлай і шчырай.

Неяк я ехаў з камандзіроўкі на спадарожным малакавозе і сядзеў побач з маладым вясёлым шафёрам. Размаўляючы, шафёр нейкі момант глядзеў у мой бок, і мне здавалася, што смяецца ўвесь яго твар — і задзёрты нос, і прыжмураныя блакітныя вочы, і нават рыжаватыя бровы...

А па баках прабягалі сумныя восеньскія палі, машыну трэсла па няроўнай дарозе, няшчадна падкідвала на выбоі-



нах. Але ў хлапца быў такі вясёлы твар, нібы на двары ззяла веснавое сонца. Хлопец нават нешта напяваў сабе пад нос.

— Трасе? — раз-пораз пытаўся шафёр у мяне і тут жа суцяшаў: — Нічога, хутка добрая дарога пойдзе...

Нечакана ён рэзка прытармазіў (уперадзе на дарозе стаяла жанчына і махала рукой), пасля павярнуўся да мяне, загадкава падміргнуў і спыніў машыну.

— Ну што, цётка Фядора? Па якому праву спыняеце транспарт? — ні то ў жарт, ні то сур'ёзна крыкнуў ён з кабіны.

Невысокая жанчына з кошыкам у руцэ хуценька падбегла да нас.

— Падвязі да хаты, Грышачка! — загаварыла яна сіпаватым голасам. — Зрабі ласку, даражэнькі...

Яна лісліва ўсміхалася.

— Ну, што ж, залазь... Толькі ці памесцімся ў кабіне ўтрох?

— Памесцімся, памесцімся, Грышачка. Я ж не такая ўжо тоўстая!

«Не такая ўжо тоўстая» цётка Фядора ледзь улезла ў кабіну, паставіўшы мне на калені свой кошык. Машына кранулася і зноў затрэслася па выбоінах.

— Ох, выручыў ты мяне, Грышка, — адразу загаварыла жанчына, задаволена паблісхваючы вачыма. — Гэта ж я з работы адскочыла: у горад, думаю... прадаць тое-сёе. Брыгадзір наш у праўленне пайшоў, а я... Пры ім жа і не падумай адысціся. Ні за што не пусціць! Вельмі ўжо за калгаснае бярэцца... А мне прама кажа: «Хадзі на работу, а то працадні зніму!» А каб цябе не ведаю што... Ды я, можа, не жалезная, не магу цэлы дзень на полі гібець, памідоркі тыя калгасныя збіраць! Во, чаго захацеў...

Цётка сярдзіта нахмурылася і кінула позірк на мяне.

— Вы — не тутэйшы, не ведаеце, што ў нас за людзі... Дык я вам раскажу: няма ў іх сумлення, няма-а! Вось хіба, Грышачка, гэты яшчэ малады — і жаласць у яго ёсць! Другі б ні за што не спыніў машыну, а ён... Такога сына дай божухна кожнаму бацьку мець! Золата! Шафёр моўчкі ўсміхаўся.

— Вось толькі адно дрэнна...

— П'е гарэлку? — пажартаваў я.

— Хто, Грышка? Барані божа — і ў рот не бярэ! Правільна, скажу вам, робіць. Вось толькі адно дрэнна — не ўмее жыць! Другі б на яго месцы вунь як жыў! А ён... Ат! Нядаўна старшыня яму кажа: «Працуеш ты добра, Рыгор. І вось праўленне калгаса за тваю старанную работу вырашыла выдзеліць табе на хату бясплатна лесу». Чуеце, бясплатна! Дык ён што, наш Грышачка? Адмовіўся! Пакуль, кажа, не маю патрэбы. Вы чуеце? Другі б на яго месцы...

А шафёр моўчкі ўсміхаўся. Я заўважыў, што ён неяк занадта ўважліва пазірае на пузатую кашолку, якая зверху была прыкрыта белай хусцінкай. І я не здзівіўся, калі ён спытаў:

— А што гэта ў цябе, цётка Фядора, у кошыку? Ці не калгасныя памідоры?

Між іншым, можна было і не пытаць: з-пад хусткі даўно ўжо выглядалі вялікія чырвоныя памідоры. Цётка Фядора тут жа таропка прыкрыла іх, зірнуўшы разгублена на шафёра.

— Ага ж... памідоркі, некалькі штук... Падабрала на полі, валяліся... А ты, Грышка, спыні машыну, калі да вёскі пад'едзем: я агародамі пайду. А то яшчэ брыгадзіра, гэтага чорта лысага, напаткаю. Абавязкова спыні!

— Спыню, спыню! Якраз да месца дастаўлю...

— Ну, вось, — адразу супакоілася жанчына. — Бачыце, які ўважлівы? Золата, а не хлопец! Дзякую табе, Грышачка. — Ты як-небудзь зайдзі да мяне... Хоць ты і не п'еш, але ад маёй не адмовішся.

Але раптам цётка Фядора глянула ўперад, і твар яе пачырванеў ад злосці: машына ўжо ўязджала ў вёску...

— Во які, во які... Во! Я ж сказала табе на краі вёскі скінуць. Стой! Стой! Я вылезу! Чуеш? — Цётка Фядора сярдзіта схапіла хлопца за плячо. Але шафёр, як відаць, і не думаў спыняцца, моцна трымаў руль і ўсміхаўся...

— Ты што смяешся?.. Ты што надумаў!.. — ужо ледзь не крычала жанчына. — А ну спыні, спыні, а то шыбы павыбіваю...

І машына спынілася, збочыўшы з дарогі, ля белага будынка.

— Што ж, вылазь, цётка Фядора! Давёз... — сказаў шафёр, раптам зарагатаўшы на ўсю вуліцу.

А мая суседка ўтаропілася на яго і аж зашыпела:

— Дык вось што ты надумаў, паганец! У праўленне мяне прывёз? Зняславіць захацеў? Пачакай жа, я цябе так зняслаўлю, што... Папомніш Фядору!

А шафёр рагатаў... У яго аж слёзы выступілі на вачах.

— Вылазь, вылазь, цётка Фядора! — гаварыў ён. — Вунь і брыгадзір твой ідзе... Пагавары ўжо з ім! А нам некалі — у горад едзем.

Праз некалькі мінут мы ўжо выехалі за вёску. Машына мякка бегла па ўкатанай дарозе. Я з цікавасцю глядзеў на твар юнака: на ім была ўсё тая ж жыццерадасная ўсмешка. Толькі цяпер яна стала крыху задумлівай.



## ЗМЕСТ



**Да нумара прыкладаецца бясплатны дадатак «А ГАРМОНІК ГРАЕ, ГРАЕ...»**

**Галоўны рэдактар Пімен ПАНЧАНКА.**

**Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА (намеснік галоўнага рэдактара), Мікола АЎРАМЧЫК, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Генадзі ЖАБІЦКІ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Іван НАВУМЕНКА, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Янка СКРЫГАН, Уладзімір ЮРЭВІЧ (адказны сакратар).**



Крыгаход. Фотаэцюд А. Дзітлава.

